

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

8 (982)

ЖНІВЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Кастусь ЖУК

# СІМФОНІЯ Ў ЦЭГЛЕ

***Будаўніку і паэту Алесю ХАРОБРАМУ***

«Забудзься ў працы
На панельны дом:
Цагляны дом заўсёды
Проста клас!» —
Фліртуе хтось
З дзяўчынай-навічком,
Яна ж —
Брыгады залаты запас.

Без кранаўшчыцы хлопцам —
Хоць ты плач.
Уся работа —
Неяк неўпапад.
А кран —
Ён не слуга, не паслугач,
Ён на будоўлі кожнаму,
Як брат.

У стропальшчыка
Выбару няма —
З любым кранаўшчыком
Ён ладзіць рад.
Зірнуў —
Аж там снягурачка сама
Цярэбіцца
На кран
У снегапад.

Яна падвысіць
Высакосны год
Рукою крана
Да нябёс ажно.
А кран
Па рэйках ходзіць,
Ціхаход,
І заглядае
Ў кожнае акно.

І перамычку,
І бетон,
І клей —
Усё падасць
Магутнай ён кляшнёй.
І муляру тут стане —
Весялей.
І плітачнік —
Не стане на пастой.

---

***Жук Канстанцін Якаўлевіч*** *нарадзіўся 2 мая 1954 года ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Сейлавіцкай сярэдняй школы служыў у Савецкай Арміі, працаваў наладчыкам, электразваршчыкам на Мінскім трактарным заводзе. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1981) і Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1988). Быў літсупрацоўнікам газеты «Чырвоная змена», карэспандэнтам шматтыражкі «На стройках Минска», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Планета маёй душы» (1982), «Зямная ноша» (1988), «Пладаносны агонь» (1991), «У найме ў сонца» (1991), «Галгофа» (1997) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (1999).*

Рыпяць стальныя ліны.
Волат-кран
Асіліць можа
Неймаверны груз.
Малодцы — дваццаць.
Кран жа — ветэран.
У іх трывалы
Ладзіцца хаўрус.

Дзяўчыне ў фортку
Залятае снег.
Яна —
Багіняй там, на вышыні.
І рады кран,
Яе пачуўшы смех,
Бо столькі ў ім наіву,
Чысціні.

Крыляй,
Лунай пад полагам нябёс,
Табе яшчэ,
Як дому, —
Падрасці…
Хай лёс з нябёс
Не крапне смутай слёз —
Плыві на кране паваю,
Ляці.

Збываюцца надзеі,
Крозы сноў:
Прараб —
Прарабам стаў,
Няма тугі,
Электрык —
Не зачах без правадоў,
А зваршчык —
І без вольтавай дугі.

У высакосны год —
Магчыма ўсё:
Прынёс
Дарункі кроз
Сам Дзед Мароз.
І хутка
Скажа кожны навасёл:
«У высакос —
Збываецца прагноз!»

А будзе хай
Невысакосны год —
І там свой будзе высакос,
Свой фэст:
Будоўляў новых
Вырасце прыплод,
Бо пладаносны
Кожны год
«Будтрэст».

Грызе
Граніт-пароду
Вулканіт,
Гудзе піла «балгарка»,
Як пчала.
Як да жалеза
Ўчэпісты магніт,
Да рук
У хлопца кельма прырасла.

А цэгла ўвысь плыве —
Паддон, другі,
Бо не лайдачаць
Кранаўшчыца, кран.
І аддае
Бетон свае даўгі.
І дом ужо —
Сапраўдны велікан.

Падможа перфаратар
Тут і там.
У самарэзаў —
Выбару няма.
Здаецца збоку,
Што стаіць бедлам.
А тут —
Грыміць сімфонія сама.

Сімфонія без назвы,
Без прыўкрас.
Свае ў яе
Флейцісты, скрыпачы.
Электразваркі
Прогалас пагас —
У газазваркі
Голас
Не маўчыць.

Парыпваюць парэнчы.
«Тук» ды «ток» —
Стамескі стук,
«Макіты» ураган…
Спрачаецца з цвікамі

Малаток.
Кран — дырыжор.
І кампазітар —
Кран.

А слухачоў —
На паўакругі аж.
Шчыруй,
Шчыруй, сімфонія жыцця!
Прырода
Свой зрабіла макіяж,
У макіяжы дома —
Ёсць працяг.

Яго яшчэ аздобяць
Перш-наперш
Калёрамі вясны,
А не зімы.
Паглянуўшы на дом,
Напіша верш
Шчырун-паэт,
Не зведаўшы сум†ы.

Маэстра нот
Абудзіцца няўзнак,
Адчуўшы гукі
Ў стоенай ціш†ы,
Бо
З-пад цагліны кожнай —
Нотны знак
Пашле
Прамень яго душы:
«Вяршы!..»

…Раздаўся хмарачос
Увысь і ўшыр,
Стаў вабіць верхалазаў
Ён часцей.

І прабасіў
Харобры-брыгадзір:
«Мы — ліліпуты.
Гулівер — расце…»

a



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

(раман-дзённік)

**1973**

**1 студзеня.** У сувязі з 50-годдзем СССР наша рэспубліка, як адна з заснавальніц Саюза, узнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Паэты прывіталі гэтую падзею вершамі (В. Вітка, Е. Лось). Прыемна.

Калегі-літаратары, як звычайна, віншавалі з Новым годам. Атрымаў паштоўку ад Максіма Танка. Кароткае віншаванне. Дзякуй. Але, на жаль, не вершам, а прозай.

У «ЛіМе» апублікаваны спіс лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій БССР 1972 года. Гэта — В. Вітка, І. Навуменка, мастак А. Кашкурэвіч (за цыкл графічных лістоў «Партызаны») і інш.

**2 студзеня.** Нарада ў загадчыка аддзела. Станіслаў Віктаравіч павіншаваў, не забыў, з Новым годам. «С новыми успехами!» — дадаў Яўгеній Барысавіч.

— Дасягненні ў нас, таварышы, ёсць, — згадзіўся загадчык. — Мінулы год быў удалы. Паставілі помнікі народным паэтам, зрабілі шмат карыснага. Аднак на кожным напрамку сёння стаяць новыя задачы.

Пра задачу, якая стаіць перад пісьменнікамі, я ведаю. Устаноўка ЦК: трэба стварыць літаратуру пра рабочы клас рэспублікі.

**6 студзеня.** Надвор'е — мароз, завея. У Кругелі кажуць: «Студзень мяце — ліпень залье».

Чытаю «У кіпцюрах ГПУ». Даў пачытаць Слава. Кругі пекла, праз якое прайшоў ні ў чым не вінаваты Ф. Аляхновіч. Страшна, што там няма на што абаперціся. Мараль — як вата.

**9 студзеня.** Панядзелак. Кузьмін сабраў групу, якая павінна напісаць даклад да чарговага пленума ЦК. Сакратар ЦК закрануў многае: ідэалагічную барацьбу, масава-палітычную работу, выхаванне «правільнага» светапогляду і інш. Мне быў адрасаваны папрок у тым, што пісьменнікі быццам бы абыякавыя да сучаснасці: «Тема современности затрагивается с каким-то равнодушием».

— Трэба, таварышы, каб было дзве-тры цытаты з класікаў. Абавязкова — Маркса і Леніна, — напомніў Аляксандр Трыфанавіч. — Пагартайце адпаведныя тамы. Я думаю, што гэта не складана, гэта вы як бачыш зробіце.

Аляксандр Трыфанавіч — прыстойны чалавек, але зусім пазбаўлены гуманітарнай адукацыі, што на яго месцы вельмі б не зашкодзіла.

Ад Кузьміна паклікалі да Машэрава. Пётр Міронавіч у добрым настроі, курыць свой заўсёдны «Phllip Morris» з чорным фільтрам. Гутарка доўжылася гадзіны тры. Гаварыў Пётр Міронавіч, мы запісвалі.

---

[1] Працяг. Пачатак у № 5—7, 2011 г.

— Трэба чытаць, таварышы, партыйныя дакументы, калектыўная думка партыі — у дакументах! — напомніў ён. — І ніякага прагматызму. Нашы ідэі вышэй за ўсё.

Ніхто не пярэчыў.

— Ну, а як літаратары? — спытаў Юрый Пятровіч, які як памочнік кіруе ўсім працэсам падрыхтоўкі такіх дакладаў і добра ведае аратарскія магчымасці свайго шэфа.

Я выказаўся ў тым кірунку, што сёння галоўнае і найбольш складанае для пісьменнікаў — гэта праблема станоўчага героя, чалавека на сваім месцы, з пачуццём адказнасці і ініцыятывы. Інакш кажучы, гаворка ідзе пра стварэнне вобраза нашага сучасніка, які стаў бы нашым субяседнікам і дапамог разабрацца і ў навакольным свеце, і ў саміх сабе.

Са мной згадзіліся. Згадзіўся і Пётр Міронавіч.

— Вось і паразважайце на гэту тэму! Падумайце! Не забывайце нашу ўстаноўку: больш твораў пра рабочы клас рэспублікі!

Далей ён падзяліўся сваімі ўражаннямі ад даклада Брэжнева ў Маскве на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР. Брэжнеўскі даклад мы чыталі ў газетах.

— Ці заўважылі вы, што наш даклад быў лепшы?

Пытанне для ўсіх нас было нечаканым. Прысутныя сціпла прамаўчалі. «Амбітны ты чалавек, Пётр Міронавіч! — падумаў я. — Амбітных не любяць...»

**12 студзеня.** У «ЛіМе» змешчаны ўрывак з даўно чаканай п’есы К. Крапівы «Брама неўміручасці», якую аўтар, паводле яго слоў, «скончыў у мінулым годзе». П’еса пра тое, як аднаму вучонаму ўдалося адкрыць закон неўміручасці. Мяркуючы па ўрыўку, п’еса мае нейкі «назіральны» характар.

**14 студзеня.** Камедыю А. Макаёнка «Таблетку пад язык» паставілі ў Маскве, у тэатры сатыры. Назвалі камедыяй-рэпартажам. Правільна зрабілі: у «Таблетцы пад язык» нічога агульнага з традыцыямі Астроўскага і Крапівы.

**15 студзеня.** Толькі што вярнуўся з вечара французскай паэзіі, які адбыўся ў філармоніі. Гэта былі вершы з «Анталогіі французскай паэзіі», якую склаў Прэзідэнт Францыі Жорж Пампіду. Пампіду не толькі палітык, але і крытык, і літаратуразнавец, вялікі аматар паэзіі, якую ведае дасканала.

У французаў у пашане верлібр, які на практыцы азначае раскаванасць асобы, а ў нас выдавецкі рэдактар Хв. Жычка не то жартам, не то ўсур’ёз павучае: «І верлібру рыфма не зашкодзіць».

**16 студзеня.** Даведаўся, што падпісана пагадненне аб міры ў В’етнаме. Хай адпачне гэты пакутнік-народ.

**19 студзеня.** Вярнуўся з Масквы, з пасяджэння Савета па крытыцы. Адзін паэт, якога крытыкавалі, смешна апраўдваўся:

— Вот Алёшка Сурков каждый день булку с маслом ест — вот у него и эпитеты. А я без масла, всухую ем.

Аляксей Суркоў займае высокае месца ў сучаснай літаратурнай іерархіі. Калісьці, у 30-я гады, свайго героя ён атэставаў так:

Он ходил рядовым при большой революции,
Подпирая плечом боевую эпоху.

Рамантыка Суркова была мне блізкай. Прыгадваюцца яго радкі, якія запомніліся яшчэ са школьных, з дзясятага класа, гадоў. Тады яны кранаді нешта нутраное, хлапечае:

На белый снег по кромке клёша
Густая кровь стекает вниз.
А ну-ка, мальчик мой Алёша,
Вперед, в штыки, за коммунизм!

Цяпер, вядома, гэтак не пішуць. Суркоў устарэў. Пра гэта якраз і вялася гаворка. 70-я гады, мяркуючы па ўсім, вяртаюць паэзію ў рэчышча больш спакойнай плыні. Эксперыменты, уласцівыя 60-м гадам, засталіся ззаду, яны былі неабходным звяном у ланцугу развіцця паэзіі. На іх вопыце грунтуюцца творчыя пошукі, якія вядуць сённяшнія паэты. Ад беларускай паэзіі я чакаю большай самазаглыбленасці (пры абсалютнай адсутнасці эгаізму), маральна-этычнага псіхалагізму і чысціні. Яна заўсёды жыла грамадскім неспакоем і была не столькі «чалавеказнаўствам», колькі «грамадазнаўствам», «народатворчасцю» (паводле выразу У. Калесніка). Уласнае «я» паэта заставалася ў ёй часцей за ўсё ў ценю ці на другім месцы. Такія асаблівасці беларускай паэзіі маюць глыбокія карані ў гістарычным лёсе нацыі, яе мастацкай свядомасці...

Вярнуўся ў Мінск, не пахадзіўшы па Маскве, бо не было часу, а мне заўсёды цікава назіраць маскоўскае жыццё — на вуліцы, на базарах, у транспарце. Раніцай прыехалі, вечарам паехалі назад.

**22 студзеня.** Прачытаў паэму Е. Лось «Высакосны год». Высакосны быў мінулы, 1972 год. Таленавітая паэтэса, чуе нейкі падземны «гул», «штуршкі»...

**25 студзеня.** У сталічным Мінску ў рабочай сям'і нарадзіўся мільённы жыхар. Гэта хлопчык. Відаць, падбіралі, каб адпавядала паходжанне. Але ўсё роўна — гэта падзея!

**26 студзеня.** Скліканы IX з'езд мастакоў Беларусі. У нас шмат добрых, шырокавядомых мастакоў. І нават тыя, хто менш папулярны, таксама цікавыя. Выстаўкі я не прапускаю, пра некаторыя пісаў. Ведаю, што сярод мастакоў вечна доўжыцца спрэчка, хто лепшы, больш таленавіты. Розныя формы і накірункі пошукаў. Тут таксама адгукаецца сусветная спрэчка паміж рэалізмам і мадэрнізмам. Заўзяты палеміст-скульптар Заір Азгур. Нядаўна чытаў яго артыкул «Змест часу». Абараняе рэалізм, але неяк па-рамесніцку, без натхнення, атаясамліваючы праўду з праўдападабенствам.

**27 студзеня.** Учора ў Саюзе пісьменнікаў выступалі лаўрэаты Дзяржаўных прэмій мінулага года — Вітка, Навуменка, Семяняка. З расповедам пра творчасць Навуменкі выступіў Арочка, які працуе ў Інстытуце літаратуры. Між іншым, прызнаюся, што Івану Якаўлевічу атрымаць прэмію дапамог я. А зрэшты мая заслуга тут невялікая — я толькі падаў думку. Машэраў, мусіць, мае на яго нейкія віды.

**28 студзеня.** Адзін з высокапастаўленых насельнікаў пятага паверха нашай установы С. сказаў: «Вы, товарищи, плохо работаете с письмами трудящихся. Получается так, что после вашей работы он опять пишет по тому же вопросу. К нерадивым, тем, кто плохо работает с письмами, будем принимать соответствующие меры».

С. — наіўны. Справа не ў «нерадзівасці», а ў тым, што пытанні, якія нярэдка ставяць людзі ў сваіх лістах у ЦК, не заўсёды можна вырашыць. Апроч партыйнай улады, ёсць яшчэ і ўлада савецкая. Слабая, але ёсць. Ды і ўвогуле, надта шмат чыноўнікаў. Гэта ўжо не «праслойка», а нешта больш магутнае.

Пісьмовых адказаў аўтарам лістоў не даём, звычайна абмяжоўваемся размовай па тэлефоне. Папярэдне пасылаем паштоўку з указаннем нумара свайго тэлефона, па якім аўтару трэба пазваніць.

**29 студзеня.** Заходзіў М. Танк. Скардзіцца, што штодня звяртаюцца да яго нейкія людзі, часта на падпітку, па грашовую дапамогу, просяць хоць колькі рублёў. Ён — дэпутат Вярхоўнага Савета і нейкі «фонд» мае. Дае па пару рублёў, але на ўсіх не хапае.

**30 студзеня.** Сумеснае пасяджэнне секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў і супрацоўнікаў Інстытута літаратуры з абмеркаваннем прозы і паэзіі мінулага, 1972 года. У спрэчках выступілі П. Дзюбайла, М. Барсток, В. Гапава, А. Адамовіч, Д. Бугаёў і іншыя. Усё адбылося ў рамках прыстойнага, не так, як калісьці ў выпадку з Іванам Ралько.

П. Дзюбайла адзначаў, і гэта правільна, што ў творах 1972 года, прысвечаных маральным пытанням, адчуваецца недахоп сацыяльнай напоўненасці, шырыні грамадскага гучання.

А. Адамовіч падзяліўся сваімі планамі на 1973 год — тэарэтычнае асэнсаванне праблемы: нацыянальная літаратура ў сучасным свеце, у кантэксце сусветнай літаратуры. Заняты зборам і вывучэннем матэрыялу. Беларуская літаратура звяртае на сябе ўсё большую ўвагу ў Еўропе і за яе межамі.

Выступіў І. Шамякін (ён крыху прыпазніўся). Між іншым сказаў, і гэта прымусіла ўсіх задумацца, што пісьменнік, які працуе над сучаснай тэмай, ідзе па неразмініраваным полі. Аказваецца, яму таксама цяжка. Спачуваючы, усе ўздыхнулі.

**2 лютага.** З жалем даведаўся, што памёр мой любімы артыст Уладзімір Белакураў. Ён быў артыстам МХАТа і здымаўся ў кіно. У тэатры я бачыў яго ў ролі Чычыкава («Мёртвыя душы», інсцэніроўка М. Булгакава), а ў кіно — у фільмах «Чкалаў» і «Паядынак». Для мяне асабіста ён быў увасабленнем рускага характару. Гэта — нейкі, па маім уяўленні, купецкі размах, смеласць да нястрыманасці, гатоўнасць рызыкаваць і дэмакратызм. Гэткім я назіраў яго ў Доме акцёра ў Маскве. Шмат выпіваў. Прымусіў выпіць разам з ім шклянку гарэлкі нейкага знакамітага акцёра з Галівуда.

**6 лютага.** У тэатры імя Янкі Купалы адбыўся гарадскі літаратурны вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння вялікага венгерскага паэта Шандара Пецёфі. Арганізатарамі вечара былі Саюз пісьменнікаў Беларусі і Беларускае аддзяленне Таварыства савецка-венгерскай дружбы. Даклад пра жыццё і творчасць Шандара Пецёфі прачытаў доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка.

Літаратурная праца Пецёфі, падкрэсліў ён, была зброяй працоўнага люду Венгрыі за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Непасрэдная сувязь з народам вызначала ідэйны змест яго паэзіі. Паэт сам са зброяй у руках удзельнічаў у рэвалюцыйным руху 1848 года, палымяным словам сваім натхняў на подзвігі народныя масы.

З новымі перакладамі твораў венгерскага паэта прысутных пазнаёмілі Мікола Хведаровіч, Анатоль Грачанікаў, Мікола Аўрамчык.

Існуе, між іншым, думка, што Пецёфі загінуў не ад шаблі рускага казака, а што яго саслалі ў Сібір і памёр ён там.

**9 лютага.** Пазваніў М. Танк, прачытаўшы маю рэцэнзію ў «ЛіМе» на яго зборнік «Хай будзе святло». Дзякаваў. Я здзівіўся: гэта першы выпадак, каб хто з пісьменнікаў падзякаваў за водзыў, а пісаў я шмат пра каго. Пра Танка — упершыню.

— Пра мяне апошнім часам мала хто піша, — у голасе Яўгена Іванавіча пачуліся крыўдлівыя ноткі.

— А Калеснік, Бярозкін?

— Бярозкін у трох соснах заблудзіўся.

І сапраўды, Рыгор Саламонавіч больш піша пра Куляшова, Панчанку, Пысіна... Таксама выдатныя паэты!

Падзякаваў паэту за званок.

І Шамякін пазваніў, пахваліў артыкул пра Танка.

— Уладзімір Васільевіч, хай бы вы пра прозу пісалі, гэта ўсё ж такі салідней!

Я сказаў, што падумаю.

— Падумайце.

**12 лютага.** Творчы працэс у кожнага мае свае дзівацтвы, свае «адхіленні». Працавалі і працуюць па-ўсякаму:

Шылер трымаў ногі ў халоднай вадзе;

Бальзак разуваўся, пісаў босым;

Прус нюхаў парфуму;

Хемінгуэй пісаў стоячы за канторкай;

Глебка мяняў кашулю, завязваў гальштук і апранаў касцюм;

Антон Бялевіч ставіць каля сябе міску з салёнымі гуркамі...

**16 лютага.** З раніцы пазваніў В. Барысенка:

— Як вы ставіцеся да кнігі Андраюка?

— Да якой?

— Якую рассыпалі з год назад у выдавецтве «Беларусь». Жычка, ці што?

Я стаў успамінаць. Сапраўды, такі факт меў месца. Матыў быў такі, што крытык, разглядаючы сучасную прозу, не ўспомніў усіх аўтараў. Некаторыя празаікі прайшлі незаўважанымі, што і выклікала адпаведную рэакцыю: «Чаму не пішаш пра мяне?» Але ж пра ўсіх не напішаш. Андраюку спрыяў Мележ, але кніга не пайшла.

— Помню, помню, — адказаў я, — асабіста ў мяне прэтэнзій няма. Ды і, здаецца, Мележ яго падтрымлівае.

— Ну, тады будзем глядзець, — з лепшым настроем адпавёў Васіль Васільевіч. — А як працуецца?

— І складаныя пытанні ёсць.

— Ну, вядома.

Яшчэ пра тое пра сёе пагаманілі і развіталіся.

**17 лютага.** Гэтымі днямі чалавецтва згадвае, што 500 гадоў назад нарадзіўся вялікі астраном Мікалай Капернік (19.02.1473 — 24.05.1543), які распрацаваў геліяцэнтрычную тэорыю будовы нашай планетнай сістэмы. Зямля перастала лічыцца цэнтрам Сусвету, адсунулася на перыферыю і пераўтварылася ў звычайную планету, што абарочваецца вакол Сонца. Гэта азначала карэнны пералом у астранамічнай навуцы і ў светапоглядзе людзей. Да Каперніка на працягу тысячы чатырохсот гадоў ва ўяўленні людзей панавала Пталамеева астраномія: Зямля нерухомая, знаходзіцца ў цэнтры Сусвету. Вакол яе абарочваюцца Сонца і планеты. Лічылася, быццам бы свет быў створаны спецыяльна для чалавека, цяпер гэтыя сцвярджэнні страцілі пад сабой глебу.

Сярод іншага, Капернік устанавіў, што дата нараджэння Ісуса Хрыста, адкуль вядзе пачатак наша летазлічэнне, павінна быць аднесена на чатыры гады раней, чым гэта вынікае з хрысціянскага календара.

Мікалай Капернік — сучаснік нашага Скарыны. Сучаснік Лютэра. Адзін і другі, відаць, жахнуліся ад таго, што Зямля перастала быць цэнтрам Сусвету і, выходзіць, Бог памяняў месца свайго знаходжання, аддаліўся ў касмічную бязмежнасць.

**19 лютага.** У Саюзе пісьменнікаў адбыўся вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага — знакамітага беларускага празаіка,

драматурга, крытыка і гісторыка літаратуры, вучонага-мовазнаўцы і фалькларыста, перакладчыка. Па-рознаму склаўся лёс кніг — творчай спадчыны пісьменніка. Адны з іх, здараецца, забываюцца адразу ж пасля смерці аўтара, другія наадварот — не толькі працягваюць жыць, але і ўзрастаюць у сваім значэнні і мастацкіх вартасцях.

Ён — аўтар раманаў «Віленскія камунары», «Камароўская хроніка», аповесцей «Меланхолія» і «Ціхая плынь», дакументальна-мастацкіх запісак «На імперыялістычнай вайне», кніг апавяданняў «Рунь», «Досвіткі», «Сібірскія абразкі», «Люстрадзён», шэрагу цікавых драматычных абразкоў, даследавання «Гісторыя беларускай літаратуры» і шматлікіх іншых твораў.

Усё зробленае М. Гарэцкі аддаў на суд часу — суд, як вядома, строгі. Пра адно ён прасіў: «Не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў». Рэдка хто з беларускіх паэтаў — ад М. Багдановіча да М. Лужаніна — не ўспамінаў у сваіх вершах пра «цвяток радзімы васілька». І для М. Гарэцкага васількі былі сімвалам Радзімы, сімвалам той «цярнёвай дарогі», якую прайшоў беларускі народ.

Разам з Купалам і Коласам М. Гарэцкі стаяў ля калыскі сучаснай беларускай літаратуры, будучага росквіту. Сёння яму споўнілася б 80 гадоў — на дзесяць гадоў ён маладзейшы за Купалу і Коласа, аднак уклад М. Гарэцкага ў развіццё беларускай культуры таксама важкі і значны. Яго жыццё і творчасць прыпадаюць на адзін з самых драматычных перыядаў у гісторыі Беларусі, які ўключае падзеі Першай сусветнай вайны, рэвалюцыйны ўздым, грамадзянскую вайну, пачатак сацыялістычнага будаўніцтва.

А. Адамовіч сцвярджае, што М. Гарэцкі сваёй творчасцю «ўгадаў» ці «прадказаў» будучыя тэндэнцыі і мастацкія праявы ў беларускай савецкай прозе, нават некаторыя тэмы і сюжэтныя сітуацыі. Напрыклад, апавяданні «Рускі» Гарэцкага і «Адна ноч» Быкава.

Са спадчыны М. Гарэцкага я ўжо многае прачытаў і асвоіў. Напрыклад, аповесць «Дзве душы». Дарэчы, Гарэцкі не першы ўзнімае пытанне пра «дзве душы», якія месцяцца ў адным чалавеку. Да яго пра «дзве душы» рускай інтэлігенцыі пісаў Горкі. Беларускі пісьменнік асэнсаваў гэтае пытанне на нацыянальнай глебе. У сучаснай нашай літаратуры гэтая тэма закрытая і забытая, але ў жыцці яна застаецца вельмі актуальнай.

Дарэчы, калі ўжо ўспомніў Горкага, дык прыгадаю і тое, што ў 1924 годзе ў Ленінградзе выйшла кніжка вядомага крытыка Карнея Чукоўскага «Две души Максима Горького».

**20 лютага.** Часопіс «Полымя» ўзнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Пазваніў Кастусь Ціханавіч, дужа ўзрадаваны: «Значыць, правільную лінію вядзём! Калі б што-якое, дык ордэна б не далі!» «Логіка ў яго развагах ёсць», — падумаў я. Павіншаваў і рэдактара, і рэдакцыю.

А ўвогуле гэта — падзея, і падзея прыемная: «Полымя» — першы часопіс у СССР, узнагароджаны ордэнам. За ім будуць узнагароджаны іншыя.

Нядаўна бачыўся з былым рэдактарам «Полымя» Паўлам Кавалёвым. Кавалёў — добры субяседнік. Пра «Полымя» ён аднак не ўспамінаў, а расказваў пра тое, як ажно ў 1937 годзе, у Негарэлым, сустракаў Валерыя Чкалава і яго сяброў па пералёце на АНТ-25 праз Паўночны полюс у Амерыку. Маладога журналіста Кавалёва паслала на гэтую сустрэчу газета «Звязда», дзе ён працаваў. Яго здзівілі лётчыкі-героі Чкалаў, Белякоў і Байдукоў, якія гарэлі энтузіязмам, жаданнем працаваць, тварыць, ставіць рэкорды. Пагранічнік, вітаючы лётчыкаў, на высокіх пачуццях сказаў:

— Таварышы! Над снежнымі прасторамі Арктыкі, Паўночным полюсам, полюсам непрыступнасці, ваш матор спяваў пераможныя песні краіны сацыялізму, мы гатовы былі ў любую хвіліну аддаць вам сваю кроў, каб матор не спыняў гэтай песні!

**21 лютага.** Атрымаў двухпакаёвую кватэру ў новым доме, на Захарава 56. Плошча — 31 кв. метр. Аджалеў наш Машкоў. Літфонд даваў большую, трохпакаёвую (улічваючы пакой пад кабінет), але я адмовіўся. Было б падобна, што скарыстоўваю службовае становішча.

**26 лютага.** Заходзіў Пятрусь Броўка. Дастаў з кішэні крокамер. Расказвае. Ходзіць штодня, з раніцы і вечарам. Робіць, хваліўся, дваццаць тысяч крокаў. Мацуе здароўе. Надта абураўся паводзінамі нейкіх турыстаў, якіх ён сустрэў каля Ждановіч. Здаравенныя хлопцы глуміліся з прыроды, псавалі лес.

— Выйшлі з аўтобуса, ссеклі, разумееш, чатыры маладзенькія сасонкі касцёр паліць. Я пачаў іх сарамаціць — дзе там! Доўга давялося ім тлумачыць...

Нехта іншы, напэўна, абышоў бы бокам, не стаў бы звязвацца з гэтымі «турыстамі», а вось Пётр Усцінавіч палічыў сваім абавязкам умяшацца, каб заступіцца за безабаронную прыроду.

**27 лютага**. З раніцы і амаль увесь дзень ярка свяціла сонца. Гэта так нечакана пасля зімовага сутоння, калі слепіць вочы снег і ўсё нібы прачынаецца да новага жыцця. Прыляцелі ці неўзабаве маюць прыляцець гракі. Пад вечар снег стаў блакітным. Люты — гэта ўжо амаль прадвесне. Уяўляю, як недзе ў Бярэзіне тужліва завыў воўк.

Гэта, мусіць, нейкі перажытак, рудымент — мая пастаянная ўвага да надвор’я, да стану прыроды. Хемінгуэя, думаю, гэта ніколі не цікавіла. Да надвор’я ў яго, пэўна, былі чыста прыкладныя адносіны. Галоўным для яго была яго работа. Мне падабаецца яго патрабавальнасць да сябе: «Я ніколі не раблю таго, што перашкаджае мне ў шэсць гадзін раніцы ўзяцца за работу».

Успомніў. І ўсё ж такі ў першай кнізе апавяданняў-замалёвак «У наш час» (1925) вобраз прыроды ёсць — вобраз лірычны, насычаны драматызмам.

**28 лютага.** У гэтым нумары «Маладосці» мой артыкул пра паэзію маладых пад назвай «Яны прыходзяць самі». Хацеў, было жаданне, падтрымаць. Не ведаю, аднак, наколькі гэта мне ўдалося. Дапамагала руплівая Вера Сямёнаўна Палтаран — колішняя аспірантка Інстытута літаратуры. Тады ён быў яшчэ Інстытутам мовы і літаратуры.

**1 сакавіка.** У Купалаўскім тэатры пайшла п’еса А. Макаёнка «Таблетку пад язык». У Маскве яна ідзе ўжо больш як месяц. Масква дае добры прыклад, у тым ліку і для нашага ідэалагічнага начальства, а то яно надта асцярожнае.

**5 сакавіка.** Вечар Анатоля Вялюгіна ў клубе СП Беларусі. Уступнае слова сказаў І. Шамякін. Выступілі П. Броўка, Е. Лось, А. Махнач, А. Слесарэнка, Р. Бярозкін. Вядома, хвалілі, бо не той момант, калі можна крытыкаваць. Зрэшты, ёсць за што і хваліць. Мне чамусьці перш за ўсё прыгадваецца эсэ Анатоля Вялюгіна «Дубовы лісток»:

«На карце свету мая Беларусь як дубовы лісток: такія, вызначаныя граніцамі, як абрысы, густая зяляніна лугавін і дуброў, сінія жылкі рэк — Дняпра і Прыпяці, Нёмна і Бярэзіны.

Залатымі вузламі, глыбока і навечна, сплялося карэнне наскіх дубоў з карэннем смаленскіх, латгальскіх, літоўскіх, чарнігаўскіх...»

Прачытаў я гэтыя радкі і падумаў, што А. Вялюгін і ў прозе застаецца паэтам, верным свайму светаўспрыманню і стылю, які грунтуецца на сакавітым, поўным святла і жыцця мастацкім вобразе. Прыгадваецца яго ж думка:

«Паэзія ўсюды застаецца паэзіяй, калі яна — паэзія». Сакавіты вобраз, свежае, «роснае» слова — гэта, здаецца, адзначалі ўсе, хто пісаў пра яго творчасць. «Аскомай на зубе трашчыць рубін кіславатай брусніцы» — гэта з даўняга верша 1944 года, але з таго часу паэтычны густ Вялюгіна, здаецца, не змяніўся. «Я заўсёды баюся напышлівых выцвілых слоў», — прызнаецца ён у адным з вершаў, і гэтае прызнанне мае прынцыповае значэнне для яго мастацкай канцэпцыі, забяспечанай маральным вопытам паэта, усёй сукупнасцю яго творчай біяграфіі.

Р. Бярозкін тонка падмеціў гэтую ўлюбёнасць паэта ў слова, «якое павінна звінець, быццам медзь, і ззяць, нібы кропелька расы на сонцы», абазначаючы канкрэтную з'яву, прадмет, каларытную падрабязнасць.

Аднак, пры ўсім пры тым, у адносінах да паэзіі Вялюгіна цяжка пазбавіцца ад ўражання, што яна часта залішне халаднаватая, дэкаратыўная, што ёй нестае маральнай завостранасці.

**5 — 7 сакавіка.** Быў у Маскве на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры. Абмяркоўвалі кнігі маладых паэтаў — Арабейкі, Віраб'я, Дзюбы. Гаварылі пра выхаванне асобы — праз асобу паэта адлюстроўваецца жыццё народа. Паэт павінен вучыцца ўспрымаць падзею, факт усім сваім духоўным досведам, усёй біяграфіяй.

У абмеркаванні ўдзельнічалі маскоўскія перакладчыкі. Прымяраліся, але так, па-мойму, не прымерыліся. Чакаюць, каб галасы загучалі грамчэй, выразней.

Маскоўскае надвор'е — змрочнае. Неба завалакло брудна-шэрай смугой. Ляніва падаюць рэдкія сняжынкі.

Зайшоў у магазін падарункаў па вул. Горкага. Процьма народу. Праціснуўся неяк да прылаўка, падышла чарга. Спрактыкаваная прадаўшчыца спытала:

— Вам падарунак для жонкі ці што-небудзь даражэйшае?

— Даражэйшае, — сказаў я жартам.

— Тады вазьміце гэтыя духі. Французскія.

Заплаціў сорак рублёў.

Нашу дэлегацыю на Беларускім вакзале ў Маскве сустракала супрацоўніца СП СССР, наша зямлячка з-пад Гомеля Валянціна Шчадрына, яна нас і праводзіла.

**8 сакавіка.** Вярнуўся з паездкі стомлены. Рады быў, што ўжо дома. Павіншаваў Тамару са святам, уручыў маскоўскі падарунак. Кветак купіць не паспеў, але яна прабачыла...

**9 сакавіка.** Адказаў на пытанні «ЛіМа» пра сучасную беларускую паэзію. Гэта перад чарговым пленумам СП.

Здабыткі нашай паэзіі апошніх год даволі сціплыя, на мой погляд. Магчыма, я памыляюся. «Лицом к лицу лица не увидать...» Пройдзе час, і на адлегласці нешта ўбачыцца ў іншых маштабах. Усё можа быць.

На пытанне газеты «Отечествен фронт» — «Якая ваша думка пра маладую змену літаратараў?» — вядомы балгарскі пісьменнік Г. Джагараў адказаў: «Цудоўныя юнакі. Адзін другога таленавіцей. Такія таленавітыя, што часам немагчыма адрозніць аднаго ад другога. Прынамсі, сёння асоб сярод іх незаўважна».

Мне здаецца, што і ў нас кніг пакуль што з'яўляецца болей, чым яркіх творчых індывідуальнасцей. Шмат стандартнага, «сярэднеарыфметычнага». Неабходнасць пашырэння сваіх сацыяльна-грамадскіх, філасофскіх даляглядаў — такая праблема, думаецца, стаіць перад кожным паэтам.

**10 сакавіка.** Ужо ўсё падсохла. Дворнікі (у асноўным «дворніцы») падмятаюць, падбіраюць смецце. Асабліва прыгожа раніцай — неба чыстае і паветра таксама чыстае, яшчэ не загазаванае. Ранішняе сонца — чырвонага колеру.

**11 сакавіка.** Пазваніў з Брэста Калеснік. У яго канфлікт з рэктарам. Скардзіцца, што немагчыма працаваць і што мае намер ехаць у Мінск. Уладзімір Андрэевіч (бацьку па-мясцоваму, у Сіняўскай Слабадзе, адкуль Калеснік родам, звалі Андрыянам) — чалавек буяны і непакорны, як ён калісьці мне пра сябе гаварыў. Ды я і сам бачыў яго «выбуховасць», пярэчыць яму цяжка, загараецца як запалка.

Што датычыць пераезду ў Мінск, дык гэта справа зусім рэальная. Калесніка вельмі цэняць як крытыка. Толькі як паставіцца да пераезду Зося Міхайлаўна, жонка?

**12 сакавіка.** Сапраўдная вясна! Звіняць на вясеннім ветры дрэвы. Вецер упэўнена разганяе хмары, часцей паказваецца сонца, узнімаючыся ўсё вышэй. На дрэвах з'явіліся пупышкі.

**15 сакавіка.** Чарговы пленум СП Беларусі па надзённых праблемах сучаснай беларускай паэзіі. З дакладам «Сучаснасць і паэзія» выступіў А. Грачанікаў. Прысутнічаў з Масквы вядомы паэт Уладзімір Сакалоў. Ён пачынальнік так званай «ціхай» паэзіі, больш удумлівай і засяроджанай, якая прыйшла на змену гучнай эстраднай хвалі 60-х гадоў. Я помню яго радкі:

Хотел бы я долгие годы
На родине милой прожить,
Любить ее светлые воды
И темные воды любить.

«Ціхую» паэзію, у адрозненне ад «эстраднай», немагчыма пераказаць прозай. Выступаючы, У. Сакалоў прыгадаў словы А. Блока: «Чым мацней лірычны паэт, тым паўней лёс яго адлюстроўваецца ў вершах».

Сярод нашых паэтаў адэптам «ціхай» паэзіі з'яўляецца А. Грачанікаў.

**19 сакавіка.** Прыехаў Калеснік. У чорным паліто і шапцы-кучомцы. Выгляд — прыгнечаны. Уладкаваў яго ў гасцініцу ЦК (над сталоўкай на рагу Кірава і Энгельса). Мае намер папрацаваць у архіве гістпарта і ў «Ленінцы». Не склаліся адносіны з рэктарам, перажывае. Хто б іншы на яго месцы напісаў бы на рэктара скаргу — у ЦК ці яшчэ куды-небудзь. Уладзімір Андрэевіч — трэба і тут аддаць яму належнае — на такое не здольны.

**20 сакавіка,** аўторак. У «Звяздзе» — мая рэцэнзія на зборнік вершаў П. Панчанкі «Снежань». Прызнацца, калі браўся за гэты сціплы водзыў (пазваніў Алесь Траяноўскі), дык хацеў паказаць, намякнуць Пімену Емяльянавічу, што «наверсе» да яго добра ставяцца. Нешта апошнім часам ён пахмурнеў і замаркоціўся, як бы на кагосьці ўзлаваўся. Кажуць, ён мала зарабляе (у параўнанні з нашымі «таўстасумамі»), а паэт неблагі. Як крытык скажу, што гэта адзін з самых шчырых, самых «псіхалагічных» сучасных паэтаў, адкрыты і імпульсіўны. Я спрабаваў з ім гаварыць. Пра сябе маўчыць. Па характары ён публіцыст, яго паэзія часцей за ўсё дыялог з тым, што знаходзіцца за яе межамі.

— Прыроды шкада, знявечылі мы прыроду! — быццам спяшаючыся, узахлёб, сіплым голасам кажа ён.

Можа Пімен Емяльянавіч не ведае, дык я сказаў яму, што ў Еўропе існуе Рымскі клуб — міжнародная грамадская арганізацыя, створаная ў 1968 годзе з мэтай зразумець вынікі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Яна якраз арыентаваная на рэвалюцыю «чалавечых якасцей», каб менш было ў чалавека прагнасці.

У Панчанкі ёсць апанент, носьбіт «сваёй праўды», з якім паэт вядзе своеасаблівы дыялог. Гэты апанент, здаецца мне, ён сам, учарашні.

Наколькі я ведаю, спее прапанова (асабліва падтрымлівае яе М. Танк) аб прысваенні Панчанку звання «Народны паэт БССР».

**21 сакавіка.** Купіў тэлевізар («Горизонт», у растэрміноўку). Тэлебачанне ў нас пакуль што слабое, але хочацца верыць у яго будучыню. З цягам часу яно павінна дапамагчы большай дэмакратызацыі нашага грамадства, знікненню шматлікіх ценявых сфер, умацаванню інфармаванасці, празрыстасці і галоснасці, калі прадстануць на ўсеагульны разгляд і асуджэнне ўсе магчымыя эканамічныя, крымінальныя і маральныя недахопы і злачынствы.

**23 сакавіка.** П. Панчанка падарыў свой трохтомнік з цёплым надпісам. Дзякуй.

**26 сакавіка.** Быў на закрытым праглядзе новага фільма (хутка выйдзе на шырокі экран) «Земля, до востребования...» — пра савецкага разведчыка з 30-х гадоў Льва Яфімавіча Маневіча. Родам ён з Беларусі. Адзін з буйных савецкіх разведчыкаў і, як усе яны, з трагічным лёсам: свае — сваіх...

**27 сакавіка.** Вецер, холад. Неба стальнога колеру. Потым паваліў снег і завіравала завіруха. Па Свіслачы марудна плыве бруднаваты гарадскі лёд, не то хворы, не то проста стомлены. Лянiва труцца адна аб другую шэрыя крыгі.

**28 сакавіка.** Праводзіў на брэсцкі цягнік У. Калесніка. Перад гэтым ён сустракаўся з дачкой. Настрой яго, бачу, ураўнаважыўся. Яму не казаў, бо можа пакрыўдзіцца, але паспрабую паўздзейнічаць на пана рэктара.

**3 красавіка.** Мудрасць (у духу Эклезіяста): «Не называй нікога шчаслівым, пакуль ён жыве» прачытаў у кнізе-зборніку «Мудрые мысли», які падрыхтаваў Іван Шпадарук (пакуль што ў рукапісе). Адкуль узяў — не памятае. Пэўна, з Бібліі. Біблейскія думкі, часам крыху перайначаныя, качуюць з кнігі ў кнігу.

У Эклезіяста ёсць яшчэ такая нечаканая думка: «Не будзь залішне мудрым і залішне справядлівым, каб не загінуць».

Эклезіяст — геніяльны дыялектык.

**9 красавіка.** Учора памёр Язэп Лявонавіч Дыла. На 93-м годзе жыцця, у Саратаве, дзе жыў з 1931 года. Лёс беларускай інтэлігенцыі, прынамсі, многіх. Быў членам Беларускага савецкага ўрада — наркомам працы (студзень — люты 1919 г.), членам ЦВК БССР. Вядомы пісьменнік. Калісьці да яго ў Саратаў ездзіў Адам Мальдзіс.

**14 красавіка.** Былі ў Плешчаніцах (Гоцман даў машыну). Вярнулася зіма. Ішоў снег, і нейкі не красавіцкі, а быццам снежаньскі ці студзеньскі. Цешча Вера Васільеўна купіла пару парасят, будзе гадаваць ажно да зімы. «Ешчы кабанчык!» — хваліць аднаго з іх, віславухага. Цесць кожнай раніцы, яшчэ цёмна, ідзе на работу ў Чысцік, на торфапрадпрыемства. Выбіраюць з плошчаў торф і адпраўляюць на Лукомльскую электрастанцыю. «Канчаюцца запасы торфу», — кажа ён.

Вера Васільеўна частавала living рознымі прысмакамі. З бочкі, з самага дна, дастала вялізны качан капусты, парэзала на кавалкі, пасыпала перцам і падала на стол. Смаката! — як кажа ў такіх выпадках Янка Скрыган.

**17 красавіка.** Нарада ў сакратара ЦК па ідэалогіі А. Т. Кузьміна. Ён закурыў (шмат курыць) і даў агульную ацэнку становішчу ў ідэалагічным жыцці ў рэспубліцы, у прыватнасці ў літаратуры ды мастацтве:

— Астаёцца пасажалець, таварышы, што з літаратурнага абіходу выпадаюць, па сутнасці, паняцці партыйнасць, сацыялістычны рэалізм, народнасць,

а замест іх гавораць: «чэсны пісацель». У мяне гэта выклікае па меншай меры недаўменне. Прашу, таварышы, звярнуць на гэта ўвагу. І яшчэ, таварышы. Нужон герой для падражанія. Такавых героўў, на жаль, няма. Не ў жызні, канешна, — у жызні іх многа, а ў кнігах, у мастацтве. Можа, адсюль і нашы беды.

Мы слухалі, не перабівалі. Уражанне, аднак, было такое, што Аляксандр Трыфанавіч гаварыў гэта, думаючы пра нешта іншае, быццам ужо лічыў шчупакоў, якіх зловіць заўтра на рыбалцы. Як і Пётр Міронавіч, шмат курыць.

**20 красавіка.** Не стала яшчэ аднаго добрага чалавека — памёр Георгій Іванавіч Жыхараў, прафесар кансерваторыі, вялікі патрыёт балалайкі. Лёнеў настаўнік. Брат яго паважаў, удзячны яму за школу. У Жыхарава вучыўся яшчэ адзін Леанід — Зубараў, але, здаецца, не вытрымаў яго праграмы.

**21 красавіка.** Камуністычны суботнік. Умацоўвалі берагі водаканала Вілія — Свіслач. Вада па гэтым канале паступае ў ёмістае вадасховішча («Мінскае мора»). У траве пракінуліся пралескі, там-сям і фіялкі. Лопаюцца пупышкі ў бяроз. Гамоняць птушкі. Лагодна прыгравае сонейка. Некаторыя людзі тачкамі возяць зямлю. Я нашу пласты дзёрну і ўкладваю, шэф папраўляе і ўтоптвае. Невядома чаму зноў успомнілася казахстанская цаліна, дзе пабываў з сябрамі ў студэнцкую пару. На сенакосе, у пойме Ішыма, мы, студэнты, складвалі стагі. Пасля дажджу тыя стагі нібы крыху папрыгіналіся, сталі меншымі.

— Вы плоха таптал! — крытыкаваў нас казах-учотчык.

— А калі было таптаць? — апраўдваўся Коля Купрэеў. — Вы ж казалі: «Давай норму!»

Працавалі да трох гадзін, без абеду. На «цаліне» абед быў.

**23 красавіка.** Дзёран укладваць лягчэй, чым бетон. Учора адпачываў, ачухваўся пасля суботніка, а сёння на працу, да «станка».

Зямля падсохла. Набухаюць пупышкі на каштанах. Чуў, ідучы на службу, як шчабечуць птушкі, нібы кагосьці вітаюць.

**24 красавіка.** У памяшканні філармоніі прайшоў аўтарскі вечар А. Куляшова. Прыехалі М. Луконін, Я. Хелемскі, М. Нагнібеда, Д. Кугульцінаў, К. Кулieў. Адкрываў вечар П. Панчанка. Ён назваў паэзію Куляшова «духоўнай энцыклапедыяй яго пакалення». Ацэнка высокая і ў многім справядлівая, але я хацеў бы адзначыць іншае. У творчасці Куляшова спалучаліся рэальнасць з фантастыкай. Я сказаў бы — навуковай фантастыкай. У гэтыя — фантастычныя — абставіны паэт смела ставіць свайго героя: мастацкае пазнанне паяднoўваецца з навуковым.

Некалі А. Эйнштэйн прызнаваўся, што Дастаеўскі (які, як вядома, называў свой рэалізм «фантастычным») даў яму больш, чым вышэйшая матэматыка Гаўса. Гэты кантакт паміж геніямі адбыўся, відаць, на нейкім глыбокім «душэўна-светапоглядным» узроўні, і абумоўлены ён быў адзінствам маральных, духоўных «суперзадач», якія перад імі стаялі. Пазнанне свету, шлях сацыяльнага і маральнага працэсу, сусветная гармонія і чалавек, яго лёс, адносіны да будучыні — усё гэта надзвычай хвалявала і Дастаеўскага, і Эйнштэйна, які захапляўся складаным дэтэрмінізмам у паводзінах герояў рускага раманіста (вядомае «раптам»!). Свет Эйнштэйна меў патрэбу ў новым, больш глыбокім узаемапранікненні аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, у новым — чалавечым! — вымярэнні сувязей паміж з'явамі, якія адкрывала навука.

Ідэі Дастаеўскага і Эйнштэйна, глыбокія іх думкі ўплываюць на характар сучаснага мыслення — у тым ліку на характар мастацкага мыслення. Іх адбітак знаходзім і ў «Новай кнізе» Куляшова, які — сын свайго веку — на дзіва глыбока адчувае адзінства свету і гістарызм яго развіцця, усеагульную сувязь з'яў. Гэта надае мужнасці і аптымізму:

Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе —
З дваццатага ў трыццатае стагоддзе.

Сёння значна ўзрасла актыўнасць куляшоўскага слова, актыўнасць яго стылю, які — на новай аснове — уключае зварот да такіх форм абагульнення, як фантастыка, гіпербала, прытча, сімволіка, якія канцэнтруюць у сабе характэрнае для сучаснай рэчаіснасці. Гаворачы пра «Новую кнігу» А. Куляшова, А. Кучар, спыняючыся на радках пра лес — «Яму, без мовы, як называюць вясну вясной?», — вельмі правільна адзначыў, што аўтар «даўно адмовіўся ад застарэлых і ўжо зааўтаматызаваных форм паэтычнасці, калі спяванне птушкі, шум лесу, бег ручая, толькі названыя, былі і паэтычнымі катэгорыямі. Цяпер інакш. Мала сказаць, што лес маўчыць. Як аб прыроднай з'яве, гэтым будзе сказана ўсё. Паэзія з'явіцца ад іншага. Лес нямы. Ён паўстае перад намі як жывая істота, якая мучаецца ад сваёй нематы. А яму без мовы нельга назваць «вясну вясной». Вось у гэтым радку і галоўнае. Здаецца, гэты нямы як бы курчыцца ад натугі, каб выгукнуць ёмістае, агністае слова «вясна».

А. Куляшоў расказаў пра свае творчыя планы (паэма пра Твардоўскага) і прачытаў новыя пераклады вершаў М. Луконіна і К. Куліева. Перакладчык ён выдатны. Перакладаў А. Пушкіна, М. Лермантава, І. Катлярэўскага, Г. Лангфела, Т. Шаўчэнку, С. Ясеніна, У. Маякоўскага, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, М. Нагнібеду, К. Куліева і многіх інш.

Прыклад. Лермантаўскі радок «И звезда с звездою говорит» да Куляшова перакладаўся так: «Зорка з зоркай гутарку вядзе». Куляшоў перайначыў, пераклаў па-свойму: «Зорка зорцы голас падае». Гэта лепш — болей псіхалагічна напружана, з эмацыянальным падтэкстам. Спакойна гутарыць аб нейкай прычыне нельга, можна толькі падаць голас. Перакладчык супернічае з аўтарам.

**30 красавіка.** Свята пачалося ўжо ў канцы рабочага дня. Многія на падпітку. Народ падвяселены.

Першы гром. Гэта — казала некалі бабуля Фёкла — грамавік Ілья-прарок едзе па небе на сваёй калясніцы, грыміць калясьмі аб хмары.

**1 мая.** Стаялі з Тамарай на гасцявой трыбуне. Шмат паказной радасці, трыумфавання, і ўсё прасякнута палітыкай. Але свята ёсць свята. Радасна.

Я малады, жонка маладая і сябры маладыя.

**3 мая.** У клубе СП адбыўся аўтарскі вечар І. Чыгрынава. Пра раман «Плач перапёлкі» гаварылі А. Куляшоў і Р. Бярозкін. Выступалі І. Шамякін, А. Вялюгін, Р. Мачульскі, А. Залескі, М. Бацвіннік, В. Адамчык. Кожнае прозвішча знакавае, аўтар зрабіў вялікі «склік».

Я таксама прачытаў гэты раман і прысутнічаў на абмеркаванні, але не выступаў, цікава было паслухаць. Заслугу І. Чыгрынава бачу ў тым, што ён паказаў пачатак вайны на сваёй Магілёўшчыне. У нас на Брэстчыне ўсё было інакш. Нямецкія матацыклісты з'явіліся ў Камянцы (гэта мой райцэнтр) ужо к абеду 22 чэрвеня. Каб калі пра гэта напісаць!

Пасля абмеркавання ішлі з Бярозкіным. Рыгор Саламонавіч дадаў да таго, што сказаў на абмеркаванні:

— Але вобраз Цылі яму не ўдаўся. Адкуль ён ведае, якія ў яўрэйкі ногі?

**6 мая.** І. Я. Навуменка — дырэктар Інстытута літаратуры, змяніў на гэтай пасадзе Васіля Васільевіча. Іван Якаўлевіч непакоіцца, як пойдзе праца, бо акадэмія — гэта не ўніверсітэт. Павінна пайсці — жыццёвы вопыт у Навуменкі вялікі. Ён ведае: кіраваць — гэта значыць не перашкаджаць людзям працаваць.

**7 мая.** Чатыры засцярогі (пачуў ад Я. Брыля, калі быў у СП на Энгельса):

1. Добра харчуйся.
2. Нічым не пераймайся.
3. Будзь асцярожны на паваротах.
4. Не насі цесных ботаў.

Няблага. Ёсць у гэтым сэнс. Але...

**8 мая.** Заходзіў цікавы чалавек — Барыс Бендзік-Вераў. Цяпер ён масквіч, а да вайны жыў у Мінску. У 20-я гады ўваходзіў у рускамоўнае літаратурнае аб’яднанне «Звенья», якое складалася з маладых рабочых-гарбароў, што працавалі на Ляхаўцы, на гарбарным заводзе «Бальшавік». Расказваў, як яны наведалі Маякоўскага, які прыязджаў у Мінск для выступлення перад чытачамі і жыў у гасцініцы «Еўропа».

— Сустрэў нас не надта ветліва, можа, таму, што мы, мінскія паэты, зарана прыйшлі. Ён яшчэ спаў, таму і раскрычаўся. Было, праўда, ужо гадзін дзесяць раніцы. Мы сціпла павярнуліся і пакінулі апартаменты «Еўропы». Разумелі: лепшы пралетарскі паэт!

— Лефавец, — паправіў я.

— Але я не па гэтым пытанні, — не ўдаючыся ў спрэчкі, працягваў госць. — Ведаеце, у канцы 1942 года, у Маскве, я часта заходзіў у рэдакцыю сатырычнага плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Рэдакцыя месцілася ў будынку газеты «Известия». Там, на Пушкінскай плошчы, у цесным коле сяброў-беларусаў, кожны дзяліўся сваімі задумкамі і планамі, адбіраліся вершы і апавяданні для перакладаў на рускую мову. Я прапанаваў сабраць усё лепшае, напісанае пра вайну беларускімі паэтамі, уключыць партызанскі фальклор і выдаць у перакладзе на рускую мову. Маю прапанову ўхвалілі. Рэдактарам будучай кнігі прызначылі Пятра Фёдаравіча Глебку. Я з імпэтам узяўся за працу. Перакладаў вершы Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Пятра Глебкі і іншых. Апрацоўваў партызанскі фальклор. Уключыў лепшае, што пераклалі Міхаіл Галодны, Сяргей Гарадзецкі, Мікалай Рыленкаў...

— А Янку Купалу не ўключылі?

— Ды, ведаеце, з ім тады не ўсё было зразумела.

— А што такое?

— Ды я і сам не ведаю, — Бендзік-Вераў зрабіў паўзу і зноў пачаў пра сваё: — Дык вось нарэшце зборнік быў гатовы, і я пайшоў у інтэрнат Акадэміі навук СССР па вуліцы Горкага, дзе пражываў Глебка. Яго я застаў за пісьмовым сталом, ён быў у гімнасцёрцы з франтавымі пятліцамі. Я паклаў на стол папку і стаў прыспешваць Пятра Фёдаравіча хутчэй прыступіць да разгляду рукапісу. Пётр Фёдаравіч трымаў спакой:

— Перш чым пераходзіць да справы, падмацуем свае сілы снеданнем. — Падышоўшы да салдацкага куфэрка, дастаў адтуль невялікі кавалак сала і акрайчык хлеба і сказаў: — Гэты далікатэс мне землякі-партызаны ў падарунак прыслалі.

Я прачытаў чатырохрадкоўе з верша Глебкі «Родны хлеб»:

Вовеки будь
благословенным,
Хлеб трудных
партизанских дней,
Неквашенный,
непосоленный,
Хлеб Белоруссии моей.

Нарэшце, падсілкаваўшыся, мы прыступілі да абмеркавання рукапісу. Пільна абдумвалі кожны радок, горача спрачаліся.

Да позняга вечара абмяркоўвалі рукапіс. Скончыўшы работу, пачалі думаць, а як усё ж такі назваць будучую кнігу. Адна за другой узнікалі назвы: «Война народная», «С тобой, Беларусь», «Беларусь непокорённая» і шмат іншых, але ўсе яны не вычэрпвалі поўнасцю зместу зборніка.

Разгаварыліся пра партызанскі рух, які ахапіў усю Беларусь, пра падпольныя партыйныя арганізацыі, пра спаленыя фашыстамі вёскі і сёлы... І тут неяк сама сабой і нарадзілася назва — «Беларусь в огне».

Сказаўшы гэта, мой суразмоўца выняў з кішэні невялічкую, памерам у далонь, кніжачку з беларускім арнаментам на вокладцы. «Беларусь в огне», — прачытаў я. 1943 год выдання. Выдавецтва «Молодая гвардия». Пагартаў гэты рарытэт.

— Падарыць не магу — адзіны экзэмпляр. Вось каб перавыдаць!

— А ў выдавецтва звярталіся?

— Хачу звярнуцца.

— Трэба выдаць, — падтрымаў я, — і ў «Молодой гвардии», і ў нас.

**9 мая.** Свята Перамогі куды цікавейшае, чымсьці запалітызаванае Першае мая. Дзень Перамогі болей багаты ў эмацыянальным выяўленні, у сваёй сакральнасці. Асабліва гэта відаць у Плешчаніцах, дзе мы гасцявалі ў гэты час у Тамарыных бацькоў. Хадзілі ў Чысцік. Гэта — прыгарад Плешчаніц. Тут, побач з брацкай магілай, да гэтага часу стаіць пракаветная сасна з урослай у ствол пятлёй-зашморгай з тоўстага ржавага дроту. Месца пакарання савецкіх патрыётаў — падпольшчыкаў і злоўленых немцамі партызан. Пасля вайны вакол сасны паставілі жалезную агароджу, побач, на мемарыяльнай дошцы, імёны, прозвішчы тых, хто тут загінуў.

Даты жыцця. Шмат зусім маладых. Некаторым усяго толькі па шаснаццаць гадкоў.

Мітынг. Сышліся людзі, мясцовыя і прыезджыя. Гучаць прамовы, успаміны.

— Людзёў шмат, — гаворыць цесць, — палец няма дзе ўторкнуць.

Непадалёку ад гэтых мясцін спаленыя карнікамі Хатынь і Дальва.

Вера Васільеўна і Іван Платонавіч маюць баявыя ўзнагароды, медалі «Партызану Вялікай Айчыннай вайны» і ордэны. У Івана Платонавіча ордэн Чырвонай Зоркі, у Веры Васільеўны — ордэн Вялікай Айчыннай вайны II ступені. Але, сціплыя, не пачапілі, нават на свята. Іван Платонавіч кажа, што згубілася гаечка, якой ордэн прымацоўваецца да пінжака з унутранага боку.

**10 мая.** На Бюро ЦК прынята пастанова аб прысваенні П. Панчанку ганаровага звання «Народны паэт БССР». Павіншаваў, не чакаючы пакуль пастанова будзе апублікавана як Указ Вярхоўнага Савета БССР. Панчанка рады, адчуў палёгку. З такім званнем і з часопісам размаўляць прасцей, і з выдавецтвам.

**11 мая.** Суш. Што будзе з ураджаем? Суш і холад.

Ладзім экскурсію пісьменнікаў, мастакоў і кампазітараў па навукова-даследчых інстытутах Акадэміі навук. Спыніліся на фізіках, тут дасягненні найбольшыя, фізікі працуюць на «абаронку».

**12 мая.** Пачуў на Камароўцы прымаўку: «Ну, гэты і з-пад сучкі яйкі дастане». Народ — мастак. Скажа, як звяжа.

Сустрэў С. Грахоўскага, ён недзе блізка тут жыве. Павіталіся, папыталі пра справы. Грахоўскі ў крыўдзе на мяне, што не ўдзяляю належнай увагі яго творчасці.

— Вы пра Танка пішаце, а я радавы, шараговец...

Крытык, на мой погляд, павінен пісаць пра тое, да чаго ён нераўнадушны. Але гэтага Грахоўскаму я не сказаў.

**17 мая.** Адзначаны юбілей Анры Барбюса — 100-годдзе з дня нараджэння. Даклад зрабіў прафесар па замежнай літаратуры Б. Міцкевіч, вельмі ціхі, сціплы чалавек. Кажуць, што Барбюс у свой час напісаў кнігу пра Сталіна і што там гаварылася, быццам Іосіф Вісарыёнавіч атрымліваў (20 — 30-я гады) сярэднюю зарплату савецкага рабочага.

Пайшоў дождж, а цяпла няма.

**18 мая.** У «ЛіМе» прачытаў артыкул С. Шушкевіча пад назвай «Пра рыфмы». Аўтар разважае на гэтую тэму чамусьці толькі на матэрыяле вершаў С. Грахоўскага. У паэта паўтараюцца, і даволі часта, рыфмы: свет-след; чалавек-век; дарогі-трывогі... Вядома, гэта кідае цень на якасць вершаў. Але ўражанне такое, быццам Шушкевіч за нешта помсціцца.

Сачанка расказваў, як Я. Скрыган інспектаваў бухгалтэрыю, якой загадваў С. Шушкевіч. Было гэта ў нейкім сібірскім саўгасе. Адзін і другі знаходзіліся на чужыне, у высылцы, і гэта павінна было зближаць, але яны замест гэтага пасварыліся.

Ёсць у гэтай гісторыі нешта беларускае.

**25 мая.** У «ЛіМе» Указ аб прысваенні П. Панчанку звання «Народны паэт БССР» і падборка ягоных вершаў сатырычнага кшталту — пра «хапуг». Не зусім уяўляю, што азначае гэтае слова — «хапуга». Зрэшты, у народзе кажуць: «Нахапаўся!» Пры нашым жыцці надта не нахапаешся, на ўсё — ліміт.

**29 мая.** З жалем даведаўся, што памёр Іосіф Камінскі — адзіны жыхар вёскі Хатынь, якому пашчасціла застацца ў жывых пасля той вядомай трагедыі. Працаваў у музеі Вялікай Айчыннай вайны.

**5 чэрвеня.** Уся першая палавіна дня прайшла ў Інстытуце фізікі АН БССР. Вучоныя (М. А. Барысевіч, Р. Б. Жбанкоў і інш.) расказвалі пра свае дасягненні. Госці вучоных — мастацкая інтэлігенцыя рэспублікі: пісьменнікі, музыканты, мастакі.

М. А. Барысевіч, прэзідэнт Акадэміі навук, трымаючы ў руках доўгую шкляную трубку, паказваў, як па лазерным промні можа наводзіцца на цэль ракета. З высокай дакладнасцю!

Як гэта ўсё ацаніць? Успамінаецца мудрэц Мантэнь: «Тому, кто не постиг науки добра, всякая наука приносит лишь вред».

Не лічу, аднак, што думка Мантэня мае непасрэдныя адносіны да супрацоўнікаў Інстытута фізікі.

**7 чэрвеня.** Надта зменлівае надвор’е — то сонца, то дождж. Рыхтуем семінар творчых саюзаў у Докшыцкім раёне. Там рэкордныя паказчыкі па ўраджайнасці зерневых, у асноўным жыта. Першы сакратар райкама партыі ў Докшыцах — У. Ф. Крышталевіч. Надта хваліць яе Пётр Міронавіч: «Сумела добиться!»

**11 чэрвеня.** З'явілася паэма «Сказ пра Лысую гару». Аўтар — нейкі Вядзьмак Лысагорскі, але гэта хутчэй за ўсё псеўданім. Сакратар Саюза пісьменнікаў Ткачоў Мікола Гаўрылавіч перадаў Савіцкаму, той — Марцэлеву, Марцэлеў — Кузьміну, Кузьмін — Машэраву. Усе чакаюць: што будзе?

**12 чэрвеня.** Прачытаў «Сказ пра Лысую гару». Ніякай крамолы не знайшоў, апроч дасціпна-сатырычных партрэтаў некаторых літаратараў — А. Ставера, М. Хведаровіча, А. Астрэйкі, Б. Сачанкі, С. Александровіча, К. Кірэенкі і іншых «лысагорцаў», што пабудавалі на Лысай гары дачы. Зрэшты, якія там дачы. Катухі з фанеры!

**14 чэрвеня.** Прачыталі «Лысую гару» і на кіраўнічым «версе». Рагаталі. Твор спадабаўся сваім досціпам, бясспрэчнай таленавітасцю. Спадабалася, відаць, і яго антыпісьменніцкая скіраванасць, бо што непакоіць аўтара «Сказа...»? Што ён хоча сказаць? Яму здаецца, што «лысагорцы» больш увагі ўдзяляюць уласным агародам, чым творчай, пісьменніцкай справе.

О, калі б так пераціралі
Любы радок і кожны сказ,
Якія б дулі выраслі
На творчым зябліве ў нас!
А то прывыклі, марнатраўцы,
Паперу крэмзаць, абы з рук,
Не ганарару б ім, а трасцы
За той «цяп-ляп», што пруць у друк.

Святая прастата! — хочацца ўсклікнуць. У тым, хіба, справа, што пісьменнікі займелі сякія-такія дамкі (з дошак, бо з бярвенняў не дазвалялася) і агароды? Справа хутчэй у тым, што рэгламентуецца сам творчы працэс... А радок свой яны «пераціраюць»!

Хто ж аўтар?

**15 чэрвеня.** Семінар творчай інтэлігенцыі ў Докшыцкім раёне. У мінулым гэта быў адзін з самых бедных раёнаў рэспублікі. Зямля — няўдобіца, камяні. Колькі іх ні збіралі, зямля выціскала з сябе столькі ж. Здавалася, што камяні растуць, плодзяцца. Цяпер змаганне з імі павялі шырокім фронтам, і, здаецца, камяні адступілі.

Ад'язджалі аўтобусамі (вялізныя «ікарусы») ад будынка ЦК. Сабраліся члены праўленняў трох саюзаў. Старэйшыя — М. Лынькоў, П. Броўка, М. Танк, Р. Шырма, З. Азгур... Вясёлая гамана. Тыя, хто чытаў «Сказ пра Лысую гару», пад уражаннем прачытанага. Падышоў Пётр Міронавіч, пасвойску з усімі павітаўся. Гамонка перайшла на паэму. Ніхто не ведае, хто яе напісаў. А. Вялюгін, які з'явіўся разам з зяцем Алесем Шлегам, адразу пачаў апраўдвацца:

— Гэта не я, Пётр Міронавіч, не я.

— Ну и зря! — адказаў той.

Усе прымоўклі. Адчулі, што «Сказ...» Машэраву спадабаўся.

Рушылі ў дарогу цяжкія «ікарусы», у якіх размясціліся інтэлігенцыя, а таксама кіраўніцтва Мінскага раёна, па тэрыторыі якога маем ехаць. У аўтобус сеў і сакратар ЦК А. Т. Кузьмін. Паперадзе — машына ДАІ. Першы сакратар Мінскага райкама пачаў праз мікрафон-узмацняльнік (узмацняльнік, ці мацюгальнік, як яшчэ называюць гэтае прыстасаванне) дакладваць аб сваіх дасягненнях. Папрацавалі добра. На мяжы Мінскага і Лагойскага раёнаў з хлебам-соллю сустракала кіраўніцтва Лагойшчыны. Мінскія саступілі ім месца. Лагойскія пачалі аповед пра свае дасягненні.

Далей лагойскае начальства змянілася бягомльскім. Хлеб-соль прымалі М. Танк і Р. Шырма. Зноў пачаліся справаздачы. Лічбы, паказчыкі, часам суха-

вата, але мінчане слухаюць. Значыць, цікава. Едзем. Каля дарогі, у палатках з цэлафанавай плёнкі стаяць накрытыя сталы з пачастункам, але спыняцца няма калі. Уперад!

Нарэшце, на межах сваіх уладанняў, сустрэла сама Ульяна Феакцістаўна. Стройная, бялявая. Як быццам і радая гасцям, але ў вачах сум, заклапочанасць. «На круг» намалацілі шмат. Бункерная вага ўражвае — недзе пад 35 цэнтнераў. (Усё адно, як, жартам сказаць, бочку вады ў бункер той вылілі). Усе дзівяцца, што людзі ўмеюць гэтак працаваць.

Ульяна Крышталевіч з былой парабчанкі, пастушкі вырасла ва ўмовах Савецкай улады ў палітычнага і грамадскага дзеяча, стала дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, Героем Сацыялістычнай Працы.

У Докшыцах, у рэстаране, Ульяна Феакцістаўна пачаставала смачным абедам. Пасля абеду паехалі па гаспадарках. Настрой у калгаснікаў добры, не гаруюць. А калісьці, адразу пасля вайны, — расказвала Ульяна Феакцістаўна, — ім прапаноўвалі перасяліцца ў іншае, лепшае месца. На выбар: у Казахстан, Сібір ці яшчэ куды. Накіравалі былі пасланцоў у Казахстан. Тыя пaглядзелі, паазіраліся: «Зямля добрая, без камянёў, але лесу нямашака». А на радзіме цешыць вока лес. Вярнуліся, расказалі пра ўбачанае землякам. Не паехалі, не пакінулі роднай, хай і камяністай, зямелькі. Засталіся і, выходзіць, правільна зрабілі, дачакаліся лепшага.

М. Калачынскі і іншыя занатоўваюць пачутае ў блакноты. Мне гэта падабаецца. Значыць, сур’ёзна ставяцца.

З’явіўся на верталёце Пётр Міронавіч. Правялі мітынг. Першы сакратар ЦК — неблагі аграном, у пытаннях сельскай гаспадаркі разбіраецца. Яго прамова спадабалася, здаецца, усім.

Павячэралі за агульным сталом. Было сухое віно і тосты. Вечарам акружылі з усіх бакоў Пятра Міронавіча, які расказваў, што зроблена, ставіў новыя задачы. Усіх здзівіла, што каля яго радыёстанцыя.

— Для сувязі з Палітбюро, — патлумачыў ён.

Назаўтра, ранічкаю, развітаўшыся з Докшыцамі, з мілай Ульянай Феакцістаўнай, накіраваліся ў Мядзельскі раён.

Праязджаючы чыгуначны пераезд каля Глыбокага, Максім Танк (я сядзеў блізка ад яго) распавёў, як тут, у гэтым якраз месцы, у 1936-м яго арыштавала дэфензіва. Сустрэлі двое мацакоў у чорных капелюшах і загадалі ісці з імі. Прыгналі ў Глыбокае, у пастарунак. Глыбоцкая дэфензіва вызначалася асаблівай лютасцю. Мала хто выходзіў адсюль.

— Мог бы і я скончыць тут жыццёвую сцяжыну, — пасміхнуўся паэт, — але, на шчасце, запатрабавала мяне Вільня, перадалі туды.

Гасцявалі ў Мядзельскім раёне. Былі ў розных гаспадарках. Гаспадарчыя вынікі тут слабейшыя, чым у суседзяў. За абедам (з сухім віном) Машэраў доўга і нудна распякаў за гэта старшыню Мядзельскага райвыканкама.

Фатаграфаваліся, разам з Пятром Міронавічам, на ступеньках каля Нарачанскага мемарыяла.

Дадому, у Мінск, вярнуліся познім вечарам. Ёсць, вядома, стомленасць, але адчуванне такое, што паспрыялі пісьменнікам у іх нялёгкай працы, паказалі сучаснасць, паднялі настрой, пераканалі ў запатрабаванасці.

**22 чэрвеня.** Першым на вынікі Докшыцкага семінара адгукнуўся М. Калачынскі. Спёк свой каравай. У «ЛіМе» нізка яго вершаў, якая так і называецца — «Докшыцкі каравай». Паставіўся да справы быццам і сур’ёзна, аднак вершы слабаватыя.

Паехаў у Докшыцы і В. Мыслівец. Відаць, прывязе нарыс. В. Якавенка ўжо, кажуць, там.

**26 чэрвеня.** У СП наведаў Таццяну Кузьмінічну, зайшоў да М. Танка. У яго кабінеце рэдка застанеш гаспадара, але на гэты раз ён быў. Збіраецца на Нарач. Лета. Спраў менш. Разгаварыліся пра лысагорскую паэму.

— Некаторыя, — пачаў разважаць Яўген Іванавіч, — ківаюць на мяне, быццам бы аўтар я. Не, не я.

Я сказаў, што такога пытання, каб адшукаць, хто аўтар, няма. Хай гэтым займуцца тэкстолагі. Хай сваё слова скажуць навукоўцы.

— Наўрад ці скажуць, — запярэчыў паэт. — Тут, ведаеце, невядома на каго і падумаць. Справа ў тым, што паэт можа напісаць нечаканую рэч. Напісаў жа Блок паэму «Дванаццаць», якую ніхто ад яго не чакаў. Вы ж ведаеце, што пасля гэтага пачалося, якія нападкі былі на яго.

— Нападкі знішчальныя. Як толькі ён іх вытрымаў...

— Вытрымаў, але ж хутка і памёр.

Яўген Іванавіч, напэўна, ведае пра ўсё з белаэмігранцкай прэсы 30-х гадоў. Ён шмат ведае...

**28 чэрвеня.** Звычайны дзень. У Алтаі закончыўся Фестываль беларускай літаратуры і мастацтва.

У Кіеве працягваецца Выстаўка беларускай кнігі.

Жыццё на месцы не стаіць.

**30 чэрвеня.** У Ароў-парку (ЗША) адбылося адкрыццё помніка Янку Купалу. Удзельнічала дэлегацыя з Мінска: Андрэй Макаёнак і Анатоль Анікейчык — скульптар, аўтар помніка паэту ў Мінску і адзін з аўтараў помніка Я. Купалу ў Ароў-парку.

Да Купалы ў Ароў-парку ўжо стаялі асілкі паэзіі Уолт Уітмен і Тарас Шаўчэнка. Тарас Шаўчэнка, кажуць, стаіць ва ўсіх краінах.

**1 — 2 ліпеня.** Нядзеля. Вярнуўся з Брэста. Быў у мамы, трэба час ад часу праведваць. Прыехаў (дызель) на раніцу. Ужо з раніцы было шмат сонца. Мама сустрэла як заўсёды пяшчотна. Адразу сказала, між іншым, што хоча купіць машыну «Жыгулі». Яна носіць на базар цыбулю, часнок, укроп, пятрушку і трохі грошай сабрала.

«А хто ж на ёй будзе ездзіць?» — спытаў я. Ева, мая сястра, жыве з мужам у Іжэўску ў яго родных.

«Хай стаіць, каля хаты, каб людзі бачылі, што ў нас ёсць машына», — быў адказ.

«Ну, што ж, — падумаў я, — можна разважаць і так. «Кожны чалавек жадае самасцвердзіцца. Гэта якраз той выпадак, і не трэба перашкаджаць».

Пад абед стала зусім горача. Сядзелі ў альтанцы, гаманілі пра ўсё. Успаміналі пра Кругель. Жонка дзеда Лявона, Марыя Ільінічна, вельмі руплівая і працавітая. І па сваёй гаспадарцы паспявае, і ў калгасе.

У Мінск вярнуўся позна ноччу.

**4 ліпеня.** Чуў па радыё, што ў Хельсінкі пачала работу нарада па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (СБСЕ).

Па «Свабодзе» перадавалі, што ў СССР квітнее падхалімаж падначаленых перад начальствам. Што праўда, то праўда. У начальства столькі падліз…

**5 ліпеня.** Бушавала навальніца. Раззлавалася так, што, здавалася, не будзе ёй і канца. Пазалівала падземныя пераходы. Аднавілася старажытная Няміга, паплыла вуліцай. У Мінску ў гэты час такое здараецца. Звычайная для сталіцы з’ява. Паўночнае паветра сутыкаецца з паўднёвым — і гэта якраз над Мінскам.

**7 ліпеня.** Свята паэзіі на радзіме Янкі Купалы — у Вязынцы. Выступаюць паэты. Няма канца вершам. «Вершы ў вялікай колькасці — рэч невыносная», — гэта я неаднаразова чуў ад А. Вялюгіна. Мусіць, і сапраўды гэтак.

Сустрэў на свяце шаноўнага Л. А. Царанкова, які калісьці чытаў антычную літаратуру ў Брэсцкім педінстытуце. Стары мінчанін, ён расказаў пра выпадак, які здарыўся з яго сынам Жэнем. Гадавалае дзіця, ён толькі яшчэ вучыўся трымацца на нагах, выпаўз на вулічны брук, па якім ішоў няспынны рух featureрознага транспарту. Здарылася гэта якраз насупраць дома, у якім жыў паэт. Янка Купала ў той час вяртаўся з лазні, што знаходзілася ў Траецкім прадмесці. Трымаў пад рукой ражку і скрутак з бялізнай. Ажно бачыць — па бруку соўгаецца малое, а зверху, ад Савецкай вуліцы, спускаецца запрэжаны параю коней ламавік, і, мяркуючы па ўсім, фурман малога не заўважае. Вось-вось адбудзецца трагедыя. Купала, не раздумваючы, кінуў тое, што трымаў у руках, і хутчэй да малога. Выхапіў Жэню літаральна з-пад конскіх капытоў. Выратаваў.

Такога пра Купалу я яшчэ не чуў.

**8 ліпеня.** Справіў пяцідзесяцігоддзе Валянцін Панамароў — былы памочнік Машэрава. Цяпер ён палітычны аглядальнік на беларускім тэлебачанні, на яго месцы Ю. П. Смірноў.

Юбілей абышоўся без узнагароджання.

Запрашаў на тэлебачанне і мяне, але я не пайшоў. Палохае слова «палітычны».

**12 ліпеня.** У цокальным паверсе ёсць бібліятэка, у якую часам у вольную хвіліну зазіраю і я. Чытачоў тут не шмат, можа, і таму, што бібліятэка небагатая, але часам аглядаючы, з дазволу добрай Барыкады Яфетаўны, паліцы, можна натрапіць на нешта зусім нечаканае. Стаяць у кутку «Отечественные записки» — за 70-я гады мінулага стагоддзя з раманам У. Крастоўскага «Петербургские трущобы», «Дневники» Ф. М. Дастаеўскага, «История русской литературы 40-х годов XIX в.» І. Замоціна... Якім ветрам іх сюды занесла, невядома. Днямі напаткаў кніжачку «Характары». Аўтар — Феофраст, старажытнагрэчаскі філосаф-мараліст. Сабраў 30 кароткіх характарыстычных чалавечых тыпаў: прытворшчык, падліза, пустаслоў, баязлівец, нягоднік, крыхабор і інш. Феафраст улічвае маральныя якасці чалавека, але людзі розныя не толькі па маральных параметрах, але і па ўсіх астатніх. Магчыма, гэта і добра. Ад рознасці патэнцыялаў узнікае рух, жыццё.

Перабіраю пісьменнікаў — у кожнага свой характар. Цэлы букет характараў. Характары нязменныя, але яны вянуць, як і кветкі.

**19 ліпеня.** У мінскім клубе імя Дзяржынскага адбыўся вечар з нагоды 80-годдзя з дня нараджэння Маякоўскага. Выступалі: Шамякін, Кірэенка, Хведаровіч, Грахоўскі, Барадулін, Гілевіч. Маякоўскі сябраваў з чэкістамі, і вечары яго памяці ў Мінску па традыцыі праходзяць на «тэрыторыі» КДБ. Кажуць, што аўтару адной з запісак на сустрэчы з чытачамі ён адказаў: «Вам вместо меня ответит ГПУ».

У прэзідыум вечара прыслалі запіску:

«Вы сказалі, што ёсць пераклады Маякоўскага на беларускую мову, але ці ёсць у гэтым патрэба? Вершы Маякоўскага ж ад гэтага не стануць яшчэ лепшымі, больш зразумелымі для беларусаў, хутчэй наадварот. Увогуле, ці ёсць патрэба перакладаць з рускай мовы на беларускую?

Студэнты.»

Адказваючы, І. Шамякін сказаў, што ў нас перакладаюцца творы і рускіх пісьменнікаў, і ўкраінскіх, хаця ўкраінскія таксама блізкія нам па мове,

і іншыя. Гэта мае вялікае грамадскае і чыста літаратурнае значэнне, узбагачае майстэрства, мову.

**20 ліпеня.** У «ЛіМе» таксама адзначаны юбілей Маякоўскага. Артыкул цяпер народнага паэта П. Панчанкі «Я зямлю гэту люблю!..» і таленавітыя пераклады Р. Барадуліна.

Маякоўскі надта складаны — і як паэт, і як асоба. Паэт Хадасевіч назваў «глашатая рэвалюцыі» Маякоўскага глашатаем пошласці, грубасці і глупства, які з карысці «ўтаптаў у гразь» усё ўзнёслае.

Непрыяцеляў у Маякоўскага было шмат. Альвэк Іосіф Саламонавіч, таксама паэт, аўтар брашуры «Нахлебники Хлебникова», абвінавачваў У. Маякоўскага, М. Харджыева і іншых ва ўзурпацыі літаратурнай спадчыны і архіва Веліміра Хлебнікава. Неаднаразова наладжваў публічныя скандалы ў час выступленняў Маякоўскага.

Маякоўскі адмоўна ставіўся да мінулага, не любіў, мякка кажучы, бацькоўскі, родавы пачатак: «Стар — убивать. На пепельницы — черепа» (паэма «150 000 000»).

**24 ліпеня.** Дзень нараджэння Рыгора Кобеца, споўнілася 75. Быў рэпрэсіраваны. Апынуўся ажно на Далёкім Усходзе. Аўтар сцэнарыя знанага кінафільма пра яўрэяў-перасяленцаў. Аўтабіяграфія яго ў кнізе «Пра час і пра сябе». Помню, у падручніку па беларускай мове для шостага класа (аўтары Корзун і Жыркевіч) быў сказ (ілюстравалася нейкае правіла): «Чалавек — неймаверна моцная істота». Я сумняваўся, што гэта так. Рыгор Кобец не пакідае сумненняў. Пакручастае жыццё ў гэтага чалавека, шмат перажыў. Круты замес у нашага стагоддзя!

**27 ліпеня.** 50 гадоў Міколу Грынчыку. Таленавіты вучоны і поўнасцю захаваў народныя рысы. Удзельнік вайны. Пайшоў на фронт як толькі вызвалілі Заходнюю Беларусь. Цяжка паранены (у галаву).

**1 жніўня.** На Палессі, радыё перадавала, гарыць торф. Відаць, і ў Кругелі на Прыдатках таксама.

**7 жніўня.** У Мінску пабывалі польскія пісьменнікі В. Ябджынскі, Т. Хрусцялеўскі, С. Пагачэўскі, А. Занеўскі. Адбылася сустрэча з беларускімі пісьменнікамі: Максімам Танкам і іншымі. Усё прайшло нармальна.

**9 жніўня.** А. Савіцкі пайшоў у адстаўку. Не даравалі яму аповесці «Тры непражытыя дні», убачыўшы парнаграфію. Мы з Марцэлевым баранілі, але скарысталі ўладу тыя, хто наверсе.

У рэшце рэшт, можна разважаць і так, што Савіцкага шчыльней прыгарнула да сябе літаратура. Гэта — жанчына раўнівая, яна патрабуе да сябе і ўвагі, і вернасці і не любіць, каб пісьменнік дзяліў сябе паміж ёй і службай, як робяць некаторыя.

А. Савіцкі, трэба сказаць, умее пісаць, валодае майстэрствам. Але пісаць пра жыццё чалавечага цела ў нас фактычна забаронена. Калісьці пісалі, традыцыя перарвалася.

Маякоўскі калісьці перад тым, як надрукаваць паэму «Воблака ў штанах», прачытаў яе Чукоўскаму. Там былі словы: «Мария, отдайся!»

— Не, не так! — запярэчыў Чукоўскі. — Цяпер так не кажуць — «аддайся». Цяпер кажуць проста: «Дай!»

Маякоўскі, чуйны да новага, выправіў у тэксце: «Марыя, дай!»

**10 жніўня.** Грубая рэцэнзія В. Нікіфаровіча ў «ЛіМе» на нядаўна выдадзены зборнік вершаў Р. Семашкевіча «Субота». Рэцэнзент яўна прыпісвае аўтару нейкую вузкасць яго паэтычнага «я», цьмянасць інтымных перажыванняў яго лірычнага героя, не заўважае працэсу творчага станаўлення Семашкевіча,

які расце на вачах. Трэба пашукаць, каб хто яго абараніў. Цяжка працаваць з Жычкам.

**16 жніўня.** З анекдотаў. Чалавек ідзе па могліцах і бачыць, як кагосьці хаваюць: аркестр, гара вянкоў... Чалавек цікавіцца:

— Не ведаеце, ад чаго ён памёр?

Нейкая бабка адказвае:

— А ты на вянкі паглядзі, там напісана ад чаго.

— «Ад мясцкома», «Ад групы таварышаў», «Ад любячых жонкі і сына», — прачытаў той.

**20 жніўня.** Прайшло дваццаць гадоў з таго часу (паведаміла радыё «Свабода»), як Савецкі Саюз абвясціў аб паспяховых выпрабаваннях атамнай бомбы. У той час я збіраўся ісці ў 10-ты клас, ведаў, што такую бомбу мае Амерыка. Тагачасны ваенны псіхоз не спыняецца і сёння, страх працягваецца.

**25 — 26 жніўня.** Былі ў Плешчаніцах. Пеця вазіў у лес у грыбы. Таўстушак (па-мясцоваму — кабылкі) — хоць касой касі. Гэта як лясныя шампіньёны. Ружовыя такія, крамяныя, амаль як рыжыкі. Назбіралі і насмажылі. Смачна!

Прызвычаіўся да паездак у Плешчаніцы. Асвоіў дарогу. За Лагойскам яна ідзе праз лес. За Хатынню паўз дарогі, асабліва з правага боку, стаяць славутыя плешчаніцкія сосны. Меднаствольныя, высокія, як мачты. Надта прыгожыя. Уладзімір Карпаў кажа, што тут пры незразумелых абставінах, ужо перад вызваленнем, загінуў Рыгор Мурашка.

**31 жніўня.** 80-годдзе Паўліны Мядзёлкі. Жыве недзе, здаецца, у Будславе. Заслужаны дзеяч культуры БССР. Не проста атрымаць такое званне на перыферыі. Гэта з яе Янка Купала напісаў сваю Паўлінку — гераіню аднайменнай камедыі. Кажуць, што Уладзіслава Францаўна не вельмі з ёю ладзіла...

Мала, аднак, мы ведаем пра жыццё нашых вялікіх паэтаў і пісьменнікаў. А трэба было б.

**1 верасня.** Людзі пераказваюць масу анекдотаў пра Чапаева і яго ардынарца Пецьку. Бедны Васіль Іванавіч! Але чаму анекдоты менавіта пра яго? І з такой інтэнсіўнасцю выдумваюцца? Магчыма, таму, што і сам Чапаеў у многім выдуманы... Раман «Чапаеў» — сумеснае сачыненне Фурманава і Лепяшынскага.

**2 верасня.** Пачаўся новы навучальны год. Скверык — у абедзенны перапынак назіраў — запруджаны студэнтамі-філфакаўцамі. Будынак філфака — побач. Маладыя аблічча. Калісьці (дзевятнаццаць гадкоў назад) і я паступаў у БДУ, на геолага-геаграфічны. Меў медаля, але не паступіў. «Не судьба». Працаваў у геалагічнай партыі і зразумеў, як гэта цяжка.

**4 верасня.** Зацверджаны загадчыкам сектара мастацкай літаратуры. Трэба шукаць чалавека на сваё месца.

Дарэчы, разам са мною на Бюро ЦК зацвярджалі новага рэктара Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Гэта — Андраюк Георгій Пятровіч, мой зямляк, з суседняй вёскі Выгнанка. Калісьці разам пасвілі кароў. Сказаў яму, каб не крыўдзіў Калесніка, якога ведае ўся Беларусь.

— Я яго паважаю! — пасміхнуўся Георгій Пятровіч, Жора, як мы яго звалі.

**8 — 9 верасня.** Ездзіў у Брэст, наведаў маму. Пачуў, відаць, са сваёй палавіны мой голас, з’явіўся і бацька. Пагаманілі мірна, выпілі чарку. Я чамусьці ўспомніў сваё вяртанне з арміі. Гэта было недзе ў снежні 1961 года. Бацькі жылі тады адносна дружна, узрадаваліся, адзначылі маё вяртанне. Назаўтра пайшлі разам з бацькам у горад папіць піва. Дайшлі да Вялікага базару (гэта каля Мухаўца). Пастаялі ля аднаго ларка, ля другога (брэсцкае піва смачнае)

і гэтак дайшлі да турмы, якая была адчыненая. Колькасць турмаў у той «хрушчоўскі» час скарачалася. Брэсцкая пуставала ўжо. І вароты, і дзверы былі адчыненыя, і ніхто, здаецца, яе не вартаваў. Пабудаваная яна была яшчэ да польскіх часоў. Мы прайшлі па калідорах, зазірнулі ў камеры, агледзелі сцены з нейкімі знакамі, імёнамі. Але пра свае ўспаміны я казаць не стаў.

Пад вечар наведаў Калесніка. Уладзімір Андрэевіч расказаў пра сваіх выхаванцаў — маладых паэтаў, расказваў таксама пра пасяджэнне літаратурнага аб'яднання пры абласной газеце «Зара». Нейкі стары прынёс тоўстую папку ўспамінаў, пачынаючы яшчэ з той сусветнай вайны. Але чамусьці прапушчаны падзеі сямнаццатага года. Рэцэнзент (адзін з брэсцкіх літаратараў) указаў яму на гэта: «Як магло так здарыцца?» Стары шчыра прызнаўся: «Ведаеце, — кажа, — што, я надта захоплены быў сваёй Люсяй. Не заўважыў, як праімчаўся год і ўсе падзеі. Нічога вакол сябе не бачыў».

Што ж, здараецца, відаць, і гэтак.

**15 верасня.** Субота. Ездзіў у Атоліна паглядзець на сваю дачу, якую атрымаў як загадчык сектара. Гэта аднапакаёвая кватэра на другім паверсе (будынак — двухпавярховы), кухня і душ з газавай калонкай для падагрэву вады. Плюс яшчэ агарод, 2 соткі. Маліна, пасаджаная ўжо, чырванее па-асенняму аголенымі сцяблінамі. Побач такі ж агарод памочніка Машэрава Вячоркі. Усё гэта пад Мінскам, за Прылукамі. Па выхадных ходзіць аўтобус.

**17 верасня.** Дзень нараджэння М. Танка. Адзначае недзе на Нарачы. Прыгадалася з яго даверасяёўскага:

За песні і сасонкі,
Узгоркі і даліны —
Люблю цябе я звонка,
Люблю цябе, краіна.

Простыя радкі. Простыя і чароўныя. Пра Танка гавораць як пра паэта еўрапейскага маштабу. Думаю, што для гэтага ёсць усе падставы.

**18 верасня.** На пасаду інструктара амаль сілком узялі А. Кудраўца, які працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва.

**21 верасня.** Пятніца. Сустрэў Вячаслава Адамчыка. Нешта кволіцца, як быццам не зусім здаровы. Працуе ў «Маладосці» і сам шмат піша. Выдатны апавядальнік і, думаю, раманіст. Добра помню колішняе яго апавяданне «Кароль Нябожа», асабліва апісанне начной навальніцы. Я скептычна стаўлюся да прозы ад першай асобы, дзе гэтае суцэльнае «я» ціснe і на персанажаў, і на сюжэт, і на канфлікт. У Адамчыка, як і ў Чыгрынава, спалучаюцца падыход да рэчаіснасці, характэрны для сацыяльнага рамана (Я. Колас), і суб'ектыўная манера выкладання, паглыбленае даследаванне псіхікі герояў (К. Чорны).

Адамчык казаў, што шмат чытае Дастаеўскага і Буніна. Вядома, іх уплыў, як і ўплыў Коласа і Чорнага, можна адшукаць і ў яго, аднак піша ён усё ж такі па-свойму таленавіта і арыгінальна.

**22 верасня.** На бярозах жаўцеюць пакуль што толькі некаторыя галінкі. Жухне трава і больш тумніцца далячынь. Заружавелі ўжо, пэўна, асіннікі на камянецкім гасцінцы...

Пішу гэтыя радкі і напэўна ведаю, што, апроч мяне, ніхто іх чытаць не будзе. Але гэта, з другога боку, і добра: пішы, што хочаш, пра што хочаш і як хочаш.

**24 верасня.** Цікавую мясціну прачытаў у старога пісьменніка В. Верасаева:

«Хочаце ведаць душу чалавека, глядзіце на яго вусны. Цудоўныя, светлыя вочы і драпежныя вусны. Дзявоча-нявінныя вочы і па-саноўніцку падцятыя

вусны з бурчліва апушчанымі ўніз куточкамі. Сцеражыцеся вачэй! З-за вачэй менавіта так часта і памыляюцца ў людзях. Вусны не зманяць».

**27 верасня.** Не выходзіць з галавы контррэвалюцыйны пераварот у Чылі, здзейснены рэакцыйнай хунтай Піначаэта, смерць прэзідэнта рэспублікі С. Альендэ.

**29 верасня.** Наведваўся ў Атоліна. Ехалі назад — перапоўнены аўтобус. Размовы — пра Чылі. Там грамадзянская вайна.

**2 кастрычніка.** Супрацоўнікі часопіса «Полымя» скардзяцца на галоўнага рэдактара. Шчыльна кантралюе, прыдзіраецца, усіх падазрае ў нядобразычлівым да сябе стаўленні. Тут ужо, відаць, маем справу з характарам. Характар — рэч упартая, яго не пераробіш.

**3 кастрычніка.** Намячаецца паездка ў ГДР па лініі Саюза пісьменнікаў СССР. Мэта — удзел у канферэнцыі «Вобраз сучаснага рабочага ў літаратурах сацыялістычнага рэалізму». Лічыцца, што ў нас назапашаны значны вопыт па гэтым пытанні.

**9 кастрычніка.** У Мінск з’ехаліся перакладчыкі беларускай літаратуры на мовы народаў СССР: Я. Хелемскі, А. Жукаўскас, М. Нагнібеда, А. Астроўскі, Б. Кежун, І. Міхайлаў, Ю. Ванаг, Э. Насыраў, Э. Матузявічус, Р. Кулініч, В. Юхімовіч і інш. Адбываецца канферэнцыя, абмен досведам. Мастацкі пераклад дапамагае ў пашырэнні арсенала выяўленчых сродкаў, далейшым развіцці мовы, стыляў і жанраў.

Я. Хелемскі прызнаўся, што яму з беларускіх паэтаў лягчэй перакладаць А. Куляшова. А вось паэта іншага пакалення — Р. Барадуліна — перакладаць цяжэй: «Барадуліна мне цяжэй перакладаць не толькі таму, што ён піша не так, як я. Іншая лексіка, іншая фраза, іншая гульня са словам — гэта не самае складанае для перадачы. Урэшце, гэта пытанне тэхнікі, якая ў паэта з багатым перакладчыцкім вопытам дастаткова адпрацаваная.

Цяжэй перакладаць атмасферу, успрыняцце жыцця, уласцівае пакаленню Барадуліна. Яго свежасць, віртуознасць і шчырасць я высока цаню».

Некаторыя з прыезджых, як, напрыклад, латышскі перакладчык Відруліс, гавораць па-беларуску.

Перакладчыцкую справу трэба падтрымліваць, яна сябе акупіць.

**12 кастрычніка.** Настроіў быў «Спидолу» на заходняе радыё — што там «з-за бугра» кажуць. Казалі пра акадэміка Яўхіма Карскага. Падлічылі «дэбет — крэдыт» і зрабілі выснову: рускі вучоны. Надта ж катэгарычна. Не мала ён зрабіў і для Беларусі. Пра гэта нам, студэнтам, казаў калісьці Уладзімір Андрэевіч.

**13 кастрычніка.** Быў на пахаванні. Хавалі былога работніка ЦК, пенсіянера. Адчувалася, што нябожчыка абышлі пашанай. Труну выносілі з партшколы. Ззаду хтосьці, відаць, нейкі кадравік, уздыхнуў, пацмокаў языком, прамовіў:

— Эх, анкетка была б чысценькая, каб не тая дворнічыха!

Быў такі эпізод у жыцці памерлага, што ён, пажылы ўжо чалавек, закахаўся ў маладую, гожую дворнічыху, якая падмятала тэрыторыю каля пад’езда, дзе жыў гэты чалавек. Была разведзеная (ды яшчэ і з дзецьмі), і жвавы мужчына паклаў на яе вока. Стварылі персанальную справу, закацілі стрunderгача.

Пра гэта, мабыць, і згадаў кадравік.

**14 — 15 кастрычніка.** Наведаў з сям’ёй Плешчаніцы. Нездарма любяць восень. Яе ёсць за што любіць. Паветра чыстае і свежае. Апрануліся ў залатое адзенне лясы. Абсыпалася жаўталісцем трава. Зелянеюць толькі вастраверхія ёлкі. Цішыня. Але накрапвае дождж, халаднаваты, абложны.

**21 кастрычніка.** Пачытаў сёлетні зборнік Сцяпана Гаўрусёва «Пераклічка» — вершы і паэма.

Зноў зазірнула і ў маё акно
Дажджоў асенніх шэрае сукно.
Яму аддалі маладосць браты,
Ім сагравaліся і я, і ты...

Гаўрусёў сябруе з Пысіным. Гэта відаць нават па вершах.

**24 кастрычніка.** Тыдзень маладзёжнай кнігі, сустрэчы з чытачамі. У Цэнтральным кніжным магазіне ў Мінску чытачы мелі спатканні з В. Віткам, М. Калачынскім, Х. Мальцінскім. Перад студэнтамі медінстытута выступілі А. Грачанікаў і Р. Бярозкін. Шчыры чалавек — Анатоль Грачанікаў. Паляшук. Дзіця вайны. Бярозкіну падабаецца яго паэзія. А. Грачанікаў і «ціхі», і «звонкі» адначасова. Помніцца яго верш пра «асеннія асіннікі»:

Ёсць у іх журба неверагодная,
Саладжавы і гаркавы пах,
Ад якога — усё такое роднае,
Што аж слёзы, слёзы на вачах.

Лірык, свет прапускае праз сябе.

**27 кастрычніка.** Ездзіў у Атоліна. Згроб з градаў апалае лісце і закапаў пад кусты смародзіны, узрыхліў глебу. Якая цёплая восень. Туман. Крыху дождж. Але таксама цёплы. Цуд!

Тамара хоча заняцца ў Атоліна кветкамі.

**31 кастрычніка.** Сустрэў Адамовіча (спяшаўся па нейкай прычыне ў СП): «Ну, як ты там кіруеш?» — «Дык вам збоку відней». — «Вяртайся ў інстытут, там будзеш больш незалежны...» Адамовіч усё разумее, усё бачыць, жыццё навучыла многаму.

**2 лістапада.** Еду ў ГДР на дзесяць дзён для ўдзелу ў міжнароднай канферэнцыі пісьменнікаў і крытыкаў «Вобраз сучаснага рабочага ў літаратурах сацыялістычнага рэалізму». Не так самому хочацца сказаць, колькі паслухаць іншых.

Атрымаў характарыстыку па месцы працы. Падпісаў сакратар ЦК Кузьмін А. Т. Там сказана:

«Тов. Гниломедов В. В. является членом Союза писателей СССР, активно выступает в области литературной критики. В 1966 году защитил кандидатскую диссертацию. Автор монографии «Традиции и новаторство» — о современной белорусской литературе.

Тов. Гниломедов В. В. проявляет творчество и инициативу в работе, оказывает помощь партийным комитетам в улучшении воспитательной работы, уделяет внимание подбору и расстановке кадров, принимает активное участие в общественной работе».

Едзем удвух — у Маскве далучаецца вядомы крытык Міхаіл Сінельнікаў.

Маю ўжо чыгуначны білет да Масквы. Адтуль самалётам.

**14 лістапада.** Вярнуўся нарэшце з паездкі ў ГДР. Туды і назад ляцелі самалётам.

Міша Сінельнікаў — прыстойны хлопец, з ім я, здаецца, пасябраваў. Расказаў пра ўсе маскоўскія навіны, пра існаванне так званай «рускай партыі». Гэта — Міхаіл Аляксееў, Іван Стаднюк, Станіслаў Куняеў, Міхаіл Гадэнка, Уладзімір Чывіліхін, Міхаіл Шаўчэнка, Генадзій Гусеў, Уладзімір Фірсаў... Я толькі краем вуха чуў пра дыскусію «Классика и мы», а ён прысутнічаў на ёй, перадаў напал спрэчак, падрабязнасці. «Руская партыя» не давярае нават такім рускім інтэлектуалам, як С. Аверынцаў, А. Бітаў, А. Чухонцаў.

Міша шмат што ведае. Добра, разважліва выступіў ён і на канферэнцыі.

Жылі мы пад Берлінам, у пісьменніцкім пансіянаце «Petcov». Забяспе-

чаны былі і перакладчыцай. У мінулым яна ленінградка, а цяпер — жонка афіцэра арміі ГДР.

Пансіянат не такі і малы — чалавек на дваццаць утрыманцаў, але гаспадарыць у ім, усё робяць, услугоўваюць двое — муж і жонка, людзі сярэдняга веку, па-нямецку працавітыя, з усім спраўляюцца. Нагатаваць, памыць, прыбраць, замяніць — няма праблем. У вестыбюлі ля парога нерухома ляжыць аграмадны чорны ньюфаўнленд — сабака-вадалаз, важыць кілаграмаў семдзесят, а можа, і болей. Калі адчыняеш дзверы, дык баішся, каб не наступіць. Надзвычай рахманы, ласкавы, пры мне ні разу не забрахаў, нават не буркнуў. Добры ныральшчык, цягае з вады тапельцаў, хаця паблізу, здаецца, ніякіх вадаёмаў не відаць, і з пастаяльцамі такіх выпадкаў не здараецца. Гаспадар пра яго сказаў, што ўмее адрозніваць насельнікаў пансіяната ад чужых. Чужога можа і спыніць.

У гэтым пансіянаце сустрэлі свята 7 лістапада. Немцы нас павіншавалі, паставілі на стол віно, закускі. Мелі месца тосты, а потым шмат піва.

Канферэнцыя працягвалася некалькі дзён. Было гасцей «з усіх валасцей» — пісьменнікі краін народнай дэмакратыі. Старшынстваваў сухарлявы прафесар Гюнтэр Найман, добра абазнаны ў тэорыі чалавек.

Славацкая пісьменніца (не запісаў прозвішча) гаварыла пра гармонію тэхнічнага прагрэсу і чалавечай маральнасці. Слушна! Нам перакладала наша перакладчыца. Завязалася спрэчка пра сацыялістычны рэалізм, пра тое, што ў ім галоўнае. Балгарын сказаў, што галоўнае — гэта партыйнасць. Я з ім не пагадзіўся і выказаўся, як калісьці мяне вучыў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, што галоўнае ў сацыялістычным рэалізме — сацыялістычны ідэал. Ад Калесніка я чуў пра гэта не адзін раз.

Я адзначыў, што галоўнае, чым павінна займацца літаратура, гэта — чалавечыя стасункі, якія грунтуюцца на маральнай аснове. Зрэшты, гэта вядомая рэч, гэтым займаецца кожны пісьменнік. А той, хто гэтым не займаецца, проста не пісьменнік. Мне заўсёды ўяўлялася смешным і недарэчным сцвярджэнне: «Пісьменнік павінен ведаць жыццё». Але ж пра кожнага, хто мае гадоў сорак, можна сказаць, што жыццё ён ведае. Для пісьменніка ж мала проста ведаць жыццё. Трэба ўмець думаць, разважаць. Трэба спрабаваць знаходзіць болевыя моманты жыцця. Болевыя кропкі. Ставіць пытанні, якія хвалююць не адну нейкую групу людзей, а пытанні агульныя, аднолькава важныя для ўсіх.

Назіральны Міша Сінельнікаў прыслаў мне запіску: «Наш председатель лицом похож на Палиевского». Палieўскага слаба ведаю.

Затым з грунтоўным паведамленнем па галоўнай тэме «Вобраз сучаснага рабочага ў літаратуры» выступіў калега Сінельнікаў.

Было некалькі аглядных паездак у Берлін і ў Патсдам, а таксама ў горад Бельштат, дзе стаяла савецкая вайсковая часць. Трапілі на афіцэрскую выпіўку, дзе пакаштавалі шнапсу. Берлін падаўся змрачнаватым. Холад, слата, падае мокры снег.

Бачыў Берлінскую сцяну. Здаля, бо блізка не падпускаюць. Нямецкія памежнікі жартаваць не любяць. На месцы ГДР калісьці была Прусія. Рэгламент, імкненне да парадку, «ordnung» тут надта адчуваецца.

Наведалі з Сінельнікавым пару магазінаў. Купіў для Кірушы сандалікі.

Зайшлі паглядзець і ў прадуктовыя магазіны. Шмат гатункаў каўбас. Кажуць, адна савецкая турыстка, убачыўшы такі багаты выбар, страціла прытомнасць і ля прылаўка паваліліся. Можа, успомніла што. Мы нічога не бралі: няма грошай ды і далёка везці. Наша перакладчыца ўзяла некалькі банак кітайскага варэння з ружаў.

На расстанне ніякіх падарункаў немцы нам не дарылі. І мы не ў крыўдзе. Бо здараецца горш. У нас быў выпадак, што камуністам з ГДР, якія знаходзі-

ліся ў Мінску на экскурсіі, падарылі па банцы штучнай ікры. Тыя спачатку ўзрадаваліся, радасна дзякавалі, а потым расшалопалі, што штучная, і пакідалі ў Доміку I з'езда РСДРП, у кутку.

Нядобра атрымалася.

У Мінск вяртаўся праз Маскву. Начаваў у Мішы, прыемная жонка, уся кватэра ў кнігах, сабака. Перад ад'ездам дамоў купіў тое-сёе з прадуктаў. Мінчане (і не толькі яны) пачалі вазіць з Масквы не толькі прамтавары, але і прадукты, асабліва каўбасу. Кажуць, што гэта часовыя цяжкасці. На гэты конт ужо існуе анекдот: «Што ў нас самае пастаяннае? Часовыя цяжкасці».

Усё ж такі добра хоць калі пабываць за мяжой. Не ўвесь той свет, што ў акне. Мне здаецца, у ГДР пабудаваны сапраўдны сацыялізм, з ажыццёўленымі прынцыпамі, і жывуць там нашмат лепш, чым у нас.

**15 лістапада.** Чытаю, перачытваю А. Купрына. Яго проза, на мой погляд, жыццёвай назіральнасцю сваёй багацейшая за прозу Буніна, тым больш за Андрэева. Заўважыў, што гэтых пісьменнікаў — людзей адной эпохі — многае яднае з нашым Якубам Коласам. Усе яны па-новаму ўбачылі свет — той, што ў нас і што вакол нас. Убачылі ярчэй, выразней, у новым асвятленні. Яны, безумоўна, мадэрністы. Не ў крайняй яго выяве, а ў выяве канструктыўнай, нармальнай, здаровай.

**27 лістапада.** У Саюзе пісьменнікаў адбыўся вечар, прысвечаны 70-годдзю Піліпа Пестрака. Уступнае слова сказаў Іван Мележ, пра жыццё і творчасць распавёў Алесь Кучар. Юбіляр узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, але ўзнагарода чамусьці позніцца. Гэта маскоўскія баяры (з ЦК) не спяшаюцца. Правінцыя можа і пачакаць — разважаюць яны.

Піліп Пестрак — самая каларытная постаць сярод беларускіх пісьменнікаў. Я люблю яго раман «Сустрэнемся на барыкадах», хоць там шмат недагаворанага, зацэнзурнага. Вельмі мілагучныя вершы Піліпа Пестрака аб прыродзе. І ў рамане «Сустрэнеся на барыкадах» пейзажы, прыродныя інтэр'еры проста выдатныя, у ім таксама шмат паэзіі. Аўтар хоча, каб яго экранізавалі, каб з'явіўся яшчэ адзін фільм «Чырвонае лісце», але, відаць, давядзецца шмат чакаць.

Пестрак — гэта наш народны філосаф. Па тыпе мыслення я аднёс бы яго да «дасакрацікаў», якія яшчэ не парвалі з міфалагічным станам чалавечай свядомасці і шчодра жывіліся — чаму сёння можна толькі пазайздросціць — прыроднымі імпульсамі чалавечага побыту, існавання і думання.

Да гэтага часу захоўваю кнігу «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі», якую Піліп Сямёнавіч падпісаў мне «з пашанай». Гэта было, як сведчыць надпіс, 25.XI.1957 г., у маю студэнцкую пару.

**29 лістапада.** Выпаў снег і шчыльна лёг на дол. Зазімак. Яшчэ растане. Адпачываю, бо ноч дзяжурыў у прыёмнай Пятра Міронавіча. Дзяжурыць даводзіцца прыблізна раз у месяц. На гэты раз пазваніў нехта з вуліцы Калініна. Лопнула труба і затапіла кватэру. ЖЭС не рэагуе. Званіў старшыні Першамайскага райвыканкама. Дапамагло.

Чытаючы Буніна, наткнуўся на нечаканую думку:

«Мир стал как будто ещё моложе, свободнее, шире и прекраснее после того, как кто-то навеки ушел из него».

Думка такая, што цяжка нават з ёй пагадзіцца. Але хутчэй за ўсё... правільная. Яна сведчыць пра тое, што Бунін — мадэрніст.

**1 снежня.** Кнігі многіх (ці не ўсіх?) беларускіх пісьменнікаў і паэтаў выходзяць у Маскве на рускай мове. Галоўны перакладчык беларускай літаратуры ў Маскве — Міхаіл Гарбачоў. Кажуць, на яго працуе цэлы сіндыкат. Усё, як кажуць, схоплена.

**2 снежня.** Наведаўся Мікалай Іосіфавіч Панасюк — былы дырэктар

Камароўскай сярэдняй школы, у якой я калісьці, пасля арміі, працаваў. Пасядзелі, успомнілі тыя цудоўныя, з сённяшняга пункту погляду, часы. Гэта была вясна 1962 года.

У Мікалая Іосіфавіча праблема: адабралі дырэктарства і адабралі несправядліва, з выдуманымі падставамі, падманам. Як дапамагчы? А ён дзеля гэтага і прыехаў.

**3 снежня.** Хадзілі разам з Мікалаем Іосіфавічам у аддзел навукі і навучальных устаноў наконт яго праблемы. «Будзем глядзець», — паабяцаў інструктар гэтага аддзела. З тым Мікалай Іосіфавіч і паехаў.

**8 снежня.** Дзень прайшоў, як звычайна. Вечарам адзначалі дзень нараджэння Эдуарда Скобелева. Быў багаты стол, які накрыла мама Эдуарда. Цудоўныя тосты. Хараша вёў рэй Валянцін Панамароў. Прызнаюся, Эдуард Марцінавіч — загадка для мяне. Як яму, бедаку, удаецца спалучыць сваё пісьменніцтва з працай у казённым доме, якім з’яўляецца наша ўстанова.

**12 снежня.** У Мінск прыехалі славацкія пісьменнікі Г. Брындзава, В. Шыкула і Й. Баты. Госці мелі гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў і Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Вадзілі іх і ў Літаратурны музей Якуба Коласа. Мала мы славакаў перакладаем.

**18 снежня.** У космасе — Пётр Клімук! Герой! Той самы Пеця Клімук, які ў 1961 годзе скончыў Камароўскую сярэднюю школу, дырэктарам якой тады быў Мікалай Іосіфавіч. Яго вучань. Цяпер ён, думаю, дапаможа свайму былому настаўніку.

**19 снежня.** Памёр пісьменніцкі доктар Нейфах Якаў Вульфавіч — галоўны ўрач паліклінікі Беларускага аддзялення Літфонда СССР. Сын прынёс бацькаў партбілет, аддаў А. Кулакоўскаму. Добры быў чалавек — Якаў Вульфавіч.

**20 снежня.** Лёня прынёс навіну: бацька ажаніўся, прывёў на сваю палавіну маладуху, маладзейшую за мяне.

**25 снежня.** Вечар, прысвечаны юбілею А. Міцкевіча. 175 гадоў з дня нараджэння. Даклад зрабіў А. Лойка. Мае бацькі вучыліся ў польскай школе «паўшэхнай» і з той пары памятаюць многія вершы Міцкевіча.

Калі разыходзіліся пасля вечара, хтосьці згадаў радкі ў перакладзе на рускую мову:

Меня читает Минск и Новогрудок чтит,
Переписать меня вся молодёжь спешит.

А хто такі Міцкевіч? Паляк? Беларус? Ліцвін? Хто на гэтае пытанне адкажа? Узрос ён на мясцовай глебе, на беларускім (ліцвінскім) фальклоры, побыце. У творах шмат беларускай лексікі.

Рамантыкі лічылі, што паэт — гэта вулкан, а твор — застылая магма. Гэта не іначай, як пра Міцкевіча, ці наогул пра паэзію. Проза больш абачлівая, чым паэзія.

Міцкевіч — паэт-загадка.

**26 снежня.** Мой дзень нараджэння. Яўгенія Эргардаўна Пфлямбаўм (жонка М. Лужаніна, паэтэса) сказала (па тэлефоне), што мой знак — Казярог. Але што гэта азначае, яна не ведае. Не ведаю і я, таму крыху заінтрыгаваны, але ж астралогія — не навука. Хаця, з другога боку, біблейскія вешчуны па ўбачанай на небе новай зорцы прадказалі нараджэнне Ісуса Хрыста.

І яшчэ, сказала яна, мая стыхія — зямля; планета — Сатурн; камень — граніт; метал — волава; талісман — чорны кот; колер — бронзавы (я люблю балотны колер — з выгляду гэта адно і тое ж); кветкі — гваздзік, нарцыс. Не была б Яўгенія Эргардаўна паэтэса...

**27 снежня.** У маскоўскім часопісе «Дружба народов» натрапіў на адну мясціну з артыкула Р. Семашкевіча:

«Празмернае захапленне інтымным светам павяло за сабой паслабленне грамадзянскага гучання верша. Не хапае грамадзянскасці, маладыя паэты не знайшлі яшчэ свайго погляду на свет, без чаго няма творчай індывідуальнасці».

Усе, і не толькі крытыкі, скардзяцца, што ў цяперашняй маладой паэзіі шмат халтуры, пракідаецца вульгарнасць, безгустоўнасць. Напрыклад:

Я падыходжу да тваёй спадніцы,
Як конь да стога.

Ужо нават не ведаю, хто гэта сачыніў, які ўмелец. Надта прымітыўнае светаўспрыманне.

Часты матыў у паэзіі — сум па вёсцы, па родным гняздзе, краявідах. Але ж гэтага мала. Мне здаецца, што лірычнаму герою не хапае рэфлексіі, развагі над тым, чым ён заняты, што робіць.

У вялікім, шматгалосым паэтычным хоры чуцён голас маладой Жэні Янішчыц:

Збудуйце цішу для мяне,
Яна з зялёнымі вачамі,
Яна спакойна спіць начамі,
Збудуйце цішу для мяне.

Шчасце Жэні — паэзія. Што б там наперадзе ні было!

Так што па вялікім рахунку паэзія ў нас ёсць. І паэзія, і паэты. І няма чаго гнявіць на гэты конт Бога.

Курыруе паэтаў намеснік старшыні СП Анатоль Грачанікаў. Сам выдатны паэт і чалавек прыстойны, з ім добра працаваць.

**29 снежня.** Хадзіў у лазню змываць «грахі», што назбіраліся за год. Купіў у лазеншчыка бярозавы венік. Венік у гэтай «установе» — незаменная рэч. Нічым так не прагрэеш арганізм (душу і цела), як ім. У веніку — сіла прыроды, фітанцыды, якія ачышчаюць скуру ад рознага бруду, знішчаюць бактэрыі. Гарачы, напараны венік — гэта цуд. З розных венікаў — дубовых, кляновых, яловых, ядлаўцовых, з крапівы, венікаў з ліпы і асіны — я аддаю перавагу бярозаваму. Бярозавы венік болей, чым які, убірае ў сябе жар, узмацняе лімфаток, лашчыць.

У лазні пра ўсё пачуеш. Нейкі аматар гарачай пары распавядаў пра чалавека (не ведаю, верыць гэтаму ці не), які гэтым летам адпачываў разам з ім у Сочы. Чалавек гэты шукаў для сваёй жонкі (яна знаходзілася пры ім) мужчыну, які мог бы яе задаволіць, бо сам не мог, але вельмі кахаў.

Чаго толькі на свеце не здараецца. У лазні, паводле маіх назіранняў, паміж голымі людзьмі наладжваецца нейкі асаблівы давер, і яны расказваюць тое, што, апрануўшыся, чалавек не раскажа.

Вяртаючыся дамоў, не забыў зайсці да «Пекера».

**30 снежня.** 1973-ці завяршаецца. Усяго ў дзённік не ўпішаш, якім ён быў.

Многія пісьменнікі атрымалі ганаровыя званні, ордэны, медалі, граматы, прэміі.

Адбыўся плённы семінар у Докшыцкім раёне.

Сёння П. Панчанка зноў прыслаў мне свой трохтомнік. Відаць, забыў, што адзін раз ён гэта ўжо зрабіў.

Сёлета Янка Брыль атрымаў польскую літаратурную прэмію імя В. Петшака. Што гэта за прэмія?

Смуткуюць людзі з прычыны забойства чылійскага прэзідэнта Альендэ.

З адмоўных момантаў можна прыгадаць і тое, што (ажно не верыцца) абакралі нашага шэфа. Вялікі спіс рэчаў, якімі пакарысталіся злодзеі.

Без настрою нешта Валерый Сяргеевіч. Шмат курыць, зблаг. Партыйная работа забірае шмат сіл.

***Працяг будзе.***



## Алег САЛТУК

### ВЯРТАННЕ

Прачнецца раптам у грудзях пяшчота
І да ўсяго нязбыўная любоў,
Калі пабачыш — у чырвоных ботах
Пайшоў бацян у цішыню палёў.

Па-гаспадарску будзе птушка мераць
Балацявіны, пожні, паплавы.
І стане, як і я, напэўна, верыць, —
Пакуль ёсць гэта, значыць, свет жывы.

Гняздо з бусліхай потым адштукуе,
Паставіць буслянятаў на крыло.
Пад восень на страсе пераначуе,
Пачуўшы хаты хлебнае цяпло.

З вясною цябе, брат мой белакрылы,
Сяліся, спадзявайся і жыві.
І заўсягды знаходзь у лёце сілы —
Вяртацца да пяшчоты і любві.

---

***Салтук Алег Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў адказным сакратаром ушацкай раённай газеты «Патрыёт», уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы», сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактарам аддзела па пытаннях культуры «Віцебскага рабочага».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Святло зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1988), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі...» (2003), «На вейцы веку» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2000) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2007).*

## САЛАЎЁЎКА

Ах, Салаўёўка, Салаўёўка —
Пяць курганоў і хатаў пяць.
А салаўі пяюць так лоўка,
Што і пяром не апісаць.

Палова вёскі — за вайною,
Другая — вельмі доўгі сказ.
Над паўзабытай стараною,
Здаецца, супыніўся час.

У небе — сіняе бясхмар'е,
Чаромхі белае сумёт…
Глядзяць у даль Іван ды Мар'я:
Дзяцей чакаюць цэлы год.

* * *

Цвітуць сады, ідуць гады,
І незваротна дні мінаюць.
А белы колер, як тады,
Сваёй пяшчотай абдымае.

Тады, калі на ўсёй зямлі
Адно было такое ранне…
Сады цвілі, і мы ішлі,
Нібыта ў вечнасць, у каханне.

* * *

Захінула чаромхай ваколіцу,
Салаўямі засыпала сад.
Дык чаму сёння так непакоіцца
Твой шчаслівы нядаўна пагляд?

Мне таксама чамусьці не весела.
Салаўі, не будзіце, прашу,
Тое, што незваротна адвеснена,
Тое, што так вярэдзіць душу.

Зорны бляск над чаромхавай замеццю,
Салаўямі ўстрывожаны сад.
Зноў вяртаецца ўсё, толькі памяці
Без цябе не вярнуцца назад.

* * *

Да жалю, да скону, да болю
Я плачам і смехам прырос

Да волі зялёнага поля
І белага шоўку бяроз.

Зарніца гарыць над крыніцай,
Вясёлка п'е з рэчкі нагбом.
Як добра расой прычасціцца
І яснаму дню памаліцца,
Пакуль не раз'юшыўся гром.

Ды й ён не спалохае дужа
І дождж шалапутны, сляпы,
Што подбегам пойдзе па лужах,
Прыбіўшы таполевы пыл.

Раз'ясніцца сонца карона,
І жаўранкі пырснуць у сінь.
Да жалю, да болю, да скону
Ўсё гэта мне, неба, пакінь!

## РАДАСЦЬ

Зраблю сялянскую работу —
Шнурок зялёны дакашу.
А потым на мяжы з ахвотай
Чым Бог паслаў перакушу.

Мне перапёлка маладая
Падасць здалёку голас:
— Піць?
П'ю водар траў і адчуваю,
Як радасць у душы вірыць.

Смяюцца ранішнія росы,
Сваволяць птушак галасы.
На сінім сподачку нябёсаў —
Хмурынка белая, як сыр.

Тут гаспадыняй ходзіць вечнасць,
Свае імгненні раздае.
Касі, каса, яшчэ не вечар,
Хоць ён так хутка настае.

* * *

Стаіць і смяецца жанчына.
Расчынена насцеж акно.
І шчасце маё так магчыма,
Бо так недалёка яно.

Смяюцца і вусны, і вочы,
І нават вяснушкі яе.
І многім той воблік жаночы
Спакою нідзе не дае.

Я з ёю бязмежна шчаслівы.
Як казачны церам, пакой.
Праменьчык, такі ўжо лісліvы,
Зырчыць над жаночай шчакой.

## СОН

Мне прысніласся, што памёр
І душа пакінула цела,
Узнялася потым да зор,
Ды застацца там не схацела.

І вярнулася на зямлю,
Уздыхнула і ціха сказала:
— Тут усё сцярплю, бо люблю.
Засмяялася і прапала.

## * * *

Гарыць зара ўгары над небакраем,
А за Нярэшняй засынае гай.
Калі было, што называлі раем,
То ён быў тут, адзіны ў свеце рай.

Дарога завіваецца сцяжынай,
Вузее неабдымны далягляд.
І над гарой маленства — Барсучынай,
Як град, ідзе бясконцы знічкапад.

Я крочу ў маладое азарэнне,
Шукаю след гаючай стараны.
Нябёсы сеюць зоркі поўнай жменяй,
І прарастаюць песняю яны.



Лідзія АДАМОВІЧ

# СВЕТ САПРАЎДНЫХ ЖАНЧЫН

Аповесць

## Частка 1

Гэта здарылася на карпаратыўнай вечарынцы. Дана Класкоўская сядзела паміж мужчынамі, а яе сяброўка, Альжбэта Траян, заўважыла, што яна пляскае ў далоні так, як гэта звычайна робяць мужчыны — правая рука была зверху, і ўспомніла, як у студэнцтве на лекцыі па псіхалогіі вучылі: у лідараў правая рука дамінуе над левай.

Дана і сапраўды была лідарам у сваім асяроддзі, прычым — дамінуючым. Яна заўсёды старалася паказаць сваю перавагу перад мужчынамі. Аднак не перад моцнымі і ўпэўненымі ў сабе: перад імі яна ніякавела, а перад тымі, каго сяброўкі называлі непаўнавартаснымі. З такімі яна нават сябравала, а часам і апекавала сяго-таго з іх.

Класкоўская падбірала ўсіх, хто, так бы мовіць, згубіўся ў жыцці.

Неяк зімою Дана захапілася чарговым няўдачнікам. Называла яго ласкава, па-дзіцячы, Ёсікам. Мужчына раней быў мастаком, некалі пакінуў працу, харчаваўся з выпадковых заробкаў. Ён шмат філасофстваваў і марыў, асабліва марыў знайсці скарб. І вось аднойчы Класкоўская вырашыла змяніць яго жыццё да лепшага.

Ёсік ператварыў сваю кватэру ў камору, склад смецця і прытулак для п'яніц. Аднак Дана не грэбавала прыходзіць да яго. А аднойчы прывяла туды і Альжбэту. Ёсік сустрэў іх ласкава, запрасіў на чай. Дзяўчаты селі за брудны стол, на якім ляжаў абшчыпаны батон. Нечакана з батона, з адной дзірачкі, выскачыла рухавая мышка. Дана ўсклікнула, а Альжбэта засмяялася — яна любіла мышак.

Класкоўская потым угаворвала Альжбэту заняцца выхаваннем Ёсіка. «Калі ты яго перавыхаваеш, ён возьме цябе замуж і будзе табе ўдзячны ўсё жыццё», — натхнёна гаварыла ёй Дана.

Альжбэта была сіратою і жыла ў Мінску ў цёткі з дзядзькам. Ласкавая, добрая цётка Геня пастаянна выхоўвала дзяўчыну, павучала, як трэба жыць. Таму ў самой Альжбэты асаблівага жадання перавыхоўваць іншых не было.

---

***Адамовіч (Казлоўская) Лідзія Канстанцінаўна*** *нарадзілася 24 жніўня 1960 года ў вёсцы Клівы Хойніцкага раёна Гомельскай вобл. Скончыла Мінскі педагагічны ўніверсітэт (1992). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Працуе дырэктарам Мікалаеўшчынскага Дома фальклору на Стаўбцоўшчыне.*

*Аўтар кніг «Першая запаведзь» (1995 г.), «Кветкі самотнай князёўны» (1999 г.).*

Альжбэта атрымала вышэйшую адукацыю. Прабіўны і дзелавіты дзядзька Міхал уладкаваў пляменніцу ў прэстыжную фірму, куды ў хуткім часе, пасля няўдалай спробы стаць бізнес-лэдзі, прыйшла і Дана. Класкоўская, як на прынаду, кінулася на сціплую і выхаваную Траян, каб агарнуць яе сваімі клопатамі і парадамі.

— Бэці, не чакай прынца! — павучала дзяўчыну Дана. — Мужчыну трэба браць такім, які ён ёсць, і рабіць з яго прынца. Мужчыну трэба перавыхоўваць.

Дана паўсюль цягала за сабою Альжбэту, як прывязаную. Ціхмяная Бэці падпарадкоўвалася валявой і па-мужчынску ўладарнай сяброўцы, аднак усё ж пры гэтым і сваю думку мела. Ёй хацелася выйсці замуж за моцнага духам мужчыну, аднак Дана пярэчыла ёй і схіляла да свайго: мужчын трэба перавыхоўваць. Здавалася, яна хоча перавыхаваць не толькі канкрэтнага мужчыну, на якога нацэлілася ў сваім прагным жаданні падпарадкаваць сабе, але жадала трымаць пад сваім кантролем і ўвесь свет. Дзівацтвы Класкоўскай даходзілі да смешнага. Аднойчы яна з'явілася на працу і пачала ўсім паказваць, як яна сама сабе зуб запламбіравала.

— Дык яны ж, дактары тыя, вы думаеце з чаго пломбы ставяць? — казала яна. — Са звычайнага цэменту! Ёсць шэры цэмент, а ёсць белы. Я пайшла ў гаспадарчую краму, купіла белага, і во паглядзіце, як хорашанька сабе зуб запламбіравала. Любата! Я, наогул, ніколі да дактароў не хаджу, сама лячуся, — хвалілася яна.

Аднак неўзабаве зуб моцна разбалеўся, Класкоўская ўзяла на працы адгул і падалася ў стаматалагічную паліклініку. І, думаеце, вярнулася адтуль задаволеная? Не! Яна па-ранейшаму асуджала дактароў, як і ўсіх людзей на свеце. Асабліва любіла Дана дэманстраваць сваю перавагу над мужчынамі. Яна сама і дах крыла бацькоўскай хаты ў вёсцы, адкуль была родам, і плот майстравала, і ніколі не прамінала паспрачацца аб нечым з мужчынамі.

Вядома, нармальныя мужчыны яе пазбягалі, а вось няўдачнікі, а то, часам, гультаі ды п'яніцы, нюхам чулі Данутку, хіліліся да яе і спрытна, і надоўга «садзіліся ёй на шыю». Аднак Класкоўскай гэта падабалася — яна ўяўляла сябе ледзь не тварцом Сусвету і з вялікім задавальненнем «перавыхоўвала» на свой капыл няўдачлівых. Але і тыя праз дзень-два збягалі ад яе: надта ж моцным быў энергетычны націск новаяўленай амазонкі на іх слабую псіхіку.

І вось сёння Альжбэта Траян глядзела на Дану, якая сядзела паміж мужчынамі іх фірмы і пляскала ў ладкі чыста па-мужчынску (правая рука зверху), і рашыла, што трэба пазбаўляцца гэтага сяброўства.

Аднак пазбавіцца ад Даны было вельмі цяжка. Тая тэлефанавала Альжбэце, калі ёй уздумаецца, нават сярод ночы. У рэшце рэшт Бэці гэта надакучыла, і яна схлусіла сяброўцы, што мае кавалера, маўляў, не перашкаджай!.. Класкоўская запатрабавала, каб Бэці паказала яго. Альжбэта згадзілася. Ёй хацелася даказаць Дане, што ёсць на свеце дасканалыя мужчыны, і яны не вельмі хочуць, каб іх нехта перавыхоўваў. Аднак для гэтага трэба было знайсці такога мужчыну і папрасіць яго, каб дапамог.

— Ну ты і задачку мне задала! — засмяяўся дзядзька Міхал, калі пляменніца звярнулася да яго з гэтай просьбай.

Цётка Геня ў гэты час наліла ёй поўную міску яе любімага супу — там плавалі вялікія клёцкі з мясам.

— Суп «У гасцях у бабулі», — лагодна мовіла цётка Геня і, звяртаючыся да мужа, весела падміргнула: — А можа, ёй Лявона Прыходзьку пасватаць? Чалавек працаваў радавым інжынерам, а як скарацілі, знайшоў сродкі, каб

заняцца бізнесам: скупіў у адным раёне некалькі хат і ператварыў іх у агратурыстычныя сядзібы.

— Лявон разумны чалавек, — пацвердзіў дзядзька Міхал. — Вось каб нашай Бэці такога мужа! — кіўнуў на прыціхлую пляменніцу.

— Я не супраць, — абазвалася Альжбэта. — Але, ці захоча быць са мною чалавек такога палёту?

— Захоча, калі галаву будзеш мець на плячах! — адказала за мужа цётка Геня.

Вечарам ў госці завітаў Лявон Прыходзька. Жыў ён з імі у адным доме, і Альжбэта часта сустракалася з ягонай дачкою, пятнаццацігадовай прыгажуняй Таццянкай. Аднойчы яны зімою разам з горкі ў двары каталіся. Вясёлая такая дзяўчынка Таццянка, але з норавам. А вось Лявон быў крыху задавака, ганарысты. Ціхмяную Альжбэту, апранутую сціпла, ён не заўважаў. Часта катаў на машыне розных прыгажунь, а яшчэ — сваю партнёршу па бізнесе, вастраносую і дзелавітую Наталлю Якаўлеўну, якая, казалі, мяціла за яго замуж.

І вось сёння Лявон у іх у гасцях. Альжбэта, прывыкшая да сяброўства са сціплымі, няўпэўненнымі ў сабе хлопцамі, не ведала, як паводзіць сябе з моцным мужчынам. Яна баялася размаўляць з ім, камплексавала. А вось цётка Геня задорна мітусілася паміж ім і дзядзькам Міхалам, частуючы іх прысмакамі ды ветліва шчабечучы. Лявон, самаўпэўнены, прыгожы, уважліва слухаў аповед цёткі Гені пра адносіны яе пляменніцы з Данай. Потым сказаў:

— А не хацела б ваша Бэці змяніць працу? Дану яна ўсёроўна не перавыхавае. Лягчэй ад чалавека пазбавіцца, чым перавыхаваць яго!

— А куды ж я пайду? — схамянулася Альжбэта. — Вунь як цяжка цяпер з працай! Усе лепшыя месцы даўно занятыя.

— А ты не глядзі на горад, — параіў Лявон. — У вёсачку да мяне пойдзеш? Агратурыстычную сядзібу я там маю. Адміністратарам вазьму. А пакуль што пабудзь нянькай для маёй Таццянкі, — прапанаваў ён. —Дзяўчо хоць ужо і вялікае, але без маці, як без галавы. Прыглядвала б за ёю, пакуль школу скончыць, бо налета яна паступаць хоча. Не жадае сярэднюю школу заканчваць, рвецца з базавай адукацыяй паступаць вучыцца на работніка культуры, як маці. Маці актрыса, вось і яна вырашыла — туды ж!..

Лявон уздыхнуў, успомніўшы пра сваё. Дачка была яшчэ маленькай, як Анжэла, яго прыгажуня жонка, падалася ў Маскву рабіць кар’еру артысткі: бач тут, на роднай зямлі, ёй месца было мала, дык вырашыла чужыну скарыць сваім талентам. Паехала туды і нібы згінула. Хацеў развесціся, ды няма як: дзе яе ўпільнуеш, тую шалахвостку Анжэлу! Во што прыгажосць робіць з жанчынамі!

Лявон ачомаўся ад сваіх гаркотных думак, паглядзеў на маладзенькую, ну ад сілы, дваццаць два — дваццаць тры гады дзяўчыну, і перапытаў:

— Дык пойдзеш да мяне?

Гэтая фраза прагучала для Альжбэты, як: «Пойдзеш за мяне?», і яна з гатоўнасцю кіўнула. Радасна гледзячы на Лявона, прашаптала:

— Пайду!

Лявон, раней такі недасягальны, сёння здаўся дзяўчыне богам, што сышоў з нябёсаў, каб зрабіць яе шчаслівай.

Таццянка выйшла са сваёй спальні насустрач Альжбэце вясёлая, румяная, уся такая цёпленькая, і так ласкава, бы той коцік, прытулілася да яе, што Альжбэта з замілаваннем прашаптала:

— Якая ты цудоўная дзяўчынка!

Недзе ў калідоры распранаўся Лявон. Таццянка пацягнула Альжбэту ў свой пакой і, азірнуўшыся на вокны, за якімі згушчаўся змрок, гарэзліва мовіла:

— Заўтра татка на сядзібу паедзе, а мы ўдзвюх застанемся. Пагуляем?

— У што? — спытала Альжбэта.

Яна і сапраўды не разумела, у што можна гуляць з такою дарослай дзяўчынкай: не ў лялькі ж, або ў вяселле.

— У сапраўдных прынцэс! — заявіла Таццянка, папраўляючы кароткую майку.

Танька была апранута ў стыльныя джынсы чорнага колеру, з заклёпкамі і стразамі і ў кароткую майку.

— А што, бываюць несапраўдныя прынцэсы? — пацікавілася Альжбэта.

— Бываюць і несапраўдныя каралевы!

Таццянка выняла з пісьмовага стала пачак фотаздымкаў і кінула іх на ложак.

— Глядзі — гэта і ёсць фальшывая каралева! Анжэла, мая маці, — заявіла дзяўчынка і са злосцю дадала: — Цяпер веруючай прыкідваецца, новую ролю асвойвае. А ўсё з-за таго, што татка знайшоў яе і выклікаў у суд, на развод! Ведаеш, дзе яна цяпер жыве? У Злётным, дзе таткава трэцяя аграсядзіба. Спецыяльна туды прыехала, хатку там купіла. Пры царкве працуе, у хоры спявае, прыкінь!

Таццянка з абурэннем кінула позірк на здымкі.

— Гэта твая маці? — спытала Альжбэта, разглядваючы здымкі.

— А хто ж яшчэ? — скрывіла вусны дзяўчынка. — Мяне з пяці гадоў Наталля Якаўлеўна гадавала. Цяпер яна за татку замуж збіраецца, і ён падаў на развод з Анжэлачкай, — з пагардай вымавіла імя маці Таццянка. — Даўно трэба было гэта зрабіць! А пакуль што ты будзеш маёй нянькай, а хочаш, маёй самай прыкольнай мамай, бо мы амаль аднагодкі!

— Мне дваццаць чатыры гады, Таня! — папраўіла яе Альжбэта.

— Усё роўна амаль аднагодкі, — засмяялася Таццянка і даверліва шапнула: — А памятаеш, як мы з табою зімой з горкі каталіся? Ты вясёлая, ты мне больш падабаешся, чым Наталля Якаўлеўна. Яна — строгая і ўладарная. Але гэта таткаў выбар.

Альжбэта прачнулася раніцай у абдымку з Таццянкай. Ціхенька вызвалілася з іх, паднялася з ложка і падышла да акна. За акном на апалае лісце падаў першы снег. Быў ён мяккі, пушысты. Здавалася, нёс аднаўленне прыродзе… За дзвярыма пачуліся крокі, відаць, Лявон прачнуўся і збіраўся на працу. Альжбэта адышла ад акна, накінула на сябе халат і сустрэлася на кухні з Лявонам.

— Добрай раніцы, — шэптам павіталася яна, каб не разбудзіць Таццянку.

— Добрай раніцы, Бэці, — усміхнуўся Лявон. — Ды не шапчы ты, няхай Таццяна падымаецца, ёй у школу на першую змену.

Лявон быў ужо апрануты ў дзелавы касцюм, пры гальштуку, і выглядаў вельмі важна. Альжбэта крыху саромелася яго, таму ціхенька кіўнула ў адказ і ўдакладніла:

— Скажыце, калі ласка, а мне трэба начаваць у вас, з Таццянкай, ці можна жыць, як і раней, у цёткі з дзядзькам?

— Ведаеце што, — разважліва пачаў Лявон, сядаючы на крэсла ля стола, на якім ужо стаялі тры кубкі для чаю, на талерцы ляжалі бутэрброды, — я вельмі хацеў бы, каб вы крышку пажылі ў нас. Я цяпер буду вельмі рэдка

бываць дома, пакуль добраўпарадкуем трэцюю агракропку, а ў Танечкі пераходны ўзрост, самі ведаеце…

Тым часам закіпеў чайнік, Лявон падняўся, выключыў газ і пачаў напаўняць кубкі, у якіх ужо ляжалі пакецікі з чаем.

— Усім прывітанне! — раптам зазвінеў Таццянчын галасок.

Яна ўвайшла на кухню ў піжаме, твар яе быў свежы, вясёлы і радасны.

— У мяне самая лепшая мамачка ў свеце! — нечакана зазначыла Таццянка, абымаючы Альжбэту.

— У гэтым ніхто не сумняваецца! — усміхнуўся Лявон у адказ дачцэ. — А цяпер хуценька апранайся і — піць чай! Я падвязу цябе да школы.

— А мамачка? Я хачу, каб яна таксама паехала з намі, каб усе пабачылі, што ў мяне ёсць мама! — сказала яму дачка.

— Таццяна, супакойся, калі ласка, — строга вымавіў бацька. — Ты сама ведаеш, што ўсё ў нас не па-сапраўднаму, і што Альжбэта — супрацоўніца маёй фірмы, а па сумяшчальніцтве, і з-за тваіх капрызуляў — твая мама! Але ты павінна ведаць, што гэта не назаўсёды. Альжбэта можа за некага выйсці замуж. І што ты тады скажаш: мая мама выйшла замуж? Альжбэта вольны чалавек, а не цацка табе!

— Тата! — сур'ёзна сказала Таццяна. — Ты неяк запытаў у мяне: «Што табе, дачушка, падарыць на Каляды?» І я папрасіла: «Маму!» Для сябе, а не для цябе. І калі Альжбэта выйдзе замуж, яна застанецца маёй сяброўкай. А цяпер няхай пабудзе маёй сапраўднай мамай, толькі маёй! Гэта ж не цяжка, тата! Мне трэба толькі паказаць яе сваім сяброўкам — і ўсё! Каб яны не пляткарылі, што ў мяне мама алкашка, якая кінула нас і цягаецца па прытонах.

— І хто такое кажа?— спытаў Лявон.

— Тыя, што ўсё ведаюць, татачка, — ціха адказала Таня і павярнулася, каб ісці апранацца.

— Вярніся! — строга сказаў бацька. — Сядай, калі ласка! Зараз мы ўсе будзем снедаць. Бэці, калі ласка, сядайце, і прабачце нас.

— Нічога, — усміхнулася Альжбэта і прысела за стол. — Я паеду з табою, Таццяна, — сказала яна, сур'ёзна гледзячы на дзяўчынку, потым перавяла позірк на Лявона: — Гэта вельмі важна для яе, давайце ёй дапаможам.

Лявон уздыхнуў і паднёс да вуснаў кубак з чаем, сказаў:

— Добра, паедзем утраіх.

Лявон сядзеў у машыне, чакаў, пакуль вернецца Альжбэта. Яна пайшла праводзіць Таццяну ў школу. Вярнулася, нечым устрывожаная і занепакоеная.

— Што-небудзь не так? — спытаў ён, дакрануўся сваёй моцнай далонню да яе рукі.

Гэты ягоны дотык быў такім упэўненым, што Альжбэце стала надзейна і ўтульна побач з Лявонам: захацелася вось так быць з ім побач назаўсёды.

— Бэці, — абудзіў яе думкі Лявон. — Што здарылася?

— Я нават не ведаю, як вам сказаць… — прашаптала Альжбэта. — Я спадабалася Таццянчыным сяброўкам, і яна сёння запрасіла іх у госці. Сказала, што я ўмею рабіць вельмі смачны торт, але ж я не ўмею!..

— Нічога, — усміхнуўся Лявон, — закажам торт з аднаго боку падгарэлы, каб было відаць, што дома пёкся.

— Ага, вам жартачкі. Але ж яна яшчэ сказала, што я прыгожа танцую і ўвесь гэты час была на танцавальных гастролях.

— А вы сапраўды танцуеце?

— Учора я сказала ёй, што скончыла курсы ўсходніх танцаў: танец жывата. Але ж у мяне няма нават касцюма, толькі музычны дыск!

— Няма праблем, Бэці, — адказаў Лявон. — Едзем па касцюм!

…Калі Альжбэта паказала яму ў прымерачнай, як на ёй сядзіць касцюм танцоўшчыцы, Лявон у захапленні ўскінуў бровы.

— Вось і сапраўды: каб скарыць свет, жанчыне трэба быць усяго толькі прыгожай, — зазначыў ён.

— А мужчыну — усемагутным! — гулліва мовіла Альжбэта.

Вечарам у хаце панавала святочнае ажыўленне. У зале паставілі доўгі стол, заслалі яго зіхоткім абрусам, запалілі маленькія свечкі і расставілі іх усюды: па баках сцен, на падлозе. Таццянчыных сяброўак сустракала прыгожая, у танцавальным касцюме, Альбжэта. Сярод гэтай дзявочай мітусні, здавалася, не было месца толькі Лявону. Ды ён і сам пастараўся не далучацца да гэтай кампаніі. А яны, дзяўчаты, весяліліся, як хацелі, елі смачны «мамін» торт, развучвалі танец жывата, смяяліся. Потым, развітваючыся, усе доўга абдымаліся ў прыхожай, затым Лявон развозіў на машыне па хатах Таццяніных сяброўак. Вярнуўся дадому стомлены, але задаволены.

Дзве дзявочыя галоўкі, схіліўшыся адна да адной, чакалі яго на кухні, седзячы за сталом. Альжбэта пераапранулася ўжо ў звычайны халат. Таццянка задаволена пазірала на бацьку.

— Ну што, капрызуля, — сказаў ён, — больш прадстаўленняў не будзе?

— Не будзе, — мовіла дачка ў адказ.

— Дзякуй, Бэці! — ласкава сказаў Лявон, гледзячы на Альжбэту. — Ты сёння была незвычайна прыгожай.

Трэцяя Лявонава аграсядзіба яшчэ не мела пастаяннай назвы, але ўяўляла сабою вельмі прыгожы куток на беразе Нёмана. Гэта быў двухузроўневы прасторны дом з камінам на першым паверсе і ўтульнымі пакойчыкамі, выкананымі ў этнастылі.

— Я вырашыў зрабіць некалькі нумароў у два ўзроўні, — распавядаў Лявон Альжбэце, паказваючы сядзібу. — Вось, напрыклад, прыедзе адпачываць які пісьменнік. На першым паверсе — спальня яму, а на другім — рабочы пакой. Сядзі сабе, пішы, стварай, гледзячы на прыгожае наваколле. А гэта — мой кабінет.

Лявон паказаў на дзверы пакоя, якія былі непадалёку ад каміна. Адчыніў іх, правёў туды Альжбэту, уключыў электрачайнік, які стаяў на стале каля акна.

— Што будзем піць? — пацікавіўся ён.

— Давайце каву, — сказала Альжбэта, — каб галава лепш працавала. Столькі інфармацыі сёння, столькі заданняў мне, каб не забыцца.

Лявон быў у добрым настроі.

— Па-першае, трэба назву сядзібе прыдумаць, — сказаў ён, — рэкламу даць. Ну і арганізаваць першы заезд наведвальнікаў, прыўрочыць яго да нейкага свята.

Альжбэта назірала за кожным яго рухам і не магла пазбавіцца ад пачуцця захаплення ім, якое раптам ахапіла яе. «Няўжо я закахалася? — падумала яна. — Лявон — варты чалавек, прадстаўнік свету моцных людзей. А каханне такога мужчыны проста так не заваюеш. Такія самі, вельмі проста, мабыць, заваёўваюць жанчын, якія ім падабаюцца». — Я прапаную назваць сядзібу «Венерын чаравічак», — сказала Альжбэта, стараючыся не паказваць сваіх

пачуццяў. — Я прачытала мясцовае паданне пра тое, чаму тут часам сустракаюцца занесеныя ў Чырвоную кнігу кветкі, якія называюцца — Венерын чаравічак.

— Ну і чаму? — Лявон зацікаўлена глядзеў на яе.

— Некалі багіня Венера закахалася ў зямнога хлопца, які жыў у гэтых мясцінах. Але жыхарам неба нельга было жаніцца з зямнымі людзьмі і выходзіць замуж за іх. Таму, на памяць пра сваё каханне, Венера пакінула адзін свой чаравічак на зямлі, а другі забрала з сабою на неба. І наказала людзям: калі хто жадае сустрэць каханне, няхай паклоніцца гэтай кветачцы, Венерынаму чаравічку, і скажа каханаму: «Я цябе кахаю!»

Лявон уважліва глядзеў на Альжбэту, слухаў яе і ўсміхаўся.

— Добра, — урэшце прамовіў ён. — Тады адкрыццё аргасядзібы і прыўрочым да Дня закаханых!

Выбіраць сукенку да ўрачыстага вечара адкрыцця сядзібы паехалі ўсе ўтраіх: Лявон, Таццянка і Альжбэта. У фірменнай краме Альжбэта выбірала сабе сукенку старанна: яна прадэманстравала Лявону і Таццянцы кожную з іх. Прымярала і чакала, якая з іх ім спадабаецца. Лявон прымаў кожны яе ўбор з захапленнем — яму падабаліся ўсе сукенкі, у якія апраналася Альжбэта. Танька была больш прыдзірлівай — усё адмяняла: «Не тое…»

— Здаецца, вось гэтая сукенка самая найлепшая, — нарэшце сказала дзяўчына-кансультант, якой, відаць, ужо набіла аскому ад доўгіх прымерак Альжбэты, убачыўшы, што адна з сукенак зацікавіла Таццянку.

— І мне так здаецца, — сказала Таццянка.

— А табе падабаецца? — пацікавілася Альжбэта ў Лявона. Той згодна кіўнуў галавой і хуценька папрасіў загарнуць сукенку, нават не спытаўшы колькі яна каштуе. Альжбэта была ў захапленні ад яго шчодрасці. Затым выбралі сукенку для Таццянкі. Затрымаліся ў аддзеле парфумерыі і каштоўных упрыгожванняў.

— Тата, мне нічога не трэба, я — школьніца, — заявіла Таццянка. — А маме трэба нешта выбраць, — і шапнула на вуха Альжбэце: — Калі мужчына дорыць падарункі, значыць — кахае.

Альжбэта выбрала сабе пад вячэрнюю сукенку прыгожыя маністы.

— Табе яшчэ трэба чароўныя завушніцы, — заўважыла Таццянка.

— Але ў мяне ёсць свае, і яны мне вельмі падабаюцца, — адказала Альжбэта і ціха сказала: — Я не хачу быць нахабнай, твой тата і так многа патраціў на мяне.

— Завушніцы і пярсцёнак Альжбэце падорыць муж, якога яна, думаю, сустрэне на вечарыне, — строга гледзячы на дачку адказаў Лявон. — І перастань камандаваць, іміджмейкер!

Дома пачалі збірацца на сядзібу. Лявон зрабіў некалькі дзелавых званкоў і загадаў Альжбэце з Таццянкай ісці ў машыну.

Праз нейкі час праязджалі міма Злётнага, схаванай між лесу вёсачкі, і Таццянка ажывілася:

— Татачка, давай заедзем да мамы, у Злётнае, павіншуем яе са святам.

— Да якой яшчэ мамы? — незадаволена адказаў той.

— Я ўсё ведаю, — ціха сказала дзяўчынка, — яна тут жыве. Яе трэба зразумець, ёй сорамна вяртацца да нас. Яна — творчы чалавек. Марыла, а мары не збыліся, вось і зламалася. Спілася.

Лявон праехаў міма.

— Тата, табе не да твару крыўда, даруй ёй, — папрасіла дачка. — Давай заедзем да яе, памірымся.

— І будзем жыць адной шчаслівай сям'ёй? — пасміхнуўся бацька. — А як жа твая другая мама?

— Гэта я ёй параіла, — сказала Альжбэта. — Таццянка павінна любіць сваю маму. Трэба памірыцца.

— Бэці, я цябе вельмі паважаю за тваю дабрыню, але да маёй жонкі мы не паедзем, — рашуча вымавіў ён. — Мы з ёю разводзімся. Прыйдзе час, яны з Таццянкай і без мяне пабачацца. Але ўсяму свой час!

У гасцінай, там, дзе размяшчаўся камін і бар-стойка, ужо сабраліся госці. Альжбэта з Таццянкай выглядалі прыгожа, трымаліся разам і разглядвалі гасцей.

— Гэта ўсё татавы сябры? — пацікавілася Альжбэта.

— Я і сама не ведаю, — адказала Таццянка. — Тата высылаў запрашэнні шмат каму. Але я думаю, проста наведнікаў, турыстаў, тут пакуль няма. Значыць, уся эліта.

Сярод гасцей вылучаўся Лявон. Ён ветліва размаўляў з усімі, падыходзіў да кожнага, вітаўся. А потым побач нечакана з ім параўнялася нейкая жанчына. Выглядала яна прыгожа, трымалася ўпэўнена, але ў паглядзе яе было нешта арлінае, зыркае, і яна адразу ж не спадабалася Альжбэце. Але Лявон хадзіў з ёю пад руку і не адпускаў ад сябе.

— Гэта хто? — пацікавілася Альжбэта ў Таццянкі.

— Мая будучая мама, — скрывілася Таццянка.

— Наталля? — здагадалася Альжбэта.

— Яна! Бацька на яе ўсе сядзібы свае афармляць будзе, увесь свой бізнес. Гэта для таго, каб пры разводзе маме нічога не дасталося.

Таццянка ўзяла Альбжэту пад локаць і ў гэты час заўважыла на сабе бацькаў позірк.

— Пайду павітаюся з Наталляй, — уздыхнула дзяўчына, — а то бацька зноў папракаць будзе, што Наталля мяне маленькую гадавала, а я яе не паважаю.

Альжбэта таксама ўздыхнула і сказала: «Ідзі». Павярнулася і нечакана заўважыла ў люстэрку сваё адлюстраванне, усміхнулася сама сабе — яна была такой прыгожай.

Лявон раптам падышоў да яе і як загадаў: «Пойдзем у мой кабінет!» У Альжбэты сапсаваўся настрой: што за тон...

Лявон жа рашуча ўзяў яе пад локаць, і павольна, ніба гэта быў некаму выклік, правёў Альжбэту да дзвярэй свайго рабочага кабінета.

— Ты вельмі цудоўна выглядаеш, — неяк надта ўжо мякка прамовіў ён, сядаючы за стол і прапаноўваючы ёй сесці насупраць.

— Дзякуй, — сціпла адказала яна.

Лявон разгарнуў нейкія паперы, дастаў адну, і пачаў гаварыць, уважліва гледзячы на Альжбэту.

— Бэці! Ты павінна мяне зразумець. Мне аднаму цяжка ўтрымліваць тры сядзібы адразу, сачыць там за парадкам і фінансавымі паперамі. Дзве сядзібы я даручыў Наталлі. Учора мы падпісалі з ёю неабходныя юрыдычныя паперы. А цяпер я хачу сказаць табе, што мне патрэбна твая дапамога. Я хачу юрыдычна аформіць на цябе сядзібу «Венерын чаравічак».

— Навошта мне? — здзівілася Альжбэта. — Якая з мяне бізнес-лэдзі?

— Пачакай! — сказаў Лявон. — На гэтай вечарыне я прадстаўлю цябе як гаспадыню сядзібы і паўнапраўную яе ўладальніцу. Заўтра мы падпішам

юрыдычныя дакументы. Я давяраю табе! Я веру ў тое, што ты будзеш справядлівай і, пасля майго афіцыйнага разводу з жонкай, ты мне гэту сядзібу вернеш. А зараз у гонар нашага сяброўства я хачу зрабіць табе маленькі падарунак.

Ён дастаў з шуфляды невялічкую каробачку, адкрыў яе і ўзяў адтуль пярсцёнак. Спачатку Альжбэта хацела адмовіцца, але потым ласкава ўсміхнулася яму ў адказ.

— Дзякуй, — адказала яна, калі Лявон надзеў пярсцёнак на яе палец. — Але як вы ўгадалі мой памер?

— Мы ж з табою жывём у адной кватэры, — засмяяўся Лявон. — А там можна знайсці шмат розных тваіх рэчаў, — ён пяшчотна паглядзеў на яе, так што Альжбэта засаромелася. — Цяпер я хачу ўладкаваць цябе на курсы аўтааматараў, затым купіць табе машыну, каб ты сама магла ездзіць на сваю сядзібу. А іншы раз тут можна начаваць. З майго кабінета адкрываюцца дзверы ў двухузроўневы пакой: на першым паверсе спальня, на другім — рабочы кабінет. Хочаш паглядзець?

Альжбэта кіўнула, і Лявон падняўся з-за стала, адчыніў дзверы і запрасіў яе ў пакой. На першым паверсе стаяў шырокі аднаспальны ложак, засцелены ружовай капай.

— Калі мы застанемся нанач, то можна нам з Таццянкай спаць тут? — пацікавілася Альжбэта.

— Такой прыгожай паненцы сорамна спаць з дзецьмі, — сказаў Лявон і лёгка абняў яе за талію.

Альжбэта ўспомніла пра Наталлю і рашуча адняла яго руку.

— Можна паглядзець другі паверх? — сказала яна і, не чакаючы адказу, паднялася туды.

Лявон пайшоў следам за ёю. Альжбэта аглядвала пакой, Лявон нечакана абняў яе, прытуліў да сябе і памкнуўся пацалаваць. Яна паспрабавала вырвацца з яго абдымкаў.

— Я не разумею, у чым справа? — насцярожана вымавіў Лявон. — Я табе не падабаюся?

— У нас дзелавыя адносіны, шэф, — цвёрда сказала яна і смела паглядзела яму ў вочы.

— А з іншымі мужчынамі якія ў цябе адносіны былі?

— Ніякіх. Толькі сяброўскія.

— Не веру!

— Вы давяраеце мне свой бізнес, а не можаце паверыць на слова?

— Бізнес і каханне — розныя рэчы!

— А вы ў мяне так закаханы?

Адчуўшы, што ён аслабіў адбымкі, яна вызвалілася.

— Не было яшчэ такіх жанчын, якія мне адмаўлялі, — сказаў Лявон.

— Вы думаеце, што вашы грошы і падарункі адкрываюць вам дарогу да майго сэрца?

Альжбэта прысела ў мяккае крэсла. Лявон сеў насупраць і ўважліва пазіраў на яе.

— Я ўсяго толькі сяброўка вашай дачкі і ваша супрацоўніца, — сказала яна. — Вы ж самі мяне бралі на працу, я пісала вам заяву і аддавала працоўную кніжку. Я зусім не наймалася ў вашы палюбоўніцы. У вас ёсць цудоўная жанчына Наталля, з якой вы зможаце распісацца пасля разводу з жонкай. А я толькі дапамагу вам захаваць вашу маёмасць, якую абяцаю потым вярнуць. І зноў буду вашай служачай і сяброўкай вашай дачкі.

Яна гаварыла так спакойна, што Лявон залюбаваўся ёю. Ён глядзеў на яе лагодна, як толькі можа глядзець на жанчыну закаханы мужчына. «Але ці можна верыць гэтым вачам?» — падумала Альжбэта. Ёй і сапраўды не хацелася ягонага багацця, а хацелася толькі аднаго — цеплыні вуснаў і ўтульнасці адбымкаў. І яшчэ: каб ён стаў яе мужам. Лявон павёў сябе як гаспадар становішча, а ёй хацелася, каб так, як закаханы. Але хто ведае, можа, так і трэба, можа, так сябе і павінны паводзіць моцныя мужчыны? Яна ж толькі рабіла першыя крокі ў тым дзіўным і прыгожым свеце, які завецца каханнем і які так нечакана ішоў да яе.

— Ты чароўная, Бэці! — вымавіў Лявон. — Я вельмі рады, што ты з’явілася ў нашым жыцці. З тваім прыходам у нашым доме стала весела і ўтульна.

— Дзякуй, — сціпла адказала Альжбэта. — Але я думаю, што нам трэба вярнуцца да гасцей. Мы з Таццянай прадумалі невялічкую забаўляльную праграму, у якой раскажам паданне, пагуляем у што-небудзь, а потым станцуем для гасцей усходні танец.

— Не-не-не! Толькі не ўсходні танец! Прашу, — занепакоіўся Лявон. — Усё прымаю, акрамя танца!

— Але чаму? — здзівілася Альжбэта. — Мы і касцюмы ўзялі. Танечка сабе такі прыгожы касцюм пашыла, сама, такая разумнічка!

— Бэці, — уздыхнуў Лявон, і вымавіў цвёрда і рашуча: — Я не хачу, каб вы з Таней свяцілі голымі пупамі перад чужымі людзьмі. Гэтыя танцы — толькі дома.

— Ну, добра-добра, — падхапілася Альжбэта і заспяшалася да гасцей.

Трэба было яшчэ адшукаць Таццянку і паведаміць ёй пра змены ў праграме. Але Танечка ўжо сама спяшалася ёй насустрач.

— Уяўляеш, — з разбегу выдыхнула яна, — ты спадабалася аднаму цікаваму мужчыну. Вось таму, бачыш, ля стойкі бара?

Альжбэта з цікаўнасцю паглядзела на высокага мужчыну, апранутага ў строгі дзелавы касцюм. Пастава незнаёмца была выключна прыгожай, магчыма, ён быў або спартсмен, або ваенны. Трымаўся ўпэўнена. І позірк, якім ён акінуў Альжбэту з Таццянкай, быў спакойны і самадастатковы. Было адразу відаць, што гэта ўпэўнены ў сабе чалавек.

— Гэта Павел Стрыжэўскі, дырэктар аўтапаркінга, таткаў сябрук, — паведаміла Таццянка.— Але ты не ведаеш галоўнага. Наш тата сказаў яму, што ты занятая.

Таццянка змоўкла, заўважыўшы бацьку, які набліжаўся да іх.

— Не разумею яго, — шапнула яна Альжбэце, гледзячы на бацьку. — І сам не гам, і другому не дам. Можа, ты яму да сэрца прыйшлася?

Лявон падышоў да іх і звярнуўся да Альжбэты:

— Пайшлі, калі ласка, я прадстаўлю цябе гасцям.

Ён упэўнена ўзяў яе пад руку і павёў да гасцей.

Таццянка са здзіўленнем правяла іх позіркам, а калі бацька пачаў прадстаўляць Альжбэту як гаспадыню сядзібы, ласкава ўсміхнулася і разам з гасцямі запляскала ў далоні. Аб’явілі танец, і Лявон з Альжбэтай закружыліся ў вальсе.

— Што ў іх за адносіны? — пачула Таццянка збоку.

Азірнулася. Перад ёю, скрывіўшы вусны, стаяла незадаволеная Наталля.

— Гэта мая мама! — амаль крыкнула ёй дзяўчынка.

Лявон успамінаў, як ён пазнаёміўся са сваёю жонкай. Гэта было таксама на Дзень закаханых. Зараз яму захацелася ўбачыць яе, і як мага хутчэй. Якою

яна стала? Хацелася пагаварыць з ёй аб тым, як, наколькі збыліся ў кожнага з іх мары, і што кожны зразумеў у гэтым жыцці. Канечне, ён ужо нічога не верне, дый было б неразумным варушыць мінулае, але ўсё ж засталіся ў кожнага з іх нейкія добрыя ўспаміны ад сумеснага жыцця. Калі паслухаць парады Альжбэты, то, можа, і сапраўды, трэба ставіцца да людзей па-хрысціянску.

Ён кружыўся з Альжбэтай у танцы, абводзячы позіркам яе прыгожы, ласкавы твар, пяшчотна сціскаў у сваёй далоні яе танюткія пальчыкі. «Гэты добры анёл, які нешта прадчувае, раіць мне памірыцца з жонкай, — думаў Лявон. — А я ж так і не пабачыўся з ёю. Даведаўся праз людзей, дзе яна жыве, і падаў на развод. Ці прыйдзе яна па павестцы? Пэўна ж позву даставілі ёй. Як яна будзе сябе паводзіць? Ці хопіць у яе сораму на адчужэнне ягонай маёмасці? Але, некаторыя творчыя людзі співаюцца (успомніў ён чыесьці словы), але ж большасць з іх не здольны на подласць. А вось ад цяперашняй сяброўкі Наталлі можна чакаць усяго».

Лявон заўважыў, як Наталля незычліва пазірае на іх з Альжбэтай. Гэта быў погляд драпежніцы. Не, яна свайго не ўпусціць. Акула…

Цяпер ён пашкадаваў ужо, што даверыўся ёй — Наталля можа набрацца нахабства і не вярнуць яму ягоную маёмасць. Да ўсяго ж, яна здагадалася аб яго пачуццях да Альжбэты. Здагадалася раней, чым здагадаўся ён сам.

«І ўсё ж, трэба наведацца да жонкі», — вырашыў Лявон.

У хаце было цесна, але напалена і чыста. Анжэла прыбрала валасы пад маленькую клятчастую хусцінку, заглянула за занавеску. Дзед спакойна пасопваў на печы. Успомніла: курам дала есці, уцяпліла дзверы. Палова лютага, па начах яшчэ вельмі холадна, хаця ў паветры ўжо адчуваецца подых вясны. А можа, гэта толькі ёй так здалося? Сёння ж Дзень закаханых, а заўтра — Стрэчанне, зіма з летам сустракаюцца. Успомніла, як маці спявала:

Зіма з летам сустракалася,
Пра здароўейка пыталася.
Зіма пайшла плачучы, плачучы,
Лета пайшло скачучы, скачучы.

Анжэла прысела за стол, накрыты блакітнай, у кветачкі, цыратай, яшчэ раз зірнула на позву ў суд. Разгладзіла яе. «Эх, Лявон, Лявон, — падумала яна, — пакрыўдзіла я цябе!» Успомніла, як ён тэлефанаваў ёй, а яна падышла да тэлефона п’яная, з цыгарэтай, і нагаварыла яму featured рознага глупства. Каралевай сябе лічыла, зоркай тэатра. А што цяпер? Дый ці трэба было ёй тое багемнае віхурнае жыццё? Добра, што з бездані неяк вылезла. І дактары добрыя трапіліся, і псіхолагі. Сама ў сабе шчасце знайшла, сама прымірылася з сабою. Адзін псіхолог ёй так і сказаў: «Чалавек не можа адчуць сябе шчаслівым, бо ўвесь час уцякае ад сябе. Не хоча сябе прымаць такім, які ён ёсць. А калі чалавек прыме сябе такім, які ён ёсць, то і стане шчаслівым».

Так яно і ёсць. Знайшла Анжэла сама ў сваёй душы лад і супакой, вярнулася да сябе. А хто яна некалі была? Яна была ціхая, спакойная вясковая дзяўчынка, сарамлівая, добрая. Цішыню любіла. І зайздросціла бойкім дзяўчатам, лідарам, тым, якія ў класе былі першымі. Вось і ёй захацелася стаць першай, актрысай, каб яе ўвесь свет ведаў… А навошта ёй увесь свет, калі шчасце чалавека не залежыць ад іншых людзей, а найперш ад самога сябе, ад свайго душэўнага стану?

Вось вярнулася ў родную хату, — і ўсё стала на сваё месца. Раней часта снілася, што яна ўцякае аднекуль і некуды хоча вярнуцца, але для гэтага ёй трэба пераапрануцца, каб не пазналі, каб не дагналі… Усё правільна, хадзіла яна не ў сваёй вопратцы, сама сабе здраджвала.

— Ой, хто гэта? — усхапілася з-за стала Анжэла, пачуўшы стук у дзверы. Заспяшалася адчыніць і войкнула ад нечаканасці, калі ён увайшоў, такі вялікі, дужы, упэўнены, калі распраміў плечы, усміхнуўся ёй і лагоднымі вачыма паглядзеў, а затым сказаў:

— Прывітанне, Анжэлка.

— Лявонка! — прыкрыла яна далонню вусны.

Замітусілася, запрашаючы прысесці.

— Сядай, Лявоначка, сядай, — казала яна і шчыра радавалася за яго. — Які ты спраўны стаў! Чула я пра цябе, што бізнесмен. Слава богу, слава богу! У кожнага свае мары, а мая вось мара не збылася. А ведаеш чаму? — махнула яна рукою, прысаджваючыся на нізкі зэдлік ля печы. — Я ж, Лявоначка, не тую мару сабе выбрала, не сваю. Хацела я медсястрою быць, людзям дапамагаць. А артысткай я і дома змагла б быць. Жонка павінна быць артысткай.

Яна гаварыла, прагна адчуваючы, што ёй трэба выгаварыцца. Гаварыла, не даючы яму слова сказаць. Можа, баялася, што ён пачне папракаць. Але ён ціха сядзеў за сталом, расшпіліўшы паліто, доўгія полы якога даставалі да падлогі. Прыгожы быў Лявон, бачыла Анжэла, але гаварыла сваё, гаварыла, каб не засяроджваць увагу на ягонай прыгажосці. Баялася заплакаць.

— А да мяне прыходзілі твае дзяўчаткі, — працягвала яна, — адна і другая. Прыгожанькія такія. Таццянка спраўная, і гэтая, Бэці.

Лявон выпраміўся ад нечаканасці.

— Калі?

— А во, на днях неяк. Слава богу, Таццянка не сярдуе на мяне, усё разумее, добрая дзяўчынка. І гэтая яе няня, Бэці, таксама добрая. А я вось у царкву хаджу, дык мяне там кабеты не Анжэлкай клічуць, а Анькай. Так мяне маленькую ў вёсцы звалі, Анька-Ганька. А я вось Анжэлай стаць захацела.

— Змянілася ты, — мовіў Лявон. — Паспакайнела. Працуеш дзе?

Анжэла ўздыхнула, а потым ціха адказала.

— Спачатку ў клуб мяне звалі, кіраўніком драматычнага гуртка. А я не захацела.У царкве працую. Прыбіраю там усё, мыю, свечкі стаўлю. У хоры спяваю. Так спакайней, — і, крыху памаўчаўшы, ціха дадала: — Ты прабач мне, Лявонка, што жыццё табе спакойнага не давала, дачку на цябе пакінула, здраджвала табе. Дам я табе развод. Нічога мне твайго не трэба! На судзе ад тваёй маёмасці я адмоўлюся — сорамна не сваё браць. І з кватэры вашай я выпішуся, ды да дзеда свайго прыпішуся. Толькі просьба ў мяне да цябе будзе: Таццянку да мяне пускай — дрэннаму яе не навучу. Вось яек магу даць, тагосяго з агарода. Усё ж сваё, як гаворыцца, экалагічна чыстае.

— Ну што ж, дзякуй, Анжэла, — падняўся ён. — Не чакаў я ад цябе такой перамены. Рады за цябе.

Ён падышоў да яе і працягнуў ёй руку. Яна паднялася насустрач яму. Поціск рукі быў нядоўгім, але моцным і шчырым.

— Добры ты, Лявонка, — уздыхнула яна. — А я прыйду, прыйду на суд, не хвалюйся, дам табе волю.

І калі ён выйшаў, яна, углядаючыся ў святло фараў ягонай машыны, плакала наўзрыд, паўтараючы:

— Прабач мне, мой каласок, прабач…

Боль паціху пакідаў яе. Яна адышла ад акна, выцерла слёзы і з палёгкай уздыхнула.

— Усё будзе добра, — супакоіла сама сябе, радуючыся, што сустрэча, якой яна так баялася, адбылася. — Усё будзе добра, — некалькі разоў паўтарыла яна, — усё будзе добра!

У вокнах сядзібы гарэла святло. Лявон выйшаў з машыны. Падышоў да дзвярэй і націснуў кнопку званка. Яму адкрыў высокі, строгі вартаўнік.

— Ужо ўсе спяць? — пацікавіўся ў яго Лявон.

— Амаль усе, — адказаў той.

Лявон па мяккім дыване ціха прайшоў у прыхожую. Адчыніў дзверы свайго кабінета. Скінуў паліто. Моўчкі прысеў на мяккую канапу. Ні аб чым не хацелася думаць. Спакой і лагода завалодалі ім. Хацелася прытуліцца да спінкі канапы і заснуць.

* * *

*«...Вёска ажывае. Заскрыпелі калодзежы, падняліся высока роўнымі слупкамі дымкі з комінаў. Голас людзкі, мыканне кароў і блеяньне авец — усё злілося ў адзін гул і гоман. На траве і лісці няўзнаку выступаюць чысценькія капелькі расы».*

Гэтыя радкі з твора Якуба Коласа трапіліся Альжбэце, калі яна раскрыла кнігу, што ляжала на стале ў Таццянкі. І ў Альжбэты з’явілася ідэя.

…Яна ледзь дачакалася, калі Лявон вернецца дадому. Ён увайшоў у кватэру, як і заўжды апошнім часам без настрою, засмучаны, нечым заклапочаны. Кіўнуў Альжбэце, яна ледзь пачула: «Добры вечар».

Лявон распрануўся і прайшоў у ванны пакой, затым зачыніўся ў спальні. Са свайго пакоя выглянула Таццянка. Яна запытальна паглядзела на Альжбэту, якая на кухні рыхтавала вячэру. Альжбэта няўцямна пацiснула плячыма.

— Ён ужо цэлы месяц такі, пасля разводу, — прашаптала Таццянка, падышоўшы да Альжбэты.

— Я ж гаварыла: не трэба разводзіцца, трэба памірыцца, — сказала Альжбэта.

— Ён маме на Восьмага сакавіка кветкі вазіў, — паведаміла Таццянка.

— Мне здаецца, што заклапочаны ён не з-за мамы, — уздыхнула Альжбэта. — Заездаў у сакавіку на сядзібу не было. Грошы не паступалі. А яму крэдыт трэба сплачваць. Усе паперы цяпер праз мяне ідуць, я іх і падпісваю, бо ён жа не захацеў, каб я яму назад сядзібу аддавала. А што мне з той сядзібы? Якая з мяне бізнес-лэдзі? Я і сама не ведаю, дзе ўзяць грошы на развіццё сядзібы. Трэба штат набіраць: кухара, пакаёўку, дзіджэя, палявых рабочых. Нейкую гаспадарку заводзіць. А ён нічога гэтага не робіць.

— І на тыя сядзібы не ездзіць, — дадала Таццянка. — Тыя сядзібы добры даход давалі. У яго і грошы былі на рахунку, —Таццянка, нібы ў здагадцы, раскрыла вочы і прашаптала: — А што, калі ён і рахунак свой на Наталлю перапісаў, каб маме нічога не дасталося пасля разводу?

— Твая мама адмовілася ад падзелу маёмасці.

— А ён паспяшаўся на Наталлю ўсё аформіць.

— Значыць, яна яму нічога не вярнула.

Нечакана іхнюю гаворку перапыніў Лявон. Ён выйшаў са свайго пакоя і скіраваў на кухню.

— Зрабі мне, калі ласка, кавы, — папрасіў ён Альжбэту.

Яна падхапілася і пачала гатаваць каву, Лявон уважліва назіраў за яе рухамі, затым вымавіў: — Альжбэта, нам трэба пагаварыць.

Таццянка паспешліва выйшла ў свой пакой.

— Я слухаю вас, — Альжбэта напоўніла кавай два кубачкі і прысела за стол.

— Бэці, — ён вымавіў яе імя з нейкім надрывам, быццам яму наогул было цяжка размаўляць. — Бэці, ты ўжо скончыла курсы аўтааматараў, атрымала вадзіцельскія правы. А я абяцаў табе купіць машыну, — працягваў ён. — Я змагу зрабіць гэта заўтра. Калі ты не супраць, я хацеў бы ведаць, якой марцы машыны аддаеш перавагу.

— Гледзячы на вашы магчымасці, — з хітрай усмешкай заўважыла яна.

— Для вас, Бэці (ён чамусьці перайшоў на «вы»), мае магчымасці неабмежаваны.

— Тады я выбіраю «Пежо-406».

— Цудоўна! — усміхнуўся Лявон.

«Няўжо ён мае грошы? — падумала Альжбэта. — Ці гэта проста гульня?»

Раніцай Альжбэта з Лявонам паехалі на аўтарынак. Ёй было прыемна ісці побач з такім прыгожым, упэўненым у сабе мужчынам, хаця ў словах, якімі ён размаўляў з ёю, адчувалася нейкая гаркота. І калі ён разлічваўся за машыну, то разлічваўся з заліхвацкасцю і шчодрасцю. Затым Лявон прапанаваў зайсці ў ювелірную краму, выбраў і падарыў ёй завушніцы. Альжбэце падалося, што ён развітваецца з ёю.

Потым яны заехалі да натарыуса, каб перааформіць на Лявона дакументы на сядзібу. Цяпер Лявон Прыходзька зноў стаў яе ўладальнікам, і Альжбэта ўздыхнула з палёгкай: гэта яго маёмасць, навошта ёй чужое? Увесь гэты час ёй здавалася, што Лявон хоча з ёю аб нечым пагаварыць. І вось яны зайшлі ў кафэ.

— Бэці, я вельмі ўдзячны табе за ўсё, што ты для мяне зрабіла, — пачаў ён.

— Дзякуй і вам, — адказала яна.

Лявон уважліва, вывучаючы, паглядзеў на яе.

— Што табе зразумела?

— Што мы болей разам не працуем.

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Я проста здагадалася.

— Можа, ты гэта не так зразумела, Бэці? — Лявон дакрануўся да яе рукі, сціснуў і сказаў: — У мяне няма сродкаў на ўтрыманне сядзібы. Я мушу яе прадаць, каб вярнуць банку доўг. А вам (зноў на «вы») проста няма сэнсу працаваць у мяне без зарплаты.

— А як жа ж вы?

— А я пайду на біржу, — адказаў ён і папярэдзіў: — Не гаварыце, калі ласка, Таццянцы. Яна заўсёды мяне лічыла моцным. Яна ганарылася, што ў яе такі моцны і багаты тата.

— Усё бывае ў жыцці, — паспрабавала супакоіць яго Альжбэта.

— Калі б я ў свой час паслухаў вас і не звязаўся з Наталляй, усё было б добра, — роспачна мовіў ён, затым дадаў: — Што ж, будзем лічыць, што я падарыў Наталлі дзве свае сядзібы і свой рахунак у банку. Як-ніяк, а я жыў з ёю восем гадоў, і яна гадавала Таццянку.

— Ну, тым больш, — адказала Альжбэта. — А пакуль я не знайшла сабе даходную працу, прыміце ад мяне слушную прапанову наконт павялічэння вашага капіталу. У мяне ёсць цудоўны бізнес-план па развіцці сядзібы «Венерын чаравічак». Я проста не паспела вам учора пра яго расказаць, — яна ўзяла Лявонаву далонь у свае цёплыя далонькі. — Не спяшайцеся прадаваць сядзібу — яна прынясе вам вялікі даход.

Альжбэта выняла з сумкі невялічкую кнігу Якуба Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і зачытала: «…Вёска ажывае. Заскрыпелі калодзежы…» Лявон падняў угару бровы і, нічога не разумеючы, спытаў:

— Ну і што ў гэтым? Якая ідэя?

— Усё вельмі проста, — усміхнулася Альжбэта. — Цяпер міжсезонне, самая непрыемная пара года: ні то зіма, ні то лета. Многім людзям захочацца вырвацца з горада хаця б на выхадныя, каб акунуцца вось у такую вясковую ціш і прыгажосць. У нас ёсць шанс зарабіць грошы пакуль што ў выхадныя. Утульнасць каміна, свежае малачко. Пах сена ў хлеве, авечкі, вуллі. Пчолкі яшчэ спяць, але летам будзе мёд. А побач з сядзібай — рэчка! Летам можна рыбу павудзіць. А вясною пасадзім соткі: бульба свая, агуркі, памідоры. А як прыемна спаць у вясковай хаце! Тут і бабулька, якая расказвае казкі, і дзед, і печ, на якой можна пагрэцца.

— Вельмі цудоўна гучыць, — зазначыў Лявон. — Але на адкрыццё фермерскай сядзібы таксама патрэбны грошы.

— Не патрэбны. Такая сядзіба, дакладней хатка, ужо ёсць. Яна знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад вашай сядзібы, у Злётным.

— І што ж гэта за хатка? — насцярожыўся Лявон.

— У бабы Ганны. Ну, Анжэлу вашу так на вёсцы клічуць. Яна і казкі гасцям раскажа, і песні спяе. Яна шмат народных песень ведае, можа і пра народныя абрады расказаць: вясельны абрад, радзінны і гэтак далей. Мы з Таццянкай касцюмы сабе пашыем, а ў Анжэлы, дакладней, у Ганны, ёсць даўні матчын строй: вышыты, прыгожы. Яна і пра сімволіку вышывання і ткацтва раскажа. У нашых продкаў кожны сімвал у вышыванні меў сваё значэнне.

Лявон пазіраў на яе задуменным і незвычайна-пяшчотным позіркам. Адчуўшы, што яна чакае адказу, мовіў:

— Альжбэта, ты такая мілая. Я зраблю ўсё для таго, каб ты стала шчаслівай са мною, калі ты дасі згоду стаць маёй жонкай.

— Штосьці не разумею, кім стаць? — здзівілася яна.

— Маёй жонкай, — яшчэ раз паўтарыў ён і ўзяў яе далоні ў свае.

Альжбэце здалося, што перад ёю фантанам рассыпаліся featured рознакаляровыя блікі сонца. Рассыпаліся, зазвінелі і заіскрыліся! Яго прапанова была такой нечаканай радасцю, што Альжбэта адказала з шчырай і вясёлай усмешкай:

— Ну канечне! Мы будзем самай шчаслівай сям’ёй!

Падчас летніх адпускоў павялічыўся рэйтынг Лявонавай турыстычнай сядзібы. Не толькі прыгожая назва «Венерын чаравічак», але і цікавыя мерапрыемствы, падрыхтаваныя Анжэлай — артыстычнай і творчай гаспадыняй вясковай хаткі «У бабы Ганны», вельмі прыцягвалі сюды турыстаў. Лявон быў удзячны Альжбэце за слушную прапанову памірыцца з былою жонкай і папрасіць у яе дапамогі. Анжэла з радасцю адгукнулася. Дапамагала быламу мужу, хутчэй не за грошы, а каб загладзіць віну перад ім і сваёй дачкою, якую некалі пакінула ў пошуках кар’еры і славы. Таццянка была на сёмым небе ад шчасця — нарэшце, яна можа ганарыцца сваёй мамай!

У Мінску Лявон зусім не паказваўся. Альжбэта жыла адна ў ягонай кватэры. Сёння яна цэлы дзень не магла дазваніцца да будучага мужа. Ён доўга не браў тэлефон, потым прамовіў стомленым голасам:

— Слухаю, Бэці. Ну што там?

— Ты не забыўся, — лагодна прамовіла яна. — пра наша вянчанне?

— Ды што за глупства, Бэці? — уздыхнуў Лявон.

— Але ж перад вянчаннем неабходна прайсці патрэбны курс заняткаў, — напомніла яму Альжбэта. — Калі ты прыедзеш у Мінск?

— Я не прыеду, — паспешліва вымавіў ён. — На, пагавары лепш з Таццянкай!

— Бэтачка! — зазвінеў шчаслівы Таццянчын галасок — Не звяртай на яго ўвагі, а прызвычайвайся. Усе дзелавыя мужчыны такія — яны ўвесь час занятыя.

— Як там мама? — пацікавілася Альжбэта.

— Як заўсёды: працуе. А ты працу знайшла?

— Вяртаюся ў сваю фірму, — паведаміла Альжбэта, — але не ў галоўнае ўпраўленне, дзе я працавала з Данай, а ў філіял.

— Тата ўжо амаль аднавіў сваю сядзібу. Вяртайся да яго, — гаварыла Таццянка. — Я прыдумаю прычыну, па якой ты зможаш прыехаць сюды.

Альжбэта Траян ехала выступаць на карпаратыўную вечарынку. Яе запрасіў Лявонаў сябар, які будаваў паркінг непадалёку ад сядзібы «Венерын чаравічак». Заказалі ўсходні танец. На заднім сядзенні ляжаў прыгожы танцавальны касцюм. А вось і гарадок! Машына спынілася на чырвонае святло святлафора, якраз перад царквою. І ў гэты момант Альжбэта ўбачыла Анжэлу. Апранутая ў доўгую чорную спадніцу і шэрую кофтачку, сціплая і пакорлівая, у белай хусцінцы, яна выходзіла з царквы. Маўклівa і засяроджана перайшла вуліцу і скіравала ў бок аўтобуснага прыпынку. Села там на лавачку ў чаканні прыгараднага аўтобуса. Альжбэта не ўтрымалася, вырашыла прасачыць за ёю. Ехала ўслед за аўтобусам. Анжэла выйшла ў Злётным. Зайшла ў хмызняк і пераапранулася. Якой жа яна стала прыгожай! Яркая цыганская квяцістая спадніца, ружовая кофта. Ззяючы ад шчасця, Анжэла заспяшалася да сваёй хаты. Насустрач ёй выйшаў Лявон. Яны абняліся.

Альжбэта развярнула машыну і скіравала ў гарадок.

Дырэктар паркінга аказаўся тым самым мужчынам, які хацеў пазнаёміцца з ёю год назад на вечарыне ў Лявона.

— Мяне завуць Павел, — працягнуў ён руку Альжбэце. — Я памятаю вас…

— Мы рассталіся з Лявонам, — коратка мовіла Альжбэта і пайшла пераапранацца.

Танцавала яна сёння, як ніколі, віхурна, адчайна, укладваючы ўвесь свой боль і слёзы ў танец, раскайвалася, што была такою дурніцаю, што сама аддала Лявона Анжэле. Хрысціянка. Запаведзі не парушыла. Але парушыла свой лёс, страціла такога цудоўнага мужчыну.

— Бэці! Затрымайцеся, калі ласка.

Яе аклікнуў Павел. Яна ўжо сядала ў машыну.

— Я бачу, вы сёння засмучаны, — сказаў ён. — Дазвольце мне развесяліць вас.

І запрасіў яе ў кафэ.

— Раскажыце мне пра сябе, — папрасіла Альжбэта.

І Павел расказаў, што прыехаў у гэты гарадок пяць год таму, з Гродна, дзе працаваў інструктарам у клубе альпіністаў. Менавіта пяць год назад у яго загінула ў гарах жонка. Ён забраў з сабою гадавалую дачку Марусю і прыехаў да Лявона. На той час Лявон ужо разгарнуў сваю справу ў галіне агратурызму, і Павел вырашыў не адставаць ад яго і адкрыць сваю: пабудаваць паркінг на міжгародняй трасе. Гэта было мэтай яго цяперашняга жыцця.

Слухаючы яго аповед, Альжбэта вырашыла адпомсціць Анжэле і Лявону, даказаць ім, што і яна «не лыкам шытая». З задуменным позіркам і цікаўнасцю яна папрасіла Паўла паказаць ёй паркінг. Па дарозе дзяўчына прадумала

свой план да дробязей. І была ўпэўнена, што ў яго ажыццяўленні ёй дапаможа цётка Геня.

Павел выйшаў з машыны і адчыніў перад Альжбэтай дзверцу, падаў руку. Халаднаваты восеньскі вецер авеяў разгарачаны Бэцін твар. Яна адкінула назад валасы, паправіла на сабе лёгкую куртку… і аказалася ў Паўлавых абдымках.

— Так адразу? — з гумарам вымавіла дзяўчына.

— А што, ёсць пэўны рэгламент? — прашаптаў Павел і пацалаваў яе.

«Шкада, што гэтага не бачыць цётка, — падумала Альжбэта. — І шкада, што яна далёка».

— Ты такая чароўная, Бэці! — сказаў Павел, і ягоная рука патанула ў яе валасах.

Паркінг уяўляў сабою кампазіцыю з некалькіх асіметрычна размешчаных будынкаў па тэрыторыі. Яны ўвайшлі ў адзін з іх.

— Гэта відэазал, — сказаў Павел. — Ён ужо працуе, і я пакажу табе свой фільм, які зняў у гарах.

Відовішча было сапраўды чароўным: альпінісцкія будні, трэніроўкі, прыгажосць гор і альпійскіх лугоў. Фільм агучваў Павел. У фільме таксама гучалі песні Высоцкага.

У час прагляду фільма Бэці не раз кідала позірк на Паўла, і кожны раз думала, што гэты чалавек не можа здрадзіць. У ім адчувалася моц, сіла, упэўненасць, а яшчэ — адказнасць і ўменне не здавацца. «Можа, таму і не захацеў ён даручаць дачку бабулям, а выхоўваў яе сам?» — падумала Бэці.

— А ты пакажаш мне сваю дачку? — раптам прамовіла яна і пацікавілася: — Дзе яна цяпер?

— Я спачатку пакажу табе дом, які я купіў непадалёку ад паркінга, — адказаў ён. — А Маруся пакуль што ў Гродне, у бабулі.

Хата Паўла Стрыжэўскага нагадвала турыстычны кемпінг. З левага боку ад будынка размяшчаўся сад з прыгожым ландшафтам і невялічкім штучным азярцом. У зацені дрэваў стаяў стол і лавачкі, на якіх збіраліся госці, крыху воддаль стаяў мангал, а побач з ім ляжалі паленцы.

Павел адамкнуў дзверы дома і запрасіў госцю. Альжбэта ўвайшла ў светлы калідор, азначаны з левага боку двума шырокімі вокнамі, а з правага — уваход у пакой, прызначаны для заняткаў спортам.

— Ванна — прама па калідоры, — падказаў Павел.

Госця памыла рукі і зірнула ў люстэрка. «Дзе ні дапаможа Бог, там управіць жанчына!» — з хітрынкай падмігнула свайму адлюстраванню Бэці, дастала з кішэні мабільны тэлефон і набрала цётчын нумар…

Паміж сценамі спартыўнага і ваннага пакояў была лесвіца, якая вяла на другі паверх. Пэўна, там была святая святых — яго спальня.

Тым часам Павел ужо рыхтаваў на кухні вячэру.

— Я ўсё аднясу наверх, у спальню, там камін, — сказаў ён Альжбэце, якая ўвайшла на кухню.

— А дзе месца для малітвы? — пацікавілася дзяўчына, напускаючы на сябе вялікую набожнасць, якая павінна была сведчыць аб яе цнатлівасці. — Мы з цёткай заўсёды молімся вечарам.

— Перад сном? — загадкава мовіў Павел, з цікаўнасцю пазіраючы на Альжбэту.

— Спадзяюся, я буду начаваць дома, — адказала яна. — Інакш… Вы

проста не ведаеце маю цётку — яна рэлігійная фанатка. Таму можа і сюды прыбегчы.

— З Мінска? — не паверыў Павел.

— Для яе няма перашкод. Тым больш, што ў дзядзькі ёсць машына.

— Не думаю, што твой дзядзька таксама фанат. Нармальныя людзі ноччу спяць.

Ён падхапіў Альжбэту на рукі і заднёс наверх у спальню.

Раніцай Бэці прачнулася ад гучнай размовы на першым паверсе. Яна выразна чула галасы Паўла і цёткі Гені.

— Але ж вы ведаеце, наколькі набожная наша Бэці, — казала тая Паўлу. — Вы не павінны насмяцца з яе!

Ад радасці Бэці запляскала ў ладкі і падхапілася з ложка: яе план збываўся. Малайчына цётка, сапраўдная сяброўка, надзейная. Ні тое, што Дана, якая хацела кінуць яе ў бездань.

Бэці знарок накінула на сябе Паўлаву кашулю і пачала па лесвіцы спускацца ўніз. А вось і любімая цётачка: сядзіць па-шляхетнаму важна за сталом і гаворыць, а Павел стаіць перад ёю, як вучань перад строгай настаўніцай.

— Бэці! Ты зганьбавала свой гонар, — узрушана мовіла цётка Геня, строга паглядаючы на разгубленую пляменніцу. — Ты абяцала Богу захаваць сваю чысціню да шлюбу.

— Я ажанюся з ёю! — рашуча прамовіў Павел і абняў Бэці.

Павел прабыў у Гродне зусім мала. Заехаўшы да маці, даў ёй грошай і дамовіўся, што Маруся пабудзе ў яе да канца зімы.

— Раней ты не пакідаў дачку больш, чым на два тыдні, — заўважыла маці.

— Раней я не будаваў паркінг! — рэзка сказаў Павел.

Вера Адамаўна ўважліва пазірала на сына.

— Жаніцца табе трэба, — параіла яму. — Тады і дачка будзе дагледжана, і паркінг спакойна дабудуеш.

Павел пасміхнуўся і нічога не адказаў. Ён баяўся за іх з Альжбэтай будучы лёс. З вопыту свайго сямейнага жыцця ведаў: самае непрыемнае для маладой жонкі — адносіны з мужавай раднёй. Так было з Галяй, яго першаю жонкай. Ёй так апастылела сямейнае жыццё, і так яно не адпавядала яе дзявочым рамантычным марам, што Галя збегла ад яго ў горы. Збегла і не вярнулася, пакінуўшы яму трохгадовую дачку. Галю не знайшлі на месцы гібелі, таму ўвесь час Паўлу здавалася, што яна жывая, і што вернецца да яго. Іншы раз прасочваліся чуткі, што яна ў манастыры, і Павел ехаў да былой цешчы і дзяліўся пачутым. Аднак цешча толькі ўздыхала, жагналася на абразы і казала, што Богу відней, як распарадзіцца лёсам чалавека. Павел ад'язджаў ад яе расчараваным і зноў пачынаў шукаць жонку, спадзеючыся толькі на сябе. Ён аб'ездзіў многія манастыры, але безвынікова.

Ішоў час. Праз пяць гадоў пасля таго, як знікла Галя, Павел вырашыў ажаніцца. І яму сустрэлася Бэці. Цяпер сваё сямейнае жыццё ён будзе будаваць сам, без умяшання радні. Нікому Павел не дазволіць падысці да Бэці. Ён так вырашыў — і так будзе!

Альжбэта была на кухні, калі вярнуўся Павел. Не распранаючыся, падышоў да яе і прытуліў да сябе. Яго паліто, далоні і твар пахлі марозам і свежасцю, а ўсмешка і вочы поўніліся сонечнай цеплынёй. Зямлю агарнуў ціхі вечар. Павел прапанаваў:

— Давай павячэраем ля каміна, там так утульна і цёпла.

Яна пагадзілася. Яны сядзелі ў мяккіх крэслах, абцягнутых велюравай тканінай у бежавых танах, з мудрагелістымі ўзорамі залацістых кветак.

— Чаму ты не забраў з сабой Марусю? — пацікавілася Альжбэта.

— Мы забяром яе пасля вяселля, — адказаў ён. — Я прывёз з сабою каталог шлюбных сукенак. Ты павінна выбраць — і сукенку даставяць на дом.

Трымаючы ў руках неразгорнуты каталог, Бэці асцярожна прамовіла:

— Вялікі дзякуй, Павел, але сёння я размаўляла па тэлефоне з цёткай. Яна сама хоча купіць мне сукенку, як маці. Цётка Геня мяне гадавала і хоча выдаць замуж у лепшых традыцыях нашага роду.

— Калі ласка, я не супраць. Няхай будзе так, як хоча твая цётка.

— Яна прапаноўвае зрабіць вяселле ў вёсцы, па-народнаму. Мая маці і цётка з невялічкай палескай вёсачкі, непадалёк ад Мазыра. Там цудоўныя фальклорныя традыцыі і вясельныя песні.

Павел стрымана мовіў:

— Вяселле будзе ў кафэ паркінга.

А далей падзеі разгортваліся, як у сне. Бэці здавалася, што яна глядзіць фільм пра шчаслівую прынцэсу ў чароўным вясельным уборы. Павел узяў яе за руку, і яны пераступілі дзверы ЗАГСа. Цяпер Альжбэта будзе ўжо не Траян, а Стрыжэўскай, жонкай бізнесмена…

Пасля вясельнага застолля ў кафэ паркінга маладыя паехалі ў мясцовую гасцініцу. Там іх чакаў элітны нумар у некалькі пакояў: спальня і кухня з халадзільнікам, абедзенным сталом і мяккім вугалком. Выхад на лоджыю быў зачынены на зіму.

— Тут так чароўна! — Бэці была ў захапленні.

Павел зняў з яе галавы вэлюм, і яна кінула пагляд на прыгожы ложак, засцелены залацістым пакрывалам. Над ложкам быў таксама залацісты шацёр.

— Твой пеньюар таксама залацісты, — усміхнуўся ёй Павел. — І не бойся змываць макіяж. Заўтра да цябе прыйдзе візажыст: зробіць новую прычоску, у цябе будзе новы макіяж і новая сукенка.

Бэці накіравалася ў ванны пакой. Ён быў выкананы ў танах мяккай лазуры з марскім пейзажам. Бэці зразумела, што не зможа сама развязаць шнуроўку вясельнай сукенкі, але тут з’явіўся Павел і прапанаваў ёй сваю дапамогу.

Адразу пасля вяселля ў іх адбылася сур’ёзная размова. І гэта было для Бэці вялікай нечаканасцю. Павел забараніў ёй размаўляць з яго родзічамі нават па тэлефоне. Таксама забараніў мець сяброўак. Адным суцяшэннем было тое, што ён браў яе на працу ў сваю фірму, інакш яна магла назаўсёды застацца ў «залатой клетцы» яго прыгожага дома-кемпінга. Яшчэ суцяшэннем была ласкавая Паўлава ўсмешка і яго апраўданне:

— Уплыў маіх родзічаў аказаўся згубным для маёй першай сям’і, — сказаў ён. — І я не хачу, каб усё паўтарылася.

## Частка 2

Заможным было жыццё Бэці за Паўлам. У іх нарадзіўся цудоўны сын. Яго назвалі Уладам. Пасябравала Бэці і з дачкою Паўла, Марусяй. Толькі з мужам у яе адносіны не ладзіліся, не было ўзаемаразумення. Бэці пачала раскайвацца, што паспяшалася выйсці замуж за Паўла. Яна хацела адпомсціць Лявону, а адпомсціла сама сабе. Нястрыманая і паспешлівая дурнічка. Лявон з

Анжэлай жывуць шчасліва. У іх расце сын Сцяпан. А ў Бэці з Паўлам усё паранейшаму. Павел не змяніўся. Людзі не мяняюцца. Лягчэй бывае пакінуць іх, чым перавыхаваць. Вось і Дана ўсё «перавыхоўвала» сваіх кавалераў, а яны ўсё роўна вярталіся да свайго ранейшага жыцця. Цяпер Дана паразумнела: шукае прыстойнага і вартага мужчыну. Альжбэта таксама знайшла вартага, але жыве з ім, як у казарме: па раскладзе, у строгасці і дзелавым стылі. Іншы раз хочацца збегчы адсюль. Але трымаюць дзеці. Марусі цяпер — сямнаццаць год. Дзяўчына скончыла сярэднюю школу і паехала да бабулі ў Гродна, паступаць у медыцынскі ўніверсітэт. Хоча стаць доктарам і працаваць у гарах, каб аказваць дапамогу альпіністам. Жыве яшчэ ў дзяўчыны мара знайсці маці, як і ў Паўла, знайсці Галю, сваю жонку і Марусіну маці. Пра гэта Павел мроіць усё жыццё, і ад гэтага становіцца горка і прыкра Альжбэце, бо яна разумее, што так і не сустрэла сваё сапраўднае, узаемнае каханне. Іх з Паўлам сыну Уладзіславу — дванаццаць год. Ён скончыў шэсць класаў. Цяпер знаходзіцца ў летнім аздараўленчым лагеры. Праз пяць гадоў сын таксама паступіць вучыцца. І калі дзеці з’едуць з дому, яны застануцца адзін на адзін з Паўлам, чалавекам, які не кахае яе. Гэта самае страшнае: застацца з чужым табе чалавекам. Таму Альжбэта і не жадала гэтага. Яна выйшла замуж за Паўла ў дваццаць чатыры гады, пражыла з ім дванаццаць гадоў. Цяпер ёй — трыццаць шэсць, а праз пяць гадоў, калі Уладзіслаў паступіць вучыцца, ёй будзе — сорак адзін.

І толькі тады можна будзе развесціся, каб пачаць жыццё спачатку. Гэта думка запаланіла Альжбэту і прымусіла да рашучых дзеянняў…

— Сёння канферэнцыя дзелавога ўзроўню! — прагучаў Паўлаў голас па селектарнай сувязі. — Ты — выконваеш абавязкі арганізатара, — як адчаканіў ён.

— З сённяшняга дня я не выконваю ніякіх абавязкаў, таму што хачу быць свабоднай, — цвёрда прамовіла яна і выйшла з кабінета.

Зараз Альжбэта скіруе дадому, збярэ свае рэчы і сыдзе ад Паўла! Пакуль што яна не вырашыла куды. Вярнуцца ў Мінск, у кватэру цёткі Гені? З сынам? Ды Павел ніколі не аддасць яго ёй! І тут прыйшло на ўспамін: за пяць кіламетраў ад сядзібы «Венерын чаравічак», у вёсцы Расінка, працуе загадчыцай клуба Таццянка, Лявонава дачка. Гэта была адзіная аддушына, куды магла падацца Альжбэта, і яна пайшла ў накірунку аўтобуснага вакзала, каб узяць білет да Расінкі.

— У свеце так многа моцных мужчын, галоўнае — ведаць месца іх паркоўкі, — зазначыла Таццянка, выслухаўшы споведзь Альжбэты, абняла яе і самотна ўздыхнула: — Ты хоць замужам пабыла, а я нешчаслівая: дваццаць сем гадоў мне і ніхто замуж не бярэ. Іншы раз здаецца: маці забрала ўсё маё шчасце і прыгажосць. Мой брат Сцёпка, як і твой Уладзіслаў, ходзіць у шосты клас, дык яны яго як прынца апранаюць. І любяць яго больш, чым мяне.

— А ты чаму так шэра апранаешся? — спытала Альжбэта. — Сціпла неяк. Вясна ідзе. Усім хочацца абнаўлення, новага жыцця.

— І табе захацелася разводу, — падкалола Таццянка.

— Захацелася! — усклікнула Альжбэта. — Дапаможаш? Знайдзі мне, калі ласка, працу і жыллё.

— Пажыві хоць з тыдзень у мяне, — прапанавала Таццянка. — Адпачнеш ад ўсяго. Я ў Расінцы кватэру наймаю, з бацькамі на сядзібе жыць не хачу. Люблю свабоду і незалежнасць. Дапаможаш мне ў клубе па дызайне. Шмат працы, і мне патрэбна твая дапамога.

Першыя дні жыцця ў Расінцы для Бэці працякалі спакойна і ў адзіноце. Яна ўпарадкоўвала тэрыторыю вакол клуба. Пасябравала са старой рабінай, апекавала яе, даглядала, збірала гронкі алых ягад і пляла сабе вянкі. Наведвала турбазу «Чароўны бераг», на якой часта праходзілі творчыя вечарыны, наладжаныя Таццянкай і яе вясковымі пявуннямі з гуртка мастацкай самадзейнасці. Жанчыны, а з імі і Бэці, шылі льняныя сукенкі і аздаблялі іх народнай вышыўкай, з ёй пасябравалі…

У адзін з вечароў Бэці, працуючы ў клубе, вырабіла сабе амулет з галінак рабіны. Амулет нагадваў сонейка і вельмі прыгожа глядзеўся на фоне ільняной сукенкі.

Любуючыся на сябе ў люстэрка, Бэці заўважыла, як да клуба падкаціла прыгожая іншамарка. Адтуль выйшаў Лявон. Сэрца ў Бэці страпянулася — яе першае каханне, яе няспраўджаныя надзеі.

Лявон увайшоў у памяшканне клуба.

— Прывітанне! — мовіў ён, паглядваючы на Альжбэту. — Ты, як заўсёды, шакіруеш мужчын.

— Адно — не цябе, — заўважыла яна.

Лявон прысеў за стол.

— Мяне ты шакіравала даўно, калі выйшла замуж за Паўла, — сказаў ён.

— Я бачыла, як ты тады цалаваўся з Анжэлай! — з горыччу мовіла Альжбэта, і папракнула: — Як можна было — перад самым нашым вянчаннем?!

Ён здрыгануўся, быццам ад болю.

— Ты ж сама хацела, каб я жыў па-хрысціянску, — нагадаў ён, — угаворвала мяне памірыцца з Анжэлай, раіла ўзяць яе ў памагатыя. Дык чаго ж ты хацела?

— Я была вельмі набожнай…

— Хопіць цяпер раскайвацца, — абарваў яе Лявон. — Сама ўтварыла. Я кахаў цябе, дурніцу! А цяпер што ўжо зробіш? У нас з Анжэлай сын, аднагодак твайму Уладзіку, дачка на выданні. Цяпер ужо сям'ю не парушыш, а тады ўсё магло быць інакш.

Ён падняўся з-за стала і пачаў праходжвацца па пакоі.

— Я вось чаму прыйшоў, — сказаў ён глуха і сур'ёзна — У мяне на сядзібе хлопец жыве, тваіх год, і жанаты не быў. Спартсмен ён. Рыхтуецца да аўтаралі. На наступным тыдні, на турбазе, пройдуць спаборніцтвы. Ён дом купіў у Нясвіжы і яму патрэбен дызайнер. Сёння прыедзе да цябе пазнаёміцца. Не будзь хоць на гэты раз прасцячкай. Ён раней сустракаўся з жанчынай і мае пазашлюбнае дзіця. Не ўздумай толькі мірыць іх, фанатычка ты рэлігійная. Пра сябе лепш падумай. Табе патрэбен моцны мужчына, і блізкі па духу. — Лявон уздыхнуў і дадаў: — Я ўсё сказаў. Бывай!

— Мадам! Вы не маглі б крышку адагнаць вашу машыну? Я не магу прыпаркавацца.

Насустрач Бэці, якая стаяла ля машыны, ішоў імпазантнага выгляду мужчына, чарнявы, «накачаны», у белай майцы і чорнага колеру штроксах, асабліва модных у гэтым сезоне. Увесь яго выгляд, інакш сказаць, псіхалагічны партрэт, укладваўся ў адно слова — «прарыў». Было такое ўражанне, што яму зусім не трэба, каб Бэці адганяла машыну, ля якой яна стаяла, ён проста возьме яе рукамі, а яны ў яго былі такія прыгожыя, напрацаваныя, моцныя, быццам у штангіста, і пераставіць яе ў другое месца. Сам. Гэтыя думкі імгненна пранесліся ў галаве Бэці. Мужчына спыніўся, уважліва

паглядзеў на яе. У Бэці было такое адчуванне, быццам яе накрыла магутнай марской хваляй.

— Гэта не мая машына, — вымавіла Бэці.

— А чаму вы ля яе стаіце? — у яго быў, так бы мовіць, бурны голас, які абпальваў, нібы гарачы вецер.

— Проста так, — паспрабавала сабрацца з думкамі Бэці.

— Вы — Альжбэта Стрыжэўская?

Бэці кіўнула.

— Маё імя — Кевін, — сказаў мужчына. — Кевін Гурскі. Я — ад Лявона Прыходзькі. Пэўна, вы ў курсе? Сядайце, калі ласка, у маю машыну.

Бэці апусцілася побач з Кевінам у мяккае, нагрэтае сонцам, сядзенне, Пачуццё асалоды, заспакаення і жаданне праваліцца ў сон авалодала ёю. А за акном — наваколле чаруе летнім хараством.

— У вас такое незвычайнае імя, — сказала Бэці.

— Незвычайнае? — усміхнуўся Кевін. — Увесь сакрэт у тым, што мае бацькі вельмі любілі чытаць рыцарскія раманы, — і дадаў: — А цяпер мы паедзем з вамі ў Нясвіж, дапаможаце мне стварыць належны дызайн вакол дома.

— Лявон сказаў, што вы рыхтуецеся да аўтаралі, — нагадала Бэці.

— Я абавязкова запрашу вас, — паабяцаў Кевін. — У Нясвіж і назад мы сёння з’ездзім. Агледзецца трэба, прыкінуць на першы раз, што да чаго.

Машына спынілася ля аднапавярховага дома, абкладзенага белай цэглай. Зялёная, ажурна-металічная агароджа акаймляла сядзібу.

Кевін дапамог Бэці выйсці з машыны, адчыніў дзверцы агароджы і запрасіў яе ўвайсці на тэрыторыю сядзібы. Пакуль яна аглядала сад, ён загнаў машыну ў гараж, які месціўся на прысядзібным участку непадалёку ад дома.

— Вы так класна водзіце машыну, так мякка, — пахваліла яго Бэці. — Я нават не заўважыла, як мы даехалі.

«Трэба пра нешта гаварыць, — думала яна. — Трэба знайсці да яго падыход і зразумець, што яму трэба».

— У сучасным дызайне прадугледжваецца ідэя мінімалізму ў прасторы, — гаварыла яна. — Гэта: абшырная тэрыторыя, засеяная дробнай густой травою і дэкаратыўным кустарнікам, які акаймляе ўчастак. У вас прыгожая зялёная агароджа, таму кустарнік, на паралелі з ёю, будзе глядзецца вельмі цудоўна. Насупраць цэнтральных, уваходных дзвярэй дома мы прадугледзім планіроўку невялічкага дэкаратыўнага шапіка для прыёму гасцей і сяброўскіх сустрэч. З левага боку ад дома можна зрабіць спартыўную пляцоўку. Я мяркую, вы прафесійны спартсмен? — спытала Бэці, гледзячы на прыгожыя, «накачаныя» плечы і рукі Кевіна.

— Я вадзіцель, — адказаў ён.

— Ну вось і цудоўна! — прамовіла Бэці. — А наконт дызайна — паразважайце над маёй прапановай, сустрэнемся наступны раз. Я заўсёды рада вас бачыць у Расінцы. Заходзьце ў клуб. Я пакуль што там дапамагаю, а потым не ведаю, дзе буду працаваць. На ўсялякі выпадак вазьміце, калі ласка, маю візітоўку, — Бэці падала яму паперку.

— Мы сёння сустрэнемся на турбазе? — пацікавіўся Кевін, беручы яе. — На танцах? Можна, я заеду за вамі? Вы пакажаце мне, дзе жывяце?

— Ну вядома, — сказала Бэці, здзіўленая такім ягоным напорам.

І тут заўважыла праз незашторанае акно элегантныя плеценыя крэслы і стол у доме Кевіна.

— Якая прыгажосць! — усклікнула яна. — Калі вырасце трава, гэты камплект з лазы будзе цудоўна глядзецца на зялёным участку. Нават і не трэба будаваць шапік. Хаця шапік, калі вы знойдзеце майстра, можна таксама зрабіць з лазы.

— Я сам майстар, — паведаміў Кевін.

— О! Гэта цудоўна! — усклікнула яна. — Я думала, што падобнае рамяство даўно адышло ў нябыт, або ім займаюцца толькі пенсіянеры, бо ў іх шмат часу. А вы, такі малады і творчы чалавек, знаходзіце час. Гэта вельмі пахвальна.

— Дзякуй! У мяне было шмат часу — раней.

— Вы казалі, працуеце вадзіцелем?

— Працаваў. Цяпер я — прадпрымальнік, майстар лазапляцення. Так што звяртайцеся, калі што патрэбна.

Кевін адамкнуў дзверы дома, і Бэці ўвайшла ў пустое памяшканне.

— Усё ў адным пакойчыку, пакуль што, — растлумачыў ён. — Яшчэ я не купіў усю мэблю. Можа, вы мне дапаможаце? Бо я зусім адстаў ад моды. Пасля аварыі я не мог хадзіць і мне прыйшлося некалькі гадоў жыць у пансіянаце для інвалідаў, непадалёк ад турбазы «Чароўны бераг». Я заўсёды верыў, што вярнуся ў нармальнае жыццё. І мая мара збылася: у наступныя выхадныя я выступаю на турбазе на спаборніцтвах.

Кевін адчыніў дзверы другога пакоя.

Там знаходзілася толькі што купленая канапа, журнальны столік з крэсламі і новы, нядаўна пабудаваны камін. На каміне стаяў фотаздымак маленькай дзяўчынкі.

— Гэта мая дачка, — сказаў Кевін. — Незадоўга да аварыі я меў намер распісацца з яе маці, аднак жыццё распарадзілася па-свойму.

Нечакана ў Альжбэты зазваніў мабільны тэлефон. Гэта быў Павел.

— Бэці, — сказаў ён, — я тэрмінова еду да сваёй былой цешчы, ёсць звесткі пра Галіну.

— Яна жывая? — усклікнула Бэці, уражаная пачутым.

— Жывая, — адказаў Павел.

— Цудоўна! Значыць, перашкод для нашага разводу не будзе, — з палёгкай уздыхнула Бэці і сустрэлася поглядам з Кевінам.

— Развод — вялікі грэх, — заўважыў той. — Тым больш, у вас, пэўна, ёсць дзеці.

Не перапыняючы размовы з Паўлам, Бэці пахмурна кінула:

— Кевін, мне пропаведзі непатрэбны.

А Павел даваў указанні Бэці наконт дакументаў да разводу і яго праў на дзяцей. Настрой быў сапсаваны. Паспешліва дапіўшы чай, Бэці папрасіла Кевіна падвезці яе ў Расінку. Спатканне з ім, на турбазе, яна адмяніла.

— Я не крыўдую, — адказаў Кевін. — Не ў маіх правілах сустракацца з замужнімі жанчынамі. Лявон мне сказаў пра вас зусім іншае.

— Лявон вам сказаў праўду, — мовіла Бэці. — Хочаце сказаць, што вам не звоняць былыя каханкі? Аднак, калі вы такі рэлігійны фанат…

— Калі я і фанат, то толькі — ад спорту, — зазначыў Кевін.

— Лічыце, што вы мяне запрасілі на аўтаралі, — адказала Бэці.

Год таму маці параіла Таццянцы кожны дзень хадзіць на набажэнствы, маліцца дома, каб выйсці замуж. Таццянка старалася, аднак вынікаў не было. Неба не ўспрымала яе малітвы. І дзяўчына пачала злавацца на Бога: шкада яму, ці што, паслаць ёй мужа? А вось Бэці нікому не моліцца, і да яе ў клуб прыязджае Кевін. У Бэці — усё як па масле: не паспела разысціся з Паўлам

Стрыжэўскім, як адразу другога знайшла. І ўсё ёй ні па чым: ні Марусіны экзамены, ні Уладзікаў ад’езд на канікулы. Шчаслівая. На дварэ лета красуе, ліпень яркімі фарбамі радуе. Гора толькі аднаму Паўлу: згалеў ён, страціў свой бізнес з-за хворай галавы, з-за прагнага жадання Галю сваю, жонку першую, з манастыра забраць. Аказалася, ні ў якіх гарах Галя не загінула, а ў манастыр збегла, Марусьці, дачкі сваёй маленькай, адцуралася. А чаму, дык пэўна ніхто не ведае. Што кіравала жанчынай: рэлігійныя перакананні або нешта іншае — загадка. Але факт ёсць факт. І што ён, Павел, за адналюб, не разумее яго Таццянка.

А раней жа, як не быў яшчэ жанаты на Альжбэце Траян, падабаўся Таццянцы. Адчувалася ў ім моц духу, унутраная сіла і прыгажосць. А як ажаніўся, напышлівым стаў, з родзічамі не знаўся, сябрукоў пазбягаў. Вось і да Лявона Прыходзькі, яе бацькі, на сядзібу, так ні разу і не заехаў.

Бэці з Кевінам сустрэліся на турбазе. Бэці апранута ў прыгожы блакітны сарафанчык з атласу, валасы распушчаны, як у русалкі. Кевін — сур’ёзны, мужны на выгляд. Але ён сапраўдны гаспадар свайго лёсу: змог, як кажуць, вярнуцца да жыцця, спадзеючыся сам на сябе, змог ачуняць і падняцца на ногі. Зараз ён уладкоўвае сваю сядзібу, як і належыць дбайнаму гаспадару. Кевін зачароўвае Бэці сваёй прысутнасцю, і яна з радасцю акунаецца ў дзіўную асалоду яго пацалункаў.

Штораніцы Бэці прачынаецца шчаслівай. Мабыць, упершыню за ўсё жыццё яна адчувае сябе спакойнай і абароненай.

У сярэдзіне ліпеня не прамінуў нагадаць пра сябе Павел. Ён пазваніў Бэці і паведаміў, што прыехаў у горад прадаваць свой дом, каб разлічыцца з даўгамі фірмы. Падчас сустрэчы Павел паведаміў, што збіраецца вяртацца ў спорт, але куды менавіта, яшчэ не вызначыў. Пагаварылі пра дзяцей. Павел сказаў, што Маруся паступіла вучыцца і застаецца ў горадзе. Жыць будзе па чарзе то ў адной, то ў другой бабулі, а заадно ў манастыр наведвацца, да маці. Што датычыць іх з Альжбэтай сына Улада, тут яны яшчэ нічога не вырашылі. Павел паабяцаў купіць для Альжбэты невялічкі дом. Сам жа меркаваў таксама пасяліцца ў вёсцы, магчыма, пайсці працаваць у школу настаўнікам фізкультуры. Улад жа, пасля аздараўленчага лагера, вырашыў прабыць усе канікулы ў бабулі ў Гродне.

На лясной палянцы, непадалёк ад клуба, дзе працавала Таццянка, саспелі суніцы. Потым пайшла чарга маліны. Пазней набрынялі сінявой чарніцы. Лета мяняла колер і афарбоўку, толькі ў жыцці Таццянкі нічога не мянялася. Яна па-ранейшаму была адзінокай. Таццянка ў пятніцу, перад танцавальным вечарам у клубе, заехала перакусіць на бацькоўскую сядзібу.

— Мая красатулечка прыехала! — кінулася ёй насустрач маці, прыгажуня Анжэла. — А мы з таткам толькі што стол накрылі. У нас госці, Павел прыехаў. Яны са Сцяпанкам альбомы гартаюць.

Таццянка зайшла ў дом, павіталася з Паўлам, а з братам — па-свойску, жартуючы, як было ў дзяцінстве, пляснуліся далонямі.

— Як справы? Не выйшла яшчэ замуж? — ні то жартуючы, ні то пацвярджаючы факт, пацікавіўся Павел.

— Выйдзеш тут, — адказала Таццянка. — Пры такой маці. Я думала: яна актрыса, фліртаваць мяне навучыць, а яна толькі пра Бога далдоніць. І чым мне дапамаглі тыя малітвы?

— Таццяна! — строга сказаў Лявон, заходзячы ў пакой. — Калі ты ўжо перастанеш абвінавачваць увесь свет у сваіх няўдачах? Ды я цябе колькі з хлопцамі знаёміў! А табе ўсё не падабаюцца.

У хаце з'явілася Анжэла, шчаслівая, сонечная, паставіла на стол гарлачык з малаком.

— Свежанькае, даражэнькія мае, — сказала яна. — Толькі што падаіла козачку. А колькі вітамінаў у ім! Танечка, я налью табе?

— Налівай, — уздыхнула тая.

— Вось калі б ты заўсёды была такая ўсмешлівая, добрая, як твая маці, — сказаў Лявон, — то хутка б табе і муж знайшоўся.

— Ой, ну што вы ўсё пра адно і тое ж! — зазвінеў галасок Анжэлы. — Прыедзе і да нашай паненкі яе паніч.

Яна ўсё завіхалася ля стала, падавала стравы, пакуль Лявон не папрасіў жонку сесці з імі. І тая паслухалася. Лявон абняў Анжэлу, цмокнуў у шчаку. Таццянка з раздражненнем глянула на іх, уздыхнула і сустрэлася вачыма з Паўлам. Ён заўважыў, як яна зрэагавала, і ўсё зразумеў. Пасля вячэры, калі яны выйшлі на двор, зрабіў дзяўчыне заўвагу:

— Навошта дагэтуль раўнуеш тату да мамы?

— Яна для мяне — Анжэла, — адказала Таццянка. — Такая ж палюбоўніца, як і ўсе астатнія таткавы палюбоўніцы, якія гадавалі мяне.

— Ніяк не можаш дараваць маці? — спытаў Павел. — І я такім быў. Ты ўжо, пэўна, ведаеш маю гісторыю?

— Ведаю.

— Бэці расказвала?

— Вы, як разам жылі, здавалася — былі вельмі шчаслівай парай, — нагадала Таццянка. — А потым я даведалася, што робіцца за сценамі вашага «замка». Ты жыў мроямі пра жонку-альпіністку. Я ўяўляю, якім было тваё расчараванне, калі ты знайшоў яе ў манастыры, і яна не захацела быць з табою.

Ён нічога не адказаў.

Бэці села за камп'ютар, зайшла ў Інтэрнэт і набрала «аўтаспорт».

«У гэтым годзе спаборніцтвы пройдуць на турыстычнай базе «Чароўны бераг». Шматразовы чэмпіён аўтаспорту Кевін Гурскі плануе прыняць удзел у спаборніцтвах. Як вядома, пасля аварыі на трэніроўках Кевін пакінуў спорт, аднак у гэтым годзе ён вяртаецца. Па неафіцыяльных звестках, жаніцьба Гурскага на Эвеліне, чароўнай дзяўчынай ягонай мары, адклалася з прычыны яго хваробы. Аднак сёння Кевін вяртаецца ў спорт. І фанатаў хвалюе не толькі яго перамога, але і той факт, ці вернецца ён да Эвеліны».

Бэці ўздыхнула. Кевін рыхтуецца да спаборніцтваў і, адначасова, да сустрэчы з Эвелінай. Няўжо гэта чароўная, летняя асалода пацалункаў Кевіна стале для Бэці агорклым успамінам?

Гарадскія аўтобусы на турбазу курсіравалі кожныя паўгадзіны. Спаборніцтвы пачыналіся ў дзевяць гадзін раніцы. Бэці спадзявалася пабачыць Эвеліну і дачку Кевіна. Калі Кевін утойвае ад яе сустрэчу з Эвелінай і дачкою, значыць, ён хоча зрабіць выбар. Ён жа казаў некалі: не гавары цяпер, што не кахаеш Паўла, а скажы потым, як пабачышся з ім.

Пэўна, такой тактыкі і прытрымліваецца Кевін у прадчуванні сустрэчы з Эвелінай. Бэці нервова ўздыхнула і пачала апранацца ў стылі фанатаў ралі: чорныя штроксы, крутая майка з наклейкамі і бейсболка. На плячы — спартыўная сумка, быццам прыехала здалёку.

Трыбуны гудзелі ў хваляванні. Спартсмены застылі на старце. І вось прагучала баявое «Марш!» Кевін вырваўся наперад. Побач з ім, у адрыве метры ў два, лідзіраваў Марк. Тое, што гэта Марк, Бэці зразумела па радасным скандзіраванні балельшчыкаў. Яна прыглядалася, хто ж будзе крычаць «Кевін!» Але яго імя не крычаў ніхто. Бэці старалася выхапіць позіркам дзяўчыну, якая магла быць Эвелінай. І калі яна тут, то павінна быць з дачушкай. І Бэці шукала поглядам дзяўчынку. Але іх тут было няшмат. Кожная з мам маленькіх дзяўчынак-балельшчыц магла быць Эвелінай. І кожная з «Эвелін» падабалася Бэці. Якая ж з іх — «дзяўчына яго мары», менавіта так было напісана ў Інтэрнэце пра Эвеліну.

У першым заездзе Кевін прыйшоў другім. Марк перамог. Але ўжо ў наступным яны памяняліся месцамі. Марк прыйшоў пасля Кевіна. Кевін — першым. Балельшчыкі хваляваліся. І тут на другой трыбуне, якраз насупраць Бэці, падхапілася з месца дзяўчына ў белых штанах і белай майцы. Яе доўгія валасы развівае вецер. Дзяўчына скакала на месцы, пляскала ў далоні і радасна крычала: «Кевін! Кевін! Любоў мая!» У Бэці зайшлося сэрца. Побач з дзяўчынай яна ўбачыла малую, гадоў дзесяці, дзяўчынку. У яе былі такія ж доўгія валасы, завязаныя ў два «хвосцікі», якія час ад часу гойдаліся, і дзяўчынка папраўляла іх.

Бэці захацелася плакаць, моцна, наўзрыд. Не, нават не плакаць, а крычаць, выйсці куды-небудзь у гушчар лесу і крычаць ад роспачы і бездапаможнасці. Але яна стрымалася. Набрала поўныя грудзі паветра і павольна выдыхнула. Так вучылі псіхолагі стрымліваць выхад буйных эмоцый. Вось зараз Бэці зробіць тры такія ўздыхі — і ўсё пройдзе. У рэшце рэшт, гэта не канец свету. Яна можа вярнуцца да Паўла. Ці сустрэне яшчэ каго-небудзь. У свеце ўсяго многа…

Гоншчыкі пачалі трэці заезд. А Бэці падумала, што Павел з Кевінам аднолькавыя: і той спартсмен, і гэты, і ў таго цяжкае мінулае, і ў гэтага, і ў аднаго першае каханне і дачка, і ў другога. Нічога не змянілася ў жыцці Бэці. І зноў яна «разбірае» чужыя лёсы, комплексы і праблемы. Праўда, Кевін, у адрозненне ад Паўла, нікому не помсціць. Ён проста даказвае сам сабе, што ўсё можа. Сабе і Эвеліне.

— Кевін Гурскі! Першае месца — Кевін Гурскі, чэмпіён…

«Цудоўна! Ён перамог!» — абрадвалася Бэці і ўскінула ўверх рукі разам з усімі балельшчыкамі.

Яна радавалася за перамогу Кевіна і забылася на свой боль. Кевін павярнуўся да іх трыбуны і памахаў рукою, затым — да трыбуны, з якой крычала яму ў захапленні дзяўчына ў белым: «Кевін! Я цябе кахаю!», а яе дачка: «Тата! Тата! Ура!»

Каб не псаваць ідылію чужога шчасця, Бэці хуценька падалася да выхаду. Яна спяшалася да аўтобуснага прыпынку, каб вярнуцца ў Расінку першым рэйсам. Успомніла, як год таму прыязджала на «Чароўны бераг» адпачываць і пазнаёмілася з адным хлопцам-філосафам. Ён належаў да маладзёжнай плыні, якая вывучае законы прыроды і космасу, і зрабіў выснову, што галоўная на зямлі — Маці-прырода, яна ж — багіня Макаш, таму і зямная жанчына таксама багіня. Гэта пацвярджалі казкі, якія ён чытаў: пра Васілісу Прамудрую, пра мудрую саву, пра мудрую дачку бедняка, якая абхітрыла пана, і пра іншых мудрых дзяўчат і кабет. Таму, згодна з яго перакананнямі, мужчына павінен услаўляць жанчыну і звяртацца да яе за парадамі. Менавіта жанчына можа прыняць мудрае рашэнне, а мужчына — спраўдзіць ідэю, ажыццявіць яе. Таму саюз мужчыны і жанчыны,

у сяброўскім узаемадзеянні, памножаны на каханне, дае чалавеку вялікую сілу.

Нашы продкі верылі ў дзейснасць касмічнага закона прыцягнення: «падобнае выклікае падобнае» і лічылі, што ўнутраны душэўны настрой у фізічным свеце ўвасабляецца ў тое, чым заняты думкі чалавека. Уяўляеш сябе шчаслівым — шчаслівым і станеш, бо шчасце прыходзіць да тых, хто яго прыцягвае.

Бэці з юнацтва стварала ў сваім сэрцы свет мужных мужчын. І яны прыходзілі да яе: Лявон, Павел, а цяпер вось — Кевін. Але чаму ж яна не ўмее ўтрымаць іх ля сябе?

Успомнілася былая сяброўка Дана. Калі «падобнае прыцягвае падобнае», значыць, Дану з Альжбэтай аб'ядноўвала адна рыса характару. Якая? Сяброўкі, здаецца, былі такімі рознымі. Дана ненавідзела моцных мужчын, бо не магла ўзвышацца над імі, не магла перамагчы, не магла даказаць, што яна — дасканалая жанчына. Камплексавала? Баялася? За гэта і ненавідзела? Але ж Бэці любіць моцных мужчын. Любіць таму, што хоча быць абароненай — за моцным мужчынам, як за каменнай сцяной. І яна за такой сцяной ужо жыла, калі была замужам за Паўлам. Значыць, яна шукала моцнага мужчыну толькі таму, што хацела быць абароненай? І гэтае жаданне вынікала з няўпэўненасці ў сабе. Бэці была слабай, не магла за сябе пастаяць у жыцці, і ёй здавалася, што калі побач акажацца моцны рыцар — яна адразу стане шчаслівай. Добры рыцар будзе вырашаць усе яе праблемы, і жыць яны будуць, як у казцы. Аднак рэальнасць аказалася іншай. Павел нагадваў рыцара толькі знешне. Нягледзячы на тое, што ён быў прыгожы, багаты і стыльны, яму самому патрэбна была псіхалагічная падтрымка ад смелай, моцнай духам і мудрай жанчыны. Нездарма ж, пазнаёміўшыся з Паўлам, цётка Геня сказала Альжбэце: «Не шукай стыльнага, а шукай сільнага». І адгаворвала яе ад гэтага шлюбу. Бэці не паслухала. Зрабіла па-свойму, насуперак Лявону, як потым аказалася: назло сабе.

Што ж змянілася з таго часу? Бэці пасталела, стала мудрай? Сёння яна ўпершыню звярталася да самой сябе. Недзе ў падсвядомасці шукала адказу на шматлікія жыццёвыя пытанні. Бэці ўспомніла сябе маленькай. Выклікаючы далёкі вобраз сонечнай дзяўчынкі, «адшукала» ў куточках памяці сябе, маленькую і разгубленую, і прашаптала: «Прабач, калі ласка, што не магла абараніць цябе, што хавалася за іншых, што давярала іншым, а самой сабе не давярала. Прабач мне за такую здараду, мая мілая, любімая дзяўчынка Бэці!»

Яна сама ў сябе прасіла прабачэння. У думках туліла да сябе маленькую дзяўчынку са свайго дзяцінства, гладзіла па шаўкавістых валасах. Ласкава ўсміхнулася ёй на развітанне, адпускаючы яе назад, у мінулае: «Люблю цябе і абяцаю: я абавязкова стану моцнай духам!»

Альжбэта верыла, што стане моцнай. І тады да яе, па законе падабенства, прыцягнецца моцны духам мужчына. Ён будзе не толькі моцны духам, але і каханы. А яшчэ — цікавы субяседнік і добры гаспадар. Яны адкрыюць агульную справу, напрыклад, у аграэкатурызме або ў адраджэнні народных рамёстваў, бо нішто так не аб'ядноўвае людзей, як адзінства духу і поглядаў на жыццё. Узаемаразуменне, духоўнае адзінства — гэта аснова шчаслівай сям'і.

Некалі дзяўчаты перад замужжам вышывалі двух галубкоў, а паміж імі — Дрэва Кахання. Сапраўднае каханне прыходзіць да чалавека тады, калі ён гатовы прыняць яго. Гэта падобна на збор ураджаю: чалавек, як і колас, павінен саспець.

Пакуль Бэці так разважала, на аўтобусны прыпынак пачалі збірацца людзі. Падышоў «Ікарус». Альжбэта села ля акна. Неўзабаве яна заўважыла машыну Кевіна. Ён ехаў у накірунку Расінкі. Нечакана падаў сігнал вадзіцелю. Той спыніўся, адчыніў дзверы, у аўтобус ўвайшоў радасны і ажыўлены Кевін.

— Ты што ўцякла ад мяне? — падышоў ён да Бэці. — Перасаджвайся ў маю машыну. Вяртаемся на турбазу, — шапнуў ён ёй на вуха, — на банкет пераможцаў.

— Віншую з перамогай! — пацалавала яго ў шчаку Бэці і заспяшалася да выхаду.

— Ты — сапраўдная багіня! — з замілаваннем пазіраў на яе Кевін, адкрываючы дзверцы сваёй машыны.

У машыне не стрымаўся, абняў Бэці, пачаў цалаваць. На вуснах Бэці — чароўны пацалунак. А Кевін — такі моцны, дужы і шчаслівы! У яе ўжо няма месца для пахмурных думак. Сёння яна — самая шчаслівая ў свеце! Яна побач са сваім каханым!

— А твой сённяшні прыкід — якраз да свята, — Кевін задаволена аглядваў яе майку з надпісам «Аўтаралі».

У банкетнай зале паціху збіраліся госці: пераможцы спаборніцтваў, прадстаўнікі спартыўнага свету, журналісты.

Кевін з Бэці ішлі да дзвярэй, калі да яго падбегла дзяўчынка, якую Бэці бачыла на трыбуне.

— Тата, мама хоча на банкет, — сказала яна.

— На банкеце толькі афіцыйныя асобы, — адказаў ёй Кевін і загадаў: — Вяртайся да мамы ў машыну і едзьце дадому.

Дзяўчынка ўздыхнула:

— Добра, мы паедзем, але потым ты прыедзеш да нас?

— Не, — адказаў Кевін. — У мяне шмат спраў.

Дзяўчынка развіталася і пайшла.

— Гэта мая дачка, — сказаў Кевін. — Яе мама, мая былая жонка, даўно замужам і я не хачу разбураць чужую сям'ю. Так склаліся абставіны, і ніхто ні ў чым не вінаваты.

Ён абняў Бэці, і яны пайшлі да гасцей. Кевіна пачалі вітаць, адусюль чуліся віншаванні.

— Кевін! Падзяліся, калі ласка, сакрэтам, — падышоў да іх адзін з журналістаў. — З вамі чароўная незнаёмка. Хто яна?

Кевін, з выглядам пераможцы, прамовіў:

— Мая жонка, прынцэса Альжбэта.

Потым усе селі за стол. Загучалі тосты ў гонар пераможцаў. Кевін адной рукой абдымаў Бэці. Сапраўды, іміджам сваім, выглядам яна нагадвала фанатку. А Кевін — закаханага ў яе пераможцу. Але самым галоўным на гэтым банкеце аказалася заява Кевіна. Падымаючы тост за гасцей, ён сказаў:

— Гэта было маё апошняе выступленне ў спаборніцтвах. Я хацеў даказаць сабе, што я магу. А зараз хачу падзякаваць усім, хто разам са мною радуецца маёй перамозе, і паведаміць аб некаторых зменах у маім жыцці. Я хачу стварыць сям'ю, і гэту перамогу я прысвячаю сваёй каханай.

Кевін узяў Бэці за руку і папрасіў яе падняцца. Разгубленая і ўстрывожаная Бэці, як успуджаная птушачка, усхапілася і стала побач з Кевінам. Ягоныя словы былі для яе нечаканасцю. Але яшчэ больш радасна здзівіла яе тое, што Кевін дастаў з пінжака цёмна-сіні аксамітны футаляр і, раскрываючы яго, сказаў:

— Гэта мой падарунак Альжбэце!

І ён надзеў пярсцёнак на яе руку. «Ну і Кевін! — падумала Бэці. — Як жа ён любіць шыкануць». Яны селі на свае месцы, і Кевін, абдымаючы Бэці, шапнуў ёй на вуха:

— Ты самая лепшая прынцэса ў свеце.

— А ты — сапраўдны рыцар, — адказала яму Бэці: — Не дарэмна твае бацькі захапляліся рыцарскімі раманамі.

— У нас з табою таксама — рыцарскі раман, — пацалаваў яе ў шчаку Кевін.

А Бэці вырашыла, што трэба давяраць мужчынам. Іншы раз яны здатны на такія цудоўныя сюрпрызы.

Напачатку верасня ажывала жыццё ў школе. Пачаліся заняткі, аднак самым цікавым было з'яўленне новага настаўніка: прыгожага, спартыўнага, пахмурна-сінявокага Паўла Стрыжэўскага. Вёсачка Расінка жыла сваім размераным, нетаропкім жыццём, і Павел яшчэ тут добра не асвойтаўся, не паспеў агледзець мясціны, пахадзіць па наваколлі: ля рэчкі, ля старога млына, у лесе. Ён прывыкаў да новай працы. Праводзіў час у спартзале ды за паперамі. Жыў ён у невялічкай хаціне, якую купіў тут за грошы, што засталіся ад яго ранейшага бізнесу. Засталася ў яго і машына. І сына свайго, Улада, ён забраў ад Бэці і перавёў у сёмы клас вясковай школы…

Павел павярнуўся на рып дзвярэй. У спартыўную залу ўвайшла дзяўчына. Яна была апранута ў джынсы і кароткую маечку. Павел не адразу пазнаў у ёй Таццянку.

— Прывітанне! — сказала яна, падыходзячы да яго. — А мне тут кажуць: новы фізрук, новы фізрук!.. Ну, думаю, пайду пагляджу, прозвішча такое знаёмае — Стрыжэўскі. Мусіць, носішся тут, як стрыж, за дзяўчатамі, га?

— А цябе які вецер прынёс?

— Спадарожны, — гарэзліва адказала дзяўчына. — Я працую тут, у клубе, — Таццянка падхапіла валейбольны мячык і кінула ў яго, аднак Павел злавіў мяч, прадухіліўшы ўдар.

— Ой, які ты спрытны! — пакпіла з яго Таццянка. — Сапраўдны спартсмен — мячык злавіў. Як цябе ў школу занесла? Ты што, настаўнік?

— У свой час я скончыў універсітэт фізічнай культуры, — адказаў Павел. — Потым займаўся прафесійным спортам, альпінізмам, затым пайшоў у бізнес. А цяпер вось вярнуўся да таго, з чаго пачынаў.

— А чаму менавіта ў Расінку прыехаў? Ты ж з таткам болей не сябруеш.

— Твой татка ў Злётным, а гэта — дванаццаць кіламетраў ад Расінкі. Ды ў мяне асаблівага жадання сустракацца з ім няма. Нам няма пра што гаварыць.

— Гэта таму, што ты ў яго Альжбэту адбіў?

— Не твая справа!

— Ды ты не крычы на мяне, настаўнік! Ведаю я: не мёд з табою жыццё было ў Альжбэты, бо баламут ты і адналюб. А адналюб нікому не люб! — зазначыла яна і пайшла са спартзалы.

Ён здзекліва кінуў ёй услед:

— Не мёд будзе і таму, хто з табою ажэніцца!

Дзяўчына павярнулася да яго і пакпіла:

Прыгожымі мы былі і засталіся,
І справа не ў формах нашых цел,
Хай плачуць усе, каму мы не дасталіся,
Хай здохне той, хто нас не захацеў!

— А ты — вар'ятка, — заўважыў Павел. — Ну і верш! Лухта лухтой!..

— Дзякую за камплімент, — усміхнулася яму Таццянка. — А пра цябе кажуць, што ты — першы хлопец на сяле. Якое раздолле! Столькі ўдоў, незамужніх, разводных і проста — старых дзевак.

— У тым ліку і ты, старая дзева! — падхапіў Павел.

— А вось і не ўгадаў! — не здавалася Таццянка. — Мне цыганка наваражыла, што я ў гэтым годзе замуж выйду. А ў мужа свайго закахаюся на вяселлі.

— Пэўна, ты так надакучыла бацькам, што яны выдадуць цябе замуж за першага стрэчнага, — хмыкнуў Павел.

— А я думаю інакш, — весела адказала Таццянка. — Ён у мяне спачатку закахаецца, а я ў яго — толькі на вяселлі. Мусіць, будзе прыгожа апрануты.

— Цыганка ўгадала! Ты ж хлопцаў толькі за знешнасць любіш, ды за багацце, каб да бацькавага іміджу падышоў.

— А ты цяпер зайздросціш багатым? — не здавалася дзяўчына.

— Спачатку навучыся паважаць мужчын і нармальна з імі размаўляць, — зазначыў Павел. — Можа тады хто-небудзь і возьме цябе замуж.

— Спусціўся з гор — мудрым стаў? — здзекліва мовіла Таццянка. — І якія горы табе скараліся?

— Ідзі ты лепш дадому, — адмахнуўся ён. — Надакучыла!

Пакрыўджаная словамі Паўла, Таццянка вярнулася ў клуб, узяла чысты аркуш, аловак і задумалася. Ён сказаў, што яна толькі за знешнасць любіць мужчын. А вось і не! Сёння, якраз на маладзіку, яна створыць у думках вобраз паўнавартаснага мужчыны, і ён абавязкова з'явіцца ў яе жыцці. Нездарма старыя людзі кажуць: «Што на маладзіку пачата, да поўні збудзецца». І дзяўчына акуратна вывела загаловак: *«Вобраз майго мужа»*. Затым унізе, у слупок, напісала: *«моцны духам, сяброўскі, цікавы субяседнік, вясёлы, мае пачуццё гумару, любіць свой род, народныя традыцыі, таму ў нас з ім агульныя захапленні, і мне заўсёды цікава з ім, ён мяне разумее, заўсёды падтрымлівае і можа аказаць сяброўскую дапамогу»*. Таццянка крышку падумала і вырашыла, што ідэальных людзей не бывае, таму падзяліла аркуш папалам, і з левага боку напісала адмоўныя рысы характару будучага мужа, бо ў сямейным жыцці вельмі трэба разумець адзін аднаго, прабачаць невялікія недахопы і саступаць адно аднаму, так вучыла яе маці. І тут Таццянка ўпершыню асэнсавала свае беспадстаўныя прыдзіркі да Анжэлкі. Можа, і праўду казаў Павел, што яе маці мудрая, і Таццянцы трэба вучыцца ў яе?

І дзяўчына пачала шукаць антонімы да добрых якасцей будучага мужа. Атрымаўся такі «накід»:

— сяброўскі, *але ганарысты і сябруе толькі з выбранымі людзьмі;*

— цікавы субяседнік, *але больш за ўсё любіць адзіноту, цішыню і камфорт;*

— вясёлы, мае пачуццё гумару, *але напышлівы;*

— любіць свой род, народныя традыцыі, *але не паважае бездухоўных людзей;*

— у нас з ім агульныя захапленні, мне заўсёды цікава з ім, *але ён не падпарадкоўваецца нікому і заўсёды хоча быць лідарам;*

— ён мяне разумее, *але ўпарты і на ўсё мае сваю думку;*

— ён заўсёды падтрымлівае мяне і можа аказаць сяброўскую дапамогу, *але не паважае людзей, якія жывуць без мэты ў жыцці.*

Больш дрэнных рысаў для вобраза будучага мужа Таццянка не прыдумала, а тыя, якія яна запісала ў ліку дрэнных, найбольш падыходзілі Паўлу. Такія якасці яна магла прабачыць будучаму мужу. Але, каб ён быў горшы за Паўла, яна не хацела. Горшыя за яго — гультаі ды тыя, што спазналі смак у гарэлцы, а такіх Таццянка на вагі жыцця не ставіла, іх сама прырода выбракоўвала.

Дзяўчына яшчэ раз перачытала напісанае, склала аркуш папалам і схавала яго ў сваю спецыяльную папку для дзявочых сакрэтаў. А потым яна ўспомніла яшчэ адзін спосаб, які даўней выкарыстоўвалі маладыя дзяўчаты, каб выйсці замуж. Дзяўчаты шылі лялькі: жаніха і нявесту.

Магічныя лялькі набіваліся кветкамі, якія ўвасаблялі каханне. Гэта былі пялёсткі ружаў, мята, рамонак, сушаныя плады рабіны. Імі набіваліся лялькі жаночага тыпу. Лялькі мужчынскага тыпу набіваліся травамі, якія адпавядаюць мужчынскаму характару. А гэта — лісты дуба, жалуды, кветкі канюшышы.

Таццянка вырашыла зрабіць ляльку-нявесту і ляльку-жаніха, а гэта значыць, сябе і будучага мужа.

І дзяўчына прынялася за працу. Ляльку, якая ўвасабляла б яе саму, Таццянка зрабіла хутка, падабрала прыгожую сукенку, а жаніха апранула ў штаны з каштоўнай тканіны і такі ж — пінжак. Дзяўчына хацела, каб муж у яе быў дзелавы мужчына. Пінжак атрымаўся прыгожы, стыльны, адно што гузікі аказаліся неаднолькавыя. Але на гэта Таццянка не звярнула ўвагі. Яна хуценька схавала лялькі ў каробку і ў радасным настоі заспявала вясёлую песню. Яна была ўпэўнена, што за час ад маладзіка да поўні сустрэне сваё шчасце.

Паціху ў клуб пачала збірацца моладзь. Па суботах заўсёды былі танцы. І Таццянка прадчувала, што менавіта сёння яе запросіць на танец будучы муж. Загучала музыка. Хлопцы пачалі запрашаць дзяўчат. Таццянка чакала свайго. Сёння на танцах дзяжурылі настаўнікі, у тым ліку і Павел. Ён стаяў ля ўваходных дзвярэй у прыгожым мужчынскім гарнітуры, які застаўся з часоў яго заможнага жыцця. Павел не зводзіў вачэй з Таццянкі. Потым падышоў да яе.

— Можна вас? — галантна падаў ён ёй руку. — Ці вы на працы не танцуеце?

— На працы — не, — адказала яна.

— А калі б гэта быў не я, а іншы?

Таццянка стрымана прамаўчала.

— Тады сёння я правяду цябе дадому. Хачу папрасіць прабачэння за нашу размову ў спартзале. Я падумаў: мы можам стаць сябрамі. Гэта вельмі важна, калі паміж людзьмі ёсць злучная нітка, агульныя інтарэсы…

— Я не альпіністка, — зазначыла Таццянка.

— Ну, чаму менавіта альпіністка? Я займаюся выхаваннем моладзі, і ты — таксама. І задачы ў нас аднолькавыя: патрыятычнае выхаванне, здаровы лад жыцця, этнаграфія і фальклор.

— Ідзі да сваіх настаўніц і з імі пра гэта размаўляй, — буркнула на яго Таццянка.

— О! Дык ты ўжо й раўнуеш? — нібы здзівіўся Павел. — А гэта — першая прыкмета кахання.

Таццянка са злосцю схапіла яго за крысо пінжака і адпіхнула ад сябе. І ў гэты момант яна заўважыла, што ў яго на пінжаку неаднолькавыя гузікі.

— У цябе гэта што: модны прыкід, ці адсутнасць жонкі? — казытнула яго дзяўчына. — Гузікі на пінжаку — неаднолькавыя.

— Якая ты ўважлівая, — засмяяўся ён. — Бадай, сама ў жонкі набіваешся. Так мяне адкінула, што ўсе пачалі азірацца на нас. Хутка скажуць, што ты замуж за мяне збіраешся, сцэну рэўнасці наладзіла. Глядзіш, і ўсе твае тайныя прыхільнікі заварушацца: навыперадкі пабягуць да Лявона Прыходзькі прасіць тваёй рукі. А можа, яны яго баяцца? Таму ты і адна дагэтуль.

— Затое ты ў нас самы смелы. Нявесту ў яго адбіў, хутка і дачку забярэш. Не такія вяршыні скараў, праўда? І заўсёды любіш быць пераможцам. Адно цябе хвалюе, што я табе не патураю, як іншыя бабы, што сцелюцца ля цябе, улагоджваюць.

— Як ты трапна падмеціла мой характар і дала мне такую высокую адзнаку! — зазначыў Павел. — Дзякуй! Аднак, у жонкі ты мне не падыходзіш — з мужчынамі размаўляць ты не ўмееш.

— Гэта я не ўмею? А давай паглядзім. Ты мяне сёння дахаты правесці збіраўся, то і праводзь. А я пагляджу, як ты ўмееш весці з дзяўчатамі інтэлігентныя размовы. Не зможаш — з цябе скрынка шакаладак.

У той вечар Павел правёў Таццянку дадому. А назаўтра прывёз ёй на працу скрынку шакаладак. Таццянка з ахвотай падзялілася шакаладам са сваімі дзецьмі-гурткоўцамі.

Лявон заключыў удалую здзелку з фермерам Дзянісам Корзунам, гаспадарка якога знаходзілася каля Налібоцкай пушчы. Цяпер свежая садавіна і агародніна будзе кожны дзень на стале турыстаў, што наведаюць Лявонаву сядзібу. І дагэтуль яна называлася «Венерын чаравічак» — назву некалі прыдумала Альжбэта. Цяпер ён можа быць спакойны — жыццё Бэці ўладкавалася. Яна шчаслiва жыве з блізкім яе сэрцу чалавекам, з Кевінам, у Нясвіжы. Адно баліць душа за дачку. Таццянцы час замуж ісці і мамай станавіцца — дваццаць сем гадоў дзяўчыне. Пра гэта і дбаў Лявон, мяркуючы аддаць дачку за фермеравага сына. Адась Корзун быў слаўны хлопец, працавіты, негаваркі, ён мог бы стаць для Таццяны добрым мужам. І Лявон запрасіў хлопца наведаць сядзібу. Таццянка з нецярпеннем чакала знаёмства з ім.

Павел выключыў лямпачку ў спальні, каб не перашкаджала сыну спаць. Сам жа пайшоў на кухню і пры святле начной лямпы пачаў працаваць над рабочым планам. Хацеў выключыць гук на мабільніку, але тут пазваніла Таццянка. Ведаючы, што да яе днямі павінен прыехаць жаніх, Павел пацікавіўся:

— Ну што, сасваталі?

— Не, — адказала яна і папрасіла: — Прыедзь, калі ласка, на сядзібу.

— Навошта я там? Для параўнання, ці што?

— Я адмовіла свайму жаніху, — прашаптала Таццянка. — Калі ласка, прыедзь! Тата злуецца.

— Нешта не прыпомню, каб я быў у штаце тваёй аховы, — сказаў Павел, аднак вырашыў ехаць.

У холе сядзібы «Венерын чаравічак», на канапе ля каміна, сядзела, падціснуўшы пад сябе ногі, Таццянка. Побач з ею — Анжэла, суцяшала дачку. Лявон сустрэў Паўла строгім позіркам, стаяў ля каміна і моўчкі пазіраў на госця.

— Усім прывітанне, — сказаў Павел.

— Прывітанне! — усхапілася насустрач яму Анжэла. — Я зараз чаю падам.

І заспяшалася да дзвярэй на кухню.

— Сядай, — кінуў Паўлу Лявон Прыходзька.

— А ты чаго стаіш?

— І я сяду.

Мужчыны селі ў мяккія крэслы насупраць адзін аднаго.

— Зараз ты забіраеш гэтую артыстку, — кіўнуў Лявон у бок дачкі, — і вязеш яе куды хочаш.

— У якім сэнсе? — не зразумеў Павел.

— У прамым! — раззлавана кінуў Лявон. — Ты ў сябе ў хаце міні-паркінг стварыў? Яна ў цябе там абедае, начуе…

— Калі такое было? — абурыўся Павел. — Яна нават да мяне ў хату не заходзіла. Я адзін сына выхоўваю, і мяне жанчыны не наведваюць!

— А чаму ж тады пра вас з маёй дачкою ўсе гавораць? Чаму з-за гэтых размоў я сёння выгаднага жаніха для Таццяны пазбавіўся?

— Для сябе жаніха прыдбаў, для сябе і пазбавіўся!

— А ты, значыць, для сябе плёткі пра маю дачку распусціў?

— Які ты здагадлівы! — абурыўся з яго Павел.

Анжэла паставіла перад імі чай і пачала супакойваць мужчын.

— Ну, а што тут такога? — сказала яна. — Павел — выдатны чалавек, добры настаўнік, добры бацька. Бач, сына да сябе забраў, хоць і не бізнесмен ужо…

— Але хоча вярнуцца ў бізнес — праз пасаг маёй дачкі! — сказаў Лявон.

Аднак Павел нічога на гэта не адказаў, падняўся з крэсла і скіраваў да дзвярэй, кінуўшы на хаду:

— Мне чужога не трэба!

Таццянка прачнулася рана. Яе разбудзіла сонейка. Світанак быў чысты, казачны. Сярод зялёнай лістоты ярка-аранжавым полымем адлівалі першыя восеньскія фарбы. І Таццянка падумала, што цяпер самы раз збегаць у сад па яблыкі, набраць іх і прывезці ў клуб, на працу, бо сёння была нядзеля і да яе павінны прыйсці дзеці на заняткі фальклорнага гурта. Дзяўчына апранула джынсы і світар і спусцілася ў хол. Бацькі яшчэ спалі, а турысты на гэтыя выхадныя, пакуль што, не прыехалі. Таццянцы хацелася хутчэй вярнуцца ў Расінку. І яна заспяшалася да аўтобуснага прыпынку.

А вось і клуб. Але чаму так рана прыпаркавалася тут цёмна-сіняя іншамарка Паўла, запацелая за ноч ад туману, што слаўся з рэчкі? Яна падышла да машыны і напісала пальцам па шкле: «Прывітанне, Павел!»

— Прывітанне! — пачула ягоны голас і азірнулася.

— Ты чаму так рана? — спытала ў яго.

— На гурток прыйшоў запісацца, — адказаў Павел.

— Хіба што на тэатральны — жартаўнік ты добры!

— Лепш жартаваць, чым жаніцца па разліку!

— А хто цябе ў чым абвінавачвае?

— Я не пра тое, — сказаў Павел. — Дапамагчы табе хачу. Я гатовы ехаць да таго хлопца і сказаць яму, што паміж мной і табою нічога не было. Назаві яго прозвішча і адрас.

— Не трэба, Павел! — рашуча сказала Таццянка. — Кавалер, які плёткі збірае, не варты мяне!

— Доўга ж ты вартага шукаеш!

— А што там шукаць? Хто сёння першы ў клуб зойдзе — за таго й пайду! — гарэзліва мовіла Таццянка.

— Ну, тады — адчыняй! — заўсміхаўся Павел.

Яны зайшлі ў клуб, і Павел прысеў да стала, пачаў праглядваць учарашнія газеты. Тым часам, гледзячы на яго, цяпер такога спакойнага і засяроджана-ўважлівага, Таццянка пачала разважаць аб тым, чаму ён такі агрэсіўны. Успомніла з кніг: звер становіцца асабліва агрэсіўны, калі паранены. Ён, каб выжыць, кідаецца і змятае ўсё на сваім шляху. Магчыма, за сваёй агрэсіўнасцю Павел хоча схаваць сваю слабасць і боль. Таму ён так і паводзіць сябе з іншымі. А як іншыя адказвалі на яго агрэсію? Змагаліся ці падпарадкоўваліся ягонай сіле, адкрываючы яму сваю слабасць?

Альжбэта падпарадкоўвалася, і ён раструшчыў яе, пасварыўся з бацькамі і сябрамі. Выходзіць, ён праяўляў агрэсію да тых, хто яго любіў? Чаму ж ён не адказваў на любоў любоўю? Не ўмеў любіць або помсціў за тое, што не прымалі яго любоў? Магчыма, Бэці не любіла яго, і ён падсвядома адчуваў гэта і стараўся ўтрымаць яе сілай. А ягоныя бацькі любілі яго не так, як ён хацеў, а любоўю эгаістаў. Яны стараліся падпарадкаваць яго першую сям'ю сабе, хацелі, каб яны ставіліся да жыцця так, як яны, імкнуліся кантраляваць кожны крок маладых.

Павел жыў у свеце крывога люстэрка сваёй параненай падсвядомасці. Магчыма, ён ужо тады адчуваў, што першая жонка здрадзіла яму, што яна не загінула, а проста ўцякла ад яго. Да яго даходзілі чуткі, што яна ў манастыры, схавалася там ад яго і ад дзіцяці, ад прозы сямейнага жыцця, ад жыццёвых клопатаў, схавалася ад рэальнасці ў свет нейкіх фантазій. І гэта злавала Паўла. Ён жыў, як воўк-адзіночка, паранены воўк, выкідваючы свой боль і агрэсію ў наваколле. І Таццянка падумала: а чаму ж тады да яе Павел не ставіцца агрэсіўна? І ўспомніла адзін даўні выпадак, пра які расказвала вясковая бабуля. Трое дзяцей, дзве дзяўчынкі-падлеткі пайшлі гуляць у лес, узяўшы з сабою меншага брацікa. Ім сустрэўся воўк. Маленькі хлопчык стаяў у сярэдзіне, а сёстры моцна трымалі яго за ручкі. Воўк пазіраў на дзяцей і не кранаўся з месца. І толькі тады, калі хлопчык заплакаў, воўк выхапіў яго — не па законе меншасці, а па законе страху. Хлопчык спужаўся ваўка. Значыць, воўк нападае на таго, хто гатовы ўспрыняць яго агрэсію, і хто баіцца яго. І Таццянка прыгадала іншы выпадак. Адна жанчына пайшла ў лес у ягады. Збірала, збірала, а потым — глядзь — стаіць перад ёю вялікі сабака, на аўчарку падобны. Жанчына, ведаючы, што аўчарка — сабака разумны, пачала з ім размаўляць, а сама далей ягады збірае. Агледзелася, а сабакі і след прастыў. Толькі тады жанчына зразумела, што гэта быў воўк. Выходзіць, што воўк успрымае чалавека на ўзроўні падсвядомасці, люстранымі вобразамі, малюнкамі. У падсвядомасці жанчыны не было адлюстравана, што звер, якога яна сустрэла — агрэсіўны.

— Што ты так на мяне пазіраеш, як быццам свет табе адкрыўся? — усміхнуўся Павел, адклаўшы ў бок газету.

— Я ўспомніла, што некалі, калі яшчэ вучылася ў школе, ты ўпершыню прыехаў да нас, — адказала Таццянка. — Тады ты мне падаўся добрым чалавекам. А потым аказалася, што ты ганарысты, напышлівы і агрэсіўны. Псіхолагі кажуць, што першае ўражанне самае правільнае, бо чалавек успрымае іншага на ўзроўні падсвядомасці і адчувае яго сапраўдны характар.

— І якім табе падаўся мой сапраўдны характар?

— Я не магу гэта растлумачыць, я гэта адчуваю. І тое, што я адчуваю, немагчыма выказаць словамі, бо я не магу іх падабраць. Там іншая рэчаіснасць. Гэта ўзровень тонкага свету, дзе жывуць нашы эмоцыі і пачуцці. І ў

тым свеце ты іншы, сапраўдны, а не той, за якога ты сябе выдаеш, спрабуючы абараніцца ад агрэсіўнага асяроддзя, людзей і абставін, і сам праяўляеш агрэсію да іншых.

Павел пазіраў на Таццянку цёмна-сінімі вачыма, і яны нагадвалі ёй колер возера, што адлюстроўвае пахмурнае неба. Але Таццянка ведала, што неба не заўсёды можа быць пахмурным, што прыйдзе сонечны дзень і тады возера засвеціцца ласкавымі, цёплымі промнямі.

— Дзіўная ты, Таццянка, — задумліва сказаў Павел. — Магчыма, ты дагэтуль не выйшла замуж таму, што не знайшоўся чалавек, які цябе зразумее. Узнёслая ты і незвычайная. Для мяне і сапраўды, ты сёння — адкрыццё. А я думаў, ты пустая і распешчаная дзяўчынка, дачка багатага бацькі, якая не ведае, чаго хоча ў жыцці. Калі ты так разгадала мяне, то што можаш сказаць у адносінах да Лявона? Чаму ён так успрымае мяне і так настроены супраць? Чаму не хоча ўспомніць, як мы раней сябравалі? Я памятаю яго дабрыню, памятаю, як ён дапамог мне. Няўжо да нас з ім больш ніколі не вернецца тое, што было?

— Не ведаю, Павел, — адказала дзяўчына. — Усе адказы на нашы пытанні знаходзяцца ўнутры нас, у нашых думках. Звярніся да самога сябе і знойдзеш выйсце. Я чытала цудоўную кнігу пра Храм душы. Пабудуй і ты ў сваёй душы Храм і будзеш туды хадзіць маліцца, бо ніхто так не зробіць дрэнна чалавеку, як ён сам сабе, і душу чалавека не вылечыць ніхто, акрамя як ён сам сябе — святлом душы сваёй.

— Ты кажаш праўду, — сказаў Павел. — Мабыць, сапраўды ўсё залежыць ад самога чалавека.

Ён узняўся з-за стала, падышоў да дзяўчыны і пацалаваў яе.

У канцы верасня Павел з сынам і вучнямі, а Таццянка з гурткоўцамі прынялі ўдзел у сусветным Бегу Сяброўства. А да зімовых халадоў Таццянка паспела перабрацца ў хату да свайго будучага мужа. Нягледзячы ні на што, Лявону з Анжэлай нічога не заставалася, як прыняць Паўла за зяця.

S



Яўген ХВАЛЕЙ

# «ПАКУЛЬ СЭРЦА ЖАЎРАМ СПЯВАЕ...»

## ХРОНАС-НЁМАН

***Хронас — з грэчаскай — рака часу.***
***Так называлі Нёман у старажытнасці.***

Прыйду на берагі твае крутыя,
Дубоў тут караніцца род
І хвалі срэбна-залатыя
Калышуць памяць, як чарот.

Рака мая, праз дні мае віротныя
Бяжыш — твой разумею спех...
Ды недзе там, за выдмай, паваротам,
Прыпыніш, як і я, на хвілю бег.

Нам ёсць над чым падумаць...
Бо стагоддзі
Плылі табою, як варагі ў грэкі.
Легенды і быліны у народзе
Жывуць часцей там,
Дзе крынічаць рэкі...

---

***Хвалей Яўген Іванавіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы імя Якуба Коласа (1965) працаваў будаўнікам, у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень». Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсіэта імя У. І. Леніна (1971). Працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтвах «Народная асвета», «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», у часопісах «Крыніца», «Родная прырода», у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Ярына» (1979), «Прычасце» (1983), «Зялёны прамень аеру» (1987), «Квадры памяці» (1992), «Прыстань віцінаў» (1996), «Дзе хвалі срэбна-залатыя» (2009), вершаваных казак для дзяцей і аповесцей для юнацтва.*

## КАРАЛІНА

Караліна, Караліна —
Дзе грыбы растуць, маліна...
Бегаў я тут басаногі —
Помняць сцежкі і дарогі.

Караліна, Караліна,
Бы каханая дзяўчына,
Сінім водсветам зарніцы
Ты душу мне апаліла.

Караліна, Караліна,
Як руку, сваю галіну
Мне працягне над крыніцай
І бяроза, і яліна.

Караліна, Караліна —
Ці жанчына, ці каліна
Перайшла уброд праз Нёман,
Што вачам маім аж цёмна.

Караліна, Караліна —
Вочы любай — азярыны.
І лугі тут, і дубровы,
І рагоз тут чарнабровы.

Караліна, Караліна —
У Альбуць вядзе сцяжына,
Божай міласці мясціну,
Дзе Пясняр свой след пакінуў.

Караліна, Караліна,
Продкі тут мае, радзіна.
Дзе б ні жыў я,
Дзе б ні быў я —
Ты чакай мяне,
Як сына.

## ДАРОГА НА СТОЎБЦЫ

Ля гэтай дарогі ўдых мой быў першы —
На хутары ў хаце Котры-бабулі.
Еду цяпер па шашы,
Іду пешшу —
Няма больш бабулі,
Няма і матулі...
Няма тае хаты,
Нямашака саду,
Толькі жыта хіснецца прыбой,
Толькі сум-жаль ялінак-прысадаў,
На іголках зялёных — мой боль.

Забяру, панясу яго ў сэрцы —
Хай жывічнаю кропляй дрыжыць...
Я з сабою змог тут сустрэцца,
Нібы з маці ў маленстве
На роснай мяжы.

## КАШТАН І ЧАРОМХА

Каштан пасадзіў я,
А маці — чаромху
Ля хаты бацькоўскай,
Ля вуліцы, плота.
Вясною убор іх зіхоткі, чароўны,
Узімку не страшны мароз ім і слота.

Ім доўга стаяць...
Кроў наша застыне,
І нехта падкажа:
— Чаромха — то ж маці...
У ім жа пазнаюць мяне, яе сына, —
Каштаны будуць вам усміхацца...

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА ЗІМОЙ

***Казіміру КАМЕЙШУ***

Белая вежа...
Пружаны, Ружаны.
І Камянец — думнай пушчы вянец —
Снежнаю казкаю зачараваны,
Як налібоцкі мой Івянец.

Мецяць у неба срэбныя сосны —
Вечнасці постаці ў пушчы самой.
Дубу-асілку пад веяй і сонцам,
Бы волату-зубру,
Не страшна зімой.

Пушча, як пухам, абсыпана снегам...
Сэрца імкнецца ў слаўны куток
Не па сумётах — воблаках, небе —
З бору за Нёмнам,
З-пад Налібок.

* * *

Вось толькі срэбныя пасмы завей
Мяне ў палях спавівалі,
З-пад майскіх светлых загадкавых вей
Вяснянкі мяне выглядалі.

Вось толькі рубінамі лета мяне —
Кветкамі руж, півонь — абдарыла.
І восень золата, быццам у сне, —
Лістоту мне сцерушыла.

Вось толькі...
І зноў у срэбры зіма
Чарговы круг жыцця вывярае...
— Дакуль? — пытаю.
Адказу няма.
Жыві, пакуль сэрца жаўрам спявае...

* * *

Дзень вясновага раўнадзенства...
Не зімы, а вясны —
Яе дзейства.
Не шкада мне зусім ледзяша...
Адтае, як зямля, душа,
І пачуцці бягуць раўчукамі
Да цябе,
Да мяне —
Іх з табой мы зіму ўсю чакалі...

* * *

*А.*

Ах, як зваў салавей салаўіху,
А яна яму адгукалася ціха...
Здэцца, скрыпкі, флейты запелі —
Такія былі салаўіныя трэлі.
Паслухаць спынілася рэчка Уша —
Спявала прыроды самой душа.

* * *

Як палымнеюць —
Бог Усявышні! —
Белыя вішні,
Белыя вішні...

Быццам душа мая
Ў срэбры пялёсткаў...
Дзякую я
Светламу лёсу,

Што мы з табой
Стаім у зацішшы,
Дзе нас вянчаюць
Белыя вішні...

Белыя вішні...

### ЛІПЕНЬ

Паплыў водар,
Паплыў водар,
Паплыў водар па-над дварамі...
Пахнуць ліпы,
Пахнуць ліпы
Пахнуць ліпы тваімі губамі...

## ВЕРШЫ З МІЖЗЕМНАМОР'Я

### ЛАСТАЎКІ НАД БАРСЕЛОНАЙ

Квітнее май...
Яны над Барселонай
Выпісваюць у небе віражы.
А я стаю, гляджу на іх з балкона —
Балюча стала раптам у душы.

Падумаў я ў няблізкім гэтым свеце:
То ж ластаўкі рыхтуюцца дамоў —
Туды, адкуль закінуў мяне вецер:
У родны кут шпакоў, сініц, буслоў...

Іх толькі не хапае там, ля Сожа,
Ля прыпяцкіх, дняпроўскіх берагоў.
І салаўю самотна недзе, можа,
Без ластаўкі ля Нёмана майго...

### ПРАЗ ДАЛЕЧ

Вуліца Грасіас —
Вуліца-грацыя
З радамі магнолій і алеандраў.
Іду я па ёй,
А ў сэрцы — акацыя,
Што зацвіла каля Нёмана ранкам...

### ПІРЭНЕЙСКІЯ ГОРЫ

Быў я ў многіх гарах,
А такіх я не бачыў:
Тут парыўна цалуюцца неба з зямлёй,
І на макаўцы снег
Не халодны — гарачы.
І рачулка збягае грымучай змяёй.
У сярэбраных хвалях
Стронга свеціцца сонцам,
Нібы ў Іслачы роднай,
Празрыстай, як шкло.

Што бусліныя гнёзды —
Кроны круглыя соснаў.
Быццам нашы,
Бярозы праменяць святло.
Зацвітаюць шыпшына,
Бружмель і званочкі…
І кальнула ў сэрцы,
Зазвінела ў душы.
І здалося, я — дома,
Там, дзе Нёмана норты,
А не тут,
Ля іспанска-французскай мяжы.

## ФЛАМЕНКА

Ружа ў валасах.
Агонь-сукенка.
І сама яна — агонь...
Бачу танец я — *фламенка*,
Што скарае і багоў.

Стук абцасаў — кастаньеты,
Стан — як гнуткая змяя.
Першы раз на гэтым свеце
Не баюся джала я...

* * *

Не спіцца...
Стаю адзін на балконе —
Дзве зоркі на небе
Над Барселонай.

Здаецца мне,
Вочы твае гэта,
Мама,
Глядзяць на мяне...
І я — гэтаксама.

Вышэй яны,
Зоркі,
За пальмы, платаны...
А можа, гэта —
Вочы каханай,

Той, што недзе
Так доўга чакае?
А я ўсё не еду
З далёкага краю...



Мікола АДАМ

# ВЕЧНАЯ ДРАМА

Апавяданне

Радыё голасам нейкай спявачкі запрашала ў «маленькую краіну», калі ў пакой увайшла Карына. Звычайны пакой звычайнага інтэрната з трыма ложкамі, засланымі баваўнянымі рознакаляровымі ў кубікі коўдрамі, з трыма рознымі мяккімі цацкамі ля падушак (сабачка, кошачка і тыграня), з адным на ўсіх сталом і кніжнай паліцай, на якой, замест кніг — пукаты доўгі магнітафон з касетамі побач. Кнігі былі абы-як паскіданы на шырокім падаконні, як рэчы не вельмі артыстычныя, і захінуты фіранкамі.

У пакоі нікога не было. Карыніны сяброўкі, відаць, яшчэ не вярнуліся з заняткаў і сядзелі ў чыталцы, так што дзяўчыне лішнюю гадзінку можна адпачыць.

Карына скінула футра на Светчын ложак (да вешалкі ўжо не ставала сілаў дайсці, стамілася, а Светка не пакрыўдзіцца), сцягнула нагой аб нагу высокія батфорты, што грукнуліся аб падлогу з сухім гукам, села па-турэцку на ложак, узяла люстэрка.

Яна лічыла сябе прыгожай, і нават вельмі. Пра тое, што яна прыгожая, спачатку ёй казала маці, потым, з ціхай зайздрасцю, сяброўкі, а затым і хлопцы, якія нават біліся з-за яе. А што? Так і трэба.

Карына ўсміхнулася сама сабе, аблізнуўшы вусны кончыкам языка, як кацяня, адкінула люстэрка ўбок і выключыла радыё. Лепш проста паслухаць добрую музыку на касеце. Напрыклад, «Сплін».

Вакаліст распавядаў пра дзяўчыну, што ўвесь час жуе «Орбіт» без цукру. Пад яго аповед Карына таксама жавала ці, дакладней, грызла сушкі, якія купіла па дарозе ў інтэрнат.

Сушкі хутка надакучылі, як надакучыў і «Сплін», але магнітафон Карына не выключала, сушкі ж паклала на стол. З-пад падушкі яна выцягнула раман Набокава, адкрыла першую старонку з малюнкам, перагарнула колькі лістоў, пачала чытаць, але не чыталася.

---

*__Адам Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Да 1992 года жыў у горадзе Шахцінск Карагандзінскай вобласці (Казахстан). У 1995 годзе скончыў Мікалаеўшчынскую СШ імя Якуба Коласа. Вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. Скончыў аддзяленне кінадраматургіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (2005). Працаваў акцёрам, рэжысёрам.*

*Выдаў зборнік вершаў «Калыханка для каханай». (2001).*

Карына ўспаміналa Яго. Таго, каму яна, як апошняя дурніца, размазваючы слёзы па твары, прызналася ў каханні. Пра такіх, як ён, зараз гавораць словамі з адной песні: «сентыментальны, але з нахабным позіркам».

У дзверы нехта пастукаў.

— Заходзьце, — азвалася Карына, пацішыўшы гук магнітафона.

Дзверы сарамліва прачыніліся і ў невялікім праёме паказалася бялявая нячэсаная галава Янкі Паскевіча, аднакурсніка.

— Карына, можа ў цябе хлеба кавалачак ёсць? — папрасіў Янка. — У краму ісці не вельмі хочацца дый «чурбан» раскалваецца.

— Перапіў? — спыталася Карына. — Ды ты заходзь, — запрасіла яна яго. Калі ж хлопец нясмела зайшоў у пакой, зачыніўшы дзверы, прапанавала: — Ты кавы не хочаш з сушкамі?..

— Не ведаю, — пацiснуў плячыма Янка. Ён прысеў на край ложка, насупраць Карыны. Быў ён нейкі няўклюдны. Хоць і вымахаў пад столь, заўсёды, калі размаўляў, чырванеў, як дзяўчына, затое ў яго было добрае сэрца паэта і блакітныя-блакітныя вочы, пад колер яе халаціка, у якім Карына любіла прагуляцца па паверсе ўвечары. Тады яна з задавальненнем слухала прыемныя заўвагі хлопцаў наконт сваёй фігуры. Зараз гэты халат спакойна вісеў у шафе, каб нікога не спакушаць.

— Што значыць, не ведаю? — узнялася з ложка Карына. — Мужык ты ці не мужык?

Яна наліла вады ў літровы слоік, уключыла кіпяцільнік.

— Кавы можна, — нясмела вымавіў Янка, чырванеючы, як памідор. Ён сунуў рукі ў кішэню, не ведаючы, куды іх падзець.

— Ну во, — сказала Карына, — а то мямліш нешта. Як жывеш, расказвай.

— А… нармальна, — адказаў Янка.

— Што значыць нармальна? — не змаўкала Карына. — Хіба гэта адказ? Пра дзяўчыну б сваю расказаў… Колькі мы ўжо разам вучымся, а так нічога і не ведаем пра цябе. Я нават і не знала б, што ты паэт, калі б выпадкова не разгарнула часопіс «Маладосць» у бібліятэцы… Ці ў цябе няма дзяўчыны? — прымружыла хітра вочкі. А вочкі ў яе былі прыгожыя: вялікія, крыху раскосыя, як у індыйскіх акцёрак, і чорныя, як гушча з кавы.

— Якая дзяўчына… — засаромеўся Янка. — Не да іх мне зараз…

— Гэта чаму ж?

— Не веру я ў каханне. Няма яго.

— Як гэта няма!? — здзівілася Карына. — Ты кніжкі чытаеш? Фільмы глядзіш? Ты ж сам пішаш…

— Ілюзія гэта ўсё, прыдуманая хворым розумам на паперы ці на кінастужцы.

— Гаворыш ты нешта… абы-што, — перапыніла Янку Карына.

Закіпела вада. Карына дастала з тумбачкі дзве шклянкі, насыпала ў іх кавы, наліла вады.

— Табе колькі цукру? — спыталася.

— Нікольki, — адказаў Янка. — Я так прывык.

— Ды не саромся.

— Я — сур’ёзна.

— Як хочаш.

Янка трымаў шклянку аберуч, піў маленькімі хуткімі глыткамі, апякаючы губы і язык, ажно слёзы выступілі на вачах. Карына, нібы забыўшыся на

госця, — павольнымі глыткамі, быццам смакуючы высакаякаснае віно, папівала каву, гледзячы ў… нікуды. Яна глядзела ў акно, але не бачыла, што за ім. Нейкі роздум ахапіў дзяўчыну, на некаторы час захінуўшы яе зрок вобразамі з мінулага. Можа, Янка і меў рацыю? Але… чым растлумачыць тады шалёнае імкненне Карыны да Тараса, які абсалютна спакойна, халодна і абыякава кінуў ёй адну толькі неахайную фразу, якая зглуміла ўсё?

— Добра, Карына, я пайду, — абудзіў яе ад думак Янка. — Дзякуй, — хлопец памкнуўся да дзвярэй, але Карына спыніла яго:

— Пачакай, ты ж хлеба хацеў!

Карына паставіла шклянку на стол, дастала хлеб. Не шкадуючы, адрэзала тоўстую лусту і працягнула хлопцу. Янка падзякаваў і крадком выслізнуў з пакоя.

…Сонца выкацілася з-за хмар, навокал стала светла, нібы і не было снежнай каламуці.

Вецер стомлена ўздыхнуў.

Сняжынкі паволі, нібы маленькія парашуцікі, апускаліся з неба на зямлю дружным карагодам.

А ў суседнім пакоі феміністка Зойка з кампаніяй каляжанак «лавіла кайф» пад воплі «Нірваны».

…Карына зноў узяла люстэрка, каб нечым заняцца. Але праз некалькі хвілін адкінула яго ад сябе, нібы гадзюку, гідліва абціраючы пальцы аб джынсы. Люстэрка стукнулася аб дзверы і рассыпалася.

…Тая зіма выдалася надзіва цёплая.

Тая зіма і пазнаёміла іх.

Гэта адбылося не ў Мінску, дзе ён тады вучыўся на рэжысёра, а там, дзе яна заканчвала школу. У яе былі доўгія хвалістыя валасы пад колер скуры (матава-спешчанай) у той час, калі ўсе аддавалі даніну модзе і стрыгліся.

Яна сядзела дома, чытала Рэмарка, чытаць яна ўвогуле любіла, зусім забыўшыся на тое, што яе чакае сяброўка-аднакласніца Іна, якая яшчэ месяц таму запрасіла Карыну на свой дзень нараджэння.

Лежачы на канапе, яна «глытала» старонку за старонкай кнігі, сачыла за лёсам трох таварышаў, калі заціліньказ тэлефон.

— Слухаю, — неахвотна падняла яна трубку.

— Карына, дзе ты знікла? — гэта была Іна. — Мы ўжо зачакаліся цябе!..

— Ой, Інка, прабач, я зусім забылася, — апраўдвалася дзяўчына. — Пачакайце яшчэ крыху, я зараз…

Карына ўціснулася ў вузкія джынсы, апранула фланэлевую кашулю пад колер батфортаў, зірнула ў люстэрка і, накінуўшы на плечы на хаду джынсавую куртку, выбегла з дому.

Марозу амаль не адчувалася. За падарунак Карына не хвалявалася, бо ўручыла яго напярэдадні, яшчэ ў школе, пасля ўрокаў, калі яны збіраліся дадому.

Музыку было чуваць здалёк. Сяброўкі пацалаваліся і пайшлі ў пакой. Тут Карыну сустрэлі госці, было шумна і весела.

Свята толькі разгаралася.

Карына прыглядалася да гасцей і заўважыла маладога чалавека, якога не ведала і нават ніколі не сустракала раней нідзе ў мястэчку.

Незнаёмы хлопец сядзеў адасоблена ад усіх і зацята курыў. Ён здаўся Карыне даволі цікавым, прынамсі, на першы погляд. Усе мітусіліся, нерваваліся, нешта крычалі, даказвалі адно аднаму, а ён зусім спакойна, нібы нікога не заўважаў, курыў сабе і курыў.

Ён меў знешнасць маладога вікінга, яшчэ бязвусага. Жоўтыя валасы, сабраныя ў хвост, непарушна ляжалі на спіне, скуласты, рашучы, чыста пагалены твар застыў, як маска.

— Хто ён? — спыталася ў Інкі Карына.

— Тарас, — сказала Іна. — Ён прыехаў разам з маім братам. Яны — сябры. Калі хочаш, магу пазнаёміць. Тарасу сумна тут, можа, ты яго зацікавіш.

Як і абяцала, Іна пазнаёміла іх. Але Тарас нават не зірнуў на яе. Кінуў толькі некуды ў паветра «вельмі прыемна» і працягваў курыць.

Карыну закранула такая нахабная абыякавасць.

— Курыць небяспечна для здароўя, — прамовіла яна, вырвала з яго пальцаў цыгарэту і патушыла яе, — ды яшчэ ў такой колькасці!

Ён паглядзеў на яе, здаецца, як Воўк на Чырвоную Шапачку, гатовы разарваць на месцы. Аднак, прыгледзеўшыся, відаць, перадумаў, выцягнуў з пачка другую цыгарэту, закурыў зноў і спытаў:

— А вы доктар?

Голас яго быў мяккі і крыху хрыпаты.

— Чаму ты так лічыш? — не зразумела Карына. — Проста столькі не кураць.

— Высоцкі курыў нашмат болей… — запярэчыў Тарас.

— Але ж ты не Высоцкі! — заўважыла Карына.

— І вы не доктар, — усміхнуўся ён.

Яны засмяяліся.

Ён зноў спыніў на ёй пагляд сваіх глыбокіх, на першы позірк, бясколерных вачэй. Карына, засаромеўшыся, апусціла свае.

Ён запрасіў яе на танец, што здзівіла, як Інчынага брата, так і саму Інку, намагаўся пацалаваць, але Карына ў самы апошні момант, калі вусны восьвось павінны былі сустрэцца, прасунула паміж яго і сваімі вуснамі вялікі кавалак торта і выпацкала ў крэм і свой твар, і Тарасаў. Тарас, відавочна разгублены, палез па цыгарэту, але і тут Карына перашкодзіла. Не даючы яму закурыць, карміла з лыжачкі тортам.

…Пацалунак вісеў у паветры і раставаў, як дым Тарасавых цыгарэт.

Спяшайцеся, не губляйце часу, пакуль вам шэнціць на момант! Лавіце яго!

Позна.

Імгненне знікла, як і пацалунак. Абое згубіліся ў дзяжурных словах, аднолькавых з пачатку існавання свету позірках і ўсмешках.

Можа, так яно і лепш.

…Цішыня (Карына ўжо даўно выключыла магнітафон, а да Зойчыных выкрунтасаў прывыкла і не зважала на іх ніякай увагі) прыніжала.

Цішыня давіла-ціснула. Здавалася, яшчэ некалькі ўдараў — і скура лопне на скронях, распаўзецца, як тканіна па шве, і фантанам пырсне кроў.

Цішыня забівала, ачмураючы, быццам ядам, думкі. І прыносіла нейкае раней нязведанае задавальненне. Гэта нагадвала пакуты на дыбе і паэзію адначасова. Паэзію таму, што ў руках Карына зноў трымала люстэрка, знятае са

сценкі. Яно было большае за тое, якое яна пабіла. Карына глядзела ў люстэрка, але свайго твару ў ім не бачыла. Яна глядзелася ў густую цемру пустаты, чорную і ліпкую.

І раптам яна дзіка закрычала, спалохаўшыся нечага, убачанага ў чорнай багне цемры, і з усяе сілы кінула люстэрка на падлогу.

У той жа момант у пакой уляцела ўстрывожаная Зойка, ледзь не пакалоўшы ногі аб пабітае шкло.

— Што здарылася? — прысела яна побач з Карынай. Але тая нічога не адказала, нават не заўважала Зойкі. — Табе трэба адпачыць. Давай дапамагу распрануцца, — прапанавала Зойка.

Карына маўчала, утаропіўшы позірк у адну кропку. Што яна там бачыла, было вядома толькі ёй.

Зойка па адным расшпіліла гузікі на ейнай кашулі, сцягнула яе, нібы з манекена. Карына ніяк не рэагавала, машынальна падымаючы млявыя рукі і ногі, калі Зойка сцягвала з яе джынсы.

Раптам, нібы ачомаўшыся ад доўгага сну, Карына застагнала і зірнула на Зойку.

— Што ты робіш? — стомлена вымавіла яна.

— Ты крычала, — адказала Зойка. — Дый выглядала, як зомбі.

— Дзякуй, што распранула мяне, — прапусціла міма вушэй словы суседкі Карына. — Хоць аб гэтым цябе ніхто не прасіў.

— Ты крычала, — паўтарыла Зойка, адыходзячы да дзвярэй, — разбіла люстэркі, увогуле была сама не свая…

— Гэта не дазваляе табе ўрывацца ў чужы пакой, — заўважыла Карына, але, зрэшты, размаўляла досыць спакойна.

— Я ўжо знікаю, Карыначка, — узялася Зойка за ручку дзвярэй. — Усяго добрага табе…

— А люстэркі мае, — прашаптала Карына. — Заўтра куплю новыя, калі разбіла.

Яна села на ложку, звесіла ногі, паматляла імі, абхапіла плечы рукамі, нібы стала халодна.

Яна не сердавала на Зойку толькі таму, што не разумела, што з ёю самой адбываецца, чаму яе так напалохала люстэрка, чаму яна з ім так абышлася? Ніколі не было яшчэ такога. Прынамсі, Карына ніколі не заўважала за сабой, калі ў люстэрку не бачыш сябе. Не бачыш нічога, акрамя беспрасветнай цемры, што нібы ўцягвае ў сябе, як у фільме жахаў, а пасля выскаляецца тагасветным смехам і, быццам карціну, вымалёўвае Тараса, яе, Карыну, і тую, нібыта яго жонку, па баках…

Што магло за ўсім гэтым хавацца?

Напамін?

Папярэджанне?

Нейкая ўмова?

Лабірынт нейкі…

Карына ўзяла венік і прыбрала асколкі люстэрка, выкінула іх у сметніцу, каб не параніць ног, апранула халацік.

…А сонца цікаўна зазірала ў акно…

…Тарас заўсёды размаўляў запаволена, нібы смакуючы кожнае слова, і рухі яго таксама былі нетаропкімі, спакойнымі, разважлівымі.

— Асцярожна, — папярэдзіў ён Карыну, адмыкаючы дзверы сваёй кватэры на трэцім паверсе дзевяціпавярховіка, — тут адразу дзве прыступкі.

…Ёй спадабалася Тарасава жытло — не кідкае, але з густам. Аграмаднае месца займала шафа з кнігамі. Карына нібы верш чытала незнаёмыя ёй тады прозвішчы аўтараў Картасара, Борхеса, Зюскінда, Сартра, дэ Бавуар, Анаіс Нін, Генры Мілера, Таніна Гуэрра, Коба Абэ, Рамэна Гары і іншых, чые кнігі знаходзіліся ў шафе, падыходзіла да вялікага, на ўсю сцяну партрэта Бальзака, зазірала ў спальню, дзе стаяў стол, завалены стосам папер, а далей — на падаконні — бюсцікі Маякоўскага, Лермантава, Блока і Багдановіча, замест гладышоў з кветкамі.

— Навошта табе столькі кніг, столькі паперы? — пыталася Карына ў Тараса.

Тарас сядаў у крэсла, саджаў сабе на калені дзяўчыну і, расчэсваючы пальцамі ейныя прыгожыя валасы, тлумачыў:

— Разумееш, чалавек, творчы, як я, павінен самаўдасканальвацца. Сабранае ў мяне — лепшае з напісанага ў сусветнай літаратуры, дзякуючы чаму я на некалькі галоў стаю вышэй, скажам, за цябе, і больш ведаю, чым ты.

Тады яна не надала належнай увагі яго словам. А Тарас шмат казаў ёй пра свет мастацтва, у які Карыне карцела трапіць, бо яна сама пісала вершы. А Тарас хацеў, каб яна ўспрымала свет так, як успрымае ён і патрабаваў думаць так, як сам, хацеў каб Карына чытала тое, што чытае ён. Ён навучыў яе і вершы пісаць, тлумачачы, што да чаго.

Карыне было цікава з ім. Не проста цікава, яна захаплялася ім, як кумірам.

Ён навучыў яе і цалавацца, паказаўшы краіну кахання. Але не проста паказаў, а завёў яе туды за руку, як малое дзіця. І яна захацела застацца там назаўсёды. Яна пакахала Тараса самым першым моцным каханнем.

…Сонца некуды закацілася, нібы згубілася. Насупіліся, як бровы, хмары, пайшоў снег. Вялікі, мокры, ліпкі. Загрукаў у вокны разам з ветрам, нібы ён, вецер, толькі і чакаў, пакуль снег пакліча яго…

…У той дзень таксама ішоў снег.

Карына чамусьці была ўпэўнена, што Тарас будзе ў сябе, калі знянацку, не паспелі яшчэ скончыцца «пары» ва ўніверсітэце, дзе яна вучылася, вырашыла ехаць да яго. Па выхадных яна заўсёды заставалася ў Тараса.

Тады быў панядзелак, як і цяпер.

Ёй вельмі карцела пабачыць Тараса, хаця толькі раніцой ён праводзіў яе на заняткі.

Яшчэ не вельмі сцямнела, калі дзяўчына дабралася да мікрараёна Зялёны Луг, дзе жыў Тарас. Лёгка падскокваючы па прыступках, яна паднялася на трэці паверх, пазваніла ў дзверы, прадчуваючы радаснае Тарасава здзіўленне і прыемнае яго ўзрушэнне, якое скончыцца абдымкамі і пацалункамі проста на лесвічнай пляцоўцы.

Дзверы адчыніў не Тарас, дакладней, адчыніла…

У шаўковым белым халаце, папраўляючы адной рукой валасы, другой трымаючы цыгарэту, на Карыну пазірала незнаёмая маладая жанчына.

— Табе каго? — выпусціўшы дым, спытала яна.

Не ведаючы, што рабіць, разгубіўшыся спачатку, не даючы веры, што ў Тараса ёсць каханка, якая так нахабна паводзіць сябе ў чужой кватэры,

а, можа, ужо і не ў чужой, Карына адштурхнула жанчыну, каб не замінала на праходзе, сказала:

— Нікога!

Жанчына выцялася локцем аб касяк і завіскатала так, што Карыне стала брыдка за яе:

— Тарас! Тарас!

— Ну што там яшчэ? — са спальні, нацягваючы джынсы, спяшаючыся выйшаў Тарас. Ён быў босы, з голым валасатым торсам. — А, гэта ты, — заўважыў Карыну, але не здзівіўся ці, магчыма, не падаўшы выгляду, што здзівіўся, сказаў ён. — Што ж, можа, і добра, што ты прыйшла. Сядзь, пачакай крыху.

Карына моўчкі села ў крэсла, міжволі прыслухалася да размовы (шэптам) паміж Тарасам і жанчынай. Ён горача нешта ёй тлумачыў, запэўніваў у нечым, жанчына супакоілася і выслізнула з кватэры ў адным халаце. Відаць, яна таксама жыла ў гэтым пад'ездзе, паверхам вышэй ці ніжэй.

Тарас павалі падышоў да Карыны, прысеў на кукішкі побач з крэслам, у якім яна сядзела, рэзкім узмахам галавы закінуў валасы назад.

Карына думала, што зараз ён пачне апраўдвацца, казаць, што сённяшняе здарэнне — непаразуменне, запэўніваць, што больш такога не паўторыцца, а яна адразу ж яму даруе і зацалуе да смерці. Але ён маўчаў, па ўсім відаць, і не збіраючыся загладжваць сваю віну.

— Чаго ты маўчыш? — нервова ўскрыкнула Карына.

— А што казаць? — прамовіў ён. — І так усё зразумела. Апраўдвацца, цытуючы словы Тарцюфа: «І вы паверылі?»

— Скажы, больш такога не паўторыцца? — Не паўторыцца? — дапытвалася яна. — Няўжо табе не хапае майго кахання?

Карына плакала, усхліпваючы размазвала па твары слёзы разам з тушшу.

Тарас цяжка падняўся, хукнуўшы, падышоў да акна. Адчыніў фортку, закурыў.

— Чаго ты маўчыш? — Карына падышла да Тараса з-за спіны, дакранулася да яго аголенага дужага пляча.

— Я думаю, — зацягнуўшыся, адказаў Тарас.

— Аб чым?

— Я думаю аб тым, што ты хочаш пачуць, — прамовіў Тарас, павярнуўшыся да Карыны. Ён узяў ейны падбародак двума пальцамі, крыху прыўзняў яго, зазірнуў у вочы.

Карыне Тарасаў позірк не спадабаўся. Ён быў халодны, далёкі, вадзяністы і чужы.

— Ты не любіш мяне? — апярэдзіла яна яго.

— Я не люблю цябе, — абыякава паўтарыў Тарас.

— Што? — Карыне заняло дыханне.

— Рая, якую ты бачыла, — бязлітасна працягваў Тарас, — мне не палюбоўніца, амаль законная жонка.

Карына не слухала яго. Яе душыла футра і дзяўчыне не хапала паветра. Яна сарвалася з крэсла як шалёная, кінулася прэч з гэтай кватэры, расшпільваючы футра на хаду. Тарас нешта крычаў ёй услед, але ёй было не да ягонага крыку.

Стрымгалоў адолеўшы лесвіцу, Карына адштурхнула дзверы пад'езда, спынілася, сквапна ўдыхаючы свежае халоднае паветра. Вецер шкуматаў яе

валасы, як сабака цягнуў за палу футра. Прытуліўшыся да нейкага слупа, яна ціха горка рассмяялася...

Пасля той іхняй сустрэчы ці, хутчэй, расстання, прайшоў год. Ні Карына нічога не ведала пра Тараса, ні Тарас — пра яе.

…Карына толькі легла з кніжкай, падклаўшы падушку пад спіну, як у дзверы пастукалі: нетаропка, моцна, настойліва.

— Адчынена, — выгукнула Карына ў нейкім напружаным прадчуванні, утаропіўшы позірк на дзверы.

Дзверы шырока расчыніліся. На парозе, трымаючы рукі ў кішэнях доўгага чорнага паліто, стаяў Тарас.

Карына адразу пазнала яго, хоць ён вельмі змяніўся. Тарас адпусціў ладныя вусы і стаў яшчэ больш падобны на вікінга, яшчэ больш пасталеў і памужнеў.

Яна хацела кінуцца яму на шыю, прыхінуцца шчакой да яго няголенай калючай шчакі, прыемна ўкалоцца сваімі вуснамі аб яго пшанічныя вусы, бо той сам прыйшоў, вярнуўся да яе…

— Прывітанне, Карына, — яшчэ з парога прамовіў Тарас. Не дачакаўшыся адказу, працягваў: — Ты цудоўна выглядаеш у гэтым халаце. — Памаўчаў, пасля дадаў: — І не запрашаеш сесці…

— Ты і так ужо зайшоў, — стомлена сказала Карына, хоць казаць хацела зусім не тое.

Тарас зрабіў колькі крокаў наперад, зняў шапку, круціў яе ў руках, не ведаючы, куды падзець.

— Як жонка? — Карына села на ложку, нага за нагу.

— Якая жонка? — не зразумеў Тарас.

— Ты ж збіраўся жаніцца, — напомніла Карына. — Памятаеш?

— Ах, вось ты аб чым, — Тарас ляпнуў шапкай па калене, працягваючы, як слуп, стаяць пасярод пакоя. — Мы даўно разышліся. Але я думаў, мы з табой аб іншым пагаворым.

— Ты думаў? Я, напрыклад, не думала.

— Я прыйшоў сказаць, — Тарас быццам не заўважыў кепікаў, — каб ты мне даравала. — Карына бачыла, як яму, такому гордаму, цяжка прасіць прабачэння, вельмі цяжка, але ніяк не дапамагала яму. — Каб ты вярнулася да мяне, — дадаў ён.

— Доўга думаў?

— Доўга. І зразумеў, што не магу без цябе.

Карына магла рассмяяцца яму ў твар, але не зрабіла гэтага; магла прагнаць, як шалудзівага сабаку, але падумала, навошта; магла проста зняважыць адным позіркам ці зацятым маўчаннем, але пашкадавала яго.

Тарас апусціўся перад ёй на калені, панурыў галаву, як бы аддаючы сябе добраахвотна на яе суд.

— Не прыніжайцеся, Тарас Аляксандравіч, — сказала Карына. — Не прыніжайце сябе і… мяне… гэтай нікому непатрэбнай камедыяй. Вы — дрэнны акцёр.

Тарас падняўся, камечачы шапку, сціскаючы зубы і кусаючы губы, ён ледзь не плакаў і хацеў курыць, але наўрад ці Карына дазволіць яму закурыць тут.

— Няўжо… — голас яго зусім ахрып. — Няўжо ты… ні кропелькі… не засталося ў цябе… да мяне…

Тарас блытаўся ў пабудове сказаў і гаварыў нешта смешнае, сам ператвараючыся ў блазна, тым самым яшчэ больш прыніжаючы сябе ў вачах Карыны. Яму не трэба было гаварыць і станавіцца на калені, у гэтым ён памыліўся, а дзейнічаць нахабна, і Карына б здалася…

— Ты сам вінаваты, Тарас, — уздыхнула дзяўчына.

— Значыць…

— Ты можаш пастарацца хаця б з гэтага пакоя выйсці мужчынам, — паставіла Карына ўсе кропкі над «і».

Не гледзячы болей на дзяўчыну, Тарас павярнуўся да дзвярэй і хутка выйшаў. Карына кінулася за ім, але дзверы стрымалі яе, па якіх яна, абліваючыся слязьмі, спаўзла на падлогу. Яна не мела права, паклікаўшы, вярнуць яго. Бо чалавек, якога кахала яна, быў ужо не тым Тарасам. Ён не павінен быў толькі што так сябе паводзіць, ён павінен быў заставацца ранейшым, такім, якім заставаўся ў памяці Карыны…

…На вечаровым небе паявіліся ўжо зоркі, міргалі зрэдку, як рэкламныя шчыты на задворках горада. Снег, не спыняючыся, засяваў прастору, нібы поле; час ад часу вецер, схапіўшы ў ахапку пару соцень сняжынак, кружляў іх, прыціскаючы блізка да сябе, каб потым шпурнуць у твар якога-небудзь прахожага.

З акна было крыху відаць, як Тарас палез у кішэню паліто па цыгарэты, як доўга пстрыкаў запальнічкай, ухіляючыся ад ветру то ў адзін бок, то ў другі, то паварочваўся да яго спінай. Відаць, запальнічка сапсавалася ці скончыўся ў ёй газ, бо Тарас злосна шпурнуў яе сабе пад ногі разам з мокрай цыгарэтай; наставіў каўнер, схаваў рукі ў кішэні і павольнай хадою пашыбаваў у бок метро.

## S



Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

# «СУМОТНА ЎСЁ Ў СТАСУНКАХ З ВЕЧНАСЦЮ...»

* * *

Быў я раннім, стаў я познім,
ды ўсё ж скору крок.
Даль бліжэе лесам, полем,
мкнецца праз лужок.
Забываю, забываю
нат і ў гэты міг,
што сябе я аддаляю,
каб наблізіць іх.
Стану полем, стану лугам,
лесам і ракой,
гэтым сінім зноў паўкругам
неба нада мной.
Стану шапаценнем жалю,
плёскам гнуткіх вод,
стану даллю гэтай далі
там, дзе гарызонт.
Бы жыццё і стом не знала,
дні ўсе — у цане…
Ды сцяжа імклівай стала —
і нясе мяне…

---

***Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч*** *нарадзіўся 21 лютага 1938 года ў горадзе Чавусы Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Светлагорскія навіны», дырэктарам карціннай галерэі аддзела культуры Светлагорскага райвыканкама.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «Друзья мои — свидетели мои» (1981), «Здесь, на трепетной земле» (1989), «На расстоянии взгляда и души» (1990) , «А душа и в молитве болит» (1994) , «Но даже умираем, чтобы жить» (1999), «Россыпь» (2000), «Земля простит, но не прощает небо» (2001), «Куда б ни шел — иду к своей судьбе» (2002), «Вечное время во мне» (2003), «Сам себе дорога» (2004), «И гром, словно эхо войны» (2005), «По ту и эту сторону окна» (2006) і інш.*

* * *

Зноў цішыні і змроку, як пацеха,
і гэтым далям, звеку ўжо сівым, —
калматае, раскацістае рэха
ляціць, ляціць і хутаецца ў дым.
І дзесьці глохне на вятрыстай строме,
не трапіўшы туды, дзе крык мацнеў…
Я аніяк, ніяк я не ўсвядомлю,
што ў гэтым крыку — радасць а ці гнеў?
І не таму, што рэха так скажае,
хаця… хаця, магчыма, і таму…
Ну вось ад слыху зноў яно знікае
над ярам у вільготную паўцьму.
Я слухаю — цяпер ужо з дакорам.
На лёс дарэмна, мабыць, наракаць,
бо гэтаю звышрадаснай прасторай
не кожны голас здольны заўладаць.

* * *

Многа дзён у гэты дзень памкне, —
стаць сабой не зможа для збавення.
Ўсё, што ёсць і што было ўва мне,
растрывожыць зноў сваім сумненнем.
Ён не пачынаўся між гадоў,
а таму ці скончыцца дзесь потым…
З чатырох не бачных мне бакоў —
зацяжныя мудрыя журботы.
Век таму ці толькі дзень таму?
Час прамчаў — ні следу, ані знаку,
хоць належыць, пэўна, ён яму —
дню, што без канца і без пачатку.
Гэткаму быць нельга наяву —
ён заўжды, заўсёды ён і ўсюды.
І калі яго перажыву —
мо і сапраўды бяссмертным буду.

* * *

Сумотна ўсё ў стасунках з вечнасцю,
а трэба з ёй супастаўляць
ўсё, што завецца чалавечнасцю,
з чым давядзецца паміраць.
Сум гэтакі, што сэрцу плачацца…
Чаму? Навошта? І куды?
Пашане розум давяраецца
ўсё ж так спакусліва заўжды.
А як сябе жаданне поўніла
сказаць, пакуль жывы слых-зрок,
каб нават вечнасць мо запомніла
зачараваны той радок!

Ды мне яшчэ і зараз мроіцца,
бы знаю загадзя сябе,
што ўсё само сабою мовіцца
так, што і час мо не сатрэ.
Ах, жыць бы скрозь з такой усцешнасцю,
штодзённа верыць ёй спярша…
Сумотна ўсё ў стасунках з вечнасцю, —
ўнушае скрушная душа.

* * *

Матулін голас я забыў,
а вось бацькоўскі голас помню…
Ды зноўку дождж зачасціў,
і чуйны слых шуршэннем поўню.
Мне тыя прывіды — як сны, —
зноў, што не бачу, — бачу тое.
«Ну што ты, сын?! Ну што ты, сын?!» —
бацькоўскі голас нада мною.
А мама быццам бы маўчыць,
адно што пазірае скрушна.
І дождж бясконца шалясціць,
ды слухаю нейк раўнадушна.
Ля свечкі дрогкае маўчу, —
святла са змрокам нікне повязь…
Бацькоўскі — чую, а хачу
хаця б успомніць мамін голас.

* * *

Кіўну ўсяму, што стрэну зрокам,
усё прывеціць я хачу…
Бярэзіне кіўну здалёку,
а лугу — проста прамаўчу.
І што маё зямное гора?!
І што пашаны вабны зман?!
Рака ў Дняпро, далей — у мора,
знясе іх дзесь у акіян.
Усё аддаў пагляд мой плыні,
ды нібы гэтаму не рад, —
рачная да нябеснай сіні
плынь прамывае мой пагляд.
І хоча сонейка на іскры
яго як быццам раздрабіць…
Ах, каб жа знаў і я калісьці,
што горам шчасце можа быць!..

* * *

Жывеш, — забыў, што роднае — наўкруг.
Яно і сапраўды ў акне світае.
Сцяжа — у лес, а побач з ёй — на луг,

а там — у поле шчэ адна спяшае.
А гэтая — к Бярэзіне імкне,
пясчаным ручаём нібы ўпадае…
Так многа роднага ў тваім акне,
хоць позірк шчэ таго не прыкмячае.
Ды раптам схамянуўся і стаіш,
бы пазіраеш у чужыя вокны, —
туды, дзе нават ранішняя ціш
зусім не той расістасцю прамокла.
Вось кропелька звісае, ды, аднак,
ужо іначай нейк — з ліста бярозы…
І Сам Гасподзь ужо ў адказ не так
на малітоўныя спрыяе слёзы.

* * *

Нібы паклікала вачамі
ў тугі нябёсаў паўавал…
«Не адмаліла, сыне…» — ўцяміў
і маму радасна пазнаў.
Яна ў бялюткім там аддзенні,
хаця хавалі не ў такім, —
стаяла ў велічным зіхценні,
здаецца, нават і на ім.
Зноў уздыхнула малітоўна
і ў промнях, што яе ўзнялі,
зрабіла крок, другі раптоўна, —
ну так — як ходзяць па зямлі.
Я зразумеў, што сам смялею, —
паглядам неба пракалоў
і крыкнуў маме: «Не, не ўмею…»
і адштурхнуўся — і пайшоў.
А мама хоча азірнуцца,
ды ўсё ідзе скрозь неба сінь,
дзе немагчыма задыхнуцца…
І ўсё-ткі, Госпадзі, амін!

* * *

Той пацан магілёўскі, якім калісь быў,
не, не вырас ва мне, я яго не забыў.
Ён мне столькі цяпер ужо забараняе, —
я дарую, а ён дараваць не жадае.
Ах, футболачка, белы каўнерык на ёй,
і — усмешка, хаваецца крык у якой
то страхоты, то гневу, то здзіву без меры…
Знаць не знаю таго, што пражыў, перажыў,
знаць не знаю тых страт, што я ўдостоль набыў,
і што мне абяцаюць пяро ды папера.
Выйду ранкам на луг за імклівым Дняпром, —
там, падобны на плыт, раскачаўся паром,
там лістотна, там траўна ды кветна.

У паветры жыцця растварыцца гатоў,
рукі дрогка да твару падношу ізноў
і яго мыю гэтым паветрам…
А світанак зіхотка ўвесь свет асвятліў,
раптам — дуба агністая крона.
Не, не ў небе ўстае сонца, а з-пад зямлі —
і слязіцца мой зрок малітоўна…

* * *

***Г. Х. Вашчанку***

Убелены жыццёвай замеццю,
сваім ён вучням так, як ёсць,
сказаў: «Шчаслівы я, што зайздрасцю
не надзяліў мяне Гасподзь».
І мастакам лагодным позіркам
дадаў, праззяўшы сівізной,
што толькі зайздрасці заложніку
ўвесь свет становіцца віной.
Адна залежнасць ёсць у талентаў:
зайздросціць шчыра ў час любы
сабе, якімі шчэ не сталі мы,
але павінны ўсё-ткі быць.
Ёсць захаплення бескарыслівасць,
яна — у радасці, журбе —
нам і вяртае нашу існаснасць,
нас набліжае да сябе.
Настаўнік толькі так і множыцца…
І слухаў люд, і заміраў,
а дух Сальеры або Моцарта
над залай прывідна лунаў.

* * *

Розум — усё-такі тайна.
Што мне ўнушае яна?
Ўскрыкнула памяць адчайна.
Міг — і вось зноў цішыня.
Зноўку падумаю пільна,
моўчкі паслухаю зноў, —
доўжыцца тая ж хвіліна…
Госпадзі, не абясслоў!
Вось бы маўчанне — у словы!
Думкі — і то не маўчаць.
Што кажуць высям нанова?
Ці гэта высі гучаць?
Воблачна, мякка, пушыста —
высі і дол — без мяжы…
Думаю слёзна і чыста, —
думкам, Гасподзь, адкажы!

* * *

Ах, Чавусы, — мой гарадок,
душы а ці долі аснова:
паветра тут першы глыток
і самае першае слова.
Тут першы звышрадасны крок, —
ах, знаць бы — куды і адкуль ён?!
Пачаткаў жыццёвых выток
быў цудамі існымі повен.
На вулачцы Факельнай той,
у шчырым, драўляным тым доме,
у мклівай на луг маставой,
у струнным дажджы, ў ветлым громе…
Далёка яшчэ ўсё было:
і вокгае сонца, і вецер,
дзе ў Басю схавацца магло
вясёлай дугі сяміцвецце.
Я ранне спяшаў разглядзець,
ды зноў аклікалі ля брамы
мой бацька, што тварам святлеў,
мая светлалікая мама.
Ці мог я падумаць тады,
што, сталасць сваю аддаліўшы,
аднойчы прыеду сюды,
як бы і жыцця не пражыўшы…

Ах, Чавусы, — мой гарадок!

* * *

Палохаць сталі нас дні нараджэння?
Ды не, палохаюць гады ўжо неўпрыкмет,
хаця святога, вышняга натхнення
не меркне першапачатковы свет.
Ізноў твая усмешка — мне падтрымка,
мне ад яе такая чысціня…
Я знаю сам, што твой узрост — памылка,
а мой… а мой і ўвогуле — хлусня.
Што лістапад — калі вясновы вецер?!
Што люты ўжо — калі вакол вясна?!
А жыццяў колькі ў існасным паэце,
не ведае і доля мо сама.
Ах, жыць бы вершаванымі радкамі,
не помнячы гадоў ужо і дзён,
каб у сваіх жылі мы вершах самі,
захоўваючы спеўны дых і тон!

* * *

Па-над сінечай зіхотліва-рэзкай
і праз няўлоўны дзесь гул, —
сонца ўставала не толькі над рэчкай,
сонца ўставала паўсюль.
Нат у птушыным набліжаным гаме,
ў пышным лісця харастве,
і ля куста, і ў мяне пад нагамі
блік варушыўся ў траве.
Сам ад сябе нібы на аддаленні, —
дзёрзкім, рашучым я стаў
і на зіхценне такім жа зіхценнем
радасна ўсё пазіраў.
Ах, што тварылася навідавоку, —
нельга у словы ўмясціць…
Веру, што ў пазажыццёвым тым змроку
мне яно ўсё ж празіхціць.

* * *

Зноў радуюцца думкі ад свабоды,
ад мары, што ўсё хоча стаць сабой,
і я павінен здолець перашкоды,
адолець іх, ды толькі вышынёй.
Так, сілай духа ўзнесціся над імі
і там, дзе іх уладзе ўжо не быць,
радкамі непазбежнымі сваімі —
ні гукам, ані словам — не зманіць.
«Дарэмна вы», — кажу камусь парыўна,
зрабіўшы крок ад буднай мітусні —
і вечнасцю становіцца хвіліна
у неймаверна блізкай вышыні.
Іду, плыву ці ўсё-такі лунаю?
Дыханнем словы зноў і зноў лаўлю —
і перашкоды ўсе перамагаю
тым, што гарую, цешуся, люблю.

***Пераклад з рускай Соф'і ШАХ.***

а



Святлана ЯВАР

# МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

## ЛЕТАПІС АДЗІНОТЫ

Штораніцы Алена прачынаецца са шчымлівым пачуццём, якое балесна кранае яе, прымушаючы трывожна тахкаць сэрца: яна адна. Яна зусім, ну абсалютна адна... У вялікай кватэры, пакінутай Алене памерлымі бацькамі, здаецца, лунаюць цені нябожчыкаў. Алена з сумам вітаецца з душамі продкаў і ідзе на кухню — гатаваць сабе снеданне. Вось ужо больш за паўгода яна жыве самотна і адчувае сваю поўную непатрэбнасць, нікому і ніколі. Працы ў яе няма, сяброў і радні, як высветлілася, — таксама. Адбалела, адпякло і позняе каханне да мужчыны з вялікімі ззяючымі вачыма, які часта сніцца ёй і кліча на супольную малітву. Ён жыве ў яе падсвядомасці як суцэльны згустак святла, як паходня, ён не дае ёй спакою ні ўдзень, ні ўначы, бо трывожыць яе сумленне. А сумленне ў яе заплямленае, і даволі моцна.

Алена часта думае, чаму паміж ёю і Богам стаяць іншыя людзі, якія не даюць ёй маліцца, хадзіць у касцёл, нагаворваюць на святароў усялякае ліха. Нават ахвяру на касцёл складаць не раяць. Маўляў, ты ж сама ведаеш, куды тыя грошы пойдуць. Ведаеш жа, што тыя святары (па чутках) вырабляюць. І Алена ніякавее, пачынае сумнявацца, ці тое яна робіць, і... нікуды ўжо не ідзе. І маліцца ёй ужо не вельмі хочацца. Між тым Бог кліча яе, яна адчувае, як Ён пранізвае ўсё яе жыццё, і Ягоны спакутаваны твар часцяком паўстае перад яе вачыма. Езус — інтэлігентны, задуменны, бледны, з запалымі вачыма і ў церневым вянцы — глядзіць угару, на неба, чакаючы дапамогі.

Паратунку ў нябёсаў просіць і сама яна, Алена. Шмат гадоў яна невылечна хварэе, і ўсе знаёмыя даўно «спісалі» яе ў нейкія пачвары. Аднак жыць і быць здаровай хочацца, і нарэшце Алена ўсур'ёз бярэцца за сябе. Яна чытае мноства кніжак і дасканала вывучае пытанне пухлін. Галаданнем яна займа-

---

***Святлана Явар (Сачанка Святлана Барысаўна)*** *нарадзілася 11 ліпеня 1968 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1990) і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (1993). Працавала ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускім універсітэце культуры, часопісе «Крыніца», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Інстытуце мовазнаўства, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Раптоўна памерла 8 чэрвеня бягучага года.*

*Аўтар паэтычных кніг «Белы месяц» (1994), «Раніца ў туманах» (1994).*

ецца ўжо пару гадоў, але пры гэтым Алена працягвала, на жаль, захапляцца прысмакамі — не хапала сілы волі. Толькі тады, калі той, са ззяючымі вачыма, здрадзіў ёй (як казалі людзі) з маладой і здаровай, Алена захацела зрабіцца сама і здаровай, і маладой, бо надта вялікую цану плаціць яна за сваю хваробу. Справа ў тым, што Алене вельмі не падабаецца, калі яе клічуць цёткай, і ёй не хочацца з разраду жанчын прыгожых і сексуальных пераходзіць у шэраг тоўстых азызлых істот з жыватамі. Божа, які жах! Яе каханы сышоў да другой! Ён болей і не глядзіць на яе! І яго ззяючыя вочы свецяцца каханнем да іншай! І ён намякае, што яна, Алена, для яго — калека?..

Алена цяжка перажыла ўсё гэта. Але цяпер яна памаладзела і папрыгажэла. Алена зрабілася вегетарыянкай і есць амаль адну сырую садавіну і агародніну, п’е сокі. Не ўжывае цукру, амаль не сыпле ў стравы соль. Яна зноў такая ж легкадумная, як і тады, калі ёй было крыху за дваццаць. Цяпер яна зноўку страшэнна падабаецца жанатым мужчынам. Бо Алена зноў дзяўчынка. І ці трэба ёй малітва і той, са ззяючымі вачыма? Ёй, такой легкадумнай?.. У Алены ёсць сябар. Ён стараваты, але маладжавы. Таксама прыхільнік здаровага ладу жыцця. І думае ён... толькі пра секс. А сам, між іншым, мае сям’ю!

І вось Аленіна душа хістаецца паміж Богам і д’яблам, пакутуе і хоча знайсці нейкую «залатую сярэдзіну». Бог кажа Алене: «Ідзі ў касцёл! Слухайся таго, са ззяючымі вачыма, — ён дрэннаму не навучыць!..» Алена ідзе ў касцёл, але адчувае сябе там непатрэбнай і лішняй, старой і хворай, дурной і няўдачлівай. І вяртаецца дахаты ў роспачы. А там чакае яе д’ябал. Ён гаворыць ёй: «Прыгажэй за цябе нікога няма! Ты найлепшая ў свеце! Аддайся мне!» І ў вобразе яго (таго вісуса) лашчыць яе, песціць, корміць піражнымі. І так хочацца адказаць любоўю... гэтаму «самотнаму» д’яблу.

Алене невыносна страшна ўначы. Яна ляжыць адна на шырокім ложку, а злева ад яе — быццам той, са ззяючымі вачыма, справа ж — быццам гэты, «д’ябал». Яна паварочваецца налева і гаворыць «дабранач», потым паварочваецца направа і таксама кажа «дабранач». І сняцца ёй то адзін, то другі...

А трэба было б кахаць трэцяга! Таго, які возьме яе замуж і ад якога яна ўрэшце народзіць дзіцянё. Так і ў любым касцёле табе скажуць. Каханне каханнем, але... Варта падумаць і пра будучыню. Вечна маладой і прыгожай быць немагчыма. Хто падасць вады на старасці, калі захварэеш? Вось так і пройдзе жыццё — зусім марна. Хацелася б зрабіцца сур’ёзным чалавекам, каб паважалі і «левы», і «правы». Каб гаварыць «дабранач» рэальнаму, а не ўяўным. Каб было ўсё роўна, што есці і на чым спаць, — абы быць разам. І менавіта тады Езус паглядзіць на Алену прыхільна, ацаніўшы яе адданасць.

Алене часам прыходзіць у галаву, што Бог наўмысна пакінуў яе адну, сам-насам з яе думкамі. Бо некалі бывае вельмі неабходна застацца адной і падумаць аб сваім мінулым і цяперашнім дні, памарыць пра будучыню. Ясна адно: ёй, Алене, не варта звязвацца з грубымі, прымітыўнымі людзьмі, якія не вераць ні ў Бога, ні ў чорта і самі — ні богу свечка, ні чорту качарга. Яна, Алена, не такая. Бо калі ёй сніцца той, са ззяючымі вачыма, то ён гаворыць ёй, лашчачы ў сне яе пальцы: «Якія танюсенечкія ў яе пальчыкі! Хіба ж можа яна падаіць імі карову?..» Алена прачынаецца і пачынае думаць, што так, сапраўды, яна ніколі не зможа падаіць сваімі пальчыкамі карову. Дык не трэба і імкнуцца туды, дзе іх, тых кароў, дояць. Вось такая выснова.

Ёй, Алене, добра зразумела, што не ўсё ў яе жыцці нагэтулькі дрэнна, як лічыць той, са ззяючымі вачыма, але і не так выдатна, як нашэптвае ёй на вуха той, «д’ябал». Не такая яна грэшніца, як лічыць першы, і не нагэтулькі святая, як сцвярджае другі. Ёй не трэба столькі маліцца, як настойвае таварыш злева,

але не варта забывацца на Бога так, як раіць яе спакушальнік справа. Няма патрэбы, каб яна займалася «простай» працай, як хацеў бы яе «святы», аднак і не трэба зусім не працаваць (а толькі займацца сексам і хатняй гаспадаркай), як пераконвае яе той, «грэшнік».

І так мінаюць дні самотнай Алены: між Сцылаю і Харыбдай, паміж молатам і кавадлам, між жыццём і смерцю, здароўем і хваробай, бядою і шчасцем, радасцю і горам. Святло і цемра мільгаюць вакол, і нічога не змяняецца. Кожны дзень пачынаецца, мінае і заканчваецца аднолькава: малітва, посны снядак, самотная навуковая праца, у поспех якой ужо не верыш, пошук грошай і марны пошук працы, прыбіранне ў хаце, касцёл, малітва і посная вячэра. Ні Бог, ні д'ябал яе не прымаюць, бо яна няверная ім абодвум і чакае рэальнага, зямнога кахання, шлюбу, жыццёвага поспеху.

А Бог і д'ябал, аднак жа, змагаюцца за яе душу. Вось жа той, са ззяючымі вачыма, заклікае яе маліцца як мага больш і верыць, што Бог дапаможа абавязкова. А гэты, «д'ябал», у адказ гаворыць на яе свянцоныя вербачкі: «Прыбяры адсюль гэту дрэнь», лезе да яе з прапагандаю сексу, а пасля яго адыходу з хаты паўсюль валяюцца раскіданыя абразы. І так самотна робіцца Алене, што яна не ведае, куды ёй пайсці, куды кінуцца па дапамогу. З аднаго боку, яна прытрымліваецца посту, а з другога — ёй жа пастаянна падсоўваюць нейкую парнаграфічную літаратуру, аж да класічнага апавядання Аляксея Талстога «У лазні». Прачытаеш, і некуды знікаюць крытэрыі дабра і зла, тым больш на фоне ўласнай адзіноты. І ты ўжо не разумееш, дзе той Бог і ці паспееш ты дабегчы да таго касцёла, пакуль цябе яшчэ не спакусілі. Але ты яшчэ прытомная, і, як зацкаваны звярок, бяжыш, і молішся, і хочаш трапіць на велікодную споведзь. Можа б, гэта адзінае ўратавала б цябе — веліч і праўда Божая.

І зноў з чыстым сумленнем ты стаіш на імшы і прымаеш святую камунію. Бог злітаваўся над табою, Ён вярнуўся да цябе і ўхваляе цябе. Усё вакол ззяе велікоднаю радасцю, ярка свеціць сонца, гучна шчабечуць птушкі. Па зялёнай веснавой траўцы ты ідзеш на святую імшу. «Хрыстос увоскрос! Сапраўды ўваскрос!» Ты з поўным даверам, як дзіця, прымаеш Яго ў сваім сэрцы, бязгрэшная перад Ім. І ты такая шчаслівая... Падумай, што было б, калі б ты здрадзіла Яму і саграшыла? Які бруд, якая гнюснасць панавалі б у тваёй душы! Усё было б чорным і змрочным. І невыносныя пакуты сумлення атруцілі б табе велікодную радасць... Таму не слухай тых, хто кажа, быццам Бога няма, і заклікае рабіць што хочаш. Так быць не можа.

Бог ёсць, і Ён зусім побач.

## МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ

Так пяшчотна і ў той жа час па-таварыску звяртаўся да Зосі яе першы муж, які пакінуў яе дзеля маладзейшай жанчыны. Застаўшыся адна, Зося адчувала сябе незапатрабаванай і часам не знаходзіла сабе ніякага занятку. Ад суму яна пачала перабіраць паперы і выпадкова на антрэсолях знайшла напісаныя паўстагоддзя таму назад пісьмы яе закаханых бацькоў адно да аднаго. У бацькавых лістах Зося са здзіўленнем знайшла той жа зварот да мамы: «Мая даражэнькая». А маміны пісьмы ўразілі Зосю настолькі, што яна ўявіла сябе сваёй маці і гэтак жа, як мама, паехала жыць і працаваць у вёску пад Глыбокім. Толькі Зося зрабіла гэта ў думках, а мама была там наяве.

Пасля мамінай смерці Зося наўмысна з'ездзіла ў Глыбокае, але менавіта да той вёскі так і не даехала. Зося хацела б лепей зразумець сваіх бацькоў, у

прыватнасці сваю маму, якую, на жаль, не заўсёды разумела пры жыцці. «Мая даражэнькая...» Якой была мама ў маладосці? Відаць, мужнай, смелай і бязмежна самотнай у сваім далёкім Глыбокім...

Быў 1959 год. Вясёлыя студэнцкія гады адплылі ў нябыт. У Мінску застаўся каханы і блізкі чалавек. Месцаў для настаўнікаў мовы і літаратуры ў сталіцы няма, у родным Крычаве — таксама. Трэба ехаць па размеркаванні. Сталічнае жыццё ўжо спадабалася: тэатры, музеі, канцэрты, выстаўкі... Будучыня выглядае змрочна — глухая правінцыя. Як сустрэнуць, як прывітаюць? Адно спадзяванне — на каханага, што ён застанецца, як і раней, надзеяй і апорай.

Невялікая колькасць рэчаў, хуткія зборы ў дарогу. Вось і райцэнтр: больш чым стрыманы, хутчэй халодны, прыём мясцовых жыхароў-католікаў. Абыходжанне як з чужой, засланай для барацьбы з забабонамі, у тым ліку і з рэлігіяй. Мама некалі напісала бацьку ў лісце жартам, што хацела б выйсці замуж за хутараніна і павянчацца з ім у касцёле. Праўда, спачатку трэба сабраць неабходны для гэтага пасаг: посуд, падушкі...

Аднак тут яна відавочна нейкая «не свая». Выкладае рускую (!) мову і літаратуру, вядзе занадта свабоднае жыццё — гэта падумаць толькі, жыве, не распісаўшыся, з мужчынам з Мінска, які прыязджае да яе ў госці! Занадта часта яны і сазвоньваюцца, перапісваюцца. Пісьмы з Мінска прыходзяць штодня. А яна ж, новая настаўніца, такая прыгожая, талковая. З яе тут, у вёсцы пад Глыбокім, маглі б чалавека зрабіць! І замуж тут бы яе аддалі — за Франца. Ён потым мясцовым дырэктарам школы быў. І не п’е, і не курыць, і не гуляе; больш таго — вышывае, вяжа, пячэ торты і ходзіць у касцёл! А сям’я ў яго якая прыстойная — палова радні ў Польшчы. Але ж новая «наўчыцелька» ўжо ўпадабала таго чарнявага журналіста з Мінска. Да таго той, як кажуць, «абнахалеў», што нават на ўроках у яе сядзеў. А як вучні пыталіся, хто гэта, дык іх настаўніца адказвала: «Гэта... правяраючы».

Віруе правінцыйнае жыццё. У Глыбокім, ды і ў той вёсцы, ідзе будаўніцтва сацыялізму. У адным з мясцовых касцёлаў размяшчаецца зернясховішча. Настаўнікі ездзяць па вёсках і праводзяць антырэлігійную прапаганду. Вясковае насельніцтва сустракае і іх, і іх прапаганду, мякка кажучы, непрыхільна. У многіх вучняў бацькі п’юць і скандаляць дома. Адзін вучань, як сапраўдны артыст, імітуе п’янага тату. Усе рагочуць. Новую маладую настаўніцу начальства імкнецца загрузіць працай напоўніцу. А мама рвецца ў Мінск, ёй патрэбен кожны выхадны, каб з’ездзіць туды, у сталіцу. Дзеля свайго каханага, у якога ўжо выйшла першая кніга, у якога ўжо ажаніліся лепшыя сябры. У любы момант любоўны раман можа закончыцца. І што тады? Выйсці за хутараніна і хадзіць у касцёл, хаця ты сама ў Бога не вельмі-то і верыш (бо выхавана ў сям’і настаўніцы)...

Неўзабаве пачынае раздражняць усё: складаныя ўмовы працы (часам трэба хадзіць вечарамі па некалькі кіламетраў праз лес, вялікая педнагрузка, у тым ліку ў вячэрняй школе), лад жыцця мясцовых настаўнікаў з гулянкамі і п’янкамі ў вольны час, вымушанасць выглядаць і трымацца, як адзінокая жанчына, імкненне кіраўніцтва затрымаць «новенькую» на Глыбоччыне назаўсёды.

І тут маме ўзгадваецца Якуб Колас. Напэўна, яго турэмная лірыка. «Вобразы мілыя роднага краю...» У Мінск, у Мінск! Там сапраўдная віхура, у якой ствараецца гісторыя. У Мінску сабрана ўсё лепшае, вышэйшае. Ды нават газеты, часопісы новыя пачытаць — і то было б цікава. Тым больш калі ў іх друкуецца твой каханы, пра адносіны з якім ты ўпарта нікому не расказваеш (усе і так даўно ўсё зразумелі).

Выкройваецца час, за апошнія грошы купляецца білет, і ты едзеш у Мінск, які, ты верыш у гэта, неўзабаве будзе тваім родным горадам. Гуляеш па сталічных вуліцах, дыхаеш задымленым паветрам, такім жа брудным, як у тваім родным Крычаве. Шумяць дрэвы на алеях паркаў, разам з табою гэты шум чуе твой каханы, які заўсёды побач душою і толькі зрэдку побач фізічна. Як жа цяжка даводзілася табе без яго!

Надыходзіць 1960 год. Ужо звыклым зрабілася Глыбокае. Жыццё ўвайшло ў нейкую нармальную каляіну. Хочацца працаваць, настаўнічаць. А там, далей, — можа, і аспірантура? Навуковыя ж здольнасці былі. У вёсцы пачалі паважаць, начальства ўжо ставіцца больш прыхільна. Больш магчымасцей для кар’ернага росту, сяброўкі з роспытамі пра каханне больш не чапляюцца: усе да ўсяго прывыклі. І тут — раптоўная цяжарнасць! Так, цяпер будзе цяжэй. Па размеркаванні не дапрацуеш, на тваім месцы апынецца іншы чалавек. Ды і каханаму — дадатковыя клопаты. Добра, калі ён не адмовіцца ад свайго першага дзіцяці і ажэніцца. А калі не? Тады што рабіць?

Але каханне перамагло ўсё. Чакаюць нараджэння хлопчыка. Мама знаёміцца з бацькамі будучага мужа. Плануецца яе хуткі пераезд на радзіму маці, у Крычаў. Бывай, Глыбокае! (У мясцовых жыхароў вочы вылезлі на лоб ад здзіўлення: гэта ж трэба, новая настаўніца ўхітрылася зацяжараць!) Але надзея вярнуцца застаецца.

Бацьку будучага дзіцяці забіраюць на вайсковыя зборы, маці жыве ў Крычаве і часта глядзіць па тэлевізары футбол, спадзеючыся, што народзіцца хлопчык. Але нараджаецца дзяўчынка. Зосіна старэйшая сястра...

Зося нарэшце адарвала позірк ад напаўзацёртых чарнільных літар на пажаўцелых пыльных старонках бацькоўскага рамана ў пісьмах. Усё ёй цяпер зрабілася зразумелым: што такое каханне, якой павінна быць жанчына, каб мець асабістае шчасце. Зося ў глыбокай задуменнасці ўстае з канапы, на якой яна чытала тыя пісьмы, і звязвае іх вяровачкай ізноў. Так, толькі жаноцкасць, толькі магутная жаноцкасць, адсутнасць прамалінейнасці і грубасці, — у гэтым сакрэт жаночага поспеху і жаночай «кар’еры». Як навучыцца разумець мужчыну, яго патрэбы і інтарэсы, навучыцца дапамагаць яму так, як гэта рабіла мама?

А тут думаеш пра сябе да ўпору, і ўсё тут. Як спала, як ела, як адчуваеш сябе, у якім настроі ходзіш. Што надзець, куды схадзіць. Думаць жа трэба пра бліжняга, і тады ўсё атрымаецца, пойдзе на лад. Вось жа знаходзіўся ў мамы час, каб клапаціцца не толькі пра сябе, вучняў і кар’еру, але і пра бацьку. Каб любіць каханага, аддаваць яму ўсю сябе. Марыць пра яго як пра будучую «зорку» літаратурнага Алімпа. Адкуль, адкуль бярэцца гэты неверагодны эгаізм у тых, хто зусім не збіраецца мець сям’ю? Як гэта можа быць, каб людзі былі ў інтымных адносінах і не адчувалі за гэта ніякай адказнасці ні адно перад адным, ні перад Богам? І як заставацца сябрамі, як мама з бацькам, цэлыя 25 гадоў?

Пытанні, пытанні, пытанні. На іх не дасі адказу розумам. Адказваць на іх можна толькі сэрцам. Чулым чалавечым сэрцам, здольным любіць і паважаць і іншага чалавека. Нехта скажа, што гэта занадта проста. Але ж менавіта ад любові і ў любові нараджаюцца дзеці, ствараюцца мастацкія шэдэўры і здзяйсняюцца навуковыя адкрыцці. Усё астатняе — ад нячысціка. Так, лагічнае, разумнае ўражвае, але яно не дае плёну. Кветка доўга цвіце толькі ў атмасферы любові. Зненавідзьце кветку, разлюбіўшы яе, — і яна хутка завяне, загіне.

Вось у чым разгадка таямніцы вечнага жыцця, мая даражэнькая!

# ЗЯЛЁНАЯ РУЖА

Яна была зялёнаю ад самага дня свайго нараджэння. У адным з амстэрдамскіх садоў, у якім яна расла, ружа вылучалася сярод іншых руж сваім вытанчаным незвычайным хараством. Яна не была вінаватаю ў тым, што яна зялёная, — такою яе зрабілі вучоныя-селекцыянеры, якія прывілі ёй, як і яе бацькам, гены гэтага нязвыклага зялeніва. На кусце зялёных руж было некалькі, але ёй, як самай буйной і прыгожай з іх, быў наканаваны і самы выбітны лёс. Мусіць, за такую прыгажосць яе неяк асабліва любілі і паважалі іншыя ружы ў тым садзе. Ды і сама яна адчувала, што з'яўляецца нейкай адметнай, інакшай... І рыхтавала сябе да сваёй будучай місіі — уражваць і захапляць людзей.

Так, сапраўды ёй не было роўных. Высокая, стройная, адораная шматлікімі талентамі (так, ёй дазволіў Бог нават угадваць чалавечыя думкі, прадбачыць будучыню), ружа красавала і з самага маленства, калі была маленькім бутонам, любіла разважаць аб тым, што з ёй будзе, калі яна ў рэшце рэшт распусціцца і ўбярэцца ў поўную сілу.

— Вось пабачыце, я яшчэ неаднойчы здзіўлю свет! — бывала, хвалілася яна, паварочваючыся да іншых руж усёй сваёй істотай, сцяблом і лістамі. Іншыя ружы не знаходзілі, што адказаць ёй, і ціхенька перашэптваліся, але ўслых выказваць свае сумненні не адважваліся: гэта выглядала б як зайздрасць або банальная дурата. Бо не захапляцца зялёнаю ружаю было проста немагчыма.

З кожным днём яна ўсё болей убіралася ў сілу, усё больш прыгажэла, налівалася, спяліла сваё дасканалае хараство. Цёмна-зялёныя лісточкі амаль зліваліся па колеры з яе пялёсткамі, але сама кветка была такога колеру, які не толькі сустракаецца рэдка, але і сам па сабе надзвычай гарманічны, прыемны для вока. Ды і пахла ружа вельмі арыгінальна, нестандартна, і чароўны водар яе нагадваў многім людзям дарагую французскую парфуму.

Жыццё ў руж у параўнанні з чалавечым даволі кароткае, і зялёнай ружы трэба было спяшацца, каб хутчэй расквітнець, распусціцца, звярнуць на сябе ўвагу людзей, якія маглі б знайсці яе прыгажосці, што называецца, выгаднае прымяненне. Ружа старанна падстаўляла ранішнім сонечным прамяням свае пялёсткі, калючкі, лісцікі, удыхала свежае чыстае паветра — словам, радавалася жыццю як толькі магла, як умела. Руплівы клопат аб сваёй знешнасці даў свае вынікі, і неўзабаве ружа набыла проста-такі адчайную прыгажосць. Усе іншыя ружы здаваліся ў параўнанні з зялёнай нейкімі папялушкамі, нейкаю драбнатой, не вартай ніякай людской увагі.

Справа набліжалася да зрэзкі ружы. У самым зеніце, у самым росквіце яе належала зрэзаць і прадаць як мага даражэй. Хараство хараством, а тут важны быў менавіта прыбытак. Іншыя ружы хто з трывогай, а хто са злараднасцю чакалі лёсавырашальнага моманту: кім застанецца зялёная ружа ў гісторыі? Ці ўпрыгожыць яна каралеўскі палац? Ці падорыць яе рэспектабельны багаты мужчына сваёй каханай?

Многія ружы нават радаваліся, што яны не такія прыгожыя і незвычайныя. «Падумаеш, красуня! — разважалі яны. — Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай...» І так ішлі дні, зялёная ружа ўсё чакала і хвалявалася, набіраючыся моцы не толькі фізічнай, але і духоўнай.

У той дзень яна была прыгожай як ніколі. Была сярэдзіна вясны, ярка свяціла сонца, у садзе звонка спявалі птушкі. Зялёная ружа адчувала сябе, як у раі, сярод блізкіх яе сэрцу сяброўак-руж. Ёй падабалася ў гэтым жыцці ўсё: добра і правільна ўгноеная глеба, клопат людзей аб ёй, які выяўляўся ў своечасовым

паліве, адносіны да яе ў садзе, вельмі шчырыя і даволі добразычлівыя. Яе ўсе любілі, усе зычылі ёй дабра і шчасця. Але набліжаўся немінучы канец, бо пасля зрэзкі ружа пражыве яшчэ зусім няшмат. Ах, пра гэта яшчэ маладзенькай ружы не хацелася нават і думаць.

Надышла вырашальная гадзіна, а потым і хвіліна. Разам з іншымі ружамі зялёную зрэзалі і прадалі некуды за мяжу. Куды? Аб гэтым іншыя ружы даведаліся значна пазней. Зялёную ружу ў самалёце транспартавалі да аднаго з еўрапейскіх гарадоў. Гэтым горадам быў Мінск.

Тою вясною, у той прыгожы, але трагічны красавіцкі вечар у горадзе адбыўся выбух. Загінула і пацярпела мноства людзей. Трагедыя скаланула ўсіх. Боль, смутак, адчай і туга сціскалі людскія сэрцы. Неўзабаве натоўпы людзей ішлі да ўваходу ў метро, каб развітацца з загінулымі. Усе разумелі: гэта не забудзецца ніколі. Такое немагчыма ні забыць, ні дараваць.

Людзі ішлі і ішлі, стаяла вялікая чарга, у кожнага ў руках былі кветкі. Кветкі — ружы, гваздзікі, хрызантэмы — ставіліся ў вялізныя вазы, якія былі пастаўлены каля ўваходу ў метро. Нейкае дзіця гучна здзіўлялася колькасці і прыгажосці кветак. Так, кветак было вельмі шмат. Людзі выбіралі ў тыя трагічныя горкія дні самыя лепшыя, самыя буйныя, дарагія, рэдкія кветкі. Бо хацелася зрабіць прыемнае душам загінулых, ушанаваць памяць тых, каго напаткаў такі жудасна нешчаслівы лёс. І кланяліся, і ўшаноўвалі памяць. І плакалі, не выціраючы слёз, і ўздыхалі, і не адводзілі вачэй ад партрэтаў нябожчыкаў.

І слёзы ліліся на пялёсткі зялёнай ружы, на якую ніхто не глядзеў, бо заўважалі ў тыя страшныя дні толькі адно аднаго, хваляваліся толькі за блізкіх, родных: ці не здарылася што з імі? Ружа смуткавала разам з усімі. Яна была па-ранейшаму самая прыгожая, але цяпер была найпрыгажэйшай і яе душа, «душа» кветкі. Бо ў ёй цяпер знайшлося месца для спагады і літасці, міласэрнасці і спачування. Раней яна жыла толькі для сябе, а калі яна навучылася аддаваць ад сябе, служыць грамадству, то свет вакол яе быццам бы змяніўся. У ім усё ажыло, закрасавала, заззяла. Ёй больш не было самотна. Яна не заўважала, як хутка імкне час. Зялёная ружа была патрэбнай і неабходнай. Яна годна несла сваю місію, упрыгожваючы сабою наваколле. Якою драбязою здаваліся ёй яе ранейшыя мізэрныя клопаты! Разам з людзьмі зялёная ружа несла цяжкі крыж жалобы, праўдзівей, яна дапамагала несці яго.

Жыццё ружы не скончылася, назаўсёды скончылася хіба што яе адзінота. І зялёная ружа цяпер ужо складвала ўвечары і зноў раскрывала раніцай свае пялёсткі не проста так, не з пустою пахвальбою, а з мэтай і сэнсам. Мэта і сэнс надаюць любому жыццю напрамак, скіраванасць. А без мэты і сэнсу навошта жыць наогул?

Зялёная ружа прастаяла ў вазе значна даўжэй за іншыя кветкі. І, безумоўна, яна была самай прыкметнай з іх. Самай прыгожай. Але... аб гэтым ніхто не гаварыў. Было не да таго. Аднак яе прыгажосць уражвала. Трапляла ў самае сэрца. І палітыкі, паглядзеўшы на зялёную ружу, мянялі свае рашэнні. І ўсе навакольныя раслі ва ўласных вачах. І Мінск ужо выглядаў як горад вялікіх пачуццяў, гераічных людзей і казачна прыгожых душ, якім не шкада нешта страчваць і аддаваць, якія радуюцца, калі служаць іншым.

*Красавік 2011 г.*



Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ

# ПАРАСКЕВА: КРЫЖ У ПУСТЫНІ*

Раман

## Ангел Гасподні

Я паслушнік Госпада. Яго волю выконваю. І не заўсёды і не ўсім прыношу весткі добрыя. Дакладней, гэта людзі не ўсе мае весткі ўспрымаюць як добрыя. А яны такія, якімі павінны быць, незалежна ад таго, як успрымаюцца. Бо людзі ж улічваюць толькі імгненне, а Гасподзь — вечнасць. Таму Ён заўжды ведае, што для каго лепш за ўсё.

Бог стварыў Ангелаў, каб славілі Яго серафімскімі спевамі і добрымі справамі, каб выконвалі Яго запаветы і ўстанаўленні, ахоўваючы парадак на зямлі, і каб дапамагалі людзям як сваім меншым братам.

У нас, Ангелаў і Архангелаў, многа спраў. Часцей за ўсё мы ахоўваем людзей ад іх саміх. А гэта асабліва цяжка.

Як Божы пасланнік я клапаціўся і пра яе — з дапамогаю савы і Зейнебы. Я ж гэтаксама некалі Іллю карміў з воранавай дзюбы, а Марыю прычасціў з рук старца Засімы.

Ад той пары, калі Гасподзь стварыў людзей і час, многім я дапамагаў. Многіх суправаджаў, для многіх выпраўляў памкненні і справы.

Але яна адрознівалася ад усіх! З ёю было звязана маё самае прыемнае паслушанне, хоць яно і не без горычы.

Гасподзь сказаў: «Царства Нябеснае дасягаецца сілаю, і тыя, што сілу ўжываюць, здабываюць яго». Гэта азначае, што месца ў Царстве Нябесным ніхто не можа проста так атрымаць, а павінен здабыць — стараннямі і высілкамі, напружаннем да болю, і ўласна праз боль. А прарокі сваім вопытам пацвердзілі: «Жыццё ў самотнасці патрабуе ангельскай сілы». Якраз такое жыццё Гасподзь ёй прызначыў. У пустыні падвізаюцца толькі тыя, хто найтрывалей у веры стаіць, хто наймацнейшы духам і выяўляе бязмежную любоў да Госпада. А яна якраз такой была. Я гэта ведаў ужо тады, калі ўпершыню яе пабачыў. І адразу ж мне стала яе шкада. Я ведаў, што Гасподзь наканаваў ёй вельмі цяжкія пакуты. Бо найлепшыя падлягаюць найцяжэйшым выпрабаванням. Паколькі яны самыя лепшыя і самыя адданыя Богу, то ўсё могуць знесці, сілкуючыся верай у Яго, і даць духоўна карысны прыклад іншым.

Вось чаму яе Гасподзь у пустыню і паслаў. Таму што яна была такой чыстай і трывалай у веры.

У яе, гэткай чыстай і нявіннай, не было нікога, каб падтрымліваў духоўнымі парадамі, каб дапамагаў, калі яна ўступіць у змаганне з хітрым і бывалым спа-

---

* Працяг. Пачатак у № 4, 5, 7, 2011 г.

куснікам — зверам лютым, здольным, на любое паскудства. Не было ў яе нікога, акрамя ісціннага Настаўніка, і нічога, апроч боганатхнёных пісанняў святых айцоў ды чысціні сэрца, хоць гэтая чысціня магла і слабасцю абарочвацца.

Я часта наведваў яе, аднак не смеў азывацца. Бо я ж усё раблю не па сваёй волі, а па волі Госпада. Іншыя Ангелы і Архангелы таксама сачылі за ёй. Рафаіл ахоўваў здароўе, у тым ліку зрок. Селафііл падтрымліваў тады, калі яна стамлялася пры маленні. Урыіл ачышчаў ёй розум і дапамагаў спазнаць ісціну. Іегудзііл узнагароджваў за ўсе намаганні, якімі яна праслаўляла імя Госпада. Але ёй пра гэта не было вядома.

Сапраўды, я моцна спачуваў ёй, калі, па Божым папушчэнні, на яе сталі нападаць бязлітасныя дэманы ўсіх грахоў і пажаднасцяў. Гэта былі не яе асобасныя дэманы, не духі яе натуры, а Лукавага пасткі і здані, якія напаўзалі, нібы змеі з цёмных долаў. Таму яна іх не распазнавала, і таму ёй асабліва цяжка было ім супрацьстаяць.

О, якія гэта былі пакуты! Яна ў душы сваёй бесперапынна вяла жорсткую барацьбу супраць сіл цемры і ўладара чалавечых слабасцяў. Слязьмі гасіла полымя сваіх пожудзяў, чысцінёю сэрца і безупыннаю малітваю вызваляла розум ад іх, пакораю і пакаяннем адганяла ўсе ліхія думкі. Уціхамірвала сябе пастом і духоўным трываннем, увесь час ведучы размовы з Госпадам. Умацоўвала розум і сэрца, пакуль не дасягнула светланоснага азарэння Духам Святым і не атрымала ад Госпада разумення духоўнага.

Мэта духоўнай барацьбы падзвіжніка заключаецца ў тым, каб стаць сапраўдным чалавекам, паводле вобраза дасканалага Чалавека Хрыста — каб быць пакорлівым і міласэрным. І яна атрымала гэты дар.

Чалавек у грэх заўжды трапляе паціху, сунучыся крок за крокам да краю прорвы. І ўсё з-за інтрыг вядомага Ашуканца. Той спачатку нашэпча думку, якая моцна закранае розум. А потым хітра, мала-памалу, нібыта ў гульні, якую, здаецца, у любы момант можна спыніць, зацягне ў ліха страсці. І толькі тады чалавек усведамляе, што апынуўся ў кіпцюрах Ліхадзея і стаў яго рабом.

«Нельга дапускаць, каб думкі блукалі ў грахоўным змроку», — вучылі святыя айцы. А яны дайшлі да разумення гэтага праз вопыт пакутніцкіх выпрабаванняў, гэтаксама, як і яна.

Дваццаць гадоў пакутавала яна, адольваючы ўсе спакусы дэманскія. Здабыла досвед, што без пільнай аховы розуму немагчыма дасягнуць духоўнай трываласці, нават калі мы ўвесь час прымушаем сябе не грашыць. Навучылася распазнаваць нячыстыя помыслы адразу пры іх з'яўленні.

Засведчыўшы, што першую ўжо прапанову Спакусніка яна адкінула, як гнілы яблык, я ўздыхнуў з палёгкаю. Зразумеў, што ў далейшым ёй будзе лягчэй, і яна пойдзе па шляху спасення ўпэўнена, паколькі на абедзвюх нагах ужо стаіць.

А калі мінула дваццаць гадоў, я атрымаў наказ вывесці яе з пустыні. Відавочна, Гасподзь быў задаволены яе падзвіжніцтвам.

Калі я наведаў яе, то ўбачыў, што яна, склаўшы малітоўна рукі, у залатым крузе лунае; цалкам захопленая малітвай.

(А-а, забыўся яшчэ вось што сказаць! Гасподзь па міласці Сваёй адарыў яе многімі здольнасцямі. Яна магла прадбачыць падзеі, чытала думкі людзей, разумела мову жывёл, птушак і казюрак. Прычым апору сабе знаходзіла ў духоўным вопыце святых айцоў, якіх ніколі не чытала і не чула. А ведала нават тыя думкі, якія будуць запісаны толькі ў пазнейшыя стагоддзі.

Гэта было відовішча нібы з райскага саду: пад пурпуровым небам і ясным сонцам сярод пустыні, якая пасыпана золатам, у светласным крузе лунае дзяў-

чына зіхоткага аблічча... Як быццам яна ўжо вызвалена ад цела, а захавала толькі духоўную існасць).

Калі я побач з ёю спусціўся на зямлю, яна крыху прымружылася, нібыта прыкрываючы зрэнкі ад моцнага святла, і тройчы перахрысцілася. «Калі ты з’явіўся ад Госпада, я вітаю цябе. А калі ты з іншага боку, то ляці прэч, і няхай уся моц кары Божай падзе на тваю галаву!»

Асцярожная, умудроная змаганнямі з Нячысцікам, яна памятала, што ён выкарыстоўвае розныя хітрыкі і штукарствы, каб загубіць душу падзвіжніцкую. Дэманскія сілы ж наогул да ўсялякіх падманаў схільныя. Магчыма, яна тады ўгледзела, як трыма стагоддзямі пазней Лукавы падманвае Антонія, чыстага ўгодніка Божага, прадстаўшы перад ім у абліччы светлага Ангела. І палічыла, што ў адносінах да яе робіцца тое самае.

«Мяне Гасподзь паслаў! Ты павінна вярнуцца ў Эпіват. Гэта Яго воля», — сказаў я.

Яна не дапытвалася, нашто гэта трэба і як ёй, у гадах ужо, дабрацца туды, адкуль яшчэ дзяўчынаю ледзь прыйшла. Не цікавілася і тым, што яе чакае ў родным горадзе. Запыталася толькі: «Ці моцна Гасподзь не задаволены мною, грэшнай і немачнай?» Толькі гэта яе, сціплую і пакорлівую, хвалявала. І без адкладу, без слоў і без шкадавання — заўжды гатовая выконваць волю Госпада нашага, — яна пачала збірацца.

«Што надалей прызначыў ёй Гасподзь?» — задаваў я сабе пытанне, пакуль глядзеў, як яна развітваецца з пустыняй, з пячорай, з Зейнебай. У вачах яе былі слёзы, а ў сэрцы радасць, як і заўжды, калі адпраўлялася туды, куды вёў яе адзіны сапраўдны Шляхаводца.

«Што надалей прызначыў ёй Гасподзь?» — задаваў я сабе пытанне. І, як заўжды, не меў адказу. А ліхтар, свечка і яспісавае люстэрка ў маіх руках паказваюць, што таямніцы намераў Божых не раскрываюцца да іх здзяйснення.

## Параскева

Пра сваё вяртанне з пустыні я не магу згадваць без болю.

Пачуўшы слова Ангела Господняга, я адправілася ў дарогу. Як заўжды, гатова была слухацца свайго Шляхаводцу. Акрамя таго, я ж атрымала магчымасць яшчэ раз прайсці па шляху Яго пакут, цалаваць сляды Яго на гэтым шляху Крыжовым і на святым гробе Яго праліць слязу, як гэта безліч разоў у марах сваіх рабіла.

Апынуўшыся ў Іерусаліме, я адразу пайшла да храма Пакут Хрыстовых.

Але храма не было! Засталіся толькі руіны — груды камення і пабітай цэглы замест непаўторнага будынка, на які з захапленнем глядзеў увесь хрысціянскі свет. І на гэтым месцы самага святога паломніцтва адна толькі заплаканая бабулька: запаліла агарак свечкі і малілася перад разбураным алтаром, як перад Жывым Госпадам.

О, як затрымцела маё сэрца, калі адкрылася такое відовішча! Як загаласіла ў адчаі мая душа!

«Што здарылася, матуля?» — задала я пытанне бабульцы. А яна — звыклая, відаць, да ўсялякіх непамыслот і розных людзей — не здзівілася, што мне гэта не вядома, хоць увесь свет ведае. Так вось я ад яе пачула пра шалёнае злачынства бязбожнікаў.

Ужо тры стагоддзі арабы, якія сталі ўшаноўваць Кнігу Прарока, лічылі наш Святы Горад сваім, называючы яго Аль Кудс. На ўзгор’і яны паставілі

купал — у напамін пра тое, што Прарок якраз адтуль, з іерусалімскай гары Морыя адпраўляўся ў свае начныя духоўныя падарожжы. Аднак тут яшчэ захоўваўся мір: мясцовыя арабы шанавалі сваю веру, не вынішчаючы нашай. А потым багдадскі халіф Эль Хакім загадаў эміру Дамаска здзейсніць неймавернае святатацтва — разбурыць хрысціянскія святыні, каб такім чынам да сваёй веры ўвесь народ схіліць. І эмір паслухаўся. Яго войска здзейсніла жахлівы — маланкава хуткі і пранізлівы, як выгук, — налёт на хрысціян і святыні іх. «Нідзе, акрамя Палесціны, няма цяпер храмаў Гасподніх. І моляцца Госпаду цяпер толькі тыя, у каго любоў да Яго мацнейшая за страх перад бязбожнікамі. А яшчэ тыя, каму губляць няма чаго, акрамя свайго жыцця», — падагуліла старэнькая ўгодніца Божая.

Я разумела, што гэта, як і ўсё на свеце, адбылося з папушчэння Гасподняга. Але чаму? Нашто Ён так вызначыў, каб былі разбураны храмы, дамы Яго...? Ды ці былі сапраўды гэтыя дамы Яго дамамі, а ці толькі імем Яго прыкрываліся? Як тут жылі і служылі — паводле законаў Божых, паводле ўстанаўленняў святаайцоўскіх, а ці паводле намераў чалавечых? Можа, Гасподзь прынёс і гэтую ахвяру з любові да людзей? Каб яны ўбачылі, наколькі страшным бывае беззаконне і самі такога не ўчынялі? Я не ведала. І не мела права судзіць. Я магла толькі перажываць, з моцным болем.

А думала так: «Гасподзь сказаў: Нават калі павінна здзейсніцца зло, гора таму, праз каго яно здзейснена».

Стала я на калені і памалілася: за ўсіх людзей, каб яны заслугоўвалі міласці Божай і каб усе мы не забываліся пра вучэнне Яго; асабліва пра тое, што Ён прыйшоў навучыць нас любові. А затым на ўзвышаны камень, як на прастол алтара, я паставіла самае дарагое, што ў мяне было — вобразы Госпада майго і Маці Божай. Паставіла там, дзе Ён аддаў душу ў крыжовых пакутах і дзе ўваскрэс, і дзе збудаваў Царкву, якую ніякая сіла разбурыць не здольна.

Яшчэ раз перахрысцілася і накіравалася памалу ў бок свайго роднага краю; каб прыняць тое, што мне Гасподзь наканаваў.

* * *

Царград! Я вярнулася ў яго не як дадому і не як ва ўспаміны. На яго вуліцах я не шукала ні сябе той, якою калісьці была, ні тых, каго тут спаткала і любіла. Прайшла я праз гэты шматмяцежны горад так, як праходзіла па сваёй пустыні. Засяроджана была на адным.

У Студыцкі манастыр не заходзіла. Неяк ведала, што там даўно ўжо няма ні Богабаязнага старца Сімяона, ні майго брата.

Накіраваная Госпадам, я пайшла ў іншым напрамку. Па Яго промыслу, мне належала сустрэць таго, чые словы чула ў пустыні, таго, хто застанецца ў памяці наступных пакаленняў як залатая труба Праваслаўя — Сімяона Новага Багаслова.

Ён, ужо старац, быў ігуменам манастыра святога Мама́нта. Святую Літургію старац гэты служыў так, нібыта размаўляе з Жывым Госпадам. А які ў яго быў погляд! Як ён рухаўся, як гаварыў! Сціплы, ураўнаважаны, пакорлівы, поўны любові. Сапраўды, гэта быў чалавек, які жыве ў Госпадзе, а Гасподзь жыве ў ім.

Ён расказаў мне пра майго брата Яўфімія: што ён стаў епіскапам Мадзітскім, што перамог у барацьбе з багамільскай ерассю, і што памёр, шанаваны людзьмі і любы Госпаду.

«Мой вялікі, вялікі брат!» — шаптала я бязгучна. А сэрца маё было поўнае любові, як і заўжды, калі я думала пра яго. Толькі з'явілася нейкая збянтэжанасць, выкліканая адчуваннем, што, уласна, я заўсёды заставалася той напаўсляпой дзяўчынкай, якая хадзіла, абапіраючыся на яго руку. Нават і тады, калі галоўнаю апораю стала рука Гасподня.

Прагнучы духоўнай карысці, я прасіла ігумена Сімяона, каб адкрыў нешта з мудрасці святых айцоў, каб і мне перадаў, калі сам дазнаўся, што наймілей для Госпада. І ён мне раскрыў самае галоўнае з усёй духоўнай навукі.

«Перш за ўсё, трэба прасіць дару слёз. І той, хто ўдастоіўся ад Бога іншых дароў, але яшчэ не можа плакаць, павінен прасіць гэтага — прасіць з вялікай скрушнасцю ў сэрцы і шкадаваннем», — сказаў ён.

Усе дабрадзецелі ён назваў войскам, а замілаванне і слёзы — начальнікам гэтага войска ў барацьбе супраць азмрочвання свету.

Кожнае слова яго я ўспрымала са слязьмі ўдзячнасці, усвядамляючы, што найбольшы дар ад Госпада ў мяне быў, а я не ведала, што такі гэта дар.

Я зразумела, чаму слёзы ў мяне часта з'яўляліся і прыносілі палёгку, чаму мне здавалася, што пасля плачу я раблюся чысцейшай унутры — нібыта слязьмі сэрца абмыла.

«Чалавек, плачучы, становіцца рахманым. Так што плач нас падтрымлівае і падмацоўвае ў барацьбе супраць усялякага ліха, дапамагае трываць і перамагаць ворага», — прыйшла я да высновы.

А многія саромеюцца слёз. Асабліва людзі свецкія, пагатоў мужчыны. Яны не ведаюць, што гэты сорам, пазбаўленне плачу і спыненне слёз — дэманавы справы, абумоўленыя гардыняй самога Лукавага.

Слёзы ж ачышчаюць розум ад змроку.

А нявыплаканыя слёзы становяцца атрутаю. Душа, з якой не выцякаюць слёзы, застаецца багністай. І ў той багне гніе насенне любові.

«Няхай Гасподзь захавае ў цябе дар спасанsocных слёз!» — благаславіў мяне ігумен Сімяон пры развітанні.

Больш я з ім не сустракалася. Мы абое, звыклыя да маўчальніцтва, найперш імкнуліся размаўляць з Госпадам. А ў Царградзе я была яшчэ некалькі разоў. Вадзіла туды мяне жаданне пабываць у Влахернскай царкве Прасвятой Багародзіцы і памаліцца перад цудатворнай іконай. З Эпівата, дзе я пасялілася, мне трэба было дзень ісці туды, а потым яшчэ дзень — вяртацца назад. Але гэты шлях я адольвала, не зважаючы на цяжкасці, бо падмацоўвала мяне ўвага і міласць Божая.

Я прадчувала, што набліжаюся да завяршэння свайго зямнога шляху. І перажывала, ці змагу даць годны адказ на будучым судзе.

«З чым прадстану перад маім Госпадам? — задавала я сабе пытанні. — Ці варта маё жыццё быць пакладзеным да ног Яго?»

А мне хацелася, вельмі ж хацелася, як мага хутчэй пайсці да Таго, дзеля Каго я жыла на зямлі. Таму, як некалі Давід псалмаспевец, я шэптам прасіла: «Прагне душа мая да Бога моцнага, жывога: калі прыйду і стану перад абліччам Божым!»

Я плакала, хоць і не выклікала плачу ні думкамі, ні малітвамі. Слёзы самі цяклі. Часта я нават не заўважала іх. Я плакала, як дыхала. І гэтак малілася.

Мяне ўсю запаўняла невыказная любоў. Найперш да Бога. А таксама да ўсіх і да ўсяго. Таму што ўсё — Ён.

І я станавілася нераздзельнай з любоўю, чыстай любоўю. І нераздзельнай з Ім.

## Хлапчук з Эпівата

Яна з'явілася невядома адкуль. Ні да каго не звярнулася, быццам чужаніца, якая не мела знаёмых у нашым горадзе. І пра сябе нікому нічога не расказвала, нават імені свайго не назвала.

«Маці!» — звярталіся мы да яе. І яна адзывалася, упрыгожваючы свой твар лагоднай усмешкаю ціхай любові.

Клапаціўся пра яе адзін паслушнік з Маманцкага манастыра, па наказу ігумена Сімяона. Гэты паслушнік знайшоў для яе прытулак — пакойчык у Іраклійскім прадмесці. Ён жа харчам яе забяспечваў. Прыносіў ежы нямнога, як для манахіні, ды і рэдка. Але яна і з гэтага мала што спажывала, міласціва аддаючы іншым. Хоць, напэўна, бяднейшых за яе не было.

«Не трэба мне лепшае прыстанне, — сказала яна, калі паслушнік завёў яе ва ўбогі пакойчык, падобны да келлі. — Я ж абрала сабе Госпада як прыстанне».

«Не трэба мне больш ежы, — адказвала яна, калі пыталіся, нашто аддае іншым, калі і самой мала. — Чалавек жыве не ежаю, а словам Божым».

Ніхто не ведаў, якога яна ўзросту. Аблічча ж яе магло мяняцца на працягу дня. Калі яна праходзіла вуліцай па нейкіх звычайных справах, здавалася, што гэта ўжо бабулька. А вось калі малілася, то станавілася маладой. Дакладней сказаць, надузроставай, і не такой, як звычайныя жанчыны. Выгляд асаблівы быў у яе заўжды, калі яна гаварыла пра Бога, пра Яго славу, міласць і любоў да людзей. А таксама тады, калі дапамагала гаротным, даглядала хворых, бедных і занядбаных.

Мы, я і мая бабуля, таксама былі беднымі, занядбанымі. А бабуля яшчэ і хварэла.

Я ведаю, што пачатак адзінаццатага стагоддзя ў гісторыі лічыцца перыядам славы царства Візантыйскага — эпохай, калі дзяржава, падпарадкаваная дужай і ўмелай руцэ Васілія Другога, сына Феафаніі, дасягнула магутнасці і росквіту.

Ды што такое гісторыя? Не больш чым збор дат, пералік войн і мірных пагадненняў, радаслоўе ўладароў і палкаводцаў, альманах інтрыг і плётак. У ёй не знаходзіцца месца для тых, хто найбольш пакутуе — для шараговых воінаў і простых людзей. Таму пісаная гісторыя звычайна даносіць няпраўду. Адзіна праўдзівымі з'яўляюцца асабістыя ўражанні і перажыванні канкрэтнага чалавека.

Тысяча першы год у гісторыі азначаецца як год бліскучых перамог. А для мяне ён быў годам самых страшных пакут. Ніколі больш, да канца свайго жыцця, я не панёс такіх страт.

Мне было ўсяго два гады, калі наш імператар Васілій Другі павёў войска на Балканы. Што яму, Васілію, народжанаму ў пурпуры, патрэбна было на Балканах, ніхто не ведаў. І пытацца пра гэта не смеў ніхто — ні сем'і пагінулых, ні тыя, што вярталіся з паходу пакалечанымі, прынёсшы толькі гаротныя ўспаміны і страшныя згадкі пра жорсткасць нашага ўладара.

Мой тата загінуў пры асадзе Відзіна, нейкага горада на Дунаі. Мама памерла ад роспачы. Не ведаю, ці з-за таты, ці з-за свайго другога сыночка, які выпаў з утробы яе, калі прынеслі вестку пра татаву смерць.

Так што засталіся толькі мы з бабуляй, на суцяшэнне адно аднаму. Я то ёй і ў цяжар, ды яна гэтага не хоча прызнаваць.

Дом, у якім мы жылі, ператвараўся ў руіны. Хоць, як людзі расказвалі, калісьці гэта быў адзін з лепшых будынкаў у Эпіваце і належаў ён вельмі паважанай сям'і.

А мы былі бедныя. Жылі толькі дзякуючы бабулінай працы і дапамозе добрых людзей, якіх тады сустракалася не надта многа.

Бабуля старэла хутчэй, чым я вырастаў. Быццам бы кожны яе дзень быў у два разы даўжэйшым за мой. А потым яна захварэла, і я адчуў, што нейкія бязлітасныя кіпцюры ўхапілі мяне за сэрца. Здавалася, памру ад жалю і страху.

«Што ж будзе, калі мяне і бабуля пакіне, гэтаксама, як тата і мама, як меншы ненароджаны брацік?... Як мне жыць аднаму?..» — плакаў я.

Не хацелася, каб бабуля бачыла мае слёзы, каб яна тужыла з-за маёй тугі, палохалася з-за майго страху. Таму звычайна я выходзіў з дому і праз занядбаны сад спускаўся на бераг мора. А там, сеўшы на камень, глядзеў на хвалі і, каб палягчэла, плакаў, плакаў, плакаў.

Аднойчы мой плач перарваў лагодны дотык рукі. Нехта пяшчотна пагладзіў мяне па галаве. «Гэта бабуля, — вырашыў я. — Толькі яна ўмее так ласкава са мною абыходзіцца».

Але гэта была не мая бабуля, а тая незвычайная чужаніца.

«Не плач, — сказала мне яна. — Перадай тугу сваю Госпаду, і Ён панясе твой цяжар. Якім бы вялікім гэты цяжар ні быў».

Яна не пыталася, чаго я плачу. Але, я гэта бачыў, хацела мяне суцешыць, незалежна ад таго, чым былі выкліканы мае слёзы. Таму я ёй усё расказаў. А яшчэ, напэўна, і таму, што не меў сілы трымаць гэта ў сабе.

«Дык вядзі мяне да тваёй бабулі. Я буду яе даглядаць», — сказала гэтая жанчына, пачуўшы пра маё гора.

Я добра памятаю той погляд, якім сустрэла нас бабуля: у ім і цікаўнасць, і няўпэўненасць — яна, відавочна, перабірала нешта ў памяці, згадвала імёны і аблічча... Ды ўсё гэта хутка, імгненна, і амаль непрыкметна.

А жанчына пайшла па нашым доме, па лабірынтах яго калідораў і пакояў, так упэўнена, быццам бы хадзіла тут безліч разоў. Бабуля прыплюшчыла вочы — як рабіла заўсёды, калі хацела абдумаць нешта важнае, каб пра гэта сказаць. Потым памаргала, угледзелася ў прышлую жанчыну, а тады павольна, быццам выбіраючы і ўзважваючы кожнае слова, загаварыла:

«Шмат гадоў таму ў гэтым доме жыла адна дзяўчына. Яна даглядала сваю маці і падтрымлівала яе так, як цяпер ты падтрымліваеш хворых — гаварыла ўвесь час толькі пра Бога. А, кажуць, і ты ніякіх іншых размоў не вядзеш. Пасля матчынай смерці тая дзяўчына сышла, нікому не сказаўшы, куды. Звалі яе Петкана... Дык вось хачу запытацца: можа, ты нешта ведаеш пра яе?»

Жанчына спынілася, паглядзела ў даль перад сабою, нібыта ўзіраючыся ў штосьці праз адчыненае акно, і ўсміхнулася — гэтак, як людзі ўсміхаюцца, калі згадваюць нешта прыемнае. А потым пераняла погляд на бабулін твар і адказала:

«Я чула пра яе. Шлях ёй Бог вызначыў, як вызначае кожнаму з нас».

Не ведаю дакладна, чым яны выдалі сябе — нечым тонкім, няўлоўным, што я назваць не здольны, — але ж і да мяне дайшло, што сказалі адна адной намнога больш, чым прамовілі. Ды ўсяго я тады не зразумеў. А бабуля потым не захацела тлумачыць.

«Не перажывай. Толькі маліся Богу з верай, любоўю і надзеяй. Ён дапаможа тваёй бабулі, — сказала жанчына мне ў той вечар, пакідаючы наш дом. — Маліся ты, я таксама буду маліцца. І памятай заўжды: Гасподзь міласцівы, і ніколі не пакідае тых, хто ў Яго верыць».

Я маліўся, як умеў. І ведаў, што яна моліцца за нас таксама. Цяпер я ўпэўнены, што бабуля на ногі ўстала дзякуючы малітвам і клопатам гэтай жанчыны.

Калі бабуля паправілася, жанчына перастала да нас прыходзіць. А нам яе так не хапала.

«Напэўна, у яе нейкая свая горасць, пра якую мы не ведаем, — разважала бабуля, суцяшаючы і сябе, і мяне. — У кожнага свая горасць. Бог нам іх дае, каб мы ачышчалі душы і ўмацоўваліся ў веры». Яна паўтарала гэта не раз, прычым усё часцей. І я разумеў, што гэта не толькі словы суцяшэння, бо ў іх адчуваліся і страх за мяне, і жаданне прымірыць мяне з жыццём, якое, трэба верыць, нам наканавана — з пакутліва цяжкім жыццём гарадской беднаты.

А я не хацеў такога жыцця. І не гатовы быў яго прыняць.

Як рос я, так расла і горыч ува мне. Яна ўмацоўвалася, буяла, выспявала.

Ува мне расла незадаволенасць царом, незадаволенасць маім паходжаннем як перашкодаю для ўсіх лепшых памкненняў, незадаволенасць беднасцю і прыніжаючай міласэрнасцю неміласэрных.

Я зайздросціў усім ва ўсім. Усе былі вінаваты за тое, што мне цяжка жыць. І я пачаў усіх ненавідзець.

Мне хацелася мець прыгожае адзенне, а таксама каня. І дзяўчыну. Асабліва дзяўчыну, якая б насіла панскія сукенкі і пахла так, як пані. Хацелася, каб яна і ў сталасці выглядала прыгожай, а не кашчавай, маршчыністай, знямоглай, нібы тыя гаротніцы, сярод якіх я жыў. Такую дзяўчыну хацеў я мець побач з сабою, пра такую ўвесь час марыў.

Я ведаў: тое, пра што я мару, для многіх — самае звычайнае, простае, нават малаістотнае; для мяне ж — вельмі значнае, прычым недасяжнае. Вось гэта і дадавала атруты ў маё сэрца.

Ад роспачы я босымі нагамі біў па каменні, голымі рукамі за церні хапаўся. Болем крывавых ран я прыглушаў боль душы, прагнай лепшага.

Усё часцей я намерваўся адкінуць тое, чаму вучыла мяне бабуля. Хацеў пазбавіцца тых прынцыпаў, якія трымалі мяне пад гнётам, гатовы быў адбіраць чужое, калі мне Бог нічога не даў.

І тут зноў яна з'явілася. Адчула, відаць, што я гарую. Так, як тады, калі суцяшала мяне на беразе мора.

«Успомні, як ты маліўся за бабулю, — сказала яна. — Пэўна ж, не мог без веры, любові і надзеі. Дык і цяпер замяні роспач верай, пракляцці любоўю, горыч надзеяй. Згадай, што Гасподзь — твой бацька. А бацька для свайго дзіцяці заўжды стараецца рабіць толькі дабро. І ты звярніся да яго з даверам».

І яна зноў пагладзіла мяне па галаве.

Ніколі не забуду той дзень, тое суцяшэнне, якое мне яна прынесла. Яна прыдала мне сілы для веры, любові і надзеі, нягледзячы ні на што.

Я паслухаўся яе. Мабыць, таму, што яна знайшла патрэбныя словы і належны час, каб іх выказаць. І яшчэ, напэўна, таму, што выказвала ўсё спагадліва, з любоўю. А магчыма, і ўва мне яшчэ міргаў, не жадаючы згасаць, нейкі агеньчык дабрыні і сумлення.

У той год, па рэкамендацыі аднаго манаха з Маманцкай абіцелі, я быў уладкаваны служыць на гандлёвы карабель. А там пазнаёміўся з купцом, які прыняў мяне за сына. Дзякуючы яго дабрыні я і сам стаў купцом далёка не з апошніх — гандляваў у розных краінах.

Неўзабаве пасля мяне яна таксама пакінула Эпіват. Адышла да Госпада.

Цела яе аддадзена зямлі за горадам, дзе звычайна хавалі беднякоў і чужынцаў.

А я пра яе ніколі не забываўся. Калі было цяжка, яна да мяне прыходзіла ў снах. Часам проста глядзела, а часам нешта гаварыла. Але я заўсёды прачынаўся з думкамі пра веру, любоў і надзею — пра што яна калісьці нагадвала.

Бацька дапамог мне знайсці свой жыццёвы шлях. Я паспеў яшчэ і бабулю парадаваць праўнукамі і дастаткам.

Шкада толькі, што незабыўная жанчына гэтага ўжо не застала.

А ёй, напэўна, і не трэба было ўсё гэта паказваць, нават пра гэта гаварыць. Яна, бадай, усё ведала: пра тое, што было, што ёсць і што будзе.

Да такой высновы я прыйшоў, калі аднойчы, вярнуўшыся з падарожжа, наведаў эпівацкі храм святых Апосталаў, каб, як параілі мае сыны, пакланіцца мошчам святой, якую толькі што Гасподзь праславіў на зямлі.

О, як бязмежна я радаваўся, калі ў Божай угодніцы пазнаў добрую апякунку свайго дзяцінства. Тады я даведаўся і яе імя. Звалі яе Петкана, Пятніца, Параскева — маці Параскева.

## Прасвятая Багародзіца

«Навучыцеся ад Мяне, бо я лагодны і пакорлівы сэрцам!» — казаў мой Сын і Гасподзь. І я навучалася ад Яго. Я, Марыя з племені Давідавага.

Яна таксама навучалася. І сэрцам, і розумам спасцігала гэтую навуку як мала хто. Яна, Параскева — мудрая дзева, Ангел зямны, супакутніца Ісусава, абраная падзвіжніца.

Параскева ўжо была Божай падчас зачацця. Гэтаксама, як Божай была і я, быў Іаан, быў мой Сын. Мы цудам народжаны, з'явіліся на гэты свет, каб сведчыць пра Яго міласць. І мы засталіся з Ім.

«Чаму Бог абірае таго альбо іншага чалавека! Уласна, ці гэта Бог абірае чалавека, а ці чалавек выбірае Бога? Ці выбірае чалавек наогул, а ці ён толькі акцёр у п'есе, якую Бог даўно напісаў і вызначыў яму ролю, не пытаючыся, наколькі яна падабаецца яму?..» — мудруюць людзі спакон вякоў. Шукаюць адказаў у працяглых роздумах і ў мудрых кнігах, у дасведчаных людзей і ў малітвах. І не знаходзяць. Нават калі да некага з іх дойдзе ісціна, то ён застаецца няўпэўненым, гэта голас Божы, а ці рэха адказу, які дае яго ўласны розум.

Я таксама неаднойчы задавала сабе пытанне: «Чаму іменна я? Чаму мой Сын?» Асабліва тады, калі сэрца маё спынялася ад болю. І я многія справы Божыя ўспрымала як несправядлівасць.

А цяпер ведаю, што Бог нічога нам не навязвае. Ён абірае, і мы выбіраем. Ён — ад пачатку, калі кожнаму з нас вызначае шлях і паказвае на яго. А мы — згаджаючыся ісці па гэтым шляху і потым на працягу ўсяго жыцця. Бо кожнае наша рашэнне, кожнае слова, кожны ўчынак звязаны з выбарам. Мы заўжды маем выбар: ці звярнуць з таго шляху, на які Ён для нас паклікаў, а ці далей ісці па ім.

Я ніколі не сказала: «Не хачу, Госпадзі!» Ніколі. Нават калі даймаў самы страшны боль, у час жахлівых пакут майго Сына, я шэптам паўтарала словы, з якімі Ён да Айца Свайго звяртаўся: «Няхай будзе воля Твая!» Таму і кажу, што ў маім жыцці ўсё па волі Айца і Сына адбывалася. Аднак і па маёй волі.

Гэтаксама і яна.

У яе імкненне ўдасканальвацца было мацнейшае, чым у іншых прага задаволіць пожадзі. Яна вылучалася шчырай адданасцю, пайшоўшы за Хрыстом і духоўна распінаючы сябе на крыжы як супакутніца Яго. Ніколі ні на што не скардзілася. Не дакарала Госпаду, што Ён суровы ў адносінах да яе. А цяжар свайго подзвігу несла з любоўю. Так і перамагла ўсе дэманскія спакусы, засталася недаступнай і мёртвай для грахоў, а жывой для Бога.

Яна мела права паўтарыць за апосталам: «І ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос».

Мацярынскімі слязьмі, заклапочанасцю і ўздыханнямі я суправаджала яе на шляху па даліне грахоў. Ахоўвала так, як і ўсіх людзей ахоўваю, бо ўсе ж яны мае дзеці.

Я перажывала кожны раз, калі ёй штосьці не ўдавалася. Але за вынік магла быць спакойнай — ведала, што нават спаткнуўшыся, яна зусім не ўпадзе. А спатыкненні яе выкліканы толькі нявопытнасцю і асаблівай чысцінёю душы, часам няздольнай распазнаць хітрыкі Падманшчыка, а не схільнасцю да грахоў. І мне было шкада яе, калі яна цярпела жахлівыя пакуты. Самотная. З думкамі пра майго Сына як адзіным суцяшэннем.

Я спачувала ўсім дзецям сваім, да канца адданым веры хрысціянскай. Кожнае з іх — часціна майго сэрца, як мой Сын і Гасподзь. Усе яны суахвяры Яго: апосталы і евангелісты, святыя мучанікі, пустэльнікі, дзевы, якія дзеўства сваё цяжкімі пакутамі да смерці ахоўвалі, і ўсе іншыя, што, адольваючы спакусы д’ябальскія, бараніліся ад грахоў. Я ім спачувала, таму што яны ахвярна Богу маліліся, крывавымі слязьмі абмывалі свае душы, любоўю сэрцы ачышчалі. І за гэта я іх любіла ды ганарылася так, як звычайна маці ганарацца подзвігамі сваіх дзяцей.

«Пакідаю гэты свет як пераможца яго!» — мог сказаць кожны з іх. Але маўчаў. Таму што якраз у сціплых дух магутны, а сэрцы незлаславыя, чыстыя, падобна як у дзяцей.

Такая вось яна, Параскева. Калі адчула набліжэнне смерці, яна малілася: «Чалавекалюбны Уладыка, не адвядзі погляду ад убогай слугі Тваёй, не пазбаў магчымасці стаць перад Узвышаным Тваім прастолам. Благаслвёна імя Тваё ў вякі вякоў! Амінь».

Яна і не думала, у сваёй сціпласці нават спадзявацца не пасмела, што я прыйду забраць яе душу, а душа гэтая ўжо цалкам была ператворана ў любоў і малітву.

«Слава Богу за ўсё!» — сказаў Іаан Златавуст перад упакаеннем. І яна паўтарыла тое самае. Аддаючы сваю чыстую душу ў мае рукі, шаптала: «Слава Богу за ўсё!» І ўсміхалася.

Параскева стала не толькі крыжам у пустыні, але і ўзведзеным храмам. Усё яе жыццё — вялікі подзвіг любові да Бога. А любячы Бога, яна і людзей любіла, пакольні адно без другога немагчыма. Так што, упрыгожваючыся любоўю, гэтая ўгодніца сябе зрабіла храмам Бога Жывога.

Цяпер яна прабывае ў Царстве Нябесным, але таксама застаецца памочніцай Бога сярод людзей — рукою і думкаю Божай. І малітвай Яму.

На працягу ўсяго жыцця ў пустыні яна прагла за Госпадам, Яго праўдаю, і як мала хто ведала слодыч жыватворнай вады з Гасподняй крыніцы. Параскева з яе вычышчае бруд, каб як мага чысцейшай была вада.

Тая, што ўмацоўвае, што вылечвае ад хвароб цела і душы. А людзі ведаюць, што гэтая вада ад яе, і яе імем называюць крыніцы.

Сэрца Параскевы і далей застаецца поўным любові, якая прызначана ўсім людзям і аддаецца тым, хто жадае. Бо сэрца, поўнае любові, не можа заставацца абыякавым да гора іншых, яно спяшаецца прынесці палёгку.

«Любоў вышэй за ўсё, бо ёю Бог імянуецца», — пісаў апостал Павел Карынфянам.

І тое, што Бог ёсць любоў, трэба памятаць вечна.

Лірычны герой суадносіў сябе з ветрыкам, які «сумна… завывае», «Горка так ўсё плача, плача бязупынна, Як няшчасна маці на могілках сына». Ветрык імкнецца на свабоду, у «бесканечну даль, Хоць сваю старонку» пакідаць яму вельмі шкада. У няволі, складаных духоўна-сацыяльных умовах мусіць жыць і лірычны герой паэта («Ох, жыву і плачу, як і ты у полі»):

Млею на’т, як бачу, што з намі тварыцца,
Што ня маем права пасвойму маліцца.
Нашую зямельку вун бяруць чужынцы,
У Айчыны грудзі гоняць слуп граніцы.
У сырой зямлянцы з голаду мруць дзеці,
А бацькі гаруюць на чужым гдзесь сьвеце,
Ці можа у турмах звоняць ланцугамі…
Ой, Божа наш, Божа, што тварыцца з намі! [3, с. 50]

Значнае месца ў паэтычных зборніках Я. Быліны займалі байкі. Яны ў пэўнай ступені закраналі нацыянальна-палітычныя і сацыяльныя праблемы і супярэчнасці заходнебеларускай рэчаіснасці, выяўлялі выпадкі нізкага ўзроўню духоўна-патрыятычнай самасвядомасці, маралі і культуры ў грамадстве, выкрывалі няроўнасць і ўціск, угодніцтва і палахлівасць («Блыха і пан», «Курыца», «Кабан і мурашкі», «Шчупак і рыбы» і інш.).

Янка Быліна быў каталіцкім святаром, ажыццяўляў шырокую душ-пастырскую і культурна-асветную дзейнасць на пасадах вікарыя і пробашча ў заходнебеларускіх парафіях, як і яго сябры і аднадумцы, калегі па сану і літаратурнай працы А. Зязюля, К. Сваяк і В. Адважны, адстойваў ідэю беларусізацыі рэлігійнага жыцця. Разам з тым у яго творчасці мы не назіраем характэрнай засяроджанасці на выяўленні той сферы духоўнай свядомасці чалавека, якая звязвае яго з Вышэйшай воляй, Провідам Божым. «У адрозненні ад сваіх калег па пяру і па сану, — адзначае даследчык Я. Трацяк, — Быліна не канцэнтруе ўвагу на суадносінах Бога і Айчыны, боскага і зямнога. Яго больш хвалюе Айчына і Чалавек. Адказ на тыя пытанні, над якімі біўся Казімір Сваяк, Быліна знаходзіць не ў небе, а тут, на зямлі, сярод людзей… У яго няма таго пачуцця бяссілля, што яшчэ больш абуджала і абвастрала пачуццё несправядлівасці — што характэрна Сваяку, — ён спакойна падае факты, малюе сваю карціну, каб суцешыцца і суцешыць іншых». І далей: «Ён нікуды нікога не заклікае, ён упэўнены ў праваце свайго патрыятызму, так як упэўнены ў існаванні Бога, і гэтай упэўненасцю ён натхняе і падтрымлівае іншых, і сцвярджае іх правату і праўду, калі яна не разыходзіцца з прынцыпамі веры і патрыятызму» [4, с. 96].

Лірыка-апавядальны стыль не замінаў паэтам у глыбокім адчуванні і адлюстраванні адвечных жыццёвых праблем і клопатаў працаўніка-беларуса, у паказе яго ўстурбаванага стану, імкненняў і перажыванняў. У іх творах пераважала структура павольнага аповеда, нязмушанага расказу, яснасці і прастаты зместу, абмалёўкі дэталей і падрабязнасцей, выяўлення зрокава-наглядных карцін і малюнкаў. Ім былі ўласцівы асаблівасці традыцыйнай паэтыкі, сістэмы сродкаў мастацкай выразнасці. Гэтыя творы вызначаліся шырокім выкарыстаннем фальклорных песенных стылізацый і плачаў, замоў і малітваў, сказаў і гутарак, вершаваных апавяданняў і баек. У іх элементы жывой народнай гаворкі, мовы «дакладнай і голай», нявобразныя словы і выразы перапляталіся з алегорыямі і сімваламі, увасабленнямі і іншасказаннямі, заклікамі наперад, да працы, сяўбы і г. д.

У 1927 годзе выйшаў зборнік вершаў Францішка Грышкевіча (1906 ці 1904—1944) «Веснавыя мелодыі», які не застаўся незаўважаным заходнебеларускай крытыкай. Ён таксама заангажаваны ў грамадска-патрыятычную тэматыку, звернуты да асэнсавання праблем нацыянальнай і сацыяльнай волі народа. Стрыжнёвай лініяй, дамінантай творчасці паэта з’яўлялася сцвярджэнне ідэі вырашэння вострых грамадскіх супярэчнасцей, гарманізацыі сацыяльных адносін, набыцця беларусамі самастойнасці і незалежнасці. Як і іншыя прадстаўнікі гэтай стылявой арыентацыі, Ф. Грышкевіч маляваў карціны людской нядолі, нялёгкага народнага

побыту і нястач, імкнуўся раскрыць вобраз нявольніка лёсу — працаўніка-селяніна, які штодзённа глядзеў «крыўдзе ў вочы». Яго лірычны герой жыў клопатамі і турботамі, набалелымі праблемамі «зямлі пана», з'яўляючыся часцінкай шырокага грамадскага асяроддзя. У іх агульныя ці блізкія духоўна-маральныя каштоўнасці, інтарэсы і арыенціры, агульныя надзеі і спадзяванні («Раб», «Можа гэта толькі згадка...», «Доля» і інш.).

У духоўна-светапоглядным плане паэт эвалюцыяніраваў ад маральна-філасофскай платформы Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, каталіцкага асяроддзя, у цэлым ідэй незалежніцкага руху, якіх ён прытрымліваўся на пачатку творчасці, улева, у напрамку да камуністычных перакананняў і пазіцый, радыкальнай сацыяльнай праграмы.

Шмат у чым паказальныя і характарыстычныя наступныя радкі верша «З народу мы...»:

Ах... годзі спаць!... Ісьці ўжо час!...
Араць трэ' родны гоні.
Скарэй за плуг, хто жыў і дуж
Дзяры дзірван палетку...
Нясі сьвятло ў цёмну глуш,
Дай брату шчасьця кветку. [5, с. 22]

Ідэйна-эстэтычны змест твора, яго паэтыка і вобразнасць падкрэслена традыцыйныя для беларускай літаратуры. Тэма і вобраз працы, як асноватворная катэгорыя і вызначальны пачатак, якія канцэнтравалі і цэнтралізавалі духоўна-чалавечую энергетыку, а таму збіралі асяроддзе, кансалідавалі масы, вядомы яшчэ з часоў Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны. Шырокае распаўсюджанне і асаблівую вагу яны мелі ў творчасці паэтаў нашаніўскага перыяду, калі заключалі ў сабе характэрны сімволіка-алегарычны змест.

«Ад куточка — да куточка, Як шырокі й доўгі край: Дзе пануе страшна ночка Засявай і асьвячай!» («Праца, праца для Народу...»). У вершах «З народу мы...», «Жніво», «Гімн» і інш. Ф. Грышкевіч у духу традыцый паэтаў-нашаніўцаў, найперш Я. Купалы і Я. Коласа, лучыў між сабою, аб'ядноўваў ў адзінае ідэйна-эстэтычнае цэлае носьбіты дзвюх розных духоўна-псіхалагічных субстанцый: з аднаго боку — вобразы ахвярнай працы, цяжкога ворыва і сяўбы, а з другога — надзеі, святла, асветы, будаўніцтва новага жыцця. Разам яны антаганістычна супрацьстаялі вобразам сну, цемрыва і глушы, нядолі, якія арганізаваны ў трэцяй субстанцыі, імкнуліся разбурыць яе і матэрыялізаваць носьбіты яшчэ адной — светлай будучыні, волі і свабоды, незалежнасці і шчасця, вялі да ўтварэння новай рэальнасці.

На Твае, Беларусь, шыр палеткі
Ўцягнем з сталі гартованы плуг,
І Твае ў белай вопратцы дзеткі
Ў школе змыюць знак «верненькіх слуг». [5, с. 44]

Лепшыя вершы паэта — і тыя, якія ўвайшлі ў зборнік «Веснавыя мелодыі», і тыя, што змяшчаліся толькі на старонках віленскіх перыёдыкаў, — звярталі на сябе ўвагу непасрэднасцю і праўдзівасцю адчуванняў, абгрунтаванасцю і ўзважанасцю, натуральнасцю думак і перажыванняў. Яны вызначаліся стрыманай, самазасяроджанай, у нечым прыцішанай манерай аўтарскага пісьма, сагрэтай зычлівай лагодай і спачуваннем народнай нядолі. Досыць рэдкі іранічна-ўсмешлівы жэст, часам бадзёры вокліч межавалі ў іх з плынню скрушліва-тужлівай зместавай энергетыкі, асамотненым роздумам над заняпалым лёсам роднага краю. «Як блізу кожны малады пясьняр, так і Фр. Грышкевіч належыць да паэтаў лірыкаў, — пісаў у сваёй рэцэнзіі «З літаратурнай нівы», надрукаванай у газеце «Беларуская крыніца», нехта J. — Уласныя духовыя перажываньні, любоў да гаротнай бацькаўшчыны Беларусі, справы каханьня і ня многія спробы апісваньня роднай прыроды — вось галоўны зьмест лірычнай паэзіі Фр. Грышкевіча» [6, с. 4].

У мастацкай карціне Ф. Грышкевіча, у самой яе вобразнай тканіне, прысутнічалі, дапаўнялі і падтрымлівалі адзін аднаго элементы аповеда і паказу, расказу і адлюстравання, замалёўкі і споведзі, выяўлення ўнутранага свету асобы:

Ціха ў боры,
Ціха ў гаю,
Ціха траўка ў ценю сьпіць.
Я на зоры
Паглядаю
І душа мая гарыць... [5, с. 10]

Паэт звяртаўся да традыцыйна-фальклорных матываў і вобразаў, сродкаў і прыёмаў, народна-паэтычных форм і элементаў матэрыялізацыі думкі, эмацыянальна-пачуццёвай выразнасці і акцэнтацыі, якія ў многім садзейнічалі даходлівасці і ў цэлым жыццядзейнасці яго лепшых вершаў. Напрыклад, некаторыя з іх былі вытрыманы ў жанры замовы, малітвы, калыханкі («Роспач», «Малітва», «Калыханка» і інш.).

Лірыка-апавядальны стыль сцвярджаў асаблівасці традыцыйнага верша, лірычны змест якога раскрываў аб’ектыўную прыроду з’яў і рэчаў, сапраўдную сутнасць падзей і фактаў, як правіла, звязаных з канкрэтным хранатопам, пэўнымі і выразнымі сацыяльнымі ўмовамі і абставінамі. Гэты верш заключаў у сабе як бы дзве рэальнасці: знешнюю, абумоўленую адлюстраваннем суровай праўды заходнебеларускага жыцця, і ўнутраную, звернутую да выяўлення складанага свету думак і перажыванняў лірычнага героя. Ён паўставаў часцей за ўсё як больш ці менш разгорнуты сюжэтна-драматычны нарыс, у якім рух паэтычнага дыскурсу забяспечваўся ўзаемадзеяннем апавядальнага, прадметна-выяўленчага і лірычнага, эмацыянальна-пачуццёвага пачаткаў, таго, што аўтар расказваў, паказваў і выказваў. Як перапляценне паведамлення-апісання-расказу і лірычнага прызнання, душэўная гутарка пра набалела-цяжкія праблемы і супярэчнасці рэчаіснасці. Дадзеная акалічнасць абумоўлівала характэрную аб’ёмнасць карцін і малюнкаў, іх фізічную канкрэтнасць і выразнасць. Гэта была, калі можна так сказаць, апавядальна-сюжэтна-апісальная, аб’ектыўна-суб’ектыўная паэзія, не яркая, не гучная, але шчырая, пранікнёная, выразная. Яе вядучай стылявой парадыгмы прытрымліваўся і Улад.-Ініцкі (сапр. — Уладзіслаў Паўлюкоўскі) (1895—1955), які даволі шырока друкаваўся ў заходнебеларускай перыёдыцы другой паловы 1920-х гадоў. Творы паэта з’яўляліся на старонках часопісаў «Маланка», «Авадзень», «Шлях моладзі», з якімі ён стала супрацоўнічаў як літаратар і мастак, газетах «Наша праўда», «Голас працы» і інш. Лепшыя з іх склалі зборнікі «Сон Гаўрылы і розныя вершы» і «Клім бабаю і іншыя жарты», выдадзеныя ў Вільні адпаведна ў 1928 і 1929 гадах.

Улад.-Ініцкі ставіў пытанні грамадска-прававога ўрэгулявання, сацыяльнай і нацыянальнай няроўнасці, выхавання і развіцця этнасвядомасці працоўных мас, культуры і асветы сялянства, аб’яднання дэмакратычных сіл на аснове ідэалаў свабоды і справядлівасці. Тэма народнай няволі і нядолі акумулявала ў лепшых творах паэта усё, звязанае з жыццём і лёсам беларуса, яго мінулым і цяперашнім. Малюнкі і накіды беднасці і ўбоства сялянскага існавання, непасільнай працы і матэрыяльнай нэндзы, цемрыва, галечы і бяспраўя, крыўды, а ў выніку — непазбыўнага людскога гора і безнадзейнасці паўстаюць у вершах «Мужыцкае жыццё», «У вастрозе», «Адны і другія», якія раскрываюць прыроду існуючых грамадска-сацыяльных адносін. Адметнасць апошняга з іх заключаецца ў тым, што ён уяўляе сабой абагульнены па змесце, унутрана сабраны і ў той жа час дыферэнцаваны ў колерах і фарбах, блізкі да эцюда відарыс:

Адны ядуць, другія служаць,
Адны пяюць, другія тужаць.
Адныя п’юць віно, лікёры,
Другія льюць сьлязу ад гора,
Адны ўвесь век
Жывуць — пануюць,
Другія зьдзек
Цярпяць, бядуюць... [7, с. 25]

Шмат у чым традыцыйны, тыповы для свайго часу, але ў нечым і адметны, характарыстычны і паказальны для мастацкіх пошукаў Улад.-Ініцкага верш «Доля», у якім аўтарская энергетыка разгортваецца па нарастаючай. Твор пачынаецца як скарга лірычнага героя на свой непамысны лёс, скрутныя абставіны знешняга свету. Ён наракае на складанасці, бядоту і беспрасвецце жыцця, жаліцца на цяжкую долю, якая дужа рана з ім запазналася і шчыра ў яго закахалася, называе яе сумнаю, сірочаю, бязвольнаю, жабрацкаю. Ідэйна-эмацыянальны змест верша, думкі і пачуцці, заключаныя ў ім, накопліваюцца і кандэнсуюцца. Скаргі і нараканні лірычнага героя паступова змяняюцца палемікай і спрэчкай з доляю («Ходзіш, як цень, ты за мной неадлучная, Доля бясслаўная, доля бязгучная...»), пераходзяць у яе адкрытае непрыняцце і адмабілізаваны пратэст:

Эх, ты, праклятая доля, паганая,
Кінь ты, адстань ад мяне, пагарджаная,
Дай мне зірнуці на радасьць раздольную,
Дай мне пачуці, эх... волейку вольную! [7, с. 19]

Пры ўсім тым, адзнак трагічнай абумоўленасці, фатальнасці зместу матыў народнай няволі і нядолі ў вершах Улад.-Ініцкага не набываў. Чытаючы іх, бачыш: аўтар верыў у прыход светлых дзён, пазітыўных грамадскіх зрухаў, у тое, што «ня згіне думка тая», якая жыве ў народзе і «няўпынна выяўляе Долю лепшую ў свабодзе». «Не патухне іскра тая, — адзначаў ён, — Што у сэрцах люду тлее, Шчасьце ў далі асьвятляе І жыцьцё надзеяй грэе» [7, с. 21]. У шэрагу твораў паэта вера і сацыяльны аптымізм раскрываліся праз выразныя сімвалічныя і алегарычныя вобразы і асацыяцыі, якія з'яўляліся носьбітамі пісьма паэтаў-нашаніўцаў.

Асаблівасці мастацкага мыслення Улад.-Ініцкага вызначаліся тым, што ў яго лепшых вершах досыць натуральна суіснуюць, сувымяраючыся між сабою, пераважна прадметна-рэчыўны лад адчуванняў, заангажаванасць у цяжкую канкрэтыку вяскова-сялянскай паўсядзённасці і індывідуальна-пачуццёвы свет прыватнай асобы, яе суб'ектыўна афарбаваныя назіранні і роздум. Як правіла, эмацыянальна-настраёвы пачатак, душэўна-лірычны струмень наслойваюцца ў іх на эпічна-падзейны стрыжань, вонкава-апісальныя малюнкі і накіды. У адрозненне ад твораў многіх іншых заходнебеларускіх аўтараў, у зборніках Улад.-Ініцкага мы фактычна не сустрэнем адмабілізаваных заклікаў да актыўных дзеянняў, ісці ў масы, абуджаць іх да рашучага супрацьстаяння прыгнёту і несправядлівасці, крыўдзе і няшчасцю. Паэт падтрымліваў ідэі сацыяльнай актыўнасці, непакоры і змагання, салідарызаваўся з народным рухам за волю і шчасце, аднак яго абвінаваўчыя інвектывы, пратэст і непрыняцце бяспраўя і прыніжанасці мужыка-беларуса не гучалі ў адкрытай, публіцыстычнай форме, а былі прытоены ў самім праблемна-тэматычным змесце, вобразнай тканіне вершаў, у іх падтэксце.

Яшчэ раз заўважым: мастацкія здольнасці прадстаўнікоў гэтай часткі лірыка-апавядальнай стылявой плыні былі сціплага патэнцыялу і магчымасцей. Іх творы не вызначаліся асаблівай арыгінальнасцю ідэйна-эстэтычнага мыслення, глыбінёй і ёмістасцю эмацыянальна-псіхалагічнага зместу. Многія з гэтых твораў звярталі на сябе ўвагу прыблізнасцю ідэалу, фальклорападобнасцю, прастатой, а часам і спрошчанасцю тэматыкі і мастацка-выяўленчых сродкаў і прыёмаў, даволі слабым, не поўным раскрыццём душэўна-чалавечага свету асобы, перадачай недыферэнцаванага стыхійна-эмацыянальнага субстрату. Яны характарызаваліся дыдактычна-маралізатарскімі сентэнцыямі, тым, што фактычна зусім не прадугледжвалі падтэксту, прамалінейнасцю, а часта і схематызмам паэтычнага прамаўлення, эскізнай ілюстрацыйнасцю вобразнага малюнка, які не заўсёды забяспечваўся адпаведным настроем і перажываннем. Тым не менш пошукі і здабыткі разгледжаных аўтараў садзейнічалі развіццю заходнебеларускага літаратурна-мастацкага працэсу, былі карысныя для грамадска-культурнай супольнасці краю.

Лірыка-апавядальная стылявая плынь была дамінуючай у творах Г. Леўчыка, С. Станкевіча, некаторых іншых заходнебеларускіх аўтараў, у тым ліку таленаві-

тых прадстаўнікоў масавай самадзейнай паэзіі — Я. Вількоўшчыка, У. Казаровіча, Ф. Каравацкага, С. Новіка-Пеюна. У рэчышчы гэтага стылю палягалі вершы Ю. Сергіевіча, В. Струменя, А. Сучка, П. Сушко, Г. Праменя, М. Явара. Згаданыя паэты імкнуліся ўнесці ў яго распрацоўку свой уклад, адпаведны сіле мастацкага таленту і творчай працы.

У той час, калі ў паэзіі Савецкай Беларусі ішоў працэс разбурэння нашаніўскай нормы, заходнебеларуская была звернута да яе актыўнага сцвярджэння і развіцця. Творчасць прыхільнікаў гэтай стылявой арыентацыі грунтавалася на факце, падзеі, здарэнні, непасрэднасці, а часта і наіўнасці адчуванняў і ўяўленняў і вызначалася рэалістычным адлюстраваннем рэчаіснасці, характэрнай аднастайнасцю і каструбаватасцю праблемна-тэматычнага раскрыцця, недаацэнкай унутранага свету чалавека. Сёння яна ўспрымаецца як мастацкі дакумент жыцця шырокага грамадска-сацыяльнага асяроддзя, выяўлення яго набалелых праблем, імкненняў і жаданняў.

## Спасцігаючы канкрэтыку жыцця

Творчасць другой, больш шматлікай, групы прыхільнікаў лірыка-апавядальнага стылю звяртала на сябе ўвагу даволі шырокай канцэпцыяй жыцця грамадства, характэрнай сацыяльна-маральнай напоўненасцю, выяўленнем сувязей і дачыненняў канкрэтнага чалавечага лёсу і лёсу народнага. Яна вызначалася больш высокім узроўнем духоўна-сацыяльнай свядомасці героя, увагай да многіх дэталей і падрабязнасцей знешняй рэчаіснасці і душэўна-псіхалагічнага свету асобы, узаемапранікненнем аб’ектыўнага і суб’ектыўнага, арганічнасцю думкі і эмоцыі.

Гэтыя паэты сведчылі актыўнасць асваення складаных жыццёвых з’яў і працэсаў, паглыбленне сферы асабовага, лірычнага пачатку, суб’ектыўнага фактару, характэрную індывідуальна-аўтарскую пластычнасць і адметнасць. У іх творах агульнае прадугледжвала існаванне асобнага, грамадска-сацыяльнае, калектыўнае, масавае апладнялася асабістым, прыватным, адзінкавым, насычалася канкрэтна-гістарычным зместам. Герой паўставаў тут у выразнай абмалёўцы свайго індывідуальнага светаразумення і аблічча, у раскрыцці адносін да шырокага спектру грамадскіх працэсаў, а падзеі і факты знешняй рэчаіснасці паўставалі ў непаўторным жыццёвым выяўленні.

Творчасць характарызавалася вастрынёй сацыяльнага пагляду, значным эмацыянальным пранікненнем у навакольны свет, даволі актыўнымі формамі мастацкага мыслення і творчага раскрыцця. Яна сцвярджала ідэі духоўна-сацыяльнага і нацыянальна-культурнага абуджэння і руху, кансалідацыі грамадскіх сіл з мэтай супрацьстаяння несправядлівасці і прыгнёту. У ёй дакладнасць рэалістычнага адлюстравання з’яў і падзей даволі часта спалучалася з асаблівасцямі рамантычнай узвышанасці імкненняў і парыванняў героя, лірычная непасрэднасць і пранікнёнасць дапаўняліся публіцыстычна-сатырычнай завостранасцю і інш.

Паэзіі гэтых аўтараў уласцівы натуральнасць лірыка-апавядальнага дыскурсу, дакладная перадача думкі і настрою, прадметна-пачуццёвая канкрэтнасць і выразнасць, характэрная плоцевасць слова. Яна вызначалася яскравасцю вобразнага малюнка, пэўнай свабодай мастацкай формы, ростам публіцыстычнай напружанасці вершаванай мовы, пластыкай рытміка-інтанацыйнага гучання.

Многім адзначаным аспектам мастацкіх пошукаў аддаваў перавагу Алесь Смаленец (сапр. прозвішча — Ружанцоў (1893—1966), вершы якога друкаваліся ў шэрагу заходнебеларускіх перыёдыкаў на пачатку 1920-х гадоў. Гэта своеадметныя творы, мала характэрныя для тагачаснай літаратуры, цікавыя і арыгінальныя сваім зместам і формаю. А. Смаленец прыкметна рассоўваў праблемна-тэматычныя абсягі заходнебеларускай паэзіі, сцвярджаў асновы невялікага, але ёмістага сацыяльна-псіхалагічнага верша. Гэты верш вырастаў на глебе аб’ектывізаванага рэалізму, быў заангажаваны ў нетаропкую плынь засяроджанага роздуму лірыч-

нага героя, асветлены і сагрэты яго тонкай, ледзь улоўнай душэўна-пачуццёвай энергетыкай. Сацыяльна-бытавы, рэалістычны пачатак сінтэзаваўся ў ім з духоўна-філасофскім, экзістэнцыяльным, як у дадзеным выпадку:

Мільганула маланкай ў мазгу: «я памру!»
Й гасьне думка ў крывавым віру...

І ў самлеўшае цела так смагла ўткнулі
Свае тварыкі гострыя кулі.

І ўпала яно. І пачуліся енкі
Каля цёмнай цаглянае сьценкі.

Раптам згасьлі ліхтарні… Задыміў папіросай,
Моцна лаяўся хтосьці з матросаў…

На сьнягу чырванела крывавая пляма: —
Зачынілась жыцьцёвая брама. [8, с. 3]

Верш А. Смаленца «Расстрэл» — гэта не толькі зрокава наглядная, але і фізічна і пачуццёва ўспрымальная, эмацыянальна адчувальная карціна. Яна да натуралізму дакладная ў дэталях і апісаннях, пластычна выразная, псіхалагічна насычаная. Дамінуючымі ў ёй, вядома, з’яўляюцца элегічныя інтанацыі.

Творчае мысленне прадстаўнікоў лірыка-апавядальнай стылявой плыні грунтавалася на асаблівасцях канкрэтна-гістарычнага светапогляду, рэалістычна-аб’ектыўнага характару мастацкага абагульнення. Паэтыка іх лірычнай свядомасці была звернута да адлюстравання жыцця «ў формах самога жыцця» (М. Чарнышэўскі), у яго матэрыяльна-прадметнай пластыцы, канкрэтнасці, праўдзівасці і аб’ектыўнай паўнаце чалавечых паводзін і ўчынкаў, характараў і лёсаў, да паказу рэальнай сутнасці з’яў і працэсаў, бед і праблем беларускага этнасу. Мастацкія творы вызначаліся імкненнем да праўды рэчаіснасці, сацыяльнага вопыту асобы, вялікай ступенню эйдэтычнасці, калі аб’ект аўтарскага ўспрымання максімальна набліжаўся да асаблівасцей яго выяўлення і інтэрпрэтацыі.

Алесь Смаленец браў удзел у вядомых падзеях сусветнай і грамадзянскай войнаў, служыў камандзірам беларускага батальёна ў Літоўскай арміі, пазней кіраваў Цэнтральнай вайсковай бібліятэкай у Коўне, даследаваў гісторыю беларускіх вайсковых фарміраванняў. Відаць, менавіта таму прадметам асэнсавання ў ягоных творах з’яўляўся галоўным чынам цяжкі па сваім змесце ваенны матэрыял, складаная праблема ўзаемадачыненняў і ўзаемадзеяння чалавека, асобы і вайны, звязаных з ёю абставін і акалічнасцей, пакут і выпрабаванняў. Яны заключалі ў сабе апісанні падрыхтоўкі жаўнераў да атакі на ворага, іх нялёгкага акопнага побыту паміж баямі, немудрагелістага вайсковага рыштунку і амуніцыі, малюнкі шматлікіх разбурэнняў і ахвяр. Пры гэтым, што характэрна і сімптаматычна, паэт умела пазбягаў як спрашчэння і прыхарошвання, так і штучнай драматызацыі і трагедызацыі падзей і абставін. Вайна паўставала ў сваім рэальным абліччы, пад кутом аб’ектывізаванай праўды, матэрыялізуючыся ў канкрэтных і выразных фактах і дэталях, колерах і фарбах, ва ўспрыняцці яе непасрэднага ўдзельніка, чалавека, які ведаў пра яе разбуральную сутнасць калі не ўсё, дык вельмі многае. Гэта добра відаць на прыкладзе наступных радкоў:

Выш ня крэсьліць самалёт,
Маўчыць шпаркі кулямёт…
Зраньня духата ў зямлянцы,
Йду прайсьціся па дзялянцы.
Бомбакід глядзіць паважна,
Вартаўнік над ім адважна
Пазірае ў тарчы шчэрбу,
Бачыць зломаную вербу,
Два шкілеты паўспрухнеўшых,

Шмат ракетаў незгарэўшых,
Мінаў, бомбаў… Як іржышча —
Гэта чортава ігрышча.
А з варожага акопа
Выпнуў перыскоп высока,
Падазрэнна косіць вока,
Бачыць — вораг недалёка. [9, с. 204]

Лірычны герой верша «Зрання ў акопах» не проста сузірае, канстатуе і дэкларуе, а разважае, мысліць, перажывае. Матэрыял навакольнай рэчаіснасці падаецца ў творы ў святле яго ўстрывожанага роздуму і пачуццяў, асэнсавання маральнай прыроды сучасніка, у цэлым — духоўных каштоўнасцей жыцця. Знешняя як бы адстароненасць аўтарскага светабачання і расповеда не выключае, а, наадварот, прадугледжвае наяўнасць шчырай зацікаўленасці, душэўна-чалавечага клопату і ўвагі, чуласці і спагады, якія базіруюцца на прынцыпах высакароднасці і гуманізму. На першы погляд, здавалася б, несумяшчальнае, дысгарманічнае, дысанансанае — разбуральная, знішчальная сутнасць вайны і духаносны, дабратворны, жыццядайны пачатак — суседзіць, паядноўваецца між сабою, дапаўняе адно другое, раскрывае складаную і супярэчлівую дыялектыку чалавечага існавання. Як падаецца, дужа характарыстычнай з'яўляецца заключная страфа верша:

Сьпяць жаўнеры ў лісіх норах,
Можа, сьпіць яшчэ і вораг
І як наш жаўнер, так ён
Нейкі радасны сьніць сон… [9, с. 204]

Прадметы і ўмовы, асаблівасці аб'ектыўнай рэчаіснасці псіхалагізаваліся і эстэтызаваліся паэтам, напаўняліся значным сэнсатворным зместам.

Вершы А. Смаленца «На форце», «Прад атакай», «На старой дзялянцы», «Пасля палону», «Хворы я. Душа ў мяне хварэе…» і іншыя — простыя сваёй пабудоваю, асаблівасцямі канструктыўнай мадэлі, увасаблення думкі і пачуцця. Гэта пераважна вершы-накіды, вершы-эскізы, вершы-замалёўкі, у аснове якіх палягае той ці іншы знешні ці ўнутраны відарыс, адлюстраванне пэўнага стану. Яны змястава ёмістыя, эмацыянальна-пачуццёва насычаныя і скандэнсаваныя. У сваім артыкуле «Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы» М. Гарэцкі слушна адзначаў: «З іншых ковенскіх беларускіх працаўнікоў (апрача Ластоўскага. — **М. М.**) трэба згадаць Алеся Смаленца; яшчэ ў віленскіх газэтах у 1921—22 г. было зьмешчана колькі яго вершаў, моцных думкаю і даволі арыгінальных формаю» [10, с. 85]. Аб'ядноўвае іх асоба лірычнага героя паэта — натура цэласная, сацыяльна значная, з вынашанымі прынцыпамі і перакананнямі, выверaным і пэўным духоўна-маральным светам, тонкімі адценнямі свядомасна-псіхалагічных змен і зрухаў.

У артыкуле «Людзі і становішчы» Б. Пастарнак падкрэсліваў, што «музыка слова — з'ява зусім не акустычная і заключаецца не ў мілагучнасці галосных і зычных, асобна ўзятых, а ў суадносінах значэння гаворкі і яе гучання» [11, с. 219]. Прыхільнікі лірыка-апавядальнай стылявой плыні развіцця заходнебеларускай паэзіі распрацоўвалі ўнутрана сабраны, напеўна-меладычны верш — просты, часам некалькі аднастайны, у якім прыватна-чалавечае спалучалася з грамадска-сацыяльным, як мы адзначылі, пераважалі лірыка-рэалістычныя сродкі і прыёмы мастацкага абагульнення і індывідуалізацыі героя. Ён грунтаваўся на ўзгодненасці ўнутранага і знешняга, раўнавазе думкі і пачуцця, эмацыянальнага і рацыянальнага пачаткаў, апісальна-нарысавых і жывапісных элементаў, святла і ценяў, на прынцыпах натуральнага паказу з'яў і прадметаў. Яго паэтыка вызначалася шчырасцю і непасрэднасцю лірычнага выказвання, характэрнай рэалістычнай энергіяй і сімволікай, канкрэтна-пачуццёвым зместам, пластыкай лагічнага і дакладнага адлюстравання. Часцей за ўсё гэта быў верш-маналог з элементамі суб'ектыўна-лірычнай ацэнкі падзей і фактаў, якая характарызавалася стрыманым пафасам, ураўнаважанай стылістыкай, сціпласцю паэзіятворчых рашэнняў. Яго мастацка-вобразныя структуры, іх архітэктанічныя модусы падпарадкоўвалі-

ся перадачы зрокавай нагляднасці карцін і малюнкаў, душэўна-пачуццёвай і рытміка-інтанацыйнай мернасці і арганічнасці. Ён вызначаўся характэрнай эмацыянальна-сінтаксічнай злітнасцю фразы, трывала ўсталяванай сістэмай мастацкіх сродкаў і кампанентаў, перавагай ямбічных і харэічных метраў, перакрыжаванай рыфмоўкі і інш.

Гэтая форма верша вядучая ў творчасці Міхася Васілька (сапр. прозвішча — Касцевіч) (1905—1960), якая заключала ў сабе сімбіёз аб'ектыўна-выяўленчага і суб'ектыўна-выразнага, апавядальна-гутарковага і лірычнага пачаткаў. У вершах другой паловы 20-х гадоў «Віхар», «З вясной», «Сілаў ня маю я...», «Там краіна мая» і іншых, што склалі зборнік «Шум баравы» (1929), паэт адгукаўся на актуальныя падзеі грамадскага жыцця, сялянскай рэчаіснасці, з падкрэсленай увагаю, душэўнай цеплынёй і спачуваннем гаварыў пра цяжкі, гаравіты лёс, клопаты і турботы працаўніка-земляроба, раскрываў багаты і непаўторны свет яго думак і пачуццяў, надзей і спадзяванняў. Яны прыцягнулі ўвагу натуральнасцю перажывання, нязмушанасцю расповеда аўтара, яго праўдзівымі і пераканаўчымі замалёўкамі і апісаннямі, пранікнёнымі і трапнымі назіраннямі і ацэнкамі, характарыстыкамі і заключэннямі, разнастайнасцю рытміка-інтанацыйнага гучання. У вершы «Там краіна мая» на аснове асаблівасцей мастацкага аналізу і асэнсавання канкрэтна-гістарычных рэалій заходнебеларускай сапраўднасці, жыцця і працы мужыка-селяніна М. Васілёк выявіў глыбокае разуменне сваіх духоўна-маральных і грамадзянска-патрыятычных задач і абавязку, намаляваў яркую, запамінальную, цэласную карціну, засведчыўшы добрае ўмельства выходзіць на шырокія сацыяльныя абагульненні.

Там дзе высяцца стромкія хвоі,
Дзе бярозкі шапочуць лісьцьцём,
Дзе знаходжу спачынак душой я
У разважаньнях сваіх над жыцьцём —
        Там краіна мая.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дзе на ніўках сьлязою палітых,
Градам поту, пад сьпёкаю дня, —
Аб нядолі тых дзён пражытых
Сумну песьню складае жняя...
        Там краіна мая... [12, с. 57—58]

Як падаецца, дужа характарыстычным і паказальным у кантэксце нашай размовы з'яўляецца верш «Я ратай, можа няўдала...», у якім паэт сам пацвярджае і абгрунтоўвае дамінанты лірыка-апавядальнай канцэпцыі сваёй творчасці, прызнаючыся, што ў сваю песню «ўплятаў парывы сэрца, Душы голас», што ў ёй «ёсьць хварбы бедаў, гора».

Я ратай, можа няўдала
Выйшаў першу баразёнку?
Пачуцьця мо' ў песьнях мала,
Каб радзімую старонку
Напаіць к жыцьцю прагненьнем,
Каб на славу пакаленьням
Наша ніва красавала
Бліскам сонца-агняцьвету? —

пытаецца ён і, разважаючы, адказвае:

Так, пачаў можа няўдала,
Ды затое ў песьню гэту
Я ўплятаў парывы сэрца,
Душы голас, што ліецца
У сьвет вольны гучным тонам!
Тут ёсьць хварбы бедаў, гора,
Ёсьць запал ў віхры шалёным. [12, с. 98]

Верш апавядальны і спавядальны, роздумны, у ім яскрава і пераканаўча выявіліся характэрныя якасці асобы лірычнага героя паэта — сціпласць, высакароднасць, грамадзянская занепакоенасць, патрыятызм. Аўтар разважае над духоўна-сацыяльнай місіяй, зместам і характарам сваёй песні, падкрэслівае яе каранёвую повязь з жыццём абяздоленага народа, бяспраўнай і прыгнечанай «радзімай старонкі», свой паэзіятворчы занятак суадносіць з цяжкой і ахвярнай, жыццядайнай працай селяніна-аратая.

Міхась Васілёк адчуваў свае патэнцыяльныя магчымасці, імкнуўся развіваць іх, настойліва працаваў над сабою і хутка прыбаўляў у творчым росце. У канцы 1920 — пачатку 1930-х гадоў з-пад яго пяра з’яўляюцца вершы, што заключаюць у сабе шмат цікавых і арыгінальных вобразных адкрыццяў, метафар і асацыяцый, эпітэтаў і параўнанняў, якія сведчаць пра адметнасць светаўспрымання і мыслення паэта, глыбокі народны змест яго мастацкага дару. Нямала знаходзім іх і ў творах са зборніка «Шум баравы»: «гаротны ратай Цяжкі крыж нясе маткі-краіны» («Не для славы імкнуся цябе я стварыць...»), «Вырвала душу нядоля балючая», «Зьлёг, як трава пад касой, чалавек» («Памяці паэта»), «Грудзі збалелыя, Сілы самлелыя, Думкі, бы ноч» («Сілаў не маю я...»), «Лёс твой (вёска. — **М. М.**) нядоляю быў абгароджаны; Глянь, у палёх, болем сэрца народжаны, Сум твой туманам ляжыць...» («З вясной»).

Творы М. Васілька пераконваюць у слушнасці думкі, выказанай М. Танкам: «Паэт імкнецца да мастацкай праўды шляхам аналізу рэальнага жыцьця, як да крыніцы, з якой выцякае ўся творчасьць», ён «любіць сваю старонку так, як любіць яе беларус-земляроб, батрак, жняя» [13, с. 98].

У 20-я гады выявіліся гумарыстычна-сатырычныя асаблівасці мастацкага таленту М. Васілька, якія ў значнай ступені абумовілі рост яго папулярнасці ў шырокім народным асяроддзі. Паэт крытыкуе польскія ўладныя структуры і чыноўніцтва, іх законы і ўсталяваныя грамадска-сацыяльныя парадкі, маральныя асновы жыцця, выкрывае характэрныя нормы паводзін і ўчынкаў паноў і іх памагатых, звязаныя з прыніжэннем чалавечай годнасці селяніна, паказвае двурушніцтва і эгаізм у дзеяннях партый, палітычных і грамадскіх асоб. Ён звяртаецца да багатых і разнастайных залежаў фальклору, народных матываў і вобразаў, па-майстэрску спалучае іх з балючымі актуаліямі часу, асэнсаваннем вострых праблем заходнебеларускай рэчаіснасці («З кісельным берагам рака», «Дзед і смерць» і інш.).

У 1937 годзе выйшаў другі зборнік вершаў М. Васілька «З сялянскіх ніў», у якім паэт паўстаў перад чытачом шмат у чым у новай якасці, новым абліччы. Узбагаціўся і разнастаіўся праблемна-тэматычны змест яго твораў, вырасла ідэйна-эстэтычная ёмістасць мастацкага вобраза, узнялася напружанасць эмацыянальнага гучання паэтычнага радка. Аснова вершаў М. Васілька засталася тая ж — лірыка-апавядальная, аб’ектыўна-выяўленчая, але цяпер на яе наслойваюцца выразныя грамадзянска-публіцыстычны і роздумна-аналітычны пласты. Паэт ідзе ў глыбіню, выяўляе схільнасць да асэнсавання грамадскіх працэсаў, аналізу рэчаіснасці. Думка яго вострая і ў той жа час выверанная, напоўненая падкрэсленым сацыяльным зместам, пачуццё вынашанае, насычанае, трапяткое, рытміка-інтанацыйны лад верша вольны, раскаваны, нязмушаны:

З сялянскіх ніў прынёс сюды жывыя адгалосы.
Іх зьліць хачу з машын сталёвых сьвістам!
Я сын мільёнаў шэрых, бедных, босых.
Ідзём уперад мы
З заданьнем урачыстым...
Прайдуць вякі...
Аб нашых днях гісторыя напіша.
Ня будзе нас — другія будуць людзі...
У песьнях вольных
Нас другі песьняр акордамі ўскалыша;
За наш агністы сьлед
У сэрцах, думках іх, мы вечна жыці будзем!.. [14, с. 3]

«Лірыка-апавядальны стыль, — піша У. Гніламёдаў у кнізе «Ад даўніны да сучаснасці», — гэта ўраўнаважанасць і стрыманасць у праяўленні пачуццяў, сканцэнтраванасць на перажыванні, устаноўка на дакладнасць і яснасць вобраза, на інтанацыйную шматграннасць. Верш паэтаў — прадстаўнікоў гэтага стылю — не выдзяляецца асаблівай незвычайнасцю метафар ці параўнанняў, наўмысным арыгінальным ходам. Ён іншы раз здаецца нейкім будзённым, звыклым ужо па традыцыі, некалькі аднастайным, калі аднастайнасцю лічыць гэтую схільнасць да простых рытмічных форм, але ў ім ёсць асаблівае рамантычнае асвятленне, эмацыянальнае пранікненне слова…» [1, с. 156—157]. Устаноўка на адлюстраванне прадметнай канкрэтыкі рэчаіснасці, на «ўраўнаважанасць і стрыманасць у праяўленні пачуццяў», «дакладнасць і яснасць вобраза» садзейнічала раскрыццю творчых індывідуальнасцей многіх заходнебеларускіх паэтаў, давала магчымасць падаць з’яву ці працэс як спалучэнне адметнага і заканамернага, асобнага і агульнага. Тым самым забяспечваўся аб’ектыўна-праўдзівы паказ фактараў сацыяльна-гістарычнага развіцця, грамадскіх умоў і абставін, змен і зрухаў у духоўна-псіхалагічным свеце і, наогул, жыццёвых лёсах канкрэтных чалавечых асоб.

Амаль адначасова з М. Васільком у заходнебеларускую літаратуру прыйшоў Міхась Машара (1902—1976), які ў сваёй творчасці таксама сцвярджаў асновы і нормы лірыка-апавядальнай стылявой плыні. Змест і характар роздумаў і эмацыянальных узрушэнняў лірычнага героя паэта праўдзіва суадносіліся з рэальнай канкрэтыкай падзей і фактаў, з аб’ектыўным станам характэрных праблем і вострых супярэчнасцей заходнебеларускай рэчаіснасці. М. Машара сведчыў умельства дынамізаваць думку, канцэнтруючы яе ў даходлівым, празрыстым вобразе, разгортваць пластычна выразны настрой і перажыванне, акцэнтаваць увагу чытача на самым істотным і вызначальным у з’яве і працэсе, раскрываць паміж імі нечаканыя асацыятыўныя сувязі, ствараць свежыя, яскравыя і пераканаўчыя карціны і малюнкі жыцця сялянскага асяроддзя і прыроднага свету. Пры гэтым у грамадстве яго найперш цікавілі рух, дзеянне, абуджэнне, а ў прыродзе — змена, пераходны стан, выспяванне іншай якасці, абнаўленне. Да прыкладу, лірычны герой верша «Родным гоням» поўніцца непадробнай радасцю і душэўным узрушэннем, лагодна назіраючы, як ранняю вясною, «Калі яшчэ голае ўсё», «рвецца да сьвету жыцьцё У творчых абняцьцях красы», «Як кожным паранкам туман, Бы белае стада гусей, Ад цёплых, ад мокрых палян Плывець у гару ўсё вышэй...» [15, с. 2].

Многія творы М. Машары вымушалі чытача прыпыніцца і агледзецца навакол сябе, задумацца над сваім жыццём і яго акалічнасцямі, цвяроза і ўзважана асэнсаваць рэальны стан грамадскіх з’яў і працэсаў. Яны вярэдзілі яго душу праўдзівымі, насычанымі карцінамі і малюнкамі вясковай рэчаіснасці, гаротнага жыцця і працы селяніна-земляроба, выхоўвалі ў яго пачуцці любові да роднага краю, высакароднасці і гуманізму, чуласці і спагады.

На палку, ў кутку, ля печы
Матка хворая ляжыць.
Ля яе пакрыта нечым,
Дзіцянё ў калысцы сьпіць.

Ля палка стаіць другое,
У дзюравым каптане...
Сыра ў хаце... Пахне гноем,
Грыбам плесьні на сьцяне.

Печ замурзана у сажу,
Шчэрыць свой бяззубы рот.
На прылаўцы з міскі кашу
Даядае смачна кот.

Каля печы па далоўю
Парасё і стада кур.
У вокны, бітыя з надвор’ю,
Заглядзеўся гурбаў мур. [16, с. 25]

Верш паэта падкрэслена традыцыйны для нашай літаратуры, просты, празрысты і ясны, звыклы для ўспрыняцця шырокага чытача і слухача. Гэта верш-апавяданне, верш-апісанне, верш-характарыстыка, у якім звычайна гутарка вядзецца ад трэцяй асобы, хаця і не заўсёды, радзей — верш-споведзь. Аб'ектыўна-выяўленчы пачатак выконвае ў ім вядучую, дамінуючую, стылеўтваральную ролю:

Я бачыў яго ў полі
Як збожжа сьвянціў ён —
Сьвянціў рукой мазольнай
Размашыста загон.
Па чорнай ральлі сьмела
Стаўляў за шагам шаг,
З кашулі яго белай
Нёс вецер поту пах. [17, с. 33]
*(«Сяйбіт»)*

У творчасці М. Машары, як, зрэшты, і М. Васілька, шмат што вызначалі асновы і прынцыпы народнай самасвядомасці, духоўна-псіхалагічная паяднанасць лірычнага героя са стыхіяй сялянскага жыцця. Паэт у многім арыентаваўся на фальклор, багаты і разнастайны калектыўны вопыт, філасофію і мараль, настроі масы, асяроддзя. Услед за сваімі папярэднікамі, галоўным чынам Я. Купалам і Я. Коласам, ён распрацоўваў прыём суаднясення двух зместавых планаў, выкарыстоўваў алегарычныя сродкі мастацкай выразнасці, матывы і вобразы з сімвалічным значэннем — працы, ворыва, касьбы і г. д. («Плач нуда... — старыя рэчы...», «Сенажаць» і інш.). «Вякі цярпеньнем мерым І кормім мазалём, — чытаем у вершы «Хоць хмарамі густымі». — Мы толькі ў працу верым І працай лёс куём».

Вершы, у аснове якіх палягаюць падкрэсленая канкрэтнасць прадметнарэчыўнага мыслення паэта, дэталізацыя выяўлення рэалістычна-бытавых карцін і замалёвак, фарбаў і адценняў («Вясковая хатка», «Кірмаш», «Васеньні вечар» і інш.), суседнічаюць у М. Машары з парывіста-ўзнёслымі, лятункавымі, заклікавымі, поўнымі эмацыянальна-пачуццёвага вогніва, грамадзянска-патрыятычнага, прамоўніцкага пафасу («Званар», «Беларусь Маладая», «У разгоне» і інш.), творы з пэўнымі фальклорнымі традыцыямі і асаблівасцямі, у прыватнасці, пабудаваныя на выкарыстанні жанравых элементаў народнай песні і прыпеўкі («Адсьпявалі, адгулялі...», «Ручнікі» і інш.) змяняюцца іранічна-сатырычнымі, выкрывальніцкага характару, у якіх добра раскрыўся палемічны дар аўтара («З траплом ў руццэ, у старой, старой адрыні...», «Кідаюць часам мне у вочы...», «О так, вы правы, правы!..» і інш.).

Шэраг твораў М. Машары 30-х гадоў выявіў элегічныя матывы, характэрныя адзнакі медытатыўнага мыслення, засяроджанага рэфлексіўнага роздуму аўтара, аналізу рэчаіснасці — вершы «Даўно мінулі сенакосы...», «Апаўшае лісьце», «Мроі», «З шэлестам лісьця», «Ну чаго? Ну чаго табе трэба...» і інш.

У адрозненне ад М. Васілька, на наш погляд, болей звернутага ў духоўна-псіхалагічны свет асобы героя, верш якога ў адпаведнасці з народна-паэтычнымі традыцыямі вызначаўся характэрнымі рысамі лірычнай пранікнёнасці, шчырасці і цеплыні, адлюстраваннем пластыкі і драматызму чалавечага перажывання, напеўна-меладычнай танальнасцю гучання, М. Машара сведчыў чуйнасць пераважна да знешняга, падзейнага боку навакольнай рэчаіснасці, яе зменлівых абставін і акалічнасцей, матэрыяльнай сферы пазнання жыццёвых працэсаў, вынікаў і паследкаў іх уплыву на згараваныя людскія душы і сэрцы. М. Васілёк пераканаўча і яскрава раскрыў асаблівасці прыватнай канкрэтыкі з'яў і рэчаў, творам паэта была ўласціва значная ступень аўтарскай эмацыяналізацыі прадметнага свету сялянскага асяроддзя, яго гаспадарча-побытавага начыння і аксесуараў. У параўнанні з ім, М. Машара меў схільнасць, галоўным чынам, да адлюстравання рэалістычных асноў перажывання героя, перадачы яго інфармацыйна-фактурнай парадыгмы.

У творах гэтай стылявой плыні элементы апавядальнасці, часам нават эпічнай аб'ёмнасці, канкрэтна-гістарычная аб'ектыўнасць апісанняў і малюнкаў спалучаліся з глыбокім пранікненнем у канфлікты і супярэчнасці грамадскага жыцця, драматызмам лірычных пачуццяў. Асаблівасці ўмеранага, калі можна так сказаць, дэмакратычнага радыкалізму, сацыяльна-выкрывальнага пафасу, актыўнага і дзейснага аўтарскага гуманізму перапляталіся з узнёсласцю мэтаімкненняў, узвышанасцю духоўнага свету лірычнага героя, вастрынёй яго ідэйна-эмацыянальнага погляду і ацэнкі. Паўсядзённа-бытавое, жорсткія рэаліі грамадска-сацыяльнай рэчаіснасці суадносіліся тут з рамантычна-ўздымным, абстрагавана-алегарычным, умоўна-асацыятыўным, знешняе, падуладнае ўспрыняццю дотыку і зроку — з унутраным, душэўна-псіхалагічным і інш.

Гэта добра пацвярджаюць мастацкія пошукі Сяргея Крыўца (1909—1945), стылявыя дамінанты якіх былі звязаны з асаблівасцямі лірыка-апавядальнай плыні. Паэзія С. Крыўца, якой мы бачым яе ў пасмяротным зборніку «Дубок» (1972), падрыхтаваным і выдадзеным стараннямі Р. Шырмы і М. Танка, — гэта гісторыя яго няпростага чалавечага лёсу, бясконцых блуканняў па нялёгкіх жыццёвых сцежках батрака, сталяра, рабочага-будаўніка, цеслі, муляра, пошуку прытулку, «страхі над галавой», пэўнасці ў жыцці, надзеі на лепшае. Гэта выяўленне складанага ўнутранага свету «пралетарызаванага вяскоўца» (У. Калеснік), які знаходзіўся ў стане пакутлівага роздуму над падзеямі навакольнай рэчаіснасці, шукаў адказы на балючыя пытанні: што можа чалавек ў свеце зла і насілля, прыгнёту і несправядлівасці, як супрацьстаяць нешчаслівай долі, складаным абставінам лёсу? У вершы «Куды ні глянь — кругом застой», напрыклад, чытаем:

Куды падзецца? Што рабіць?
І што пачаць? З якога боку?
І чым ударыць, як прабіць
Халодны змрок над Беластокам? [18, с. 51]

Сяргей Крывец сцвярджаў веру ў патэнцыяльныя сілы народа, залежы яго жыццядайнай энергетыкі і свабодалюбства, падтрымліваў таго, хто выйшаў ці выходзіць на дарогу змагання. Як адзначаў У. Калеснік, ён «прагнуў быць беларускім песняром, бо ў вызваленчым руху свайго народа адчуваў сілу сябрыны, маральную апору, іскрыну надзеі» [19, с. 284]. Духоўна-сацыяльныя параметры асобы паэт вывяраў ідэяй грамадскай актыўнасці, рэвалюцыйнай барацьбы:

Няма закону быць рабамі.
Мы ведаем закон жыцця:
Ратуй жыццё сваё зубамі,
Калі не змог ужо рукамі,
За волю біся да канца.
За міг адзіны людскай волі
Аддай няволі сто гадоў, —
І ўжо ты жыў, з цябе даволі,
Ты апраўдаць сябе гатоў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Жыцця не чэрпаюць па жмені,
Жыццё бяруць усё зараз.
Інакш людзей не будзе з нас,
Інакш з нас будуць толькі цені. [18, с. 15]
*(«Чаму не йду ў літаратуру»)*

Рэвалюцыйна-змагарны пачатак, што прадугледжваў вынашанасць светапогляду і перакананняў С. Крыўца, апору на духоўна-эмацыянальныя адчуванні шырокага сацыяльнага асяроддзя, рабочых і сялян, насычаўся ў яго характэрнай пачуццёвай узнёсласцю, унутраная палемічнасць і бескампраміснасць, публіцыстычная завостранасць і хвосткасць паэтычнага жэсту паядноўваліся з асаблівасцямі даверлівай споведзі. Эмацыянальна-вобразныя структуры паэта палягалі ў

рэчышчы рухомага, дынамічнага маналога і грунтаваліся на лірыка-апавядальным тыпе светаўспрымання і мастацкага абагульнення, выразнай індывідуальнай адметнасці перажывання: «Згасне сэрца, як спалены вугаль, І мы ўспомнім сваё адзіноцтва» («Што ж ты, маладосць?»), «Голас бразнуў, быццам горам Порваны ланцуг» («Між разораў»), «Туманом на лог Сум мой сцелецца — Па гаротным жыцці маладым» («Гэй ты, моладасць!»), «Лес гарыць агністым цветам, Ветры ў полі загулі», «Цёмны бор заплакаў нудна, Зашумелі лазнякі» («Восень»).

Даволі змрочны малюнак паўстае ў цікавым і адметным вершы «Дубок», у многім навеяным, думаецца, характарнымі рысамі асабістай драмы паэта. У ім гучыць матыў адзіноцтва і неўладкаванасці, адасобленасці і абдзеленасці, духоўнай прыгнечанасці героя ва ўмовах бяздушнага сацыяльнага асяроддзя, у якім выжывае дужы, жорсткі, прагматычны, хіжы. У вобразе маладога дубка аўтар увасобіў цяжкую долю, трагічны лёс самародка, таленту з народа, раскрыў асаблівасці яго ўнутранага стану, душэўна-эмацыянальнага самаадчування. Твор поўніцца самотна-тужлівым настроем, шчымлівым болем па незваротнай страце.

Праходзіць ноч. Ўстае зарніца.
Дубок галінкамі дрыжыць.
Ён просіць сонца: — Дай мне жыць!
Ён смерці холаду баіцца.
Злятае дзень, і звод нябёс,
Прыбраўшысь зорамі, іскрыцца.
Дубок раняе кроплі слёз…
Каго прасіць, каму маліцца?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І крыўды горкай пачуццё
Іржой лісткі яго з’ядае.
Наўкол дубка цвіце жыццё —
Дубок маўкліва памірае. [18, с. 17]

Прывабнасць лепшых вершаў С. Крыўца ў тым, што ў іх суладнасць вострай, часта іранічнай думкі і пластычнай эмоцыі, рэльефнага паказу, знешняй падзейнай фактуры і яе душэўна-псіхалагічнага абжывання, а адсюль — напружанасцю зместавай асновы, ідэйнай і пачуццёвай насычанасцю. Пра што б і як бы ні пісаў паэт (а ягоны радок лапідарны, раскавана-нязмушаны, каструбаваты), адлюстраванне і перажыванне выконвалі ў яго вядучую ролю, дамінуючую функцыю. Напрыклад, у вершы «Аднойчы» ён намаляваў карціну арышту ўдзельніка народна-вызваленчага руху, рэвалюцыянера. Нават, здавалася б, выразна апісальныя, чыста інфармацыйныя радкі заключаюць у сабе ёмісты сацыяльна-маральны зарад, нясуць значную ўнутраную энергію, эмацыянальна-пачуццёвую сілу:

Ночкай цёмнаю аднойчы
Чую смелы стук.
Раптам брызгае мне ў вочы
Святла цэлы пук.
Грымнуў голас: — Стаць, ні кроку!.. —
Пэўны і сухі.
Бачу, бачу сярод змроку
Ззаду, спераду і збоку
Зіхацяць штыкі.
Сон ці ява — вось пытанне —
Хто адкажа мне?
Ў хаце плач і нараканне,
Быццам дом ў агне.

Асабістае, канкрэтна-пачуццёвае спалучаецца тут з агульным, тым, што звернута да характэрных праяў народнага жыцця, вывяраецца калектыўным вопытам, грамадскай свядомасцю.

Сталь кайданаў, чую, ўецца
Змейкай каля рук.
Нехта жудасна смяецца
З нашых горкіх мук. [18, с. 21]

Думаецца, зусім нездарма, пазнаёміўшыся з вершамі паэта, М. Танк пазначыў у сваіх дзённікавых нататках: «Сёння адпісаў С. Крыўцу, ад якога атрымаў некалькі цікавых вершаў. Арыгінальны і самабытны паэт. Трэба будзе паказаць яго вершы Кастусю і распытацца пра яго ў дзядзькі Рыгора, які, здаецца, добра яго ведае па працы ў ТБШ» [20, с. 194—195].

Канкрэтна-змястоўны сэнс лірыка-апавядальнай стылявой плыні вызначаўся тым, што ў ёй ідэйна-палітычныя схільнасці і сімпатыі аўтараў выяўляліся не так выразна і катэгарычна, як, напрыклад, у наступнай, рамантычнай. Тут лірычны пафас абавязкова прадугледжваў душэўна-пачуццёвую стрыманасць, эмоцыя «прыслухоўвалася» да сацыяльна заангажаванай думкі.

Вершы паэтаў гэтай стылявой плыні былі звернуты да адлюстравання багатага і разнастайнага свету зямнога існавання, а таксама сацыяльна-маральнага стану чалавека, зарыентаванага на вядучыя грамадскія каштоўнасці, настроі і імкненні працоўнага асяроддзя, непасрэдна заглыбленага ў праблемы і супярэчнасці заходнебеларускай рэчаіснасці. Эманацыя яго жыццёвай энергіі перадавалася з дапамогай сацыяльных з’яў і падзей, а таксама прыродных працэсаў, фігуравала ў шырокім кантэксце дэталей і падрабязнасцей. У гэтых вершах перажыванне, нават захоўваючы сваю ўзвышанасць, набывала канкрэтны, «прыземлены» змест, увасаблялася ў вобразнасці, якая несла праўду аб’ектыўнага факта. Тут эстэтычная рэальнасць нярэдка грунтавалася на розных формах умоўнасці, аднак была скіравана да прадметнага напаўнення рэчаіснасці.

Лірыка-апавядальная стылявая плынь непасрэдна закранула паэзію Ганны Новік (1914—1997), якая пачала выступаць у друку ў канцы 1930-х гадоў. Як і шмат хто з заходнебеларускіх аўтараў, яна ішла ў літаратуру пад дабратворным уплывам асобы і духоўна-мастацкіх пошукаў М. Танка. Іменна М. Танк заўважыў і падтрымаў першыя паэтычныя спробы Г. Новік і стаў яе дарадцам і апекуном на доўгія гады. «З вялікім задаваленьнем вітаем Вас на літаратурным грунце, — пісаў ён у рубрыцы «Паштовая скрынка» часопіса «Беларускі летапіс», відаць, адказваючы на пытанне — ці варта ёй займацца паэзіяй. — Маеце ўсе задаткі быць паэтам. Арыгінальнасьць, шчырасьць, вобразнасьць і яснасьць думкі чуваць у вашых вершах, а гэта найважнейшае». І далей: «Людзі з меншымі задаткамі бяруцца за працу, а тым больш мусіце ўзяцца вы; але адначасна пазбыцца трэба тых недахопаў тэхнічных, як слабая апрацоўка, мейсцамі русыцызмы, полёнізмы і інш., каб даць поўнавартасныя мастацкія творы. Толькі сьмялей ідзеце ў гэтым напрамку» [21, с. 152].

Талент Г. Новік гартавалі дужа суровыя абставіны грамадскага жыцця і асабістага лёсу, паэтэса расла і выхоўвалася ва ўмовах беспрасветнай беднасці і галечы, штодзённага клопату пра кавалак хлеба, цяжкой фізічнай працы. Яе вершы выяўлялі складанасць і драматызм заходнебеларускай рэчаіснасці, народна-вызваленчай барацьбы, раскрывалі ўнутраны свет маладой падпольшчыцы, якая, нягледзячы на вобыскі і арышты, пераслед «апекуноў» ад дэфензівы, была аддадзена ідэалам свабоды, сведчыла няскоранасць цяжкім абставінам жыцця, адстойвала сацыяльную справядлівасць і чалавечую годнасць, верыла ў вызваленне.

Мастацкі свет паэзіі Г. Новік звяртае на сябе ўвагу свежасцю эмацыянальна-вобразнага ўспрымання з’яў і працэсаў, насычанасцю пачуццёвым зместам. Аб’ектыўна-выяўленчая складальная пераплятаецца ў ім з суб’ектыўна-лірычнай. Напрыклад, у вершы «Не дыхнуць бы вершам…» перажыванне паэтэсы разгортваецца на аснове балючага асэнсавання адвечных клопатаў і бед беларускай вёскі, канкрэтных асаблівасцей народнай нядолі, гістарычнага лёсу беларусаў, адчування значнасці духоўна-сацыяльнага патэнцыялу, маральнай энергетыкі, якія прытоены ў працоўным сялянскім асяроддзі:

Не дыхнуць бы вершам пра платы крывыя
І страху, што мохам даўно парасла,
Пра пахілы комін, дзе ўвосень вые
Вецер, што ўцякае ў лясы з сяла.
Ды пра гурбы снегу ля варот скрыпучых,
Пра вузкія сцежкі ля крывых платоў,
Ды пра думы-казкі, якім доля вучыць
І якіх не зможа запісаць ніхто.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Столькі ў загонах ёсць жывых зваротак,
Шопатам калоссе пра жыццё пяе…
Столькі кажа сцежка, згублена ля плоту,
Толькі трэба зблізку глянуць на яе.
Адчытаеш лёгка, вычуеш душою,
Столькі дзён прыгонных вёска пражыла.
Мэты яе класаў, думы яе, мроі…
Моладзь, што ахвярай здзеку аддала. [22, с. 21—22]

Тонкі лірыка-драматызаваны пачуццёвы струмень, раскрыццё душэўна-псіхалагічнага свету гераіні, пранізвае паэтычныя радкі, прадугледжвае адлюстраванне суровай праўды заходнебеларускай рэчаіснасці, яе вострых сацыяльных і нацыянальных праблем і супярэчнасцей.

Лірыка-апавядальны характар светаадчування абуджаў творчае мысленне Г. Новік, актывізаваў яе думку і пачуццё. Паэтэса імкнулася пераадолець шматлікія грамадскія абмежаванні і забароны, пазбавіцца праблем і супярэчнасцей рэчаіснасці, шукала шляхоў свабоднага развіцця асобы, выяўлення яе духоўна-сацыяльнага зместу, парывалася да высокіх ідэалаў праўды і гармоніі, дабра і шчасця. Адзначанымі рысамі, думаецца, асабліва прыкметны верш «Мае жаданні», у якім паўстае цікавая карціна, разгортваецца арыгінальнае перажыванне. Лірычная гераіня Г. Новік ахоплена жаданнем «песні ўсяго свету І росы раннія, калі Раскінецца спякота лета, На луг засмяглы пераліць», яна хоча «зорак ззянне Замкнуць у думцы маладой, Дарогу к мэце, шлях змагання, Апырскаць як жывой вадой».

А з хмар, што прыйдуць па спякоце,
З сабой узяўшы перуны,
Звяла б маланкі ўсе па дроце
На бель турэмнае сцяны. [22, с. 17, 18]

У вершы лірычная эмоцыя развіваецца на аснове асаблівасцей гуманістычнага светаадчування паэтэсы, лагодныя фарбы і адценні спалучаюцца з яе ўнутранай сабранасцю, рашучасцю мэтаімкненняў. Рэальнае тут суседнічае з ідэальным, канкрэтна-пачуццёвае — з абстрактна-адцягненым, іншасказальным. Постаць лірычнай гераіні ўзбуйняецца, эмацыянальна-вобразныя структуры набываюць ёмісты грамадска-сацыяльны змест.

Ганна Новік зыходзіла з таго, што «Доля не прыйдзе з імшою нядзельнай, Дождж яе з хмар не зліе» («Вёсцы»). Яна прапаведавала рух, дзеянне, сцвярджала энергію ўздыму, змаганне. Слова Ганны Новік дыхала тэмпераментам, у ім адчуваліся гарт душы, характар, сіла духу:

Хоць мы з вёсак і цесных падворкаў,
Хоць мы з цёмных лясоў, хмызнякоў,
Свеціць мэта нам яснаю зоркай,
Непагасным свяцілам вякоў. [22, с. 36]

Рэвалюцыйная тэндэнцыйнасць паэтэсы тут відавочная, але яна не адпавядае прынцыпам жорсткага радыкалізму, наступальна-агрэсіўнай ваяўнічасці.

Маючы на ўвазе лепшыя вершы Г. Новік «Скрыпяць вароты…», «Мае жаданні», «Брату ў дарозе», «Развітанне», Р. Бярозкін у рэцэнзіі на яе зборнік «Мае вёсны» (1961), несумненна, абгрунтавана заўважаў: «Народжаныя самымі тыповымі, сацыяльна значнымі перажываннямі, гэтыя вершы з’яўляюцца разам

з тым і творамі індывідуальнай паэзіі, бо ў іх відзён тэмперамент паэта, які ўмее гаварыць за многіх» [23, с. 3].

Творчасць гэтых і некаторых іншых паэтаў (напрыклад, М. Засіма, Н. Тарас, А. Іверса, А. Дубровіча) сведчыла пра натуральнасць лірыка-апавядальнага светаўспрымання і мыслення, спалучэнне агульнага і асобнага, аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, калектыўнага, масавага і асабістага. Яна звяртала на сябе ўвагу вастрынёй сацыяльнага погляду, сцвярджэннем ідэй грамадзянскай актыўнасці, барацьбы супраць несправядлівасці і прыгнёту, глыбокім раскрыццём шчырага свету чалавечай душы, багацця і разнастайнасці яе ўяўленняў і перажыванняў. Тут лірычна пранікнёны аналіз працэсаў грамадскага развіцця дапаўняўся іх сацыяльна-маральнай, а часам і духоўна-псіхалагічнай выверкай. У ёй выразна адчувалася ўстаноўка на актыўнасць і насычанасць унутранага асваення рэчаіснасці, эмацыянальна напоўненае жыццё, паказ індывідуальных адносін да падзей і фактаў, самавыяўленне, спавядальнасць і інш.

Лірыка-апавядальная стылявая плынь развіцця заходнебеларускай паэзіі была напоўнена адчуваннем рэальнай сілы жыцця, рухам жывога, пластычнага чалавечага перажывання. Яе прадстаўнікоў цікавілі сутнасць і ўзаемазалежнасць шматлікіх падзей і фактаў сацыяльнага асяроддзя, «прадметная дыялектыка» сувязей і дачыненняў асобы і грамадства. Іх творчасць была падпарадкавана аб'ектыўна-рэалістычнаму адлюстраванню рэчаіснасці, паводзін і ўчынкаў героя, заключала ў сабе глыбокі сацыяльна-маральны змест. У ёй думка і пачуццё — ва ўсіх сваіх зрухах і адценнях — захоўвалі канкрэтнасць, яснасць і выразнасць, характэрную пэўнасць і закончанасць.

**Літаратура:**

1. Гніламёдаў, У. Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск: Маст. літ., 2001. — 248 с.

2. Быліна, Я. На прызьбе / Я. Быліна. — Выд. 2-е, папр. і дап. — Вільня: Беларус. выдав. тав-ва, 1924. — 57 с.

3. Быліна, Я. На покуці: байкі і розныя вершы / Я. Быліна; выд. Беларус. інстыт. гасп. і культуры. — Вільня: [Б. в.], 1934. — 72 с.

4. Трацяк, І. І. Культурна-асветніцкая дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў (пач. XX ст. — 1939 г.): дыс. ... канд. культуралогіі: 24.00.02 / І. І.Трацяк. — Гродна, 2000. — 122 с.

5. Грышкевіч, Фр. Веснавыя мэлёдыі / Фр. Грышкевіч. — Вільня: Выд-ва Беларус. інстыт. гасп. і культуры, 1927. — 80 с.

6. J. З літэратурнай нівы / J. // Беларуская крыніца. — 1927. — 30 вер. — С. 4.

7. Улад.-Ініцкі. Сон Гаўрылы і розныя вершы / Улад.-Ініцкі. — Вільня: Выд-ва У. Знамяроўскага, 1928. — 32 с.

8. Смаленец, А. Разстрэл / А. Смаленец // Беларускі звон. — 1922. — 12 крас. — С. 3.

9. Смаленец, А. «І сталі попелам душы пажары...» / А. Смаленец // «Тутэйшыя»: творчасць сяброў таварыства. — Мінск: Маст. літ., 1989. — С. 202—206.

10. Гарэцкі, М. Беларуская літаратура пасьля «Нашае нівы» / М. Гарэцкі // Маладняк. — 1928. — № 4. — С. 76—97.

11. Пастернак, Б. Люди и положения: автобиографический очерк / Б. Пастернак // Новый мир. — 1967. — № 1. — С. 204—236.

12. Васілёк, М. Шум баравы: вершы / М. Васілёк; выд. Р. Шырмы. — Вільня: [Б. в.], 1929. — 128 с.

13. Танк, М. Міхась Васілёк / М. Танк // Беларускі летапіс. — 1937. — № 5. — С. 97—99.

14. Васілёк, М. З сялянскіх ніў: вершы / М. Васілёк; выд. Р. Шырмы. — Вільня: [Б. в.], 1937. — 32 с.

15. Машара, М. З цыклю «Падарожжа» / М. Машара // Калосьсе. — 1936. — Кн. 2. — С. 75—81.

16. Машара, М. На сонечны бераг!: зборнік вершаў / М. Машара; выд. Ст. Глякоўскага і Я. Найдзюка. — Вільня: [Б. в.], 1934. — 80 с.

17. Машара, М. З пад стрэх саламяных: вершы / М. Машара. — Вільня: Выд. Беларус. выд-ва «Белпрэс», 1937. — 112 с.

18. Крывец, С. Дубок: вершы / С. Крывец. — Мінск: Беларусь, 1972. — 87 с.

19. Калеснік, У. Лёсам пазнанае: выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы / У. Калеснік. — Мінск: Маст. літ., 1982. — 560 с.

20. Танк, М. Збор твораў: у 6 т. / М. Танк. — Мінск: Маст. літ., 1981. — Т. 6: Дзённікі; Літаратурна-крытычныя артыкулы. — 637 с.

21. Т-к, М. Паштовая скрынка / М. Т-к // Беларускі летапіс. — 1937. — № 6—7. — С. 152.

22. Новік, Г. Мая Вілейшчына: выбранае / Г. Новік. — Мінск: Выдав. група «НЭССІ», 1996. — 112 с.

23. Бярозкін, Р. Пошукі патрэбны! / Р. Бярозкін // ЛіМ. — 1961. — 29 снеж. — С. 3. — Рэц. на зб.: Новік, Г. Мае вёсны / Г. Новік. — Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1961. — 34 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 лютага 2011 года.

**Мікола Мікуліч**
**«Паэзія і праўда рэчаіснасці»**

**Рэзюмэ**

На матэрыяле творчасці Ф. Грышкевіча, Улад.-Ініцкага, А. Смаленца, М. Васілька, С. Крыўца, Г. Новік і інш. разглядаюцца сістэмныя асновы лірыка-апавядальнай стылявой плыні заходнебеларускай паэзіі. Адзначаюцца такія яе асаблівасці, як рэалістычна-аб’ектыўны характар, лагічна-паняційны прынцып, прадметна-інфармацыйная сутнасць мастацкага абагульнення і вобразнага адлюстравання, раскаванасць размоўна-апавядальнага дыскурсу, храналагічна паслядоўнае разгортванне падзей і фактаў, непасрэднасць і выразнасць лірычнага выказвання.

**Mickola Mickulich**
**«The poetry and truth of the reality»**

**Summary**

Systemic foundations of the lyric and narrative stylistic thread of the Western-Belarusian poetry are examined on basis of the works by F. Hryshkevich, U. Initsky, A. Smalenets, M. Vasiliok, S. Kryvets, H. Novick. There has been mentioned such peculiarities of their poetry as realistic and objective character, logical and conceptual principle, substantial and informative essence of the artistic generalization and figurative reflection, freedom of the conversational and narrative discourse, chronologically successive unwinding of the events and facts, sincerity and expressiveness of the lyric utterance.

Янка САЛАМЕВІЧ

# НЕВЯДОМАЕ З ЖЫЦЦЯ КЛАСІКА

Гісторыя гэтых успамінаў такая. У 1968 годзе, калі я пасля аспірантуры пачаў працаваць у Галоўнай рэдакцыі Беларускай савецкай энцыклапедыі, цяперашні доктар гістарычных навук Анатоль Сарокін (мы разам хадзілі на курсы дыктараў радыё), які тады працаваў у аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў фундаментальнай бібліятэкі АН Беларусі імя Якуба Коласа, перадаў мне тэкст успамінаў. Адкуль канверт з імі ўзяўся, ён не ведае. Расказаў, што рукапіс быў парваны на кавалкі і ляжаў у канверце. Ён склаў тыя кавалкі (некаторых слоў нельга было расчытаць) і перапісаў тэкст. Я пасля расшукваў гэты парваны рукапіс, але знайсці яго не ўдалося — недзе загубіўся, а мо і дасюль недзе захоўваецца ў фондах бібліятэкі.

У тэксце ўпамінаецца Л. С. — Людвіка Сівіцкая — будучая Зоська Верас. Я дасылаў тэкст ёй. Але пра аўтара яна нічога сказаць не змагла.

Яшчэ ў аўтографе было ўпамінанне В. Л. — Ванды Лявіцкай, дачкі Ядвігіна Ш., з якой М. Багдановіч ліставаўся. Прыехаўшы восенню 1916 года ў Мінск, паэт расчараваўся ў адрасатцы. У 1917 годзе яна выйшла замуж за Язэпа Лёсіка, нарадзіла яму траіх дзяцей. Ездзіла за мужам. Памерла на Стаўрапольшчыне ў 1969 годзе.

Даваў я тэкст Алесю Асташонку, які некалі нядоўга працаваў у энцыклапедыі, думаў напісаць раман пра Максіма Багдановіча. Але не напісаў.

Хто аўтар успамінаў? Цяпер магу выказаць цвёрдае меркаванне, што гэта быў Леанард Заяц. Ён жыў на тагачаснай Малагеоргіеўскай вуліцы, дом 12, у пазнейшым Рабкораўскім завулку, дзе была кватэра Змітрака Бядулі, у якой М. Багдановіч жыў у 1916—1917 гадах.

Л. Заяц — юрыст, беларускі культурны дзеяч. Ён апублікаваў успаміны пра М. Багдановіча ў віленскай аднадзёнцы «Іскра» 31 мая 1925 года (перадрукаваны ў зборніку «Шлях паэта. Зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча». Мн., 1975, с. 68—71).

У сваіх успамінах Л. Заяц пісаў: «Пазнаёміўся я з М. Багдановічам увосень 1916 года ў Мінску ў «Беларускай хатцы» (па Захараўскай вул.), дзе ў тыя часы быў «Галоўны беларускі штаб» і дзе ўсіх можна было бачыць, бо там адначасова мясцілася і беларуская сталоўка». Як бачым, з невядомымі ўспамінамі гэта інфармацыя поўнасцю супадае, таму я і думаю, што аўтарам іх быў якраз Л. Заяц. Як і такая згадка Л. Зайца, што М. Багдановіч надта любіў дзяцей.

У т. 3, 1996, с. 426 «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» змешчаны артыкул У. Міхнюка пра Л. І. Зайца і ягоны партрэт. З яго мы даведваемся, што нарадзіўся Леанард Іосіфавіч у сакавіку 1890 года ў вёсцы Даўгінава Вілейскага павета (цяпер Вілейскі раён). Скончыў ён Пецярбургскі ўніверсітэт. У 1914—1916 гадах працаваў у Віленскім акцызным упраўленні, у 1916—1917 гадах — адказны сакратар Мінскага аддзялення Усерасійскага земсаюза. На Усебеларускім з’ездзе 1917 года ў Мінску абраны членам Рады. З лютага 1918 года ён у складзе Народнага сакратарыята Беларусі. Пасля расколу рады БНР (13.12.1919 г.) загадчык канцылярыі і дзяржаўны сакратар у Народнай Радзе БНР. З 1925 года кансультант

Наркамфіна БССР. 19. 07.1930 года Л. Заяц арыштаваны ДПУ БССР па выдуманай справе «Саюз вызвалення Беларусі». Высланы на 5 гадоў ва Уфу. 25.07.1935 года зноў арыштаваны. Памёр 23.09.1935 года ў турме ў час следства.

Хто хоча паглядзець фота Народнага сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі 1918 года, дзе ёсць і Л. Заяц, няхай гляне ў т. 1, 1993, с. 385 «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Вось і ўсё, што можна было сказаць пра невядомыя дасюль успаміны пра Максіма Багдановіча і іх аўтарства. Іх трэба было даўно апублікаваць, бо ўспамінаў пра класіка нашай літаратуры не так і многа. А любое слова пра Максіма Багдановіча ў нас на вагу золата. Але лепш позна, чым ніколі. Чытайце, калі ласка, успаміны ніжэй.

## Успаміны пра Багдановіча

Да верасня 1916 году я ніколі не бачыў Багдановіча. Мяне ён вельмі цікавіў, я вельмі любіў яго заўсёды поўныя мыслі і безварунковага хараства вершы. З гутарак з В. Л., з лістоў яго паважных крытычных прац я ўяўляў сабе, якое можа быць значэнне М. Багдановіча ў нашай справе.

Тады якраз я прыехаў у Мінск з цвёрдым замерам усталявацца і працаваць у гэтым сваім родным месце. Дагэтуль у Мінску былі асобныя працаўнікі, але іхніх сілаў бракавала, я рашыўся асесці ў Мінску і дапамагчы ў працы.

Якая ж мая была радасць, калі я даведаўся, што ў Мінск прыехаў Багдановіч і таксама, як і я, збіраецца тут асесці і працаваць. Я спяшаўся знайсці яго. Першы раз я пабачыў Багдановіча ў кнігарні, у заднім пакоі. Увайшоўшы, я пабачыў ля стала чалавека якогась вельмі звычайнага, шэрага. Я разгледзеў яго студэнцкую шапку, крыху згорбленую фігуру ў паношаным шэрым паліце, даўгія спушчаныя рыжыя вусы і густыя нахмураныя бровы. Але з-пад гэтых броваў глянулі прыветна нейкім цяплом і святлом вочы і з-пад паважных вусоў паказалася радасная дзяцінная ўсмешка. І раптам змяніўся чалавек, як змяняецца часамі надвор'е ў вераснёвы дзень, калі з-за воблакаў прагляне сонейка.

Мы мала гаварылі з ім першы раз, але пасля мы з ім праводзілі ўвесь свой вольны час.

Вельмі цікавая рыса была ў [...] Багдановіча. Я ўперад не заўважыў [...] і не разумеў шмат [...] чаго ў ім, але пасля ён сам мне ўсё выясніў.

Раз неяк гаварылі мы, ходзючы над Нямігаю, аб рэчах палітычных — «Я, — кажа, не прызнаю самаахвяры, не прызнаю службы ідэі, я раблю тое, **што** мне міла і дзеля таго раблю, каб **мне** было добра, «я хачу шчасця **для сябе**».

Не ведаю, ці гэта абрыўкі якойсь стройнай філасофскай сістэмы, ці можа ў Багдановічы гаварыла яго хвароба, але такія гэтыя словы не адпавядалі яго жыццю, як трудна сабе прадставіць.

Багдановіч у гасцях. П'ець гарбату без цукру. І ніякія запрашэнні не прымусяць яго ўзяць хоць кавалачак цукру. Пасля доўгіх угавораў гаспадар дае спакой Багдановічу, думаючы: «Ат дзівак, ды годзе. Уздумалася нешта, от і фігуруе». Але раз мне Багдановіч растлумачыў гэтае дзівацтва. «Я, — кажа, — даў зарок не ўжываць цукру. Вакол нас мільёны бедных, галодных дзяцей мараць аб кавалачку цукру, як аб немаведама чым — і не маюць. Дык мы, дарослыя, можам абыйсціся».

Багдановіч вельмі любіў дзяцей. Яго найбольшым жаданнем, нават, як ён казаў, мэтаю яго жыцця было — мець свайго дзяцёнка. Гэты факт заслугуе на асаблівую ўвагу. Ён, мне здаецца, быў тэй восяй, каля каторай круціліся падзеі апошніх гадоў і дзён яго жыцця. Падрабней аб гэтым раскажуць адпаведныя людзі тады, калі на тое прыдзе час. Багдановіч казаў, што ўжо некалькі гадоў назад ён усю сваю ўвагу трымаў на ідэі цяжарнасці. Любімым атачэннем яго былі цяжарныя кабеты і іхныя размовы.У гэтых размовах і ён меў заўсёды чыннае дачыненне і разумеўсь у гэтых справах, як які акушэр. Гэта ўсё, як ён казаў, адбілася на яго

творчасці. Так ён напісаў цэлы сшытак вершаў, які меў найменне «Вагітнасць» (цяжарнасць). Гэты сшытак павінен быць у Вільні ў Власта. Спадзяюся, што ён хутка будзе надрукован. З гэтай «найвялікшай мэтай» жыцця звязаны, відаць, і шмат якія падзеі з жыцця Багдановіча. Для таго, каб мець дзяцёнка, трэба, каб была жанчына. Вось такой шукаў Багдановіч апошнія гады. Урэшце яму ўдалося. Недзе ў Крыме ён стрэў якуюсь асобу, жонку сімферопальскага купца. Яны пакахаліся і жылі ўсё лета. «Але, — дадаваў з жалем Багдановіч, — сына ад яе не меў. Я быў тады вельмі хворы, слабы, кроў горлам ішла».

Відаць, з гэтымі мэтамі прыехаў Багдановіч і ў Мінск. Я прынамсі ведаю, што адна асоба (В. Л.) пісала яму, патрабуючы яго прыезду. Ён прыехаўшы і пабачыўшы, расчараваўся. «Яна, кажа, хоча налажыць на мяне абавязкі, а я гэтых абавязкаў прыняць не магу». Наагул у аднашэнні абавязкаў ён стаяў на такім грунце, чуў мусіць, што нядоўга яму жыць на свеце. Дзеля таго хацеў зыйсціся іменна з замужняю. «Каб было каму майго сына гадаваць».

Такі крыху дзіўны погляд Багдановіча стане нам зразумелы, калі мы бліжэй прыглядзімся да яго постаці. Ён лічыў, што мець і гадаваць дзяцёнка — хаця б чужога — гэта вялікае, можа, найвялікшае шчасце. А толькі што не кожнаму гэтае шчасце даступна. «От што я, бадзяга, няпэўны чалавек, хіба мне можна быць бацькам і мужам».

І вось, расчараваўшыся ў Мінску, ён рашыў ехаць прабаваць шчасця ізноў у Крым. Сухоты развіваліся, заўсёды паднятая тэмпература, заўсёды душыць кашаль, — дахтары кажуць ехаць у Крым. Але раз ён мне кажа: «Вы думаеце я лячыцца еду ў Крым? Нічога падобнага! Я еду, каб дайсці сваёй найвялікшай мэты».

Некаторы час я думаў, што можна паправіць справу, жаніўшы Багдановіча з Л. С. Ён, здаецца крыху закахаўся ў ёй*, быў, прынамсі, вельмі ласкавы /хаця, праўда, ён быў з усякім блізкім чалавекам ласкавы/. Урэшце ён пачаў [...] і гаварыць з ёю аб гэтай справе, але пасля — кінуў.

«Л. С. таксама нездаровая. Ад Л. С. я не буду мець дзяцёнка».

Не ведаю, ці ўдалося дайсці сваей мэты Багдановічу ў апошні побыт яго ў Крыме.

---

* Гэтая думка паўстала так. Ад некаторага часу М. Б. пачаў мне вельмі хваліць п. Л.; пасля стаў пагаворваць, каб я з ёю жаніўся. З яго тону відаць было, што ён яе любіць, а толькі баіцца, што п. Л. за яго не пойдзе. Тады я ў свой чарод пастараўся іх зблізіць.

## Т

Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ

# ВІНЦЭНТ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ І УКРАІНА

У знакамітых мастакоў жыццё падпарадкавана творчай мэце. Адметнасці лёсу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884) у тым, што творчым натхненнем былі апанаваны і ён, і ягоныя дзеці. Усе яны выхоўваліся ў поліэтнічнай культурнай прасторы. Пра польскамоўнае асяроддзе тагачаснай беларускай па духу інтэлігенцыі мы маем даволі выразнае ўяўленне. Зрэшты, вядома і тое, што В. Дунін-Марцінкевіч пісаў і па-польску. Аднак ёсць усе падставы ставіць пытанне і пра судакрананне яго з украінскім культурным асяроддзем. Задаўшыся мэтай, можна ажыццявіць высвятленне непасрэдных кантактаў В. Дуніна-Марцінкевіча і яго дзяцей з Украінай. Здзейсніць гэта нялёгка, бо адпаведных дакументальных доказаў пакуль што няма. І ўсё-такі не выклікае пярэчанняў тое, што ён неаднойчы выязджаў ва Украіну, у прыватнасці, у Кіеў, суправаджаючы сваіх музычна адораных дзяцей падчас іхняй канцэртнай дзейнасці. Праца над узнаўленнем агульнай атмасферы музычнага жыцця Кіева сярэдзіны XIX ст., «рэстаўрацыя» культурнага аблічча сталіцы Украіны (імёны кампазітараў і выканаўцаў, рэпертуар і інш.) дазволіць даследчыкам дадаць новыя старонкі ў жыццяпіс класіка беларускай літаратуры. Тут можа дапамагчы зварот калі не да мясцовых, то адпаведных замежных крыніц. Падобным чынам украінцы выпісваюць сваю гісторыка-культурную характарыстыку, выкарыстоўваючы працы «Апісанне Украіны» Г. Левасэра дэ Баплана, «Дзесяць гадоў выгнання» Ж. дэ Сталь, «Ліст пра Кіеў» А. дэ Бальзака і іншыя тэксты так званай «літаратуры факта».

Яшчэ адзін падыход да пытання «Дунін-Марцінкевіч і Украіна» скіроўвае нас на асэнсаванне рэцэпцыі ягонай творчасці сярод украінскай інтэлігенцыі. Паказальна, што першыя крокі, зробленыя з надыходам XX ст. у вывучэнні спадчыны беларускага пісьменніка, належаць прафесару М. Доўнар-Запольскаму (1867—1934), які скончыў Кіеўскі ўніверсітэт і, з пэўнымі перапынкамі, быў моцна звязаны з Украінай. У нашым літаратуразнаўстве яго пачын у вяртанні твораў В. Дуніна-Марцінкевіча ў чытацкі і навуковы ўжытак ужо ацэнены. Звернемся да іншых фактаў, малавядомых альбо зусім невядомых у Беларусі.

Неўзабаве пасля публікацый М. Доўнар-Запольскага на старонках кніг «Календарь Северо-Западного края», што выдаваліся ў 1889 і 1890 гг. пад ягонай рэдакцыяй у кіеўскай газеце «Рада» з’явіўся артыкул Д. Дарашэнкі «Білоруси і їх національне відродження» (1908). Імя Д. Дарашэнкі (1882—1951) увайшло ў гісторыю беларускага друку, беларуска-ўкраінскіх культурных узаемаадносін праз яго публікацыі ў «Нашай Ніве». Мы закраналі гэта пытанне ў нашай з В. Рагойшам кнізе «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.» (Мінск, 1976). Аднак манаграфія, мэтай якой было асэнсаванне маштабнасці ўключэння ўкраінскага кампанента ў працэс беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст., убачыла свет у час, калі неабходна было лічыцца з забаронамі цэнзурнага характару. Не ўсё і не пра ўсіх дазвалялася пісаць у поўным аб’ёме, асабліва «прасейваліся» матэрыялы, якія, зыходзячы з тагачаснай ідэалогіі, мелі дачыненне да так званага «буржуазнага нацыяналізму». У сучаснай Украіне колішні «буржуазны нацыяналіст» Д. Дарашэнка ўспрымаецца як выдатны гісторык, грамадска-палітычны і дзяржаўны дзеяч, публіцыст.

Ён спрыяў станаўленню ўкраінскай прэсы дэмакратычнага кірунку, прымаў удзел у стварэнні першага паслярэвалюцыйнага ўрада — Украінскай Цэнтральнай Рады, у 1918 г. узначальваў Міністэрства замежных спраў Украінскай дзяржавы. У 20-я гг. XX ст. працаваў у Камянец-Падольскім дзяржаўным украінскім універсітэце, дзе сканцэнтравалася навуковая інтэлігенцыя, вымушаная выехаць з Кіева, які з'яўляўся арэнай ваенных дзеянняў паміж войскамі бальшавікоў і сіламі Антанты. Дзейнасць універсітэта ў савецкія гады была аб'яўлена палітычна шкоднай, выкладчыкі — знакамітыя дзеячы нацыянальнага адраджэння, а сярод іх рэктар І. Агіенка, пісьменнік У. Віннічэнка, гісторык Д. Дарашэнка і многія іншыя, вымушана апынуліся ў эміграцыі. Большасць з іх знайшлі прытулак у Вене, затым у Празе, дзе іхнімі намаганнямі ў 1921 г. здзейснена адкрыццё Украінскага вольнага ўніверсітэта (дзейнічаў і ў Мюнхене). Дарашэнка быў звязаны таксама з Украінскім навуковым інстытутам у Берліне (1926—1931), стаў першым прэзідэнтам Украінскай вольнай акадэміі навук (1945—1951).

Для нас асабліва цікава тое, што Д. Дарашэнка нарадзіўся ў Вільні, вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага, Пецярбургскага, Кіеўскага ўніверсітэтаў. У Пецярбургу ўзначальваў Украінскую студэнцкую грамаду, а, як вядома, далучыцца да студэнцкай украінскай моладзі ў Пецярбургу заўсёды імкнуліся і ўраджэнцы беларускіх зямель. Маладое прагрэсіўнае беларуска-ўкраінскае асяроддзе спрыяла нацыянальнаму самаўсведамленню Д. Дарашэнкі, які адчуваў у сваёй крыві генетычна прадвызначаную адвагу, вальнадумства, бо сямейныя карані яго паходзілі са знакамітага роду ўкраінскага казацтва М. і П. Дарашэнкаў. У сваіх публікацыях, прысвечаных беларускаму адраджэнню, ён шмат увагі ўдзяліў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, канцэнтруючы ўвагу на тым, што пісьменнік з Беларусі «написав чимало білоруських віршів, поему «Гапон», оперу «Селянка». До цієї опери написав музику Станіслав Монюшко, і її з великим успіхом ставили на сцені в Мінську. Марцінкевичу належить і переклад «Пана Тадеуша» Міцкевича, зроблений дуже гарно… Марцінкевич дає в своіх творах вірні малюнки народного життя, і білоруські патріоти величають його своім Дударем — кобзарем».

Глыбокую зацікаўленасць беларускім культурным рухам Дарашэнка выказвае і надалей. Каштоўнасць уяўляюць яго нарысы «З Віленських вражінь», таксама змешчаныя ў газеце «Рада». У беларускі літаратуразнаўчы ўжытак гэты цыкл пакуль што, на жаль, не трапіў. Дарэчы, цікавы і наступны факт: Дарашэнка быў членам рэдакцыйнай калегіі «Рады» менавіта ў той час, калі на яе старонках актыўна выступаў знакаміты беларускі публіцыст Сяргей Палуян, паплечнік Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.

З удзячнасцю адзначаем жаданне Дарашэнкі «ўзвялічыць» Беларусь і беларусаў. Пры гэтым аўтар карыстаецца гістарычнымі крыніцамі, уласнымі назіраннямі, звяртаецца да твораў іншых аўтараў. Ён шкадуе, што ў Вільні няма беларускага ўніверсітэта, бо яшчэ напачатку XIX ст. горад ганарыўся сваёй alma mater. Аўтар выкарыстоўвае верш рускага паэта Паляжаева, у якім праз паэтычныя метафары даецца высокая характарыстыка Вільні, горада, які ў культурным плане доўгі час апераджаў «нават Варшаву». Нельга не прызнаць, што менавіта сваёй высокай патэтыкай услаўлення віленскага вальнадумства Дарашэнку захапілі наступныя вершаваныя радкі: «*О родина прямых студентов: // Геттинген, Вильна и Оксфорд! // У вас не могут брать патентов — // Дурак, алтынник или скот*»… Пры гэтым адзначым, што для Дарашэнкі Вільня — культурная сталіца менавіта беларусаў. Настойлівасць у прапагандзе беларускага пісьменства Дарашэнка засведчыў і ў кіеўскай газеце «Przegląd Krajowy», у львоўскім выданні «Руслан». У артыкулах, якія маюць назву «Відродження Білорусі», ізноў ідзе гаворка пра В. Дуніна-Марцінкевіча. «До визначніших білоруських поетів з половини XIX віку належав без сумніву Дунін-Марцінкевич — автор многих поем і летучих віршів з білоруського народного життя…», — падкрэсліваў аўтар.

Адам Мальдзіс, спецыяліст у галіне беларуска-польскіх культурных сувязей, у свой час выказаў такое меркаванне: «Пінская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча ты-

палагічна блізкая да камедыі вядомага польскага драматурга Аляксандра Фрэдры «Помста». Сапраўды, п'еса Фрэдры «Помста» была напісана раней, у 1833 годзе, пастаўлена на сцэне ў 1834, апублікавана ў 1845 г., і Дунін-Марцінкевіч, вядома, мог быць знаёмы з яе тэкстам. Аднак паміж творамі пісьменнікаў існуюць выразныя разбежнасці. Польскі драматург звяртаецца да жыцця старасвецкай шляхты. Дунін-Марцінкевіч узнаўляе не даўнейшы час, а чэрпае матэрыял з сучаснага яму жыцця. Як і ў іншых творах, Фрэдра карыстаецца гумарыстычнымі прыёмамі, звяртаецца да гратэску, пры гэтым не прыхоўвае сваіх сімпатый да прадстаўнікоў старапольскага грамадства. Дунін-Марцінкевіч у «Пінскай шляхце» пашырае дыяпазон гумарыстычных сродкаў за кошт увядзення сатырычнай афарбоўкі асобных герояў, крытыкі чыноўнікаў, судаводства, сучасных яму грамадскіх парадкаў. Ён шукае новыя арыенціры і знаходзіць іх. У гэтай сувязі, на нашу думку, асабліва спрыяльнай для Дуніна-Марцінкевіча выявілася драматургія пачынальніка новай украінскай літаратуры Івана Катлярэўскага (1769—1838). Супастаўленчы аналіз асобных твораў гэтых драматургаў — яшчэ адзін аспект шырокай тэмы «Дунін-Марцінкевіч і Украіна».

Літаратуразнавец Я. Янушкевіч знаходзіць падабенства «Пінскай шляхты» з п'есай украінскага пісьменніка М. Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні». Меркаванне Янушкевіча, аднак, патрабуе ўдакладнення. Твор «Пашыліся ў дурні» быў напісаны значна пазней «Пінскай шляхты» (1866) — у 1875 г. У першы друкаваны зборнік п'ес Крапіўніцкага, які ўбачыў свет у Кіеве ў 1882 г., увайшлі толькі такія яго творы: «Дай серцю волю, заведе в няволю», «Глитай, або Павук» і «Невільник». Ненадрукаваная п'еса наўрад ці была вядомая ў Беларусі: гастролі ўкраінскіх тэатральных труп, у тым ліку і Крапіўніцкага, пачалі здзяйсняцца яшчэ пазней. Янушкевіч, абгрунтоўваючы свае меркаванні, спасылаецца на тое, што ў абодвух творах падобныя канцоўкі: шлюбы парабкаў з дочкамі іхніх гаспадароў. Знаёмства з тэкстам Крапіўніцкага раскрывае наступную карцінку з жыцця: хітрыя парабкі-шэльмы абдурылі двух заможных гаспадароў, млынара і каваля, якія хацелі як найлепей выдаць замуж сваіх дачок. Супастаўляючы сюжэтныя перыпетыі ўкраінскага і беларускага твораў, бачым іхнюю самастойнасць. Ва ўкраінскім літаратуразнаўстве пры аналізе п'есы «Пашыліся ў дурні» робіцца такі акцэнт: М. Крапіўніцкі пачаў выводзіць на ўкраінскую сцэну мальераўскія тыпажы. Здагадацца пра сувязь украінскай п'есы з Мальерам можна нават зыходзячы з самой яе назвы. І. Франко ўбачыў тут традыцыйны мальераўскі сюжэт пра спрытнага слугу і прастакаватага пана, які раскрыў «справжній сатиричний хист» драматурга, здатнасць «мистецькою рукою виткати кілька постатей, живцем вихоплених з життя». Мальераўскі вопыт, засвоены менавіта праз украінскую драматургію, сапраўды прыйдзе ў беларускае пісьменства. Праўда, адбудзецца гэта пазней, праз засваенне ўрокаў не столькі Крапіўніцкага, колькі іншага класіка — І. Карпенкі-Карага (Табілевіча). І выявіцца школа ўкраінскага тэатра найбольш поўна ва ўкраінскім кампаненце драматургічнага генію Янкі Купалы.

Вяртаючыся да п'есы «Пашыліся ў дурні», паўторым украінскую крытыку: «Набутий у цих творах досвід дасть можливість Кропивницькому пізніше створити блискучий зразок соціальної сатири — етюд "По ревізії"» (Л. Мароз). Як бачым, невялічкія па памеры творы Крапіўніцкага літаратуразнаўцы пазначаюць як «эцюды». Жанр п'есы «Пашыліся ў дурні» сам Крапіўніцкі вызначыў як «жарцік». Зразумела, не выкліча пярэчанняў і вызначэнне гэтых твораў як вадэвілі. Падобным чынам пазначана жанравае вызначэнне «Пінскай шляхты» — фарс-вадэвіль. Праўда, зроблена гэта было не аўтарам, бо не захавалася вокладка і тытульная старонка рукапісу, а пазнейшымі літаратарамі, якія здзейснілі публікацыю п'есы. Названыя творы Крапіўніцкага сапраўды ўвайшлі ў беларускі рэпертуар, пастаноўкі іх рабіліся на беларускай мове, аднак адбылося гэта значна пазней — у першыя дзесяцігоддзі XX ст.

Пра значэнне тэатра ў духоўным жыцці нацыі добра скажа ў гэты час Максім Гарэцкі: «У адраджэнні кожнага народа (украінцы) тэатр — сіла непамерная, а ў

адраджэнні беларусаў, з іхняй псіхікай, іхнім дэмакратызмам, ён можа адыграць вялікую ролю». Паказальна, гэтыя словы Янка Купала паставіў эпіграфам да сваёй рэцэнзіі на першы паказ п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты». Каштоўнымі для нас з'яўляюцца ўспаміны Я. Сушынскага, знаёмага Янкі Купалы па пецярбургскім перыядзе яго жыцця. Гурток студэнтаў-беларусаў Пецярбургскага ўніверсітэта ўзяў для пастаноўкі п'есы М. Крапіўніцкага. Янка Купала на рэпетыцыях не раз гаварыў: «Трэба і нам мець свае п'есы — камедыі і драмы». Літаральна праз год беларускія акцёры атрымалі для сваёй сцэны Купалаву «Паўлінку», якая стала «жамчужынай» беларускай драматургіі.

Выкажам глыбокую перакананасць у тым, што ля вытокаў п'ес і Дуніна-Марцінкевіча, і Янкі Купалы — знаходзіцца п'еса І. Катлярэўскага «Наталка Палтаўка». Песні да драмы, напісаныя самім Катлярэўскім, шырока пайшлі «ў людзі», яны ўліліся ў фальклорны рэпертуар і ўкраінцаў, і беларусаў. Дарэчы прыгадаць, што знакаміты венгр Феранц Ліст пасля гастроляў у 1847 г. у Кіеве (час, калі там бываў і беларускі драматург!) напіша некалькі «ўкраінскіх» музычных твораў, і сярод іх паэтычную імправізацыю «Смутак», створаную паводле песні «Віють вітри, віють буйні» з рэпертуару «Наталкі Палтаўкі». Асаблівую цікавасць уяўляе наступнае: у 1840-я гг. творы І. Катлярэўскага ставіліся ў Мінску, іх уключылі ў свой рэпертуар Мінскі гарадскі тэатр, трупа Чаховіча ў Віцебску. На 40-я гг. XIX ст. прыпадае і пачатак творчай дзейнасці Дуніна-Марцінкевіча як драматурга, што пазначыўся напісаннем шэрагу оперных лібрэта («Яўрэйскі рэкруцкі набор», «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада», «Сялянка» і інш.). «Наталка Палтаўка» не магла не ўзяць у палон Дуніна-Марцінкевіча, які павінен быў прысутнічаць на яе пастаноўках у Мінску: менавіта ў гэты час у Мінскім тэатры рыхтавалася прэм'ера камічнай оперы самога Дуніна-Марцінкевіча «Рэкруцкі яўрэйскі набор». Незабыўнае ўражанне ад украінскай «драматургічнай жамчужыны» ён прывёз у свае творчыя пенаты — маёнтак Люцінку. Зрэшты, пры ім мог быць і друкаваны асобнік п'есы, якая была апублікавана ў першай кнізе альманаха «Украинский сборник» за 1838 г.

Існуюць роднасныя повязі паміж знакамітымі п'есамі «Наталка Палтаўка» І. Катлярэўскага, «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча і «Паўлінка» Янкі Купалы. Іх параўнальная характарыстыка можа закрануць шмат літаратуразнаўчых аспектаў. Адна з галоўных задач — высвятленне тыпалогіі жанру драмы ў нашых нацыянальных літаратурах. Роднаснасць п'ес засведчана таксама і ў іх непасрэднай канкрэтыцы: структуры сюжэта, пабудове характараў, іншым падабенстве мастацкіх сродкаў. Звернем увагу на назву твораў: у Катлярэўскага ў загаловак вынесена імя дзяўчыны з народа — мастацкі прыём, які ўяўляе сабою пэўную літаратурную традыцыю. На яе абапіраўся і Дунін-Марцінкевіч, калі свайму цудоўнаму драматургічнаму твору даў назву «Сялянка», што тагачасным (як, зрэшты, і цяперашнім) чытачом (гледачом) успрымалася не як жанравая прыкмета (ідылія), а найперш як сацыяльнае гендарнае вызначэнне (жанчына сялянскага паходжання). Яшчэ больш дакладным у вернасці такога роду мастацкай традыцыі аказаўся Янка Купала, назваўшы сваю неўміручую камедыю жаночым імем — «Паўлінка».

І «Наталка Палтаўка», і «Сялянка» ўвайшлі ў гісторыю тэатра як своеасаблівыя оперы. Жанравая канкрэтызацыя грунтуецца ў абодвух выпадках на аўтарскіх пазначэннях: «маларасійская опера» — у Катлярэўскага, «опера ў двух актах» — у Дуніна-Марцінкевіча. Мы разумеем, што жанравая характарыстыка тут некалькі ўмоўная, аднак пры гэтым супадзенні маюць асаблівую паказальнасць і важкасць.

Нараджэнне названага сцэнічнага жанру абумоўлена развіццём тэтральнага мастацтва Еўропы. На мяжы XVIII—XIX стст. у тэатрах Польшчы і Чэхіі пастаноўкі ўсё часцей адрываюцца ад першаасновы п'есы: «значэнне слова ў іх падае, цэнтр увагі пераносіцца на танец, песню, пантаміму, г. зн. на асобныя нумары «эстраднага» тыпу, якія ледзь змацаваныя сюжэтам выставы» (Л. Цітова).

У большай ступені музычныя кампаненты пачалі з'яўляцца ў творах камедыйнага жанру, у меншай — у трагедыях. Узорам падпарадкаванасці, у прапарцыянальных суадносінах, розных відаў мастацтва, уведзеных у адзін тэатральны спектакль, у Італіі, Францыі з'явіўся жанр оперы. Менавіта опера, як трапна заўважыў Ж. Ж. Русо, звярталася да тэатральнай залы «праз слова да розуму, праз музыку да слыху, праз жывапіс да зроку». Характарызуючы развіццё нацыянальнага тэатра славянскіх народаў, неабходна прызнаць, што жанравая мадыфікацыя тэатральнай выставы — праз зварот да музыкі і танца — актыўна адбываецца менавіта ў сярэдзіне XIX ст. Пошукі форм сінтэтычнага тэатральнага мастацтва ў найбольш дэмакратычных яго праявах прывялі да адчування неабходнасці стварэння опернага мастацтва.

Беларускія музыказнаўцы звязваюць пачатак беларускай оперы з дзейнасцю С. Манюшкі, указваючы на выкананую ў 1852 г. сумесна з Дуніным-Марцінкевічам пастаноўку «Сялянкі». Слоўны тэкст Дуніна-Марцінкевіча, выкарыстаны як densernae лібрэта, быў выдадзены ў 1846 г.: у Вільні з'явілася друкам кніга, на вокладцы якой было пазначана: *Sielanka. Opera we dwoch aktach*. Яшчэ раней, у 1841 г., адбылося прадстаўленне «камічнай оперы ў адной дзеі» «Рэкруцкі яўрэйскі набор», дзе Дуніну-Марцінкевічу (разам з К. Крыжаноўскім) належала аўтарства і лібрэта, і музыкі. Гісторыю ўкраінскага опернага мастацтва пачынаюць з дзейнасці Міколы Лысенкі (1842—1912). Славуты кампазітар паклаў на музыку шэраг сюжэтаў, звязаных з украінскай рэчаіснасцю: некалькі лібрэта яго опер створаны паводле твораў М. Гогаля («Калядная ноч», «Майская ноч», «Тарас Бульба»), дзве — «Наталка Палтаўка» і «Энеіда» — паводле тэкстаў Катлярэўскага. Лічыцца, што п'еса «Наталка Палтаўка» ў музыцы кампазітара, напісанай Лысенкам у 1889 г., атрымала кангеніяльнае ўвасабленне.

І. Катлярэўскі, як вядома, напісаў «Наталку Палтаўку» яшчэ ў 1818 г., а значыць, першы падаў прыклад арыгінальнага ўзору *дэмакратычнай оперы* на матэрыяле з *вясковага жыцця*. Ён ішоў сваім шляхам самастойна. Прасачыць формы ўздзеяння еўрапейскага опернага мастацтва на ўкраінскую і беларускую культуры — задача спецыяльнага даследавання, якое паставіла б сабе за мэту разгледзець украінскую і беларускую оперу-вадэвіль як праявы нацыянальнай мадыфікацыі заходнееўрапейскага жанру аперэты. У аперэце музычны, а гэта значыць і спеўны, слоўны матэрыялы скіраваны на стварэнне адпаведнага вясёлага, разважальнага, мажорнага настрою. І Катлярэўскі, і беларускія аўтары не прытрымліваліся канона аперэты. Выкарыстоўваючы толькі некаторыя яго жанравыя прыёмы, яны стваралі нешта новае, рабілі спробы напісаць *нацыянальную оперу*. Фальклорныя музычныя ўстаўкі ў Катлярэўскага і Дуніна-Марцінкевіча ўспрымаюцца не толькі як спосаб характарыстыкі асобных герояў, не толькі як прыём індывідуалізацыі. Песня і танец уводзяцца ў творы для абагульнення і тыпізацыі народнага характару, яны сведчаць пра народнасць твораў у цэлым.

Доўгі час існавала думка пра залежнасць «Наталкі Палтаўкі» толькі ад расійскай драматургіі XVIII — пачатку XIX ст. Апошнім часам з'явіліся цікавыя працы, у якіх «Наталку Палтаўку» звязваюць не толькі з традыцыямі батлейкі (украінскага вяртэпа), не толькі з інтэрмедыямі, але шырэй — з драматургіяй перыяду росквіту Кіева-Магілянскай акадэміі (М. Сулыма). Гэта быў той перыяд, калі Кіева-Магілянская акадэмія функцыянавала як *alma mater украінцаў і беларусаў,* калі ў творчую драматургічную практыку выкладчыкаў і вучняў акадэміі актыўна ўліваўся і ўкраінскі, і беларускі струмень. Выводзячы «Наталку Палтаўку» з перыяду ўсталявання культурнага феномена — украінска-беларускай культурнай супольнасці, мы ў гэтым жа кантэксце маем падставы разглядаць і пачаткі беларускай драматургіі.

П'есы Катлярэўскага і Дуніна-Марцінкевіча раскрываюць працэс прыўнясення ў драматычны твор свецкай — не духоўнай, як складвалася традыцыйна, — тэматыкі. Украінскі і беларускі аўтары маюць справу ўжо не з алегарычнымі дзейнымі асобамі, у адрозненне ад школьнай драмы. І героі драматургаў не сведчаць

пра паўтарэнне прыёмаў стварэння характараў, запазычаных з інтэрмедый, дзе пераважаў гумарыстычны і сатырычны падыход пры паказе дзейных асоб з народа. Прыёмы бурлеска перастаюць з'яўляцца вядучымі. Можна выказаць меркаванне, што гумар у абодвух пісьменнікаў выкарыстоўваецца як стылёвы элемент для індывідуалізацыі герояў. У абодвух аўтараў назіраем нараджэнне рэалістычнага героя, творы ўкраінскага і беларускага драматургаў характарызуюць выразныя прыкметы рэалістычнасці.

Пэўнае супадзенне ў назвах п'ес «Наталка Палтаўка» і «Пінская шляхта» прадвызначана задумай пісьменнікаў скіраваць увагу на геаграфічныя параметры дзеяння, менавіта на мясцовы, нацыянальны матэрыял. Акрамя таго, у абодвух творах закладзена ўказанне на сацыяльны статус дзейных асоб. У творы Дуніна-Марцінкевіча гэта адразу падаецца ў загалоўку. У Катлярэўскага такая вызначанасць існуе ў змесце твора, хаця магла б скласці і падзагаловак самой назвы — «Палтаўская шляхта». Зрэшты, менавіта гэтыя акалічнасці абумовілі адпаведную кампаноўку дзейных асоб. Героі Дуніна-Марцінкевіча, як і Катлярэўскага (Выбарны, Войт, Возны), займаюць пасады, на якія магла прэтэндаваць дробная шляхта паводле магдэбургскага права. Яны імкнуцца выявіць сваю адукаванасць, апелюючы да літары дакумента. Гэта камічным чынам выяўляецца падчас прызнання Match Вознага ў каханні да Наталкі. «*Не в состоянії поставить на вид тобі силу любові моєй. — Когда б я іміл — теє-то як його — столько язиков, сколько артикулов в Статуті ілі столько зап'ятих в Магдебурському праві, то і сих не довліло би на восхваленіє ліпоти твоєй!..*», — патэтычна звяртаецца да дзяўчыны судовы чыноўнік. Кола зацікаўленняў гэтага жаніха абмежаванае, ён цынічна разважае пра карысць хабарніцтва; злоўжываючы службовым становішчам, пагражае дзяўчыне судом і турмою. Ён тыповы «кручкатворца». І мова яго — суржык з расійскіх, украінскіх, царкоўнаславянскіх слоў, «аздобленая» канцылярскім жаргонам.

Пераемнасць традыцыі Катлярэўскага знаходзім у майстэрстве падачы сатырычных персанажаў не толькі ў п'есе «Пінская шляхта», але і ў «Паўлінцы» Янкі Купалы. Вобразы Куторгі, Кручкова, пана Быкоўскага ўспрымаюцца як пераемнікі сюжэтнай лініі з п'есы Катлярэўскага, звязанай з вобразам бюракрата і хабарніка Вознага. Гэта ўсё той самы моўны суржык, змяшэнне нізкага і высокага стыляў і інш. Назіраецца падабенства ў лексічным і ідэйным планах асобных куплетаў-рамансаў Цецервакоўскага і Куторгі. Цікавасць выклікае тое, што Куторга, падчас прызнання ў каханні да Марысі, параўноўвае сябе ў «Рамансе № 5» з «цетрам»: «*Як цетраў у лясочку жаласна балбоча, Так маё сэрцайка да панны сакоча*». І нельга не ўбачыць за гэтым словам «цетр», якое тлумачыцца як «цецярук», вобраз украінскага Вознага, якога Катлярэўскі надзяліў адпаведным «змястоўным» прозвішчам — Цецервакоўскі.

Альбо яшчэ адно назіранне. У «Дуэце № 6» з «Пінскай шляхты» моўная партыя Марысі захоўвае некалькі тыповых украінізмаў. У прыватнасці, характарыстыка Грышкі з яе вуснаў падаецца наступным чынам: «*Грышка мой — хлапец матарны, Малады, відны ды гарны*». Тут прачытваецца выразная алюзія на пачатак паэмы «Энеіда»: «Еней був *парубок моторний* І хлопець хоч куди козак...» Украінская «Энеіда», створаная зноў-такі Катлярэўскім, атрымала ў Беларусі не толькі прызнанне, яна стала моцным стымулам для ўзнікнення беларускамоўнага арыгінальнага твора «Энеіда навыварат».

Разгляд тэксту «Залётаў» таксама дае шмат доказаў роднаснасці гэтага твора Дуніна-Марцінкевіча з п'есай «Наталка Палтаўка», паэмай «Энеіда». Так, аповед Петрука пра ўкраінскіх казакоў нагадвае гістарычную канкрэтыку з паэмы «Энеіда». Згадваюцца ў Дуніна-Марцінкевіча слаўныя сваёй гісторыяй украінскія гарады. Пэўны паралелізм існуе паміж дыялогамі Пятра і Выбарнага — з п'есы Катлярэўскага, Петрука і Сабковіча — з твора Дуніна-Марцінкевіча…

Мы маем усе падставы ганарыцца імкненнем Дуніна-Марцінкевіча да стварэння нацыянальнай оперы. Украінцы калі і апярэдзілі беларусаў у працы над гэтым жанрам, дык толькі на некалькі дзесяцігоддзяў. Суседзі славяне, якія ўвахо-

дзілі ў склад Аўстра-Венгрыі, над нацыянальным тэатральным мастацтвам пачалі працаваць менавіта ў той самы час, што і Дунін-Марцінкевіч. Толькі пашанцавала ім больш. Як мы ведаем, слава С. Манюшкі ўзрасла у сярэдзіне XIX ст. у Варшаве. Аўстрыйскі ўрад пасля рэвалюцыйных узрушэнняў у краіне ў 1848—1849 гг. вымушаны быў пагадзіцца на стварэнне ў Празе, побач з нямецкім, чэшскага нацыянальнага тэатра. І першай сваёй операй чэхі лічаць «народна-музычную камедыю рэалістычнага жанру», якой з'яўляецца «Прададзеная нявеста» Бэрджрыха Сметаны (1824—1884), пастаўленая ў Пражскім тэатры ў 1866 г.

Падагульняючы назіранні над тыпалогіяй развіцця тэатральнага мастацтва славян на працягу XIX ст., адзначым, што ў беларусаў і ўкраінцаў, у выніку роднаснасці гэтых народаў, агульнасці іх гістарычнага лёсу, мастацкая палітра драматургічных твораў мела (не магла не мець!) асабліва шмат агульнага. Збліжала творцаў ідэйная скіраванасць, адданасць справе нацыянальнага самасцвярджэння. Аднак лічым неабходным падкрэсліць пры гэтым, што факты рознага роду «супадзенняў» у прадстаўнікоў розных нацыянальных пісьменстваў нельга ўспрымаць толькі як выявы вучнёўства ці запазычанняў. Прачытанне літаратурных узаемадачыненняў плённае толькі пры такім тыпалагічным падыходзе, калі сувязі бачацца не столькі ў «імпарце» тэматыкі і формы, колькі разумеюцца як стымулююча-арганізацыйны фактар, калі ўдаецца высветліць агульныя заканамернасці ў развіцці нацыянальных літаратур.

У працяг распачатай Д. Дарашэнкам украінскай беларусікі (або і паралельна з ім) выявілі ўвагу да творчасці Дуніна-Марцінкевіча і шэрагу іншых пачынальнікаў беларускай літаратуры львоўскія вучоныя Іларыён Свянціцкі і Васіль Шчурат. В. Шчурат дапамагаў І. Свянціцкаму ў напісанні вялікай працы «Відродження білоруського письменства» (1908) і сам захапіўся беларусікай. Яму належыць артыкул «В. Дунін-Марцінкевич. З нагоди 25-ї річниці смерті», змешчаны ў часопісе «Неділя». Тут жа Шчурат надрукаваў свой пераклад паэмы «Тарас на Парнасе», памылкова прыпісаўшы яе аўтарства В. Дуніну-Марцінкевічу.

Зацікаўленасць з боку ўкраінцаў творамі Дуніна-Марцінкевіча пашыралася. На пачатку XX ст. яго п'есы ўваходзілі ў духоўны ўжытак украінцаў, пра што сведчыць артыкул П. Ахрыменкі «Первый украинский перевод "Пінскай шляхты"». Выклікала цікавасць украінцаў праца беларускага класіка над перакладам «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Так, М. Рыльскі неаднойчы ў сваіх выступленнях згадвае імя Дуніна-Марцінкевіча. І менавіта Рыльскі ўпершыню звярнуў нашу ўвагу на тое, што «в пьесе Дунина-Марцинкевича «Залёты» герои с любовью вспоминают времена героических походов Б. Хмельницкого». Напрыканцы XX ст. да перакладу беларускага класіка звярнуўся Р. Лубкіўскі, які ўдала перадаў акцэнтнаскладовы верш арыгінала, яго фальклорна-напеўны стыль.

# Т

Ісак СЕРБАЎ

# БЕЛАРУСЫ-САКУНЫ

**Сербаў Ісак Абрамавіч [27 мая 1871, вёска Кульшычы Быхаўскага павета (цяпер Слаўгарадскі раён) — 21 студзеня 1943], беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг. Правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922). Кандыдат гістарычных навук (1934). У 1892 годзе скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю, у 1901 годзе Маскоўскі археалагічны інстытут. Працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі, Вільні, Троках, Хоцімску, Стоўбцах.**

**У вёсцы Ляўкі сучаснага Старадарожскага раёна жыў сярод беларусаў-сакуноў.**

**У 1910 — 1912 гадах як член Паўднёва-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства наладзіў шэраг экспедыцый па Беларусі. Сабраныя матэрыялы і назіранні абагуліў у кнізе «Паездкі па Палессі. 1911 і 1912 гг.» (1914), 2-я частка якой «Па Дрыгавіцкай вобласці ўлетку 1912 г.» прысвечана духоўнай культуры беларусаў. У 1915 годзе выдаў этнаграфічны нарыс «Беларусы-сакуны». У 3-й частцы гэтага нарыса расказваецца пра беларускую вусна-паэтычную творчасць. У ёй апісанні, напрыклад, сялянскай хаты, спалучаны з песеннымі прыкладамі: апяваецца хатні стоўп, кут у каляднай песні. У апісаннях гаспадарчых прылад, інструментаў прыводзяцца прымаўкі. У 1917—1918 гадах загадчык аддзела народнай асветы ў горадзе Сальцы Наўгародскай губерні, з 1919 года — у аддзелах народнай асветы Магілёўскай і Гомельскай губерняў. З 1923 года — выкладчык, загадчык кафедры этнаграфіі БДУ, супрацоўнік камісіі гісторыка-археалагічнай і па ахове помнікаў старажытнасцей. З 1925 года — сакратар секцыі этнаграфіі Інбелкульта. У 1929 годзе стаў вучоным сакратаром кафедры этнаграфіі БДУ, быў старшым навуковым супрацоўнікам секцыі этнаграфіі АН БССР. Першы з беларускіх этнографаў стварыў вялікую фотатэку — каля 5 тысяч фotaздымкаў, у якой зафіксаваны тыпы адзення жыхароў розных куткоў Палесся, жылля, гаспадарчых пабудоў, вырабы рамёстваў і інш. За комплекс навуковых прац у 1924 годзе без абароны дысертацыі нададзена ступень кандыдата гістарычных навук. Многія запісы І. Сербава загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны разам з фальклорным архівам АН БССР.**

**Сакуны.** Сакуны, частка самага вялікага беларускага племені дрыгавічоў, насяляюць верхняе цячэнне р. Пціч і яе прытока Арэсы[1]. Сакунамі называюцца яны таму, што ўсе дзеясловы на «ся» ў іх заканчваюцца цвёрда на «са», напрыклад: выспаўса, нагукаласа[2], завернеса, прагуляймаса, абачхніса[3].

Паводле статыстычных звестак агульная колькасць сакуноў у цяперашні час (1915 год. — **А. В.**) налічваецца 10200 чалавек, з якіх 5300 мужчын і 4900 жанчын.

Пасяленні іх — Жыцін, Юравічы, Крамок, Церабуты, Шчыткавічы, Ляўкі, Дражын, Падарэссе, Залужжа і некалькі засценкаў, — размясціліся на невялікіх нізінных астраўках, сярод непраходных багнаў і балотаў Верхняга Палесся, на мяжы Ігуменскага і Бабруйскага паветаў Мінскай губерні.

## Пасяленні сакуноў

1. Вялікае сяло **Жыцін** на правым беразе р. Пціч: 200 двароў, 1600 душ абодвух полаў. Паводле падання сяло названа Жыціным таму, што заўсёды на палетках атрымлівалі добрыя ўраджаі.

2. Вёска **Крамок** на левым беразе р. Пціч, каля вярсты ад Жыціна праз Лавы і Татарскі брод: 110 двароў, 960 душ абодвух полаў. Крамок — значыць акраіна, кромка.

3. Вёска **Юравічы** таксама на левым беразе р. Пціч, у паўвярсце ад Крамка: 80 двароў, 640 душ абодвух полаў. Юравічы — ад Юркі або ад «юра»[4].

4. Вёска **Церабуты:** 120 двароў, 990 душ абодвух полаў. Церабуты — «на пацерабох».

5. Вёска **Шчыткавічы:** 200 двароў, 1500 душ абодвух полаў. Шчыткавічы — ад слова «шчыток» — трохвугольнік або ад «шчыта».

6. Вёска **Ляўкі:** 120 двароў, 1000 душ абодвух полаў. Ляўкі заснаваны Лявонам.

7. Вёска **Дражын:** 115 двароў, 960 душ абодвух полаў. Дражын — на драгве.

8. Сяло **Залужжа:** 180 двароў, 1400 душ абодвух полаў. Залужжа — «за лужамі».

9. Вёска **Падарэссе:** 120 двароў, 1000 душ абодвух полаў. Падарэссе — «пад рэчкай Расай (Арэса)».

**Верхняе Палессе.** Вельмі раўнінны характар гэтай мясцовасці парушаецца толькі некалькімі пясчанымі ўзгоркамі, якія раскіданы ў беспарадку па ўсіх астраўках. На адным з такіх узгоркаў у канцы с. Жыціна, паводле падання, быў старажытны замак, хаця слядоў яго, акрамя прадзедаўскіх магіл, у цяперашні час не знойдзена. Сам узгорак не насыпны, а прыродны, бясформенны, пакрыты векавечнымі соснамі. Каля яго праходзіць старадаўні шлях са Слуцка ў Мінск. Здалёк на ўзгорку чарнее высокі гай і ў цяперашні час служыць як бы маяком падарожніку, які блукае па глухіх сцяжынках і бясконцых грэблях Палесся. З гэтага ўзгорка адкрываецца шырокі далягляд на паплавы і галныя[5] балоты, дзе сакуны пасвяць сваё гаўяда[6] і косяць траву.

Каля Ляўкоў, Шчыткавіч і Церабутаў цягнецца суцэльнай паласой пясчаная ўзгоркавая града, якая месцамі падымаецца вышэй за 100 сажняў над узроўнем мора і густа ўсеяна валунамі.

Адны ўзгоркі пакрыты сасновым лесам, а другія ўжо разараны пад палі. На нізкіх месцах расце елка, асіна, вольха, вярба і бяроза, а на раўніне — дуб, граб, клён і ліпа. На галным балоце месцамі бачны нізкарослыя бярозкі і сосны.

Багны густа пакрыты асакой, чаротам і яварам. У махавых балотах і зарасніках на купніку[7] сярод багуну растуць ягадныя расліны: журавіны, брусніцы, буякі[8].

З балотаў бяруць свой пачатак невялікія прытокі Пцічы — Раса, Паграбніца і Асвіца[9] (каля Падарэсся), Уюнішча (каля Залужжа), Палазва і Лавы (каля Церабут).

На захадзе за 4 вярсты ад Шчыткавіч на краі балота знаходзіцца старадаўні гарадок, які мае сэрцападобную форму. Звужаным канцом ён звернуты на поўнач і ўпіраецца ў балота, адкуль вакол пляцоўкі цягнуцца два глыбокія равы і паміж імі даволі высокі вал. Па грэбені пляцоўкі ўсходняя і заходняя дугі маюць па 39 сажняў, а паўднёвая — 34 сажні. Глыбіня равоў $1^1/_4$ сажня а шырыня $1\ ^1/_2$ сажня. Вышыня вала 1 сажань. Таўшчыня чарназёму да 1 аршына.

Каля Ляўкоў пры «шляху» на Слуцак раскінулася група даўніх магільных курганоў, у якіх знаходзяцца рэшткі касцей пахаваных.

Некаторыя балоты і ўрочышчы атрымалі сваю назву, напэўна, у вельмі далёкія часы. Так, напрыклад, каля Церабут, параўнальна недалёка ад Шчыткавіцкага гарадзішча, ляжаць вялікія балоты — Старышча, Дзедаўка і Быцень; каля Залужжа — Пасідзення і Старына; у Ляўках — Дамавітля і Уяціны, пра якое ў сакуноў

захавалася паданне, што з даўніны іх дзяды ў час небяспекі «будовы пакідалі, забіралі жывёлы і забіраліса на пражыццё ў куралле»[10]. Каля Жыціна цягнецца шырокае галнае балота Пуцішча, якое, напэўна, служыла некалі водным шляхам з захаду на ўсход.

Даўней, да пачатку XVII стагоддзя, уся гэтая вобласць уваходзіла ў склад Слуцкага княства, а потым паступова пераходзіла ва ўладанне князёў Радзівілаў, Вітгенштэйнаў і, урэшце, Гогенлое. «Мы булі княжые», не без гордасці ўспамінаюць сакуны, — «бачылі мы тутака на сваём вяку ўсякага княззя і грапоўя нахвоця. Ета чаперака ўсё знiстожана, а прэжда ў нас у лясох і карчох вадзілоса ўсякае звяр'ё: ласе, медзвядзе, бабрэ і зайцэ, а пташша етага было ўсюдых поўна[11], як гразе, — рабкоў, цецярукоў, глусцоў. Чаперака ў вочы не ўбачыш добрага ўюна ці шчукі, а колісь усё балота, як кісель, кішэла карасямі, лінямі і вакунямі. Вадзіласа дайжа бялога! Сама княгіня прыезджала сюдой з Слуцака — лавіць рыбу…» (Верагодна, Соф'я Алелькаўна. Каля Жыціна на балоце быў пабудаваны для княгіні-рыбалова асобны домік. — **А. В.**).

Жывучы на сваіх амаль недаступных астраўках, усімі забытыя, сакуны да апошняга часу захавалі шмат самабытнага.

**Пасяленні.** Звычайна на астраўку, на беразе рэчкі або балота, цягнецца доўгаю стужкай пасяленне, акружанае, як лесам, азяродамі. Крывыя вузкія вуліцы на нізкіх месцах высланна галлём у выглядзе грэблі. Адзін канец вуліцы, звычайна лепшы з уезда, называецца белым, а другі — чорным. Большай часткаю каля белага канца вуліцы стаіць высокі драўляны крыж з распяццем, а далей у полі размяшчаюцца могілкі або клады.

**Лавы.** У Шчыткавічах асобыя канцы вуліц называюцца лавамі. Паколькі кладкі, пракладзеныя па дрыгве на сваях, таксама носяць назву лаваў, то можна меркаваць, што назвы вуліц лавамі адносяцца да той аддаленай эпохі, калі насельнікі мясцовых балот будавалі на сваях сваё жыллё, якое мела зносіны паміж сабой і сушаю пры пасрэдніцтве лаваў.

У Дражыне ўся доўгая вуліца і двары ўяўляюць сабой суцэльны бярвенны мост.

У пасяленнях сакуноў вуліцы па абодвух баках густа забудаваны. Двары доўгія, але вельмі вузкія. На такім двары двое калёсаў з цяжкасцю размінаюцца.

**Двор.** Двор сакуна шчыльна забудаваны толькі з двух бакоў і адгароджаны ззаду і ад вуліцы праслам ці частаколам, з рэдзенькімі вешніцамі[12] замест варот. Такі двор мае выгляд нейкага цеснага праходу або калідора.

**Хата.** На адным баку сядзібы, на адлегласці $1^1/_2$—2 сажні ад вуліцы, за частаколам стаіць невялікая, звычайна 9х8 аршын, бярвенная хата, рубленая ў вуглы. Падмурка зусім няма; першы вянец кладзецца проста на зямлю або на камяні, абгароджваецца кругом тонкімі бёрнамі і абсыпаецца зямлёй. Такая заваліна называецца «прызбай». Высокі доравы[13] або гонтавы дах, з двума крутымі схіламі, а таксама з карнізам і абшытым шчытом, або франтонам, спераду. Па самым версе ўздоўж усяго даху цягнецца «воўк», збіты з дзвюх доўгіх дошак. Краі абодвух схілаў каля самага франтона абшыты дошкамі, якія называюцца закрылінамі.

У хаце абавязкова тры маленькія акенцы, з якіх адно на вуліцу і два ў двор. Чацвёртага акна ў сваёй хаце сакун нізавошта не прасячэ. У Ляўках, калі сялянская хата была адведзена пад земскую школу, гаспадар хаты прасякаў чацвёртае акно ў хаце толькі з бласлаўлення святара і дазволу сельскага сходу. У старых курных хатах маленькія, 8х5 вяршкоў, аконцы неасаджаныя, гэта значыць без лутак, з дашчатымі засоўкамі замест рамаў.

**Пабудовы.** Да хаты прымыкаюць пад адзін дах халодныя сенцы з адным аконцам і невялікім ганачкам, з двума прыступкамі перад дзвярыма. Далей па парадку ідуць клець, павець, хлявы — асобна для кароў, цялят і валоў, стайня і, урэшце, адрына. Па другі бок сядзібы ад вуліцы цягнуцца: студня, свіран, аўчарня, свінарня, істопка, абоварыўня, і паграбішча. За дваром раз-

мяшчаюцца — прыгуменне, азяроды, гумно, хлеў для саломы і сена, і, урэшце, агарод. На некаторых агародах пасаджаны асобна яблыні, грушы, слівы і вішні.

**Унутры хаты.** У хатах у сакуноў даволі акуратна і чыста. У Ляўках, напрыклад, мыюцца сцены не толькі ўнутры, але і знадворку. Мэбляй служаць услонцы і лавы, пакладзеныя ўздоўж сцен пад вокнамі.

Ганаровы кут у хаце ўвесь устаўлены абразамі, якія зверху пакрыты чыстым натканым ці вышытым ручнікам-набожнікам. Тут жа ў куце стаіць невялікі стол, за які ў час абеду і вячэры садзяцца на лавах толькі мужчыны, а жанчыны ядуць стоячы ці ўладкаваўшыся на ўслонцах. Варта ўвагі тое, што ў радзімічаў і крывічоў лічыцца вялікім грахом пакідаць стол ненакрытым і без хлеба-солі, а ў сакуноў ён у свабодны час застаецца голым і пустым. «Кут» за сталом лічыцца самым ганаровым месцам у хаце. «Не пастаяўшы ў парозе — не сядзеш на куце», — кажа прымаўка.

Супрацьлеглы вугал займае печ на драўляным фундаменце, адмыслова збітая з гліны. Такая печ мае форму масіўнай глінянай скрыні да 3 аршынаў у даўжыню, $2^1/_2$ аршына ў шырыню і $1^1/_2$ аршына ў вышыню. Под у печы называецца токам, а верхняя гладкая пляцоўка — «чарэнню». Чалеснік нават блішчыць ад сапухі і саламені, або нагару. Спераду чалесніка выкладваецца з цэглы пірамідальнай формы комін пад самую столь[14], а далей за столлю выводзіцца на дах прамая гліняная або нават драўляная труба. Перад чалеснікам на загнеце па абодвух баках устроены ямкі, куды заграбаюць жар і попел. На печы за комінам лічыцца самае зацішнае месца ў хаце.

Курныя хаты ўжо сустракаюцца як рэдкасць, і толькі ў беднякоў.

З краю печы стаіць той «стоўп», які, паводле павер'я беларуса, мае цудадзейную сілу: каля яго адбываюцца замовы ад самых сур'ёзных хвароб, ад благога вока, сурокі і цудадзейства.

Стоўп і кут апяваюцца ў старадаўніх калядных песнях:

Прыехала Каляда
На сівенькім коніку.
Паставіла коніка
Ды ў новенькай адрынцы.
Сама села на кут
На пуховай пярынцы.
Наставіла дудачэк
На саменькі стаўпочак.
Іграйця вы, дудачкі,
Нам хараша-голасно!
Ой, скачыця вы, дзевачкі,
Пыд дудачку весяло!..

Ці:

Ідуць-едуць Калядкі,
Вязуць бліны-аладкі
На вараном коніку,
Малёваным вазочку.
Прыехала Каляда
Ды к нам у госця вечарам.
Ой, прывезла дудачэк
Цалюсенька рэшата,
Паставіла на стаўпе,
Сама ж села на куте.
Вы, дудачкі, іграйця,
Вы ж, дзевачкі, гуляйця!
Стары бабкі, сядзеця
Ды на дзіва глядзеця!..[15]

У стоўп і пярэднюю сцяну праз усю хату ўроблена тоўстая бэлька, якая называецца білам. Яна як бы адгароджвае зацішнае месца ў хаце — спальню. Тут

насланы — унізе палок, а ўверсе палаці, хаця апошнія сустракаюцца ўжо даволі рэдка. Вось у гэтым заполку сакун ніколі не прасячэ акна.

На палку і прыпечку валяюцца пярыны, пухавікі, сеннікі, дзяругі, адзенне і ўсякае рыззё, а на біле, паліцах і жэрдках развешаны і раскладзены: світкі, панёвы, кудзелі, пачынкі, адкідкі, клубкі нітак і розныя жаночыя ўпрыгожанні.

Падполле (пад нарамі) разам з падпечкам на зіму агароджваецца дашчатаю загародкай, куды ў час зімовай сцюжы засаджваюцца куры і маладая жывёла. У даўніну падполле, верагодна, мела важнае значэнне ў жыцці чалавека, бо і цяпер яшчэ на ксцінах бабка, жадаючы свайму ўнуку ўсякага дабра, урачыста просіць у Бога: «Пашлі, Божа, нашаму ўнуку — на палу рабяткі, а пыд палом цыляткі!..»

Кут каля супрацьлеглага акна ўяўляе сабой кухню. Тут, на лаве і паліцах, размяшчаецца посуд: гаршкі, міскі, усвіцы[16], чашкі, чоўсы (або чыгуны); каўшы, апалонікі, лыжкі, салонкі, вёдры, вадзянікі, мяла[17], калатайка, каўгарка[18] і г. д.

Кут пад загнетам ля парога называецца вадзюжнікам, дзе стаяць вадзюгі: вілкі, качэргі, ёмка, памяло, рыдлёўка, венік.

Падзагнецце разам з вадзюжнікам лічыцца зачараваным месцам. Воўхвіты, нагаворваючы ваду, дзьмуць і плююць пад загнет і адліваюць туды частку нагаворанай вады.

**Лушнік.** Сярод хаты пад столлю вісіць, у выглядзе вялікага звона, сплецены з лазы і абмазаны глінай «лушнік». Унізе да яго прычэплены квадратная жалезная рашотка, перасвет, на якім па вечарах гараць смалякі, або, па мясцовым выразе, «лучына». Для выхаду дыму праз столь і дах устроена драўляная труба. Лушнік добра асвятляе і сагравае хату. У доўгія асеннія і зімовыя вечары сям'я сакуна прымошчваецца вакол лушніка са сваёй работай: хто прадзе, хто тчэ кросны, хто шые, хто лапці пляце.

Можна меркаваць, што лушнік ёсць рэшткі таго старадаўняга агменя, які ўстанаўлівалі славяне пасярод сваіх хацін.

Замест падлогі сакуны выбіваюць у сваіх хатах гліняны ток, які часта паліваюць кіпенем для знішчэння блох і іншых насякомых.

**Сені.** Сені — без падлогі і столі. У красным куце памяшчаецца ікона, каля сцяны — лавы. Тут жа віднае месца займаюць жорны і ступа. Далей нагрувашчаны бочкі, цэбры, кублы, кадкі, кашы, лазбянкі[19], сытнікі[20], ночвы, дзежкі, начоўкі, рэшаты, біклагі, а на паліцах, круках і шастах размяшчаюцца адзенне, збруя, інструменты, сярпы і косы.

Летам сям'я сакуна жыве большай часткаю ў сенях, дзе больш прахалоды і спакойна ад насякомых, мух і прусакоў.

**Клець.** У клеці, у засекі сакун ссыпае сваё збожжа: жыта, ячмень, проса, грэчку і авёс, неабходныя на штодзённыя расходы па гаспадарцы, а ў свіранах хавае адборнае зерне ў запас і на сяўбу. Перад свірнам адводзіцца чыстае, гладка ўтрамбаванае месца, дзе зерне звычайна ачышчаецца ад пустазелля і прасушваецца.

**Павець.** Пад павеццю ў сухім месцы заўважаюцца калёсы, сані, сохі, бароны, церніцы[21], вуллі, рыбацкія снасці, лучына і лыкі.

**Варыўня.** Варыўня, курная хатка без вокан, уся завалена «картоплем», бульмай[22], буракамі і капустай. Маленькія сені пры варыўні называюцца «малотвай». У варыўні захаваўся яшчэ першабытны агмень, складзены з каменю і змацаваны глінаю.

**Хлявы.** Сакуны вельмі практычна ўстройваюць памяшканні для сваёй жывёлы. Доўгі хлеў у іх перагароджваецца ўнутры на некалькі аддзяленняў для кожнага роду жывёлы. У такое аддзяленне са двара вядуць шчыльныя дзверы з парогам. Такія дзверы называюцца варотамі.

**Адрына.** Невялікі чысты хлеўчык, служыць і стайняй, і сенніцай.

**Студня.** Студні большай часткаю без сахі і жураўля. Ваду бяруць проста вочапам. Каромысла сакуны зусім не ведаюць, а вёдры носяць у руках.

**Гумно.** Гумно сакуна не што іншае, як звычайны хлеў, пасярэдзіне якога выбіты ток для малацьбы, а па баках адведзены застаронкі, перагароджаныя для асобных відаў збажыны грондамі, гэта значыць жэрдкамі. Асецей у гумнах няма — увесь хлеб сушыцца на полі або на азяродах. У некаторых гумнах па баках прырабляюцца пад агульны дах доўгія вузкія крылы для складання сена і саломы.

**Сушня.** У кожным пасяленні ёсць некалькі грамадскіх сушань, дзе сакуны сушаць каноплі і лён і потым мнуць іх у маленькіх церніцах. Гэтыя сушні падобныя на беларускія лазні, яны і будуюцца звычайна на беразе рэчкі ці балота, але сакуны зусім не прызнаюць лазні. «Чалавек мыецца двойчы — калі народзіцца і калі памрэ», — гавораць яны.

**Адзенне.** Адзенне, абутак і галаўныя ўборы сакуноў адрозніваюцца сваёй прастатою, лёгкасцю і практычнасцю. Белая суконная світка, верхняе адзенне зімою і летам, аднаго крою для мужчын і жанчын, — шчыльна абхопліваюць паясніцу і расходзяцца на бёдрах двума клінамі, у якіх ушыты кішэні. Нізкі стаячы «каўнер», правая пала, што захінаецца, і кліны па рубцах абшыты для прыгажосці снурком цёмна-сіняга колеру. На клінах атрымліваецца такім чынам выгляд вусоў. Белую світку «з вусамі» трэба аднесці да самага старажытнага і распаўсюджанага ў Беларусі крою.

Зімою дарослыя носяць белыя кажухі такога ж крою, як і світка.

Мужчынская белая сацінавая сарочка з кароткім стаячым каўняром, без зборак на плячах, або з прамым каўняром на грудзях і цвіліхамі пад пахамі, — носіцца па-руску навыпуск і зашпільваецца на грудзях металічнаю спражкай. Такія ж белыя парткі — з сядлом, на ачкуры. Зімою паверх портак надзяваюцца яшчэ суконныя белыя штаны.

Святочная кужалёвая сарочка бывае прыгожа наткана або вышыта на падале, каўняры і «каўнерцах» рукавоў.

**Пояс.** Сакуны падпяразваюцца доўгім шырокім поясам. Некаторыя паясы бываюць у 1 сажань даўжынёю і больш за вяршок шырынёю. Мужчыны носяць на поясе каліту, нож, шабету з крэмнем, трутам і стальным красалам.

Жаночая сарочка крыху даўжэйшая за мужчынскую, да калень, з адкідным каўняром, полікамі і доўгімі рукавамі, якія бываюць спрэс натканы і вышыты.

Кароткая, крыху ніжэй калень, белая спадніца, на поясе носіцца нізка на паясніцы. Зімою і па святах жанчыны і дзяўчаты носяць кароткія суконныя андаракі або шарсцяныя панёвы з кабатам[23].

Фартух у дзве палы на «скутах», унізе ўвесь прыгожа натыкаецца ці вышываецца.

Мужчыны і жанчыны носяць белыя суконныя камізэлькі амаль аднолькавага крою.

Нявесты і маладыя «жанчыны»[24] па святах надзяваюць багата расшытыя пазументамі безрукаўкі ці нагруднікі.

**Абутак.** Абуваюцца сакуны ў ліпавыя ці лазовыя лапці, «зрячие», гэта значыць, без вялікай пярэдняй строчкі. Акрамя звычайных пяньковых абор, мужчыны носяць яшчэ і раменныя, а жанчыны — чорныя плеценыя або тканыя. Летам жанчыны ходзяць босыя, але галёнкі завіваюць анучамі. Такія «завойкі» засцерагаюць лыткі ад сіверу.

Наогул, лёгкі абутак сакуна вельмі зручны для жыхара балотаў і багнаў, паколькі няшмат упітвае вады і мала збірае гразі.

**Галаўны ўбор.** На галаве сакуны носяць белую або шэрую магерку, абшытую наверсе цёмна-сінім снурком. Сват надзявае шапку з белай аўчыны з суконным чатырохвугольным верхам.

Жанчыны завіваюць свае валасы на макаўцы галавы ў бячэйку, паўзверх надзяваюць вязаны з нітак чапец і павязваюць турбаном намітку, адзін канец якой ахоплівае падбародак, а другі спускаецца ніжэй паясніцы.

Дзяўчаты заплятаюць касу і павязваюць галаву хустай, тонкім ручніком з вышытымі канцамі. Гэтая хуста, што наогул называецца ў Беларусі «шырынкай», самы старадаўні дзявочы галаўны ўбор.

**Упрыгожанні і ўзоры.** Жанчыны носяць упрыгожанні — на шыі маністы і медальёны, а на руках, на пальцах, «жуковіны», або кольцы.

Усе ўзоры на плацці і палотнах пераважна клятчатыя, а любімыя колеры — жоўты, чырвоны, белы і чорны. Зялёны, сіні і блакітны колеры сустракаюцца рэдка і толькі на новых модных узорах, якімі дзяўчаты і маладзіцы ўпрыгожваюць свае фартухі і полікі на рукавах.

Такое пераважанне першых колераў над другімі не дазваляе не зрабіць меркавання, што ў даўніну дрыгавічы маглі ведаць прыгатаванне чырвонай і жоўтай фарбаў з балотнай іржы і цыбульнага шалупіння, а чорнай — з дубовых яблыкаў. Гэтымі фарбамі і па цяперашні час у некаторых месцах фарбуюць велікодныя яйкі і ніткі да паясоў і чорных плеценых абор.

**Экіпажы.** Экіпажы сакуноў самага прымітыўнага ўстройства.

Калёсы — рэдзенькая драбінкі на простых самаробных колах і да таго вузкія, што побач двум седакам на іх усесціся немагчыма. Ездзяць сакуны на сваіх калёсах, як на дрожках, звесіўшы ногі.

Але калі сакуну даводзіцца ехаць у суседняе пасяленне ў кумы або ў госці, тады ён ужо зацягвае па баках драбінкі тонкія драніцы ў лазовыя дужкі, перамотвае калёсы спераду і ззаду вяроўкай, садзіцца сам у перадок, а жонку памяшчае ў задок і едзе. Плашкі пад драбінкай на восях называюцца суголаўнямі, а бакавыя брускі драбінкі — біламі.

Сані — такая ж самая драбінка, але толькі на палазах, без розвальняў. Прытым палазы спераду амаль не загнуты і большаю часткай без іцвін[25].

Аб вазках сакуны не маюць паняцця.

Вупраж яшчэ горшая. Просценькі хамут без шляі для каня, ярэмчык для вала і лейцы — вось і ўся збруя.

Такія абыякавыя адносіны гаспадарлівага сакуна да экіпажаў і вупражы можна растлумачыць толькі хіба тым, што ён амаль нікуды не выязджае на кані, а працуе пераважна на валах. Конь з'явіўся ў сакуноў, верагодна, не вельмі даўно. Нават у цяперашні час коней у іх вельмі мала — адзін-два на гаспадарку.

**Прылады.** У сакуноў да апошняга часу захавалася саха, якая мала чым адрозніваецца ад першабытнага рала. Гэта не што іншае, як доўгая каранастая крывуліна, ствол якой служыць дышлем, а два тоўстыя карані — ручкамі, з якіх правая называецца мыльніцай, а левая адмылкам. Да ніжняга выгнутага боку крывуліны пад вострым вуглом прыроблена асінавая плашка з рогам, на якім прыбіты лемяхі.

Вялікія дубовыя вілы з двума шырокімі капачамі называюцца «сахаром», які вельмі падобны на плашку сахі. Сакуны так па-майстэрску працуюць сахаром — нарываюць гной на вазы, ускопваюць перагніўшы «чарот» і цвёрды зём на двары, што міжволі з'яўляецца думка, ці не будзе сахор продкам сахі і сучаснага плуга.

Барана — старадаўняй канструкцыі, звязаная і збітая з вітых лазовых кольцаў і тоўстых бярозавых прутоў, з дубовымі зубамі і «самайлукам»[26].

Падлядкі, або падсекі, падымаюць матыкамі і барануюць смыкамі, звязанымі з сырых і сукаватых яловых вершалін.

Сярпы, бабкі і малаткі куюць сакунам мясцовыя кавалі, а косы прадаюць крамнікі.

Пры ўборцы сена на багністых паплавах сакуны ўжываюць, акрамя вілаў і грабляў, яшчэ доўгія жэрдкі-насілкі для носкі сена да аднаго стога.

Вазы снапоў і сена па-старадаўняму ўціскаюцца «рублём» і ўвязваюцца вяроўкамі.

**Рыбацкія снасці.** Для лоўлі рыбы сакуны перагароджваюць рэчкі і пратокі плятнямі і язамі, якія на шырокіх балотах уяўляюць сабой цэлую сістэму збудаванняў. Малыя рэчкі, запруджаныя ў сваім цячэнні, звяртаюцца ў багны і азёры.

Шныраючы ў траве па гэтых багнах то ўброд, то на «чаўнох», сакуны ставяць у запрудах свае «кашэ» і «нярота», цягаюць «таптуху», браднік, вату, крыгу. Але рыбы ўжо мала ў балотах. Сакуны з сумам успамінаюць добрыя старыя часы: «Чаперака ў нас у балоце больш юхі, чым тае мальгвы»[27].

**Пчалярства.** Пчол водзяць сакуны ў вялікіх калодах, якія плятнямі ўсцягваюць па некалькі штук на дрэва. Пад «стаўкамі» вакол ствала дрэва нацягваецца «адзёр», гэта значыць квадратныя палаткі, «што б мядзведзь не ўзаброўса на дрэво і не выдроў мёду». Да «адзёру» прыстаўляецца сукаватая яліна-лазка, прататып нашай лесвіцы.

Варта ўвагі, што сакуны не вядуць бортнага пчалярства і борцяў зусім не ведаюць.

**Апрацоўка лёну і пяньکі. Тканіны.** Лён і пяньку сакуны мнуць церніцай, падобнай на маленькі драўляны станок. Устройства церніцы вельмі простае: на падстаўках умацаваны дзве планкі, якія ўтвараюць жалабок, у які ўваходзіць трэцяя планка — «мяла».

Церніцы, у параўнанні з масіўнымі мяліцамі, якія ўжываюцца ў радзімічаў, — проста цацкі.

Тое ж самае трэба сказаць і пра кросны: ставы, навоі, панажы і нават набілкі ў сакуноў малых памераў.

Таму і сама тканіна ў іх бывае шырынёй толькі да $^3/_4$ аршына.

Лён у сакуноў родзіцца лепш, чым каноплі. Таму канапель сеюць мала, а пад лён адводзяць цэлыя палосы. З пянькі ўюць толькі аборы і вяроўкі, неабходныя ў гаспадарцы, а таксама вырабляюць рыбалоўныя снасці. Але лён апранае сакуна. Жанчыны ўсю восень і зіму важдаюцца са сваімі кудзелямі і «прасніцамі», прадуць ніткі, а вясною ставяць кросны і ткуць палатно: тонкае кужэльнае, зрэбнае і дзяругу.

З «воўны» вырабляюць простае сукно, лямец, рукавіцы і валёнкі.

**Інструменты.** Амаль усё неабходнае ў гаспадарцы сакуны вырабляюць самі. Таму ў кожнага гаспадара маюцца ўсе патрэбныя інструменты.

«Без сякеры — як без рук», — гаворыць сакун.

Пад «чарту» ён падганяе адзін вянец пад другі, калі рубіць сваю хату. Пяшнёй і цяслом выдзёўбвае човен, карыта, ступу і вулей. На сталюжцы стругае стругам арэшнік для абручоў. Спускам спускае клёпкі, а расторычам выразае дно. Шклобам скобліць брускі і жэрдкі. Долатам «дзіркуе» дзіркі. Разцом выразае кубкі і лыжкі. Нажом кроіць з лыка «дзягі»[28], а падплеткай падплятае лапці і пляце кашы.

**Прыродныя багацці.** Добрых земляў у сакуноў мала. Балота, падзол, тарфянікі і пясок на кожным кроку чаргуюцца з чарназёмам. Таму ў іх няма аднародных палявых змен. Кожную сваю паласу сакун дзеліць на некалькі частак, на якіх сее, гледзячы на якасць і ўласцівасць глебы, жыта, гарох, ячмень, проса, лён, авёс, каноплі, пшаніцу. «Снёўшы суярак або скапоўшы шмат картоплі», сакун на тым жа месцы восенню сее жыта.

Балота — родная стыхія сакуна. «Увесь свой век капаемса тутака ў балоця, у гразе, — сціпла кажуць сакуны, — толькі ж з яго і жывом». І сапраўды, балота корміць сакуна, прадстаўляючы вялізныя пашы для яго «гаўяда». Статкі кароў, валоў, свіней і авечак кішаць на балоце ў чаратах і кустах.

Адзначу як асаблівасць: рагатая жывёла пасвіцца большай часткаю малымі статкамі, а коні раніцой, чуць свет, выганяюцца «канюшым» з трубою на пашу ў агульным табуне.

**Знешнасць сакуна.** Сакуны маюць правільныя рысы твару, большаю часткаю смуглявыя шатэны, доўгагаловыя, сярэдняга росту, моцнага складу, але сухарлявыя. Мужчыны носяць доўгія валасы, падстрыжаныя па-руску ў кружок, з праборам пасярэдзіне, барады не голяць.

**Здароўе.** Нягледзячы на пастаянныя ў гэтай мясцовасці хваробы — каўтун, ліхаманку і рэўматызм — многія сакуны дажываюць да глыбокай старасці, заха-

ваўшы ў дастатковай ступені здароўе. «Бабухна» з с. Жыцін Аўдоцця Шачок жыве ўжо 86-ы год і добра захавалася. Гадоў сорак таму яна засталася ўдавою. Не паладзіўшы з нявесткаю, Аўдоцця жыве цяпер адна ў сваёй старой курнай хаце, зарабляе на сваё пражыццё падзённай працай: глядзіць за жывёлай, прадзе, шые і ходзіць з сярпом. Мае добрую памяць, зрок і слых, цудоўна расказвае пра мінулае, спявае і танцуе. Такіх бабуль і дзядоў паміж сакунамі многа.

**Моладзь.** Моладзі, дзяўчат і хлопцаў, амаль нябачна, паколькі сакуны жэняць сваіх дзяцей вельмі рана. 20-гадовы хлопец і 18-гадовая дзяўчына лічацца ўжо старымі. Таму тут не знаюць ні вясёлых карагодаў, ні бестурботных гульняў, ні дзявочых пасядзелак.

**Працаздольнасць.** Сакуны вельмі працалюбівыя і вынослівыя. Здаецца, ім няма ні дня, ні ночы. Каля трэціх «пеўнёў» яны ўжо на нагах і застаюцца на рабоце да позняга вечара — то ў полі з валом, то на поплаве з касой, то ў лесе з сякерай. Жанчыны ў працаздольнасці не ўступаюць мужчынам. Калі няма работы дома або ў полі, яны з кашом за плячыма шныраюць па зарасніках, збіраюць грыбы або ягады; «лакаюць плацця»[29] каля студні ці на рацэ.

**Яда і піццё.** Яда сакуноў самая простая — хлеб, капуста, бульба, крупнікі, калатуша[30].

Сакуны робяць смачны хлебны квас.

**Заможнасць.** Дзякуючы сваёй працаздольнасці, сакуны жывуць даволі заможна. Пабудовы ў іх добрыя, адзення дастаткова, хлеба хапае да новага, жывёлы трымаюць многа, напрыклад, у сярэдняй гаспадарцы бывае да 10 галоў рагатай жывёлы.

**Развіццё.** Сакуны разумны і дапытлівы народ. Спакойнасць і дабрадушнасць іх здзіўляючыя. Пры сустрэчы сакуны з мяккаю ўсмешкаю кажуць «добрыдзень», а «жанчыны» моўчкі кланяюцца.

«Саброўшысь у празнік пыд вечар на прызбя пагукаць між сабой», мужчыны і жанчыны вырашаюць усе штодзённыя справы, з эпічным спакоем адносячыся да самых незвычайных падзей ці з'яў прыроды, прыгаворваючы: «На свеця — як на рэшаце», гэта значыць усё ў свеце часовае.

Характэрная рыса сакуна — тонкі гумар, які мяжуе з сарказмам. Вось як, напрыклад, у троіцкай народнай песні высмейваецца выхвалянне:

Хмель на тычынку
Навіваецца.
Іванька дачкой
Набіваецца:
Ой, зятю, мой зятю,
Азьмі маю дачку!
Ой, мая ж дачка
Да работніцса:
Ой, на пажу[31] жане —
Кудзельку прадзе,
А с паствы жане —
Пачыначкі ўе!..
— Як прыдзе нядзеля —
Мяшок надзеня.
А прыдзя другая —
Мяшка не мая!..

Ці, напрыклад, папрадухі пад гудзенне сваіх верацён спяваюць, строяць жарты над «рындай», гэта значыць лянотай, бяспечнасцю і неахайнасцю:

Ой, сядзіць рында
Ды на печы.
Як прышлі ж да рынды
Тры жаніхі.
Ой, узялі ж рынду
Тады варухі.

Пабегла рында
Па суседках.
— Ой, суседачкі, вы,
Мае матачкі!
Ды пазычця ж мне
Вы сарочачкі!
— Ой, було ж, рында,
Ды не спаткі
Усе піліпавы
Доўгі ночкі.
Ой, було ж лупіць
У кудзельку вочкі.
— Дак чорт вас бяры
Такіх суседак.
Да ў майго бацька
Бярозак поўна:
Я й бярэсцячком
Абвярнуса.
Ды абдзюрнічком[32]
Пыдперажуса,
Сваім жанішкам
Пакажуса!..
Адзін кажа: ці вол,
Ці карова?
Другі кажа: ці конь,
Ці кабыла?
А трэйці кажа:
Ета мая рында,
То ж мая княгіня —
Няхай яна згіня!...

У сяле Жыцін Пятрок Канцавы высмейваў паляўнічага-ілгуна:

«Знаеш, дзяціна, што анадысь са мною було? Капаў я ў лесе карчэ. У адном месцо абваліласа вяршыня. Прыгледзеўса я, аж там пыд угрудом схавоўса вялізны заяц. Тады я зжаўса ў кучу, пыднёўшы полы, ды як залопаў на яго... Як ухапіўса ж ён снопырску: тыкаўса-тыкаўса, тыкаўса-тыкаўса, бедны, ва ўсе бакі, да й няма ладу, йдзе падзейса!..»

Ці вось як правучаны грубы гультай: «Летась капалі мы ўтрох карчэ. І між намі адзін удоўса такі гультай, што ніколі не прынясе сам сабе палена дроў. А як мы накладом агню, то й яму добра. Павячэрая, да й ляжа сабе спаць. А чуць пыд дзень агонь і звёўса, то ён наперад залезя і ляжа пыд самы нос. Адзін раз я й думаю: пачакай, дзяціна, я ж табе зраблю штуку... І ўсё-такі я надумаўса. Наламоўшы галля, запаліў трэску, да й ускінуў яму на ногі, а сам кінуўса ніц і быццам не бачу. Як загарэліса ў яго анучы!.. Тады ён усхапіўса, да як папёрса ў балота. А там вады не було. Дык ён у маху таптаўса-таптаўса, таптаўса-таптаўса, трохі што не задушыўса!..»

Паміж маладымі сакунамі шмат пісьменных. У цяперашні час у іх амаль у кожным пасяленні ёсць пачатковае вучылішча. Дзеці, асабліва хлопчыкі, ахвотна наведваюць школу, выдатна вучацца і добра спяваюць пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў.

**Пераемнасць.** Моцна прытрымліваючыся даўніны, сакуны ў той жа час хутка пераймаюць усё лепшае і карыснае для сябе. Так, напрыклад, яны ўвялі ўжо ва ўжытак плуг, малацілку, веялку, рамачны вулей, калаўрот і інш. Жанчыны толькі чакаюць сігналу, каб скінуць намітку.

**Прыветлівасць.** Сакуны ў вышэйшай ступені прыветлівыя і гасцінныя. Усякі падарожнік, зусім незнаёмы чалавек, заўсёды знойдзе ў іх ветлівы прыём і спакойны адпачынак ці начлег. Вось прыклад хлебасольства сакуна. Летась салдаты будавалі маякі і жылі ў Ляўках у сялян як дома. Калі прыйшоў час расплачвацца, сакуны наадрэз адмовіліся ад платы.

«Але (называе імя)», — з усмешкаю гаварылі яны салдатам: — «Хто ж ета возьмя с салдаціка грошы?..»

**Рэлігійнасць.** Сакуны здаўна праваслаўныя. Унія закранула іх толькі міма-ходзь, не пакінуўшы пасля сябе аніякага следу. Старадаўнія драўляныя храмы прыгожай архітэктуры знаходзяцца ў Жыціне, Залужжы і Шчыткавічах. Сяляне, асабліва жанчыны, вельмі набожныя: строга захоўваюць святы і пасты, упрыгожваюць жыллё іконамі і святымі прадметамі, наведваюць храмы і святыя месцы. Нядаўна сакуны адкрылі ў лесе, блізу Шчыткавіч, месца для пакланення — Прошчу.

60-гадовы стары Барыс Барсук распавядаў аб адкрыцці Прошчы:

«У нас, у Шчыткавічах, жыў добры чалавек Лявон Страмок, харошы хадзяін і рабоцька. Ён чатоў святыя кнігі. На трэйцатом гаду сваёй жызні Лявон пакінуў дом, жану і матку і пашоў у свет. Часта ён жыў у леся ў ямцы і карміўса зямлёю і вадой, а яму казалось, што ета хлеб і масла…

Прышоўшы з пустыні дамоў, Лявон расказваў, што яму яўляліса святцы і ангелы.

Вясной (1908 г.) у праводное васкрасення матка яго Алёня, мая равесніца, була ў леся. Наброўшы троха вяселікоў[33], яна ішла чэраз сасоннік па дарозя дамоў. Удруг перад ёй на галя палакалоса поўна людзей. Пасярод іх явіласа Божжа Матка ў сінем плацця і сказала: «Апхініця мяне!» Людзі апступілі яе кругом. Атзвоўса тутака і голас святца Міколы.

Са страху Алёня атступіла нямнога назад. Божжа Матка прыкланіласа на калені…

Відзення не стала. Толькі пыд сасной на пяску відзіўса вобраз Младзенца с скрашчонымі рукамы на грудзях. Алёня той жа дзень аслепла…

У другоя васкрасення яна атнесла на тоя месца кулідку[34] хлеба і ўзноў пра-зрэла. На сяле ніхто не доў веры, што Алёня було віддзення на Прошчы.

На другі год, вялікім пастом, Лявон узноў пашоў у пустыню. Алёні днём явіў-са святец і сказоў: «Алёня! Аткрый Прошчу — прыдзя сын твой!» — «Як жа яе аткрыму?» «Ітці-меш да Прошчы і стрэнеш па дарозя чалавека. Скажы яму, няхай паставіць крыж на том месця, ідзе явіласа табе Божжа Матка!..

У суботу Алёна пашла к Прошчы. Па дарозя яна стрэла Міхайла Табельчука і сказала яму паставіць на Прошчы крыж. У васкрасення Лявон прышоў с пустыні.

Апосля Табельчук бачыў ва сне самаго Бога і паставіў на Прошчы другі Крыж і здзелаў капліцу.

Божжа Матка явіласа Петраку Кур'яновічу і Цімахвею Пільшчыку. Яны тожа паставілі крыжы с капліцамі.

Мне, працягваў Барсук, часта буваюць відзення: першы раз я бытта зноў у вялікім домя. Бачу — на небя Сам Бог дзяржыць у роця медзянцовую чырвоную трубу, патом спусціўса ка мне і сказоў: «Як думаю, так і здзелаю!..»

А пасля Бог спусціўса саўсем у дом. На пыдлогу явіліса поўныя кубкі мёду. Бог сказоў мне: «Што ты адзін умаляеш Мяне? Каб многа ўмаляло, а то ў Мяне цярпення не стае…

Як етыя кубкі пыдымуцца, так і робіцца на свеця, на што Я падумаю — на ўпалы, на дож, на град, на мор!..»

Ат страху я прачохса, — Бога ўжэ не было.

У другава кума мая Аўдоцця була пры смерця. Ноччу пасля першых пеўняў явіўса ка мне ангел у белом адзення і сказоў: «Барыс! Даведайса свае кумы, а то яна сягонні памрэ!..» За ангелом явіласа Божжа Матка і сказала: «Азьмі ірданскія вады, акрапіса сам і акрапі бальную куму!..»

Так я і здзелаў. Аўдоцця той жа дзень памёрла.

Трэці раз бачу ва сне Ісуса Хрыста з вучанікамі. Ісус сперва палажыў сваю каруму на прастол, а патом, мне на галаву. Каля Прошчы віднеласа поўна людзей.

После етага сна я паставіў на Прошчы крыж с капліцай і вобраз Божжы Маткі з вянцом на галаве і двума ангеламі па баках.

Чаперака Божжа Матка часта яўляецца мне ва сне і прыказывая глядзець за парадкам на Прошчы…»

У цяперашні час (1915 г. — **А. В.**) у кожную маладзіковую нядзелю на Прошчу збіраецца тысячы народу, у асноўным жанчын, якія моляцца, поўзаюць на каленках вакол капліц і бяруць жмені зямлі з таго месца, дзе па расповедам Алёны, ляжаў Младзенец.

Святар праводзіць у Шчыткавіцкай прыпісной царкве абедню, потым з крыжовым ходам ідзе на Прошчу і служыць там малебны.

**Чарадзейства.** Да якой ступені моцна сакуны вераць яшчэ ў розныя закляцці і чарадзействы, відаць з таго, як чарадзеі і шаптуны захоўваюць у строгай тайне свае замовы і заклінанні.

У Церабутах жыве адзінока ў старой курнай хаце вядомы чарадзей і шаптун 80-гадовы Зміцер Новік. З мэтай паслухаць і, калі магчыма, запісаць яго заклінанні і замовы, я прывёз яго да сябе на кватэру ў Ляўкі. Увесь час дзед Новік трымаў сябе свабодна — шмат піў, закусваў, жартаваў, спяваў, іграў на скрыпцы і расказваў, што ён не «які-небудзь музыка, а ўжэ атыйгроў шмат у паўтары сотні вяселлёў...» Але, ледзь толькі размова зайшла пра замовы, чарадзей Новік адразу працверазеў. Накінуўшы сваю старую «рызіну» і насунуўшы магерку на сівую кудлатую галаву, ён з дакорам глянуў на мяне «з-пад ілба» і пайшоў, сказаўшы: «Не трэба мне твае ні рубель, ні пяць рублёў — пайду дадому рашэціну дзіркаваць».

**Сумленнасць.** Сакуны — справядлівы і сумленны народ. Калі сакун даў слова, а тым больш пакляўся «на грудзі», то ён абавязкова споўніць абяцанне, не здрадзіць дадзенаму слову.

Маральнасць у іх настолькі высокая, што аб шлюбнай нявернасці ці аб парушэнні дзявочай нявіннасці сакуны не ведаюць. П’янага разгулу і крадзяжу ў іх непрыкметна.

Не ведаю, чым растлумачыць, што ў Шчыткавічах бабы амаль пагалоўна кураць махорку; зусім адкрыта, на поясе, носяць піпку і капшук з тытуном.

**Роўнасць жанчын.** Жанчына ў сакуноў карыстаецца аднолькавымі правамі з мужчынамі. Удава валодае ўсёй маёмасцю свайго мужа і ўдзельнічае ў вясковых сходах.

Адыходнымі промысламі сакуны не займаюцца. Наняць прыслугу ў іх амаль немагчыма. Дзяўчына ні за якія грошы не пойдзе служыць, лічачы для сябе гэта велізарнейшай ганьбай.

**Звычаі.** У сакуноў да цяперашняга часу захаваліся некаторыя звычаі, што паказвае на іх глыбокую даўнасць. Праводзіўшы, напрыклад, нябожчыка з галашэннем на клады, сакуны наладжваюць спачатку дома «хаўтуры», а потым збіраюць са стала рэшткі яды і піцця і адпраўляюцца на задворкі ці на раздарожжа. Сядаюць у кружок і спраўляюць трызну, размаўляючы як бы з прысутным між імі нябожчыкам. Кожны п’е за яго і адлівае на зямлю частку пітва.

Потым самыя блізкія родныя ходзяць з галашэннем на свежую магілку і абсыпаюць яе макам.

Вечарам перад Раданіцай, як і напярэдадні Івана Купалы, моладзь раскладвае на вуліцы кастрышчы. Потым спяваюць, скачуць праз агонь і гуляюць «наўбіткі» велікоднымі яйкамі.

Напярэдадні «дзядоў» нельга напальваць камяні ў печы і «жлукціць плацця».

У суботу «жанчыны ў цяжку» і з груднымі дзецьмі не ядуць да сонца.

Вяселлі гуляюць пераважна вясной, а восенню і зімой толькі ў выпадку вялікай неабходнасці. Часта маладыя, павянчаўшыся ў будні, жывуць асобна ў сваіх бацькоў да наступнага свята, калі ўжо гуляюць «вяселля» і прывозяць маладую «княгіню» да яе «князя». Прымак у сакуноў таксама ідзе «замуж».

Пры пахаванні памерлых сакуны ўстаўляюць «труну» ў доўгія вяровачныя петлі, бяруць на доўгую тоўстую жэрдку і на плячах нясуць на клады.

**Гаворка.** Гаворка сакуноў гучная і даволі прыемная для слыху. Акрамя канчатка «са» ў іх характэрна гучыць націскное «е» ў загадным ладзе, напрыклад: хадзем, нясем, вядзем! Таму граматная моладзь цвеліць старых сакуноў «хадземцамі».

Жывучы між сакуноў, непрыкметна засвойваеш іх гаворку, хутка астаўляеш сваё мяккае «ся» і пераходзіш на іх грунтоўнае «са».

«Ці ета ты ўжэ прачохса?» — пытае вас раніцай сакун. «Але, прачохса!» — адказваеш яму. «Рана ж ты ўстоў». — «Хадзем, пакупаемса!» — «Хадзем, пакупаемса і пагукаем!..»

1915 г.

## Каментарыі

1. *Арэсу* сакуны называюць Расай.
2. *Нагукаласа* — нагаварылася.
3. *Абачхніса* — прачніся.
4. *Юра* — высокі адкрыты бераг ракі ці ўзгорка.
   Юравічы менавіта размешчаны на высокім адкрытым беразе р. Пціч.
5. *Гал* — чыстае, безлесае месца.
6. *Гаўяда* — хатняя жывёла.
7. *Купнік* — купіны.
8. *Буякі* — дурніцы.
9. *Асвіца* — не замярзае зімою і свеціцца.
10. *Куралле* — курані.
11. *Поўна* — многа.
12. *Вешніцы* — драбінка, калаварот.
13. *Дор* — дрань, драніца.
14. *Столь* — столь, паталок.
15. *Пела Аўдоцця Шачок, 80 год.*
16. *Усвіца* — гладышка.
17. *Мяла* — таўкачык.
18. *Каўгарка* — стары кубак.
19. *Лазбянік* — кошык, пабірка.
20. *Сытнік* — ліпавая кадушка для мёду.
21. *Церніца* — мялка для пянькі і льну.
22. *Бульма* — бручка.
23. *Панёва з кабатам* — шарсцяная спадніца з безрукаўкай.
24. *Жанчына* — маладзіца.
25. *Іцвіны* — вязка паміж першымі капыламі і загнутымі канцамі палоззяў.
26. *Самайлук* — дубовая дуга, аснова бараны.
27. *Мальгва* — дробная рыба.
28. *Дзяга* — палоскі для лапцей.
29. *Лакаць* — паласкаць.
30. *Калатуша* — кулеш.
31. *Пажа* — паша.
32. *Абдзюрнік* — грубая льняніна.
33. *Вяселікі* — веснавыя грыбы.
34. *Куліда* — бохан хлеба.

***Прадмова, пераклад і падрыхтоўка да друку***
***Анатоля ВАЛАХАНОВІЧА.***

Наталля МІЦКЕВІЧ

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

***(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)***

## У хаце Якуба Коласа

Да прыезду мужа я спынілася ў сваіх бацькоў. Пакойчык у іх быў невялікі ў трохпакаёвай кватэры, але ж маці мне дапамагала, давала неабходныя парады. З прыездам Міхася я перабралася ў хату Якуба Коласа. Даваенны дом яго згарэў на трэці дзень вайны з усёй маёмасцю. Цяпер Канстанцін Міхайлавіч са старэйшым сынам Данілам жыў у невялікім аднапавярховым доме сялянскага тыпу, які знаходзіўся на тэрыторыі Акадэміі навук каля спаленых немцамі карпусоў. За хатаю пачынаўся лес, паблізу захаваўся мураваны дом, некалі пабудаваны для Томаша Домбаля, віцэ-прэзідэнта АН БССР. Цяпер там размясціўся прэзідыум Акадэміі навук.

Уваход у нашу хату вёў праз веранду, якая ў цёплыя дні служыла сталовай. Вузенькі калідорчык дзяліў хату на дзве паловы. Справа ад уваходу знаходзіўся большы пакой, у якім жыў гаспадар. За гэтым пакоем быў значна вузейшы пакойчык, у якім уладкаваўся Данік. Злева ад уваходу месціліся тры маленькія пакойчыкі, а ў канцы калідора — маленькая куханька. У адзін з гэтых пакойчыкаў пасялілі нас. Два аконцы з яго выходзілі ў зашклёную веранду. Шырыня пакойчыка была два метры і каля трох з паловай — даўжыня. Насупраць уваходных дзвярэй з унутранай сцяны дома стаяў наш ложак, побач дзіцячая каляска. Большую частку сярэдзіны пакоя займаў дымаход з печчу-галандкай, топка якой знаходзілася ў суседнім пакоі. На верандзе перад вокнамі стаяў вузенькі стол, за якім снедалі, абедалі і вячэралі да самых халадоў. У кутку пакоя побач з дзвярыма стаяў невялікі шкаф-пенал, дзе знаходзілася ўся наша вопратка і бялізна. Над ложкам Міхась павесіў сваю стрэльбу. Суседні пакой займала Вольга Прачук. Бацькі Міхася прывезлі яе з Куршчыны, узялі з беднай сям'і бежанцаў з Гродзеншчыны, дапамагалі атрымаць прафесію настаўніцы. У часе вайны яна апынулася пад Ташкентам, працавала ў школе. Там знайшла сям'ю Коласа і вярнулася з ёю ў Мінск. У хуткім часе выйшла замуж і пераехала ў Плешчаніцы да мужа. З яе ад'ездам мы атрымалі другі пакойчык, дзе можна было займацца. Пад акном, якое выходзіла на двор, паставілі пісьмовы стол і пару крэслаў, прыбілі паліцу для падручнікаў. Насупраць пячной топкі паставілі канапу. Яшчэ знайшлося месца для тумбачкі-прайгравальніка з пласцінкамі. Вось і ўся наша абстаноўка. Але на тыя часы гэтага было дастаткова.

У трэцім пакоі жыла Марыя Георгіеўна Татур, немаладая жанчына, якая вяла гаспадарку ў гэтым доме. Канечне, суседка была незадаволена нашым прыездам, ды яшчэ і з дзіцем. Яна спрабавала ўгаварыць Канстанціна Міхайлавіча знайсці нам іншае жытло, матывуючы тым, што маладая сям'я павінна жыць самастойна. Яна пачала рабіць нам дробную шкоду, жалілася на нас Канстанціну Міхайлавічу і Даніку. Як мне падалося, Марыя Георгіеўна спадзявалася з часам выйсці замуж за гаспадара, а халасцяк Данік ёй бы не замінаў. Наш прыезд, відаць, парушыў

* Працяг. Пачатак у № 3, 4, 5, 7, 2011 г.

яе планы. Калі ж яна ўбачыла, што Канстанцін Міхайлавіч не жадае разлучыцца з намі, а надзея ажаніць яго не збываецца, вырашыла з'ехаць у Польшчу да дачкі. Перад ад'ездам, стоячы на каленях, прасіла прабачэння за свае нядобразычлівыя адносіны да мяне.

У канцы жніўня сорак сёмага нас залічылі на 4 курс машынабудаўнічага факультэта політэхнічнага інстытута. Так як нашаму сыну споўнілася толькі чатыры месяцы і яго трэба было глядзець, калі мы знаходзіліся на занятках, Канстанцін Міхайлавіч распарадзіўся знайсці няньку. Так у нас з'явілася Юля, мажная жанчына гадоў сарака. Калі я прыходзіла з заняткаў, дзіця перадавалі мне, а нянька ішла дапамагаць Марыі Георгіеўне.

З наступленнем халадоў сталовая пераносілася ў пакой Канстанціна Міхайлавіча, гэта ўносіла пэўныя нязручнасці ў распарадак яго дня, і ён вырашыў крышку палепшыць жыллёвыя ўмовы — зрабіць невялікую мураваную двухпавярховую прыбудову памерам 6х6 метраў. У канцы 1947 года прыбудова была зроблена, гаспадар перабраўся на другі паверх, дзе была малюсенькая спальня і ладны па тым часе кабінет, а таксама прыбіральня. На другі паверх вяла вінтавая лесвіца. На першым паверсе размясцілася больш прасторная кухня, пакойчык для гаспадыні, прыбіральня. А былы пакой Канстанціна Міхайлавіча стаў служыць сталовай, там стаялі вялікі стол, канапа і некалькі крэслаў.

Напачатку жыццё ў доме Коласа мне было крыху няёмка. І гэта нягледзячы на тое, што я не была для Канстанціна Міхайлавіча незнаёмай дзяўчынай з незнаёмай сям'і. Майго бацьку ён ведаў з 1906 года па настаўніцкім з'ездзе. Калі ж у галодныя трыццатыя гады ў Доме пісьменніка былі арганізаваны абеды, бацька адмаўляўся ад іх на маю карысць і кожны дзень вадзіў мяне на гэтыя абеды. З-за майго малога росту сядзець за сталом было нязручна, і мне Хайноўская кожны раз прыносіла з бібліятэкі два тамы энцыклапедыі і падкладала на крэсла. Тады я і пазнаёмілася з Якубам Коласам. Ён з маім бацькам часта размаўляў на розныя тэмы, але аб чым — я не цікавілася. Аднак словы адной з размоў я запомніла на ўсё жыццё: «А ў цябе, Янка, прыгожая дачка». Пазней Колас прыслаў грошы ў Алма-Ату, каб заплаціць за маё навучанне ў школе. Калі ж бацька пераехаў у Маскву і пасля цяжкай хваробы пасяліўся ў гатэлі «Якар», Колас час ад часу наведваў яго, заўсёды ветліва вітаўся са мной. Ад Коласа я даведалася пра вучобу яго меншага сына ў нашым інстытуце. Колас пераслаў мне пропуск у інстытут, а летам сорак шостага вазіў мяне з Міхасём у Балачанку. Калі я заходзіла да Міхася, ён заўсёды чым-небудзь мяне частаваў. Часцей за ўсё гэта быў кавалачак добра падсушанага сялянскага сыру, які Колас любіў. Тым не менш я пабойвалася гаспадара, але неўзабаве зразумела, што за знешнім хмурым і сур'ёзным выглядам хаваецца чулы і вельмі добры чалавек. Ён ніколі не лаяў нас, не ўжываў грубых слоў, быў заўсёды вытрыманы, ураўнаважаны. Немнагаслоўны, ніколі гучна не смяяўся, толькі спагадная ўсмешка іншы раз засвеціцца на яго твары. Уставаў ён гадзін у 5—6 раніцы, чым-небудзь займаўся на двары каля хаты, а пасля садзіўся за свой рабочы стол. Пасля сняданка ішоў на працу ў Акадэмію навук, а да абеду вяртаўся. Яму часта даводзілася ездзіць па розных справах, як у Саюз пісьменнікаў, так і ў іншыя ўстановы. Яму прыходзіла шмат пісем, на якія ён заўсёды адказваў. У вольныя ад сваіх шматлікіх абавязкаў дні любіў выехаць за горад, палюбавацца прыгажосцю наваколля, паглядзець на пасевы. Вельмі перажываў, калі доўга не было дажджу. Яго хвалявала, які будзе ўраджай, ці будуць людзі забяспечаны неабходнымі прадуктамі. Ён усёй сваёй істотаю заставаўся чалавекам ад зямлі-карміліцы, добра ведаў, што такое праца на зямлі, цаніў і паважаў людзей, адданых роднай зямлі, роднаму краю.

Часцей за іншых у доме заставаліся Канстанцін Міхайлавіч і я. Канстанцін Міхайлавіч зрэдку расказваў мне, нібы спавядаючыся, аб сваім жыцці, аб сваёй жонцы — Марыі Дзмітрыеўне, самым блізкім для яго чалавеку, яго лепшым другу. Ён казаў, што пасля смерці жонкі адчувае страшэнную адзіноту. Аб жаніць-

бе ў другі раз ён і думаць не хоча, бо ніводная жанчына не заменіць яму Марусю, ды і сынам было б горш.

Канстанцін Міхайлавіч быў паэтам , і як многія іншыя паэты, жыў у марах. Ён ідэалізаваў вобраз жанчыны, і яму, відаць, патрэбны быў носьбіт гэтага светлага вобраза. Яму трэба было падзяліцца сваімі думкамі, перажываннямі з «тонкай» жаночай душою, адчуць яе прыхільнасць. І ён сустрэў у адной з рэдакцый бухгалтарку Алесю Кетлер. Чым яна зачаравала яго — цяжка сказаць, бо нічым асаблівым не вылучалася. Магчыма, як гаворыць у адной з публікацый Іван Якаўлевіч Навуменка, даследчык творчасці Коласа, Алеся чымсьці нагадвала першую каханую дзяўчыну — Ядвісю. Так, можа, чымсьці знешнім, можа, непрадказальнымі ўчынкамі. Канешне, аб шлюбе не магло быць і размовы — яна была замужам, гадавала дачку. Але сэрцу не загадаеш і Колас пісаў ёй пісьмы, тэлефанаваў, прысвячаў вершы, дапамагаў грашыма. Ён запрашаў яе дахаты на абед. Яна прыходзіла з мужам і дачкою. Аднойчы арганізаваў ёй паездку ў Маскву. Я тады праходзіла аспірантуру і па сваіх справах была таксама ў Маскве. Канстанцін Міхайлавіч звычайна спыняўся ў гатэлі «Масква» і запрасіў мяне, Алесю і Сяргея Мітрафанавіча Гарадзецкага ў рэстаран гэтага гатэля. Гатавалі там стравы выдатна. Можа, Колас хацеў пазнаёміць свайго сябра і перакладчыка са сваёй пасіяй. Але Гарадзецкаму яна не спадабалася, і ён у лёгкай нязмушанай гутарцы дэманстраваў гэта Коласу. Гарадзецкі проста здзекаваўся з яе. Канстанцін Міхайлавіч не мог не перажываць, але ж маўчаў. Аднойчы Алесі спатрэбіліся грошы, Колас абяцаў дапамагчы і запрасіў яе на абед. Ён папрасіў падаць абед у кабінет, а калі выносілі адтуль талеркі, дзверы засталіся не зачыненымі. І было чутно, як Алеся тупала ножкай і казала: «Мала, мала!» Безумоўна, Колас прэзентаваў ёй, колькі было трэба. Ён жа грошай на дапамогу не шкадаваў і дапамагаў многім людзям, нават зусім незнаёмым, якія досыць часта звярталіся да яго са сваімі бедамі. Даніка бацькава захапленне дужа нервавала, і ён час ад часу адпускаў у адрас Алесі вельмі непрывабныя выказванні. Пазней, калі я і Канстанцін Міхайлавіч засталіся дома адны, ён мне сказаў наступнае: «Наташа, я ведаю, за што мяне любяць жанчыны, яны любяць мяне за маю кішэню», — і паляпаў рукою па сваёй кішэні.

Як да дэпутата Вярхоўных Саветаў СССР і БССР да Коласа часта звярталіся людзі са сваімі бедамі, і Канстанцін Міхайлавіч стараўся ім дапамагчы. У апошнія гады жыцця ён часта хварэў, наведаць яго прыходзілі пісьменнікі, добрыя знаёмыя. Калі мой бацька бываў у выдавецтве, то заходзіў праведаць свайго старога сябра і свата. Часцей другіх заходзілі М. Лужанін, П. Броўка, М. Лынькоў, П. Глебка. Калі ж у Мінску адбываліся пісьменніцкія з’езды, нарады, ці іншыя мерапрыемствы, то многія прыезджыя наведвалі дом Коласа. Калі мы жылі яшчэ ў драўлянай хатцы, наведаць Канстанціна Міхайлавіча прыходзілі А. Фадзееў і А. Пракоф’еў. Ім так спадабалася цёплая сямейная абстаноўка, што яны не захацелі вяртацца ў гатэль. Як іх тут уладкавала наша гаспадыня Марыя Георгіеўна, я цяпер не магу ўявіць. Запомнілася, што А. Фадзееў многа спяваў, у яго быў прыгожы голас і ён цудоўна выконваў народныя песні, рускія рамансы. Спадабалася атмасфера ў нашым доме і знакамітаму ўкраінскаму паэту, вучонаму — Максіму Рыльскаму, і ён таксама адмовіўся вяртацца ў гатэль. Канстанцін Міхайлавіч да гэтага часу перасяліўся ў невялікую прыбудову, а яго былы пакой служыў гасцёўняю і сталовай. Яна была на палову пустою, каля сценкі стаяла канапа, а перад ёй доўгі стол і некалькі крэслаў каля яго. Аздабляла гэты пакой кафляная печ з пакінутымі аўтографамі шэрагу наведвальнікаў. Максім Тадэевіч уладкаваўся на канапе пад вялікім кажухом, які некалі Міхасю ў студэнцкую бытнасць заказаў яго бацька. Лежачы на канапе, Максім Тадэевіч нібыта спаў, але час ад часу падаваў надзвычай трапныя рэплікі, уключаючыся ў нашу размову. За вячэраю прыпадымаўся з канапы, каб нечым закусіць гасцінную чарку. З Коласам вёў размовы на розныя тэмы, якія хвалявалі абодвух. Ён быў вялікім прыхільнікам творчасці Адама Міцкевіча. У знак павагі яны з Коласам

адзін другому прысвяцілі чароўныя вершы. Так Максім Рыльскі правёў у нас пару дзён.

Першыя месяцы вучобы мне даводзілася большую частку дня праводзіць дома. Было бачна, якое разгульнае жыццё вядзе старэйшы брат мужа. Данілу я ведала да шлюбу, калі мы жылі ў гатэлі «Якар», там жа жыў і ён. Данік досыць часта заходзіў да майго бацькі і падоўгу з ім размаўляў, а на мяне ён не звяртаў ніякай увагі. Данік добра ведаў і майго брата Фёдара па ўніверсітэце яшчэ ў даваенныя гады. Абодва працавалі выкладчыкамі — Фёдар выкладаў фізіку, а Данік — хімію. Калі Даніла даведаўся, што мы з Міхасём пабраліся, ён пазваніў з Мінска і стаў яго лаяць: жанішок, жанішок, дурань! Напэўна, ён так выказваў сваё віншаванне. І з першых дзён у хаце Канстанціна Міхайлавіча стаў зневажаць мяне, не лічыўся са станам цяжарнай жанчыны, а пасля — маці, на руках якой немаўля, за якім патрабуецца догляд. Калі ён прыходзіў пад чаркай, а гэта здаралася досыць часта, прыдзіраўся да мяне, бо лічыў, што я павінна абслугоўваць усіх, у тым ліку і Марыю Георгіеўну. А мой муж не мог абараніць мяне ад прыдзірлівага брата. Са слязьмі на вачах я бегла ў свой пакойчык да малога. Так аднойчы я піла на кухні малако, а малы ў адзіноце пачаў крычаць. І я пакінула шклянку з астаткамі малака на стале і пабегла да малога супакоіць яго. Гэту шклянку Марыя Георгіеўна паказала Даніку. І ён не паленаваўся пайсці да бацькі, каб упікнуць, якая я гультайка — не памыла за сабою шклянку — і доўга выгаворваў Міхасю сваю незадаволенасць мною. Часта ў позні вячэрні час, калі Канстанцін Міхайлавіч клаўся спаць альбо знаходзіўся ў ад’ездзе, Даніла з сябрамі завальваліся на веранду, садзіліся за стол, што стаяў пад нашымі вокнамі, і прадаўжалі весяліцца. Гучныя галасы і асабліва смех яго гарбаценькага сябра М. Малёнка будзілі майго малога сына, і ён пачынаў лямантаваць. Я стукала ў вокны, і на некаторы час кампанія прыціхала, і толькі-толькі супакоіўшы немаўля і паклаўшы яго ў каляску, зноў чула дзікі рогат Малёнка альбо громападобныя песні Даніка. І зноў даводзілася супакойваць малога.

Данік займаў пасаду загадчыка лабараторыі ў Інстытуце хіміі Акадэміі навук, працаваў па закрытай тэматыцы. Наведваўся ў лабараторыю зрэдку, кансультаваў супрацоўнікаў, а пасля праводзіў час у цёплай кампаніі з С. Маркевічам, В. Кутанавым, альбо адпраўляўся па сваіх справах. Яго супрацоўнік Праташчык абараніў па гэтай тэматыцы і кандыдацкую, і доктарскую дысертацыі, а Даніла застаўся ні з чым, нягледзячы на яго грунтоўныя веды. Ніхто яго асабістую работу не кантраляваў, тым больш што з дырэктарам Інстытута Б. В. Ерафеевым ён сябраваў. Магчыма, яму не хацелася траціць час на працу над дысертацыей, яго навуковы ўзровень нікольке не саступаў узроўню акадэмікаў. Грошы былі, і ён не абцяжарваў сваё жыццё фармальнасцямі. Калі ж Канстанцін Міхайлавіч ад’язджаў у Маскву, Данік браў машыну з шафёрам і дзесьці бавіў час, а я не магла адвезці малога да доктара.

Пасля родаў я паправілася на некалькі кіло, і мае дзявочыя сукенкі сталі цеснымі. А ўсе прамтавары, якія былі ў магазінах, прадавалі пры наяўнасці спецыяльных лімітных кніжак. Набор пялёнак і распашонак можна было набыць у магазіне дзіцячых тавараў толькі па даведцы з раддома. Лімітка на прамтавары, выдадзеная на імя Канстанціна Міхайлавіча, знаходзілася ў Даніка, і ён ёю карыстаўся, набываў адрэзы на адзежу і складваў іх у вялікую валіску. Калі ж Міхась папрасіў у яго гэтую кніжку, то ён наказаў, каб бабскага нічога не купляў, нібыта я — чужы чалавек у гэтай хаце.

Можна прыпомніць шмат прыкладаў, якія характарызуюць старэйшага брата мужа як эгаіста і скнару. Я гэта адчула, зразумела і перастала паважаць яго. Калі ж трэба было прыняць гасцей, сяброў, то тут ён ніколі не шкадаваў грошай: выпіўкі і закускі было ўдосталь. Ніколі нічога не шкадаваў ён сваёй жонцы Зарыне, сяброўцы жонкі майго старэйшага брата Фёдара. А пазнаёміў Даніка з Зарынай яго сябра Валодзя Петухоўскі. Так сталася, што ў жонкі брата — Ніны — пасля нараджэння сына Андрэя прапала малако. А ў тыя часы ў магазінах нічога

з прадуктаў дзіцячага харчавання не было, не было і дзіцячай кухні. Самі мусілі шукаць жанчыну, у якой было больш чым дастаткова груднога малака. Я параіла брату звярнуцца да сястры Петухоўскага — Валі, якая ў гэты час гадавала дачку. Валю мы добра ведалі, яна часта бывала ў нас дома. Па малако да яе іншы раз заходзіла Зарына Кулеўская. Там яе і сустрэў Валодзя, які прыехаў з Ленінграда, дзе служыў. Зарына выклікала ў яго захапленне, і ён, як няўрымслівы пражэкцёр, чалавек кіпучага характару, загарэўся пазнаёміць свайго сябра з ёю.

Зарына была прыгожай, разумнай дзяўчынай, студэнткай інстытута замежных моў. Даніла закахаўся ў яе і ў хуткім часе зрабіў ёй прапанову. Яна ж толькі-толькі перажыла сваю сардэчную драму: яе каханы, выпускнік БПІ пад уціскам свайго бацькі, палкоўніка КДБ, вымушаны быў пакінуць яе толькі таму, што яна, чатырнаццацігадовая дзяўчынка, засталася ў Мінску ў часе нямецкай акупацыі. У тыя часы ў асабістых лістах кожны чалавек, які ўладкоўваўся на работу, павінен быў запоўніць графу — знаходзіўся ў акупацыйнай зоне ці не. І калі было так, то клалася пляма на біяграфію чалавека, якая нібы сведчыла аб яго ненадзейнасці. Перажыўшы балючую крыўду, Зарына пагадзілася на шлюб, нягледзячы на тое, што Данік быў намнога старэйшы за яе. І адразу з невядомай дзяўчыны з простай сям'і яна стала зоркай — другой нявесткай Коласа. Зарына была не толькі разумнай, з пачуццём гумару, але сардэчным, добрым чалавекам. І мы пасябравалі, пры гэтым у нас не было саперніцтва, не было зайздрасці. Даніла ж забяспечыў ёй выдатныя ўмовы жыцця. Шыць абновы яна ездзіла ў Рыгу, скончыла курсы кіравання аўтамабілем і ліха ездзіла на новай «Победе», аўтамабілі Канстанціна Міхайлавіча. Здавалася, што яна шчаслівая, жыццярадаснасці не займаць. Яна цаніла мужа за яго розум, энцыклапедычныя веды, шырокае кола знаёмстваў і магчымасцей.

Даніла, карыстаючыся імем бацькі, змог забяспечыць яе бацькоў і сястру двухпакаёвай кватэрай у цэнтры Мінска. Бацька Зарыны працаваў бухгалтарам у нейкай установе. З цягам часу ў ёй выявілі недахоп грошай на значную суму — дзесьці каля дзесяці тысяч. І яго прыцягнулі да адказнасці, завялі крымінальную справу. Данік выкарыстаў бацькоўскія грошы, поўнасцю пагасіў недастачу, і заведзеная справа была спынена. Але бацьку Зарыны давялося пакінуць работу. Па пашпарце ён быў запісаны беларусам, але выглядаў як тыповы рыжы яўрэй. Калі я ўбачыла яго, то здзівілася, як ён мог выжыць у акупаваным немцамі горадзе. Сям'я жыла на ўскраіне горада — на Грушаўскім пасёлку. У яго жонкі, беларускі Акановіч, з якой я даглядала летам дзяцей у вёсцы Палачанка, што недалёка ад Ракава, распытваць было няёмка, ды і з Зарынаю мы гэту тэму абыходзілі. Апынуўшыся на пенсіі, Зарынін бацька стаў часта наведваць нашу сядзібу. Ён ставіў раскладушку пад дрэвамі і ўладкоўваўся адпачываць. Напэўна Канстанціну Міхайлавічу досыць бесцырымонныя паводзіны нязванага госця дзейнічалі на нервы. І ў рэшце рэшт ён выказаў сваё нездавальненне Даніку, і бацька Зарыны перастаў хадзіць да нас.

Двор каля хаты быў немалы, і нашаму хлопчыку было дзе разгуляцца. На двары іншы раз хто-небудзь з наведвальнікаў кідаў акуркі, а падмяталі двор не так часта. І вось мы заўважылі, што наш малыш стаў падбіраць акуркі, браў у рот і, задраўшы ўгору нос, пачынаў шпацыраваць па двары. Канешне, як толькі заўважалі гэта, акуркі адбіралі, час ад часу білі па руках і чыталі натацыі. Але гэта не дапамагала, відаць, яму хацелася пераймаць старэйшых. Тады Міхась мусіў ужыць балючы прыём: закурыў цыгарэту і кінуў яе на зямлю. Малы ў хуткім часе заўважыў прадмет свайго захаплення, хуценька схапіў яго і сунуў у рот. Але не тым бокам. Пачуўся страшэнны піск — апаліў губы! Мы яго суцяшалі і наказвалі не браць гэту «каку» ў роцік. Урок не прайшоў дарма: болей акуркаў не падбіраў і пасля ніколі не курыў.

Другі ўрок не пайшоў на карысць. Так, мне часта даводзілася адвозіць Сяргея да сваіх бацькоў, асабліва, калі выязджала з Мінска па справах. У гэтым доме на Ульянаўскай пражывала шмат знаёмых, якія часта заходзілі да нас і бачылі

малога. Аднойчы — ці не на дзень нараджэння бацькі, 11 мая — нехта зайшоў павіншаваць яго, на стале з'явілася гарэлка, і хлопчык бачыў, як са смакам мужчыны куляюць чаркі. І ён прыстаў да дзеда, каб той наліў яму, ды так настойліва, што бацька, раззлаваўшыся, наліў чарку гарэлкі і даў унуку. Напэўна, думаў, што пакаштаваўшы, малы адхіне яе. А той, як дарослы, кульнуў адразу. А праз хвіліну галава закружылася, і ён з размаху выцяўся лбом аб вугал кафлянай печкі-галандкі. На нашых вачах у яго стаў расці вялізны гузак. Мне зрабілася кепска, бацька перапалохаўся і ледзь не страціў прытомнасць, толькі маці не разгубілася — прынесла ручнік, змочаны халоднай вадою і прыклала да лба. Больш дзед Маўр унука не частаваў.

У гэтым жа пад'ездзе дома жыў мастак тэатра Янкі Купалы Барыс Яўсеевіч Малкін. Ён нярэдка заходзіў да Маўра і малога ведаў. Аднойчы, калі ён спускаўся па лесвіцы ўніз, на пляцоўцы ўбачыў яго і запытаў: «Хлопчык, як цябе завуць?» Той здзіўлена глянуў на знаёмага дзядзьку і коратка адказаў: «Так, як і раней! І прозвішча тое ж самае!» і пабег на двор. Калі Малкін прыйшоў да Маўра і расказаў яму, як пасароміў яго ўнук, Маўр ад душы рассмяяўся. А Малкін дадаў, што так адказаць мог толькі ўнук Маўра. Праз некаторы час сам Малкін стаў дзедам. Яго прыгожая дачка выйшла замуж за татарына, нарадзіла сына. І цяпер, жартуючы, Малкін гаварыў: «Мой унук — патомак Чынгіз-хайма!»

Другому дзеду Сяргей не надакучваў, але любіў узбірацца па крутой вінтавой лесвіцы на другі паверх. Канстанцін Міхайлавіч ніколі не выказваўся, што малы замінае яму працаваць. Наадварот, ён падоўгу размаўляў з ім, расказваў казкі. Аднойчы Сяргей спусціўся па лесвіцы з кніжыцай. «Глядзі, мама, што падараваў мне дзед!» Я глянула — гэта была «Дрыгва» з наступным дарчым надпісам: «Майму дарагому другу — філосафу ўнуку Сяргею Міцкевічу на памяць ад дзеда Якуба. 14.10.50». Я запытала сына, чаму дзед назваў яго філосафам? А Сяргей адказаў, што яны з дзедам гаварылі-гаварылі і самі не ведалі, што гаварылі. Вось дзед і назваў філосафам. Гэта кніга і зараз захоўваецца ў Сяргея, які сам ужо стаў дзедам.

Набліжалася сямідзесяцігоддзе Канстанціна Міхайлавіча, чакаўся прыезд многіх пісьменнікаў з іншых рэспублік, а хата Коласа была маленькай і ў такіх умовах запрасіць гасцей было немагчыма. Урад рэспублікі прыняў пастанову аб пабудове для юбіляра належнага будынка. Па праекце слыннага архітэктара Заборскага ў хуткім часе быў пабудаваны прасторны дом, злучаны з каменнаю прыбудоваю. Замест нязручнай вінтавой лесвіцы наверх вяла шырокая двухмаршавая лесвіца, па якой старому чалавеку было зручна падымацца ў свае пакоі. Зараз у гэтым будынку знаходзіцца Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Драўляную хату знеслі, Канстанцін Міхайлавіч аддаў яе свайму шафёру Сяргею Сонюшкіну.

А мы з Міхасём і дзецьмі на час будаўніцтва перасяліліся па дамоўленасці Канстанціна Міхайлавіча з кіраўніцтвам Акадэміі ў кватэру акадэміка Мацапуры М. Я. у доме супрацоўнікаў акадэміі, якая на той час вызвалілася.

Паколькі мы пасяляліся часова, не падумалі, што трэба было зрабіць абмен кватэрамі з іншымі навукоўцамі, якія жылі ў гэтым доме, бо для нас чатырохпакаёвая кватэра была вялікаю і напалову пустою. У ёй можна было сабрацца вялікай кампаніяй. У нас склалася група жыццярадасных людзей, сябравалі мы на працягу многіх год. У склад яе ўваходзілі староста групы па інстытуце Сяргей Касцюковіч з жонкай Тамараю, сябра дзяцінства Міхася Лёня Панкавец з нявестаю Галінай, Алег Роман, а таксама сябра сям'і Коласа К. В. Гораў, сябра Данілы Фелікс Лагута, Данік з Зарынаю і мой брат Фёдар з жонкай Нінай. Старэйшыя па ўзросце ішлі ў суседні пакой гуляць у шахматы, а мы танцавалі. Да танцаў часта далучаўся К. В. Гораў, ён з ахвотаю прымаў удзел у іх і часам у падзяку сваёй партнёршы цалаваў яе ў шыю. А пасля — вясёлая вячэра, канечне, не без напояў, а закуссю часцей за ўсё была квашаная капуста з хлебам ці бульбай. К. В. Гораў аддаваў перавагу сухому віну, Фёдар усімі сіламі ўстрымліваўся ад спіртнога,

Міхась таксама, бо стараўся падтрымліваць спартыўную форму з-за яго пастаянных трэніровак і спаборніцтваў. А астатнія мужчыны маглі добра пацягнуць. Вечары праходзілі з жартамі, анекдатычнымі гісторыямі, весела і добразычліва.

Тым часам будаўніцтва новай хаты для Коласа да пачатку восені было завершана, але «напаўнення» — мэблі амаль што не было.

Надышло сямідзесяцігоддзе Канстанціна Міхайлавіча. Святкаванне адбывалася надзвычай урачыста і шырока, асноўная вечарына прайшла ў оперным тэатры. Прыехала шмат слынных пісьменнікаў з рэспублік Саюза. Гучалі яркія выступленні ў адрас юбіляра. Падаравалі шмат шыкоўных адрасоў, узбекі паднеслі блакітны халат і цюбецейку, а казахскі паэт Жарокаў закончыў віншаванне абяцаннем падараваць юбіляру маладога скакуна, калі Колас прыбудзе ў Алма-Ату. Вечарына закончылася канцэртам майстроў мастацтваў і прадоўжылася ўрадавым прыёмам, на які запрасілі і членаў сям'і Коласа. Упершыню давялося прысутнічаць на банкеце, які быў арганізаваны на замежны манер. У зале стаялі накрытыя сталы, крэслаў не было. Госці размясціліся каля сталоў, самі налівалі сабе па выбару ў шклянкі, на талерачку накладалі закусь, якая больш іх прываблівала. Госці не былі прывязаны да пэўнага месца і маглі хадзіць ад групы да групы, кантактуючы з многімі ўдзельнікамі свята.

Для мяне гэта было ў навіну і таму запомнілася. На вячэры прысутнічала некалькі сімпатычных акцёрак, а таксама некалькі маладых людзей у аднолькавых касцюмах, былі і члены беларускага Урада. Большасць публікі мы не ведалі, і мы з Зарынаю адчувалі сябе няёмка і скавана, да нас ніхто не падыходзіў. Зусім па-іншаму адчулі сябе ў новым доме, дзе на другім паверсе быў вялікі пакой — метраў пад 60. Сюды Канстанцін Міхайлавіч запрасіў прыезджых пісьменнікаў, а таксама многіх сваіх паплечнікаў і іх жонак. На вячэру былі запрошаны кіраўнікі дзяржавы і відныя яе дзеячы: К. Т. Мазураў, М. В. Зімянін, С. К. Цімашэнка, першы сакратар ЦК КПБ М. С. Патолічаў. Каля састаўленых сталоў стаялі крэслы, а на сталах — добрая закусь і напоі. Тосты гучалі адзін за адным, атмасфера была ўзнёслая, зусім непадобная да афіцыйнай. У суседнім пакоі мы паставілі магнітафон і наладзілі танцы. Госці танцавалі з ахвотаю, а ў каго былі асабістыя пытанні, то разыходзіліся ў свабодныя пакоі і там абмяркоўвалі свае справы. М. Грыбачоў і А. Куляшоў змагаліся за шахматнай дошкай. Мы з Зарынай дагаджалі гасцям, з многімі пазнаёміліся, пасябравалі. І пасля, калі мне даводзілася суправаджаць на з'езд сляпога бацьку, было прыемна сустрэць знаёмых шаноўных людзей.

Напярэдадні вечарыны пазнаёміцца з абстаноўкай прыязджалі памочнікі Н. С. Патолічава, супрацоўнікі апарата Цэнтральнага Камітэта партыі — А. Смалякоў, М. Шыраеў, А. Грамыка і іншыя. Тут ужо ва ўсю стараўся Данік, каб у іх склалася добрае ўражанне. З некаторымі з іх мы пасябравалі, і ў сямейным архіве знаходзіцца нямала адпаведных фотаздымкаў. Для мяне ж найбольш каштоўнай фатаграфіяй з'явілася студыйнае фота з Канстанцінам Міхайлавічам.

Нярэдка наведвалі Канстанціна Міхайлавіча відныя навукоўцы, члены Прэзідыума нашай акадэміі: В. І. Ляонаў, К. В. Гораў, М. А. Мацапура, Б. В. Ерафееў і іншыя. Канстанцін Васільевіч Гораў працаваў загадчыкам лабараторыі металазнаўства ў фізіка-тэхнічным інстытуце акадэміі, там жа ў лабараторыі электрафізікі працаваў Міхась. К. В. Гораву ж быў добра знаёмы па рабоце Барыс Васільевіч Ерафееў, які ўваходзіў у склад прэзідыума Акадэміі навук, і быў дырэктарам Інстытута хіміі, дзе загадчыкам адной з лабараторый працаваў Даніла. У тыя часы Міхаіл Ахрэмавіч Мацапура ўзначальваў Інстытут электрыфікацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі, быў галоўным «канавакапацелем». Ён часта заходзіў да Канстанціна Міхайлавіча, а мы з Міхасём пасябравалі з яго сынам Вадзімам. Разам з сябрам Міхася Лёнем, яны ездзілі на паляванне і ў вандроўку на гумавай лодцы па Пцічы. Засталося шмат фотаздымкаў.

Урачыстасці закончыліся, і мы з Зарынай прыняліся добраўпарадкаваць новы дом. Прыгожы сталовы гарнітур я набыла ў адным з мінскіх магазінаў яшчэ ў

часе будаўніцтва дома. Канстанцін Міхайлавіч даў мне грошы, на якія я ў Маскве купіла два новыя гарнітуры з арэхавага дрэва для кабінета гаспадара (гарнітур зараз знаходзіцца ў яго мемарыяльным кабінеце), другі — з карэльскай бярозы для нашай спальні. А Зарына паехала ў Рыгу і там купіла гарнітур з карэльскай бярозы «Ампір» для гасцінай. Там жа яна купіла сабе спальны гарнітур з чырвонага дрэва.

У быт людзей пачалі ўваходзіць тэлевізары. У Мінску іх у продажы не было, і я паехала ў Маскву, дзе купіла два тэлевізары «Тэмп-2», адзін для Канстанціна Міхайлавіча, другі — для свайго бацькі. Запакаваныя ў вялікія каробкі, яны не ўваходзілі ў купэ. Давялося прасіць правадніцу пакінуць іх на пляцоўцы вагона пад яе наглядам. Але ж і самой не спалася, выходзіла ўпэўніцца, што яны ў парадку. Дома аказалася, што самым зацікаўленым у перадачах чалавекам была цётка Міхаліна, сястра Коласа, якая пэўны час жыла ў нашым доме. Глядзела яна амаль усё аж да ўрокаў англійскай мовы. Пазней, калі Данік і Міхась купілі новыя тэлевізары, гэты перакачаваў у падвал. Цяпер ён знаходзіцца ў Коласавым доме. Засталася яшчэ адна праблема: трэба было знайсці сумленную, прыстойную жанчыну на месца гаспадыні, бо ні я, ні Зарына не мелі належных навыкаў у прыгатаванні ежы, да таго ж у нас многа часу адымала асноўная работа. Пасля таго, як Марыя Георгіеўна з’ехала ў Польшчу, у яе ролі пабывалі дзве жанчыны. Адна з іх была вельмі неахайнай: на кухні валяліся кавалкі хлеба, шалупінне і інш. Давялося адмовіцца ад яе паслуг. Другая аказалася сапраўднай авантурысткай, якая рабіла захады, каб ажаніць на сабе Канстанціна Міхайлавіча. І Данік па просьбе бацькі вытурыў яе. Я вырашыла запрасіць да нас Анэлю Восіпаўну Манькоўскую, якую ведала з даваенных часоў як выдатную гаспадыню і цудоўнага чалавека. Да майго пажадання далучыліся мае бацькі, яны сябравалі з сям’ёй Манькоўскіх. Анэля Восіпаўна жыла разам з дачкою на яе невялікую зарплату. Мужа яе, настаўніка, асудзілі на дзесяць год за тое, што пры немцах працаваў у школе. Іх сына пасля прыходу Чырвонай Арміі мабілізавалі і без падрыхтоўкі кінулі на фронт, як і многіх юнакоў, якія заставаліся ў акупацыйнай зоне. У хуткім часе ён загінуў.

Зараз, калі ў доме была выдатная гаспадыня, якая цудоўна гатавала стравы, а дом быў дастаткова абсталяваны, да нас часта сталі прыходзіць госці, сябры гаспадара. Сам ён звычайна да сваіх сяброў як па пяры, так і па навуковых справах не хадзіў. Замест яго ў госці хадзілі Даніла з Зарынаю, нам з Міхасём было няёмка з’яўляцца да старэйшых па ўзросце і шмат вышэйшых па рангу. Зарына дзялілася са мною сваімі ўражаннямі ад наведвання слынных людзей, а іншы раз замоўчвала тыя наступствы, якія ўзнікалі ў выніку застолляў. Даніла мог многа выпіць і не адмаўляў сабе ў гэтым. А ў падпіўшага мужа праяўляўся дэспатычны характар. І цяпер яго прыдзіркі абрыньваліся не на мяне, а на Зарыну. На гэтай глебе ў іх пачалі ўзнікаць сваркі і скандалы. Нам з Міхасём даводзілася рабіць захады, каб прытушыць іх негатыўныя эмоцыі. Аднойчы пад вечар пасля іх спрэчкі Міхась паклікаў Зарыну ў свой пакой, а я пайшла ў пакой насупраць да Даніка, каб супакоіць яго. У гэты час з другога паверха спускаецца Канстанцін Міхайлавіч і бачыць: я сяджу поруч са старэйшым сынам, а насупраць у сваім пакоі сядзіць малодшы сын, абняўшы за плечы жонку старэйшага сына. «Што за чорт? Пераблыталі жонак, ці што? — а пасля махнуў рукой сказаўшы: — Усё роўна ўнукі будуць мае!» — і пайшоў у свай пакой. Мы рассмяяліся, інцыдэнт быў пагашаны. Пасля, успамінаючы бацькоўскае рэзюмэ, жартавалі, здзіўляючыся, як мог што-небудзь падумаць у той сітуацыі такі назіральны чалавек, як Канстанцін Міхайлавіч. У яго назіральнасці я ўпэўнівалася неаднаразова. Так, калі Зарына толькі-толькі ўвайшла ў нашу сям’ю і хацела паказаць сваю гаспадарлівасць, яна зайшла да Канстанціна Міхайлавіча з нейкім пытаннем, а ў руках трымала шкарпэтку, нацягнутую на лямпачку — нібыта для штопкі. А пасля Канстанцін Міхайлавіч кажа мне: «Што яна хацела паказаць? Яна ж іголкі не ўмее ў руцэ трымаць!»

Мы жылі адной сям'ёй і калі ўзнікалі якія-небудзь спрэчкі, то не даводзілі іх да ведама Канстанціна Міхайлавіча. А ён усё больш хварэў, даводзілася аберагаць яго і ад лішніх клопатаў, і ад чаркі. А падставы да іх налучаліся.

Пазней, дзесьці ў 1955 годзе, застаўся надзвычай задаволены прыёмам польскі пісьменнік Уладыслаў Бранеўскі. Пасля афіцыйных сустрэч і прыёмаў ён таксама сустрэўся з Якубам Коласам у хатніх умовах. Так як самалёт у Варшаву адлятаў увечары, Канстанцін Міхайлавіч запрасіў яго на абед. Сыны Коласа былі на рабоце, і мы прымалі замежнага госця ўтраіх: гаспадар дома, Зарына і я. Тады гаспадарку вяла Манькоўская, гатаваць стравы яна ўмела выдатна. І яна прыгатавала шыкоўны абед, а мы, маладыя і сімпатычныя нявесткі гаспадара, падавалі на стол страву за стравою, жартуючы і перасыпаючы вясёлым смехам. Наш госць быў зачараваны прыёмам, той сяброўскай і жыццярадаснай атмасферай, якая панавала ў нашай хаце. І госць выказаў Коласу сваё шчырае задавальненне такімі гаспадарлівымі і чароўнымі нявесткамі. Канстанцін Міхайлавіч быў таксама вельмі задаволены тым, што госцю спадабалася ў нашай хаце. Але ён не выдаў нас, што не мы гатавалі стравы, а толькі ўсміхаўся ў вусы сваёй лагоднаю ўсмешкаю. Канечне, прыём быў не без чаркі, і наш госць захмялеў. Яму было тут так утульна, добра, што ён перадумаў ляцець вячэрнім самалётам. І калі з Міністэрства замежных спраў пазванілі з напамінам, што за ім высылаюць машыну — пара ехаць на аэрадром, ён сказаў, што нікуды не паедзе. Давялося самому міністру Кузьме Венядзіктавічу Кісялёву — прыехаць і праявіць свае дыпламатычныя здольнасці. Вылет самалёта затрымалі, а міністру ўдалося пераканаць госця ў неабходнасці адлёту.

Канстанцін Міхайлавіч быў так узрадаваны тым, што госць застаўся задаволены прыёмам, што падараваў нам па вялікай каробцы цукерак і павёз у Каралішчавіцкі дом творчасці, дзе заказаў прыгатаваць абед у падзяку нам.

Міхась мала бываў дома, так што яго фотаработ наведвальнікаў нашага дома было не многа, але засталося шмат фатаграфій членаў нашай сям'і, сяброў і, канечне, краявідаў нашай краіны. Да адной з фатаграфій, дзе мы з Зарынаю, ён пасля зрабіў яшчэ і надпіс:

Разнесліся далёка весткі,
Якія ў Коласа нявесткі!
Даўно мінулі часы тыя,
А тут яны навечна маладыя.

Не абыходзілася і без жартоўных фатаграфій з пераапрананнем і інш. Некалькі слоў аб адной з іх. Так, калі аднойчы прыехаў сябра Даніка і нашай сям'і Віталь Філіповіч, Міхась узяў яго фуражку і палкоўнічы шынель і ўпрасіў бацьку апрануцца ў афіцэрскую форму. Жартоўная фатаграфія «фельдмаршал беларускай літаратуры» зафіксавала Коласа на ганку новай хаты.

Калі я вучылася ў аспірантуры, даводзілася досыць часта ездзіць у Маскву, дзе на адным з заводаў рабілі мне прыстасаванне для доследаў, я старалася свае камандзіроўкі адносіць да паездак туды Канстанціна Міхайлавіча. Ён з задавальненнем браў мяне з сабою. Іншы раз ён купляў білеты на ўсё купэ, а ехалі ўтраіх: ці з Максімам Лужаніным, ці з кім-небудзь з паэтаў. Аднойчы замест Лужаніна паехаў Пятро Глебка. Я крыху прастудзілася, балела горла. Адчувала сябе неважнецкі. Канстанцін Міхайлавіч на поўным сур'ёзе сказаў, што лячыць мяне трэба гарачай гарбатай з каньяком. І на кожным буйным прыпынку ён адкамандзіроўваў Глебку ў буфет па каньяк. Мне налівалі яго ў гарбату, а рэшту рэалізоўвалі самі. Урэшце, яны здорава набраліся, а я, на здзіўленне, выздаравела. У часе гэтай паездкі Колас напісаў вядомую эпіграму «Нос»:

Мой нос — вяшчун даўно прызнаны,
Калі ён зранку засвярбіць,
То так і ведай, мой каханы,
Што к вечару — ты будзеш п'яны!
Дык як жа нос той не любіць!

Кожны раз, калі Колас бываў у Маскве, нязменным наведвальнікам яго быў Сяргей Мітрафанавіч Гарадзецкі. Калі мы вучыліся ў МАІ і сустракаліся з Канстанцінам Міхайлавічам у гатэлі «Масква», ён запрашаў нас на вячэру ў рэстаран гатэля. Чацвёртым быў Гарадзецкі. І цяпер, пры праходжанні аспірантуры, на абед ці на вячэру прыходзіў Гарадзецкі. Ён добра разбіраўся ў карыснай і смачнай закусі, адным словам, слыў гурманам. Ён казаў, што некалі ў Парыжы скончыў курсы кулінараў. У дарэвалюцыйныя гады многа дзе бываў, многа пабачыў. Сам, некалі адзін з самых бліскучых паэтаў, быў добра адукаваны, выхаванец Пецярбургскага ўніверсітэта. Выдатны расказчык, нягледзячы на тое, што вымаўленне нагадвала, як некалі адзначыў Колас, цецяручынае балбатанне. У час абеду ён сыпаў розныя гісторыі, тлумачачы па-свойму ўбачанае ці пачутае. Для сябе ён часта заказваў масліны, у продажы іх не было — і забіраў іх з сабою, ссыпаючы ў кулёчак. Для нас жа яны з'яўляліся экзатычным прадуктам, які мы ў тыя часы не ўжывалі.

Гарадзецкі часта прыязджаў у Мінск да Коласа, калі перакладаў яго творы, у прыватнасці, «Новую зямлю». Тут яго добра частавалі самаробнымі вырабамі, заўсёды была і чарка.

Аднойчы, калі я з Зарынаю была ў Маскве, ён у падзяку за пачастункі ў Мінску, запрасіў нас на вячэру ў сваю кватэру. А жыў ён у доме Барыса Гадунова на рагу Краснай плошчы. Кватэра Гарадзецкага ўразіла незвычайнасцю форм пакояў, арачнымі зводамі, якія напаміналі памяшканні храмаў. Вузкія аконцы, змрок у пакоях крыху прыгняталі настрой. Акварэльныя работы самога гаспадара, мноства фатаграфій славутых паэтаў з дарчымі надпісамі стваралі ўражанне даўніны, музея мінуўшчыны. Гарадзецкі сябраваў з многімі віднымі дзеячамі культуры пачатку дваццатага стагоддзя, у прыватнасці, з Блокам, адкрыў маладое дараванне — С. Ясеніна. Ён сумесна з М. Гумілёвым заснаваў новую плынь у літаратуры — акмеізм, паслядоўнікамі якога былі Г. Ахматава, В. Мандэльштам, М. Лазінскі і іншыя. Вершы Гарадзецкага карысталіся вялікім поспехам. Прыхільнік яго таленту І. Рэпін піша карціну, на якой Гарадзецкі з жонкаю. У час Першай сусветнай вайны Гарадзецкі ў якасці карэспандэнта едзе на каўказскі фронт, піша нататкі. Там знаёміцца з шэрагам знакамітых паэтаў Грузіі, Арменіі. У пачатку трыццатых гадоў яго запрашаюць да напісання новых тэкстаў опернага рэпертуару. Сярод іх найбольш вядомая — «Іван Сусанін», — у мінулым «Жыццё за цара». Цікава, што менавіта пад уплывам гэтай цудоўнай оперы ў людзей склалася памылковае ўражанне ад адлюстравання гістарычных падзей. Легенда пра подзвіг Сусаніна адносілася да наезду казакаў, а не палякаў. Ну, але гэта мастацкі твор.

На вячэру Гарадзецкі прыгатаваў нам надзвычай прыгожа сервіраваны стол. Мноства страў міні-порцыямі было расстаўлена на стале, і яны так прывабна выглядалі. Сапраўды, рука мастака ўпрыгожыла іх надзіва. За вячэраю ён расказваў мноства цікаўнейшых гісторый, многа жартаваў. І я, і Зарына засталіся вельмі задаволеныя прыёмам, надоўга запомніўся ён нам.

У Маскве па аспіранцкіх справах я часта бывала ў свайго кіраўніка Сяргея Іванавіча Губкіна. Ён жыў на дзве кватэры — большую частку часу ў Мінску і меншую — у Маскве, дзе знаходзілася яго жонка — Еўдакія Архіпаўна, з якой я там і пазнаёмілася. Яна нідзе не працавала, у Маскве ў яе было многа знаёмых, а ў Мінску амаль нікога. У хуткім часе мы пасябравалі, нягледзячы на салідную розніцу ва ўзросце. Еўдакія Архіпаўна была заядлай карцёжніцай, і я іншы раз была яе партнёршай. Сяргей Іванавіч казаў, што Дунечцы я спадабалася, і сам ён рады, калі я наведваю яго, бо ў гэтым выпадку яго ахоўніца дазваляла выпіць бакал шампанскага, якое Губкін любіў. Бываючы ў Мінску, Еўдакія Архіпаўна заходзіла да нас, але яна надта не спадабалася Міхасю, і гэта адчувала, хаця ён нічога дзёрзскага ніколі не выказваў. Наведвала я яе і пасля таго, як не стала Сяргея Іванавіча. Пахавалі яго ў Маскве, і я не магла не паехаць на яго пахаванне.

У маі 1956 года ў Мінск прыехала вялікая дэлегацыя замежных журналістаў, работнікаў прэсы і радыё — з Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Чэхаславакіі, Кітая. Пасля афіцыйных сустрэч, наведвання культурных цэнтраў, заводаў госці выказалі жаданне пабываць у каго-небудзь з відных дзеячаў культуры ў яго хатніх умовах. Напэўна, быт цікавіў гасцей не менш, чым прадпрыемствы. А дзе ж былі лепшыя ўмовы, як не ў новым доме Коласа? І з Міністэрства замежных спраў пазванілі Канстанціну Міхайлавічу з просьбаю-пытаннем, ці можа ён прыняць гасцей у сябе дома. Паабяцалі прывезці каньяк і лімоны. Канстанцін Міхайлавіч часта хварэў, моцна здаў, але ж пагадзіўся прыняць дэлегацыю толькі так, як лічыць патрэбным сам. І ён запрасіў усіх гасцей на абед на наступны дзень. Вечарам журналісты павінны былі ад’язджаць у Маскву. Канстанцін Міхайлавіч пазваніў у сталоўку ЦК, дамовіўся і адправіў Зарыну і мяне па прадукты. На наступны дзень у вялікім пакоі другога паверха накрылі сталы. Гасцей аказалася вельмі многа, бо гаспадар запрасіў і шэраг сваіх сяброў пісьменнікаў і кагосьці з Міністэрства замежных спраў на чале з К. В. Кісялёвым. Акрамя іх у Мінску знаходзілася дэлегацыя на чале з Сафронавым і Грыбачовым, прыйшлі і яны. Так што прыём аказаўся небывала шырокім па ліку яго ўдзельнікаў. За сталом існавала настолькі сяброўская атмасфера, аздобленая добрымі напоямі і цудоўнымі нацыянальнымі стравамі, што госці былі ў захапленні. Нашым пісьменнікам па слова ў кішэню лезці не трэба, гучалі мудрыя, сардэчныя тосты, якіх не запомніць было немагчыма. І канечне пакідаць гасцінны дом Коласа журналістам не хацелася. На вакзал прыехалі перад самым адыходам цягніка. Мы з Зарынаю паехалі туды правесці гасцей. На нас абрынулася такая бурная падзяка! Цалавалі рукі, шчокі, а правадніца не магла іх утаймаваць і «загнаць» у вагоны. Калі цягнік крануўся, нашы госці пачалі скакаць на падножкі і махалі нам рукамі на развітанне пакуль яшчэ бачылі нас. Гэта была апошняя сустрэча Коласа з дэлегацыяй такога маштабу.

Ішоў 1956 год. Заняткі ў інстытуце закончыліся, заканчвалася і заліковая сесія, калі я даведалася аб перспектыве турпаездкі вакол Еўропы на камфартабельным цеплаходзе. Адкрывалася магчымасць пабачыць сваімі вачыма той загадкавы Захад, аб якім ішла галоўным чынам негатыўная інфармацыя з тагачаснай прэсы. Гэта быў другі тур — з Ленінграда да Адэсы з заходам у порты шэрагу краін. Пуцёўку дастаць было нескладана. Міхась паехаць не мог, бо рыхтаваўся да ўдзелу ў Першай спартакіядзе народаў СССР.

Група з Беларусі была невялікаю, чалавек 25. Кіраўніком яе быў прызначаны выдатны пісьменнік Іван Паўлавіч Мележ. У склад групы ўваходзілі супрацоўнікі Акадэміі навук — Анатоль Качаргін, Марыя Годнева, а таксама Дзіна Абрасімава, Ліда Бессмертная, з імі я кантактавала. Былі прадстаўнікі іншых гарадоў Беларусі. Перад паездкаю нас сабралі, і мы атрымалі строгі інструктаж, як павінны паводзіць сябе за мяжою савецкія людзі. На цеплаходзе былі таксама групы з іншых гарадоў. Стала вядома, што ў складзе маскоўскай групы знаходзіцца дачка Хрушчова з мужам Аджубеем, нявестка Булганіна. Яны амаль што не паказваліся на палубе, а ў портах, куды мы прыбывалі, іх чакала пасольская машына. Цеплаход плыў галоўным чынам уначы, а раніцай мы пераходзілі на аўтобусы з экскурсаводамі. Нас бегла знаёмілі са знакамітымі помнікамі, мастацкімі музеямі. Нас імгненна распазнавалі журналісты па росце, адзенні, асабліва па шырокіх штанінах мужчын. І ў газетах з’яўлялася ўсякая ўсячына аб нашых людзях.

Сваім суровым, стройным выглядам уразіў Парыж — мы былі ў захапленні ад багацця, раскошы музеяў, асабліва Луўра. У Парыжы мы затрымаліся на тры дні, і мелі магчымасць самастойна прагуляцца па вуліцах і парках гэтага слыннага горада. Нашы мужчыны з нецярплівасцю чакалі магчымасці палюбавацца парыжанкамі, але калі прыгледзеліся, то вымушаны былі прызнаць, што нашы жанчыны нашмат прывабнейшыя.

Нас уразіла агромністая колькасць кафэ, размешчаных уздоўж вуліц. Пад адкрытым небам за кубачкам кавы ці піва сядзелі людзі ў добрым гуморы, жыва

перакідваючыся словамі. Вітрыны магазінаў выглядалі як выставы неверагодна вялікага асартыменту тавараў, якія былі расстаўлены з добрым густам. І мы проста любаваліся вітрынамі. А ў кожным вялікім магазіне знаходзіліся прадаўцы, якія добра валодалі рускай мовай. Наогул у Парыжы было шмат выхадцаў з Расіі, Украіны. Так, аднойчы прагульваючыся па горадзе, мы заблудзіліся. Ліда настойліва даказвала куды трэба ісці, а мне здалося, што трэба рухацца ў процілеглым напрамку. Мовай мы не валодалі, і я прапанавала прыгледзецца да прахожых, можа, сустрэнем чалавека са славянскай знешнасцю, і не памылілася. Насустрач нам ішла немаладая жанчына з класічнымі рысамі рускай прыгажуні. Я запыталася ў яе, як дабрацца да гатэля. І яна на чыстай рускай мове патлумачыла нам. Як у Парыжы, так і ў іншых гарадах, кідалася ў вочы, што пры звароце да людзей з якім-небудзь пытаннем твар суразмоўцы расплываўся ў лагоднай усмешцы і была выразна бачна прывітая далікатнасць і добразычлівасць у адносінах з незнаёмымі людзьмі. Як гэтага не хапала ў нас! Не было ў нас у тыя часы такой прыгажосці ў парках, скверах. Акуратна падстрыжаныя кустарнікі, кветнікі, газоны істотна аздаблялі горад. Нідзе ў гарадах не сустракаліся п’яныя, хіба што ў порце Неапаля. Там два падпітыя маракі з амерыканскага крэйсера запынілі Анатоля Качэргіна, які вылучаўся высокім ростам і прыгожай знешнасцю, і прапанавалі патанцаваць з імі. Каб адчапіцца ад іх і не нарвацца на непрыемнасці, Анатоль, хлопец з гумарам, смеючыся выканаў іх просьбу і вярнуўся на цеплаход. Канечне, Мележу ў справаздачы прыйшлося ў мяккай форме адзначыць гэты выпадак. Але ж «недремлющее око» дало іншую трактоўку. Аб гэтым выпадку ў цікавай кніжцы Рублеўскай і Скалабана «Время и бремя», напісанай па архіўных матэрыялах ЦК КПБ, адзначана, што ён разглядаўся як ганебны ўчынак. Дасталася Качэргіну і ні ў чым не вінаватаму Мележу.

Незабыўнае ўражанне засталося ад наведвання Пампеі і Афін. Рэшткі Акропаля міжволі выклікалі ўспаміны аб міфах старажытнай Грэцыі, якімі я так захаплялася ў дзяцінстве.

На цеплаходзе турысты звычайна прытрымліваліся сваіх груп, але, знаходзячыся на палубе на працягу месяца, даводзілася пазнаёміцца з прадстаўнікамі розных груп. Так, з украінскай групы вызначаўся ўжо немалады, заўсёды бездакорна апрануты мужчына, які сваім выглядам міжволі выклікаў сімпатыю. Ім аказаўся Сяргей Мікалаевіч Кажэўнікаў. Мне ў галаву не магло прыйсці, што ён той самы чалавек, па падручніку якога я рыхтавалася да лекцый! І ён, канечне, не ведаў, што я працую ў той жа галіне.

Праз два гады на гэтым жа цеплаходзе на сусветную прамысловую выставу ў Брусель ехаў Міхась у складзе групы з Беларусі, а ў складзе ўкраінскай групы ехаў С. М. Кажэўнікаў. Яны пазнаёміліся, Міхась ведаў, што яго новы знаёмы — доктар тэхнічных навук, аўтар унікальных прац па маёй спецыяльнасці. Напэўна, лёсам было наканавана сустрэцца з ім на канферэнцыі, але гэта адбылося пазней.

З Грэцыі мы хутка даплылі да Адэсы, дзе і закончылася наша вандроўка. Як хацелася хутчэй вярнуцца ў сваю хату, да сваіх дзетак! Даляцелі да Мінска за некалькі гадзін. Дома, здавалася, усё ў парадку і было аб чым расказаць. Міхась заканчваў падрыхтоўку да спаборніцтваў і ў апошні дзень ліпеня з’ездзіў у Балачанку разам з бацькам. У Вусцянскім лесе сфатаграфаваў яго, калі той ішоў з капелюшом у руках, куды клаў знойдзеныя баравікі. Фатаграфія аказалася апошняй з жыцця Коласа. У яго вельмі балелі рукі, асабліва перад зменаю надвор’я. Праз многа-многа гадоў, калі ў мяне таксама разбалеліся рукі так, што я не магла трымаць ні відэлец, ні лыжку, успаміналіся мукі свёкра. Дактары ў той час не маглі нічым дапамагчы ні яму, як і мне цяпер. Але я вычытала аб цудоўным і простым сродку — прыкладаць да хворых рук гліну. Міхась накапаў яе і прыкладаў да маіх хворых рук. Іх захутвалі на паўтары-дзве гадзіны, як пры кампрэсе. Праз пяць-шэсць сеансаў боль поўнасцю прайшоў. Шкада, што не ведала аб такой магчымасці зняць боль у тыя часы, калі балелі рукі ў Коласа.

Міхась са сваёю камандаю адправіўся ў Маскву, у хуткім часе з газет даведаліся аб яго паспяховых выступленнях, ён заняў два прызавыя месцы з выкананнем нарматыву майстра спорту. Канечне, гэта вельмі радавала бацьку, ён жа і сам некалі быў трапным стралком.

Набліжаўся дзень народзін дачкі — 13 жніўня. Міхась патэлефанаваў, што вечарам гэтага дня прыедзе дахаты. Канстанцін Міхайлавіч зранку адправіўся ў Акадэмію навук і досыць рана вярнуўся за пісьмом у ЦК КПБ — пісьмом аб стане роднай мовы, над якім працаваў апошнія месяцы. Але там ішла нейкая нарада, і яго не змаглі прыняць. Па дарозе дамоў ён купіў вялікую каробку цукерак для сваёй унучачкі. Мне ж сказаў, што вечарам, калі прыедзе Міхась, мы ўрачыста адзначым першае пяцігоддзе Машы. А зараз — хай прынясуць абед у яго кабінет. Хутка прыйшоў Данік і, даведаўшыся, што бацька дома, падняўся да яго на другі паверх. Ён запытаўся ў бацькі, як ён пачуваецца, а Канстанцін Міхайлавіч толькі павярнуў галаву і раптоўна адкінуўся на крэсла, нічога не адказаўшы. Данік крыкнуў мне, што бацьку кепска, ён падумаў, што бацька папярхнуўся стравою. Я пабегла да тэлефона выклікаць хуткую дапамогу з лечкамісіі. Адказалі, што машына будзе праз хвілін дваццаць. Тады я патэлефанавала ў прыёмны пакой першай клінічнай бальніцы, якая знаходзілася побач з нашым домам, сказала што Якубу Коласу стала кепска. Праз некалькі хвілін прыехалі дактары, укол адрэналіна ў сэрца не дапамог. Дактары канстатавалі наступленне смерці. Хутка прыехалі дактары з лечкамісіі, і яны нічым дапамагчы не змаглі. Тады я патэлефанавала ў прыёмную ЦК і паведаміла аб гэтай страшэннай падзеі. Там адразу не паверылі — гадзіну таму ён жа туды заходзіў. Мы ўсе былі ў шоку, цяжка было зразумець, як магло такое здарыцца. Па прыездзе дадому ён адчуваў сябе як звычайна і ні на што не скардзіўся і раптам імгненная смерць. Ускрыццё паказала, што смерць наступіла ад разрыву аорты. У хуткім часе павінен быў прыехаць Міхась. Я патэлефанавала Сяргею Касцюковічу, прасіла разам пайсці на вакзал, а ён прапанаваў на ўсякі выпадак прыйсці з медсястрой. З акна вагона Міхась убачыў нас з медсястрою ў белым халаце і западозрыў, што здарылася нешта страшнае. Калі ён выбраўся з вагона са сваімі стрэльбамі, я кінулася да яго, не стрымалася, расплакалася і сказала, што бацькі з намі няма. Вестка аб смерці блізкага, дарагога чалавека вострым болем адгукнулася ў нашых сэрцах. Мы паведамілі аб гэтай страшнай падзеі сваім родзічам, блізкім нам людзям. З Масквы на пахаванне прыехаў Віталь Філіповіч, Міхасёвы сёстры Вольга, Ніна, з Ленінграда прыехалі Жэня і Валодзя Петухоўскія, з Вільні — Іван Дзмітрыевіч Каменскі, брат жонкі Коласа. Жудасная вестка застала Пятруся Броўку дзесьці пад Сталінградам. Ён з жонкай вандраваў па Волзе на цеплаходзе. І ён паспяшаўся прыляцець у Мінск, каб развітацца з блізкім і дарагім яму чалавекам.

Труну з целам нябожчыка на наступны дзень прывезлі ў наш дом, а пасля — у Палац прафсаюзаў. Да позняга вечара ішоў народ развітацца з любімым паэтам. Кіраўніцтву рэспублікі давялося тэлефанаваць у Маскву, атрымаць дазвол прадоўжыць развітанне на дзве гадзіны. Дзверы ў Палац зачынілі ў дванаццаць гадзін, а на плошчы стаяла яшчэ шмат народу. Назаўтра пасля жалобнага мітынгу дамавіну з целам нябожчыка выносілі кіраўнікі дзяржавы, пісьменнікі і на руках неслі да самых Вайсковых могілак. Вянкоў было так многа, што іх давялося пакласці ўздоўж агароджы могілак. Пахавалі яго поруч з магілай жонкі. На смерць Якуба Коласа адгукнуліся многія паэты, сярод іх і мая дарагая Яўгенія Эргардаўна Пфляўмбаўм:

Коласа няма.
Змоўкла шумлівая Нарач,
Хвоі застылі ў тузе,
Важкі ўздых па абшарах
Весткаю страшнай паўзе…
Ноч ахінае прасторы,
Купы зялёных прысад

Вымкнуў са срэбра Баторын,
Мілай старонкі краса.
Дыхаў ён тут так спакойна,
З плеч адкідаючы век
Самы сапраўдны народны
Родны ўсім чалавек.
Змоўкла шумлівая Нарач,
Хвоі застылі ў тузе,—
Важкі ўздых па абшарах
Весткаю страшнай паўзе…

Канстанцін Міхайлавіч па сутнасці стаў для мяне другім бацькам. Ён любіў маіх дзяцей, і я адчувала, што ён любіў і мяне. Ён вельмі любіў свайго меншага сына, прысвяціў яму шэраг цёплых, сардэчных вершаў, паэму для дзяцей — «Міхасёвы прыгоды».

Гады жыцця ў доме свёкра, пад яго апекаю былі самымі цікавымі і самымі шчаслівымі ў маім жыцці.

У гэтыя сумныя дні мой бацька адпачываў у Крыме, у Кактэбелі, і прыехаць на пахаванне не змог. Ён вельмі цяжка перажываў нечаканую страту свайго сябра і свата. Але нічога не вернеш, трэба жыць і захоўваць памяць аб вялікім сыне беларускага народа.

Праз некалькі дзён пасля пахавання Коласа выйшла Пастанова партыі і Урада рэспублікі аб увекавечанні памяці народнага паэта. Прадугледжвалася стварэнне музея Якуба Коласа. Узнікла пытанне: ці будаваць адпаведны будынак, ці выкарыстаць дом, у якім жыў паэт у свае апошнія гады. Напрошвалася апошняе. Браты атрымалі дазвол пабудаваць на пляцоўцы сядзібы бацькі дом, а гэты перадаць пад музей. Грошай, якіх пакінуў бацька сынам у роўных долях хапала на будаўніцтва. Праз два гады дом на дзве паловы быў пабудаваны будтрэстам пад кіраўніцтвам вядомага будаўніка Аркадзя Тур’янскага. Наглядаў за будаўніцтвам Данік. Ён жа быў прызначаны першым дырэктарам музея і пачаў рыхтаваць адпаведныя паперы для фінансавання музея, але вымушаны быў лячыцца, таму Міхасю давялося вырашаць гэта пытанне. Разам з Пятром Усцінавічам Броўкам ён хадзіў на прыём да міністра фінансаў Коханава, які прыняў іх надзвычай прыхільна, фінансаванне было забяспечана. Адчыніўся музей у канцы 1959 года, а раней, у 1958 годзе, мы ўехалі ў новы дом. Пачаўся новы этап у нашым жыцці.

***Працяг будзе.***

T

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ХАРАСТВО БЛІЗКІХ ДАРОГ

Падарожнічаць можна па-рознаму. Традыцыйна гэта, як вядома, робіцца так: бярэцца білет на пэўны від транспарту і, калі ласка, у дарогу. Вядома, гэта зручна, аднак ты прывязаны да пэўнага маршруту, не можаш спыніцца там, дзе захацелася б. Куды зручней, калі ездзеш на ўласным аўтамабілі, ці, скажам, на веласіпедзе. А пешая прагулка, хоць і марудная, дый на вялікую адлегласць не пойдзеш, тым не менш, прыносіць куды болей задавальнення. Як у тым вядомым лацінскім выслоўі: спяшайся — не спяшаючыся. Што хочаш, тое і пабачыш. З кім захочаш, з тым і сустрэнешся. Дзе трэба — затрымаешся даўжэй, а няма такога жадання, то пасляшаешся ў іншае месца, бо ўпэўнены, што адкрыццяў напаткаеш там яшчэ болей.

Аднак усё гэта падарожжа рэальнае. З адрывам ад дому, у якім жывеш. З разлукай, няхай і на пэўны час, з блізкімі табе людзьмі. Са зменай звыклых абставін. Калі ж падарожнічаць завочна, то ўсё можна спалучыць. Знаходзішся ў сваёй кватэры. Пры жаданні лёгка можна патэлефанаваць тым, з кім раптам захацелася пагутарыць. Разам з тым у думках ужо далёка адсюль. Нават не толькі ў думках, а і можаш сузіраць іншыя краявіды, знаёміцца з помнікамі гісторыі і архітэктуры.

Падобнае, як няцяжка здагадацца, магчыма дзякуючы гісторыка-краязнаўчым дакументальным фільмам, навукова-пазнавальным перадачам — у першую чаргу тэлевізійным, бо тое, што гучыць па радыё, усё ж пазбаўлена візуальнасці, а нездарма ж кажуць: лепш адзін раз убачыць, чым сем разоў пачуць. А яшчэ магчымасць падарожнічаць у прасторы і часе даюць розныя фотаальбомы адпаведнай тэматыкі.

Так я наведаўся нядаўна і ў ашмянскі край. Паўтараю: у ашмянскі край, а не толькі на саму Ашмяншчыну. Здзейсніў гэтую завочную паездку, дзякуючы фотаальбому, што так і называецца — «Падарожжа па ашмянскаму краю». Адметнасць гэтага фотаальбома ўжо ў тым, што, дзякуючы яму, паспяхова ажыццёўлена першая ў беларускім кнігавыданні спроба паказаць усё хараство гістарычных мясцін і прыроды цэлага рэгіёна Беларусі, а Ашмянскі павет, як вядома, у XVI—XX стагоддзях ахопліваў сабой вялікую тэрыторыю, што сёння «падзялілі» між сабой некалькі раёнаў заходняй часткі нашай краіны, у прыватнасці, Астравецкі, Ашмянскі і Смаргонскі, дый іншыя.

Аднак «Падарожжа па ашмянскаму краю» — з шэрагу выданняў краязнаўчай тэматыкі вылучаецца не толькі гэтым. Сёння больш не напаткаеш фотаальбома, аўтарам якога б з'яўляўся не проста чалавек па-сапраўднаму захоплены нацыянальнай даўнінай, а кіраўнік прадпрыемства, а да ўсяго грамадскі дзеяч. Менавіта такая яна — Тамара Філіпповіч, якая і парадавала прыхільнікаў краязнаўства, а калі глядзець шырэй — радзімазнаўства, гэтым надзіва цікавым і змястоўным выданнем, якое ў шэрагу беларускай краязнаўчай літаратуры апошніх гадоў не проста не губляецца, а, наадварот, вылучаецца і сваім зместам, і той, я б сказаў, гожасцю, якая сведчыць аб высокім майстэрстве яе аўтара як фотамастака.

Тамара Уладзіміраўна больш за 30 гадоў з'яўляецца дырэктарам Адкрытага акцыянернага таварыства «Ашмянскі мясакамбінат». Аднак яна не толькі ўмелы

кіраўнік і арганізатар прамысловай вытворчасці, а і вядомы грамадскі дзеяч, чалавек актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Невыпадкова Т. Філіпповіч двойчы выбіралася членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, ёй прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Ашмянаў.

Што да захаплення, то Тамара Уладзіміраўна па сутнасці ўвесь вольны час не развітваецца з фотаапаратам. Апроч таго цікавіцца гісторыяй краю, які для яе стаў родным, таму што нарадзілася не на Беларусі, хоць повязь з нашай зямлёй роду, да якога належыць яна, даўняя. Аб гэтым Т. Філіпповіч прызнаецца ў невялікім уступе да фотальбома — «Ад аўтара»: «Маё дзяцінства і юнацтва прайшлі на Украіне. Але, калі меркаваць па прозвішчу, я, прыехаўшы на Беларусь, вярнулася на радзіму сваіх продкаў. Тут жывуць працавітыя, талерантныя, мірныя людзі, якія стараюцца захаваць свае традыцыі і сваю самабытную культуру. Магчыма, менавіта таму мяне вельмі цікавіць гісторыя краю, дзе праляцела значная частка майго жыцця, мяне захапляюць яго цудоўныя краявіды». І працягвае: «Праз стагоддзі мяняліся межы паветаў, раёнаў. Але не важна, дзе праходзяць зараз адміністрацыйныя граніцы, у якім раёне знаходзіцца той ці іншы помнік гісторыі або архітэктуры. Для нас гэта частка Беларусі — цікавая і непаўторная. Вакол нас чароўная прырода, і шкада, што за штодзённымі клопатамі мы не заўсёды бачым яе прыгажосць».

Цікавасць да нацыянальнай гісторыі, да беларускай даўніны і дазволіла Т. Філіпповіч зрабіць дзясяткі, сотні здымкаў (зразумела, што з-за абмежаванасці аб'ёму, у фотаальбом трапілі толькі нямногія з іх), якія з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва і дазваляюць, кажучы словамі аўтара альбома, «разам рушыць у падарожжа па прыгожых і багатых на гісторыю пуцявінах невялікай часткі нашай Радзімы».

Здымкі, выкананыя Т. Філіпповіч, удала дапаўняюцца ілюстрацыямі з іншых выданняў, прынамсі, з кнігі вядомага гісторыка, краязнаўцы, дарэчы, ураджэнца вёскі Паляны цяперашняга Ашмянскага раёна Чэслава Янкоўскага «Ашмянскі павет. Матэрыялы да гісторыі зямлі і людзей», што выйшла ў Санкт-Пецярбургу ў 1897 годзе на польскай мове і, зразумела, даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. А вось «Гіпіка, альбо Кніга пра коней» Крыштафа Монвіда Дарагастайскага атрымала другое жыццё, калі ў 2007 годзе, дзякуючы выдавецтву «Юніпак», пабачыла свет у перакладзе на беларускую мову. Да месца ў фотальбоме і здымкі з архіва царквы вёскі Лоск Валожынскага раёна і з Ашмянскага краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча. Яны, зразумела, чорна-белыя, ды гэта такі выпадак, калі тое, што адлюстравана на іх, не можа не вабіць сваёй унутранай прыгажосцю, у якой прысутнасць даўніны паўстае праз падзеі, рэчы, праз постаці людзей, якія, адышоўшы ў вечнасць, нас таксама далучаюць да гэтай вечнасці, пераконваючы, што повязь часоў ніколі не павінна абрывацца і перапыняцца, а жыць памяццю — значыць, жыць не проста годна, а і з упэўненым позіркам у дзень заўтрашні.

Адлікам падарожжа, якое прапануе па Ашмянскаму краю Т. Філіпповіч, узяты самі Ашмяны. Пра іх Тамара Уладзіміраўна, дарэчы, як і пра іншыя населеныя пункты, куды, дзякуючы фотаальбому, удасца патрапіць, сама ж і расказвае — лаканічна, але разам з тым з прыцягненнем рэдкіх фактаў. Сапраўды ўжо: словам цесна, а думкам вольна.

Скажам, хіба не цікава даведацца, што Ашмяны не толькі — адно з самых даўніх паселішчаў на тэрыторыі Беларусі (вядома яшчэ з 1040 года), а ў старажытнасці яго называлі Ашмяна, з націскам на апошнім складзе. Між іншым, «многія мясцовыя жыхары і зараз называюць свой горад так...» «Новая Ашмяна, — апавядае Т. Філіпповіч, — пачала будавацца за некалькі кіламетраў ад Старой, якая перайшла ў спадчыну Аляксандру Ягелончыку. Ён і паставіў там для ордэна францішканцаў касцёл, ад якога да сённяшняга дня захаваліся адны сцены. У XVI ст. Ашмяны атрымалі Магдэбургскае права. Яны былі цэнтрам самага вялікага ў ваяводстве павета. Тут адбываліся сеймікі, на якіх шляхта абірала паслоў на сойм

Рэчы Паспалітай. Тады горад ажываў, а даход мясцовага бровара істотна ўзрастаў. Кароль Станіслаў Аўгуст аб'явіў горад вольным і незалежным».

Што ні штрышок, то штосьці важнае і прыкметнае з жыцця горада, які паступова набліжаецца да свайго 1000-годдзя. Гэты аповед пра Ашмяны ў часе ўзмацняецца ілюстрацыямі. Паглядзець жа ёсць што. Ёсць і чаму парадавацца. Калі пра касцёл францішканцаў нагадваюць толькі ягоныя рэшткі (пра тое, як выглядаў ён у канцы XIX стагоддзя можна даведацца з тагачаснага здымка), то касцёл св. Міхала Арханёла, узвядзенне якога некалі фундавалі вялікія князі літоўскія Ягайла і Вітаўт, паўстае ва ўсёй сваёй велічы.

Можна таксама ўбачыць будынкі былых — сінаногі і гімназіі імя Яна Снядэцкага, Спаса-Васкрасенскую царкву… Панарама ж сучасных Ашмян, хоць і адлюстроўвае гэты горад зімовай парой, адчуванне такое, што ад фотаздымка вее цяплом даўніны, удала спалучанай з днём сённяшнім. Умела знойдзены Т. Філіпповіч ракурс стварае аб'ёмнасць успрымання Ашмян, а пададзенае ёю хваляй замілавання кранае тваю душу, дазваляе лішні раз упэўніцца ў тым, наколькі шмат на нашай зямлі вабных куткоў, прыгожых гарадоў. Іншая рэч, што не заўсёды мы знаходзім магчымасць, а то і жаданне, палюбавацца імі. Болей цягне нас у краі далёкія, на землі чужыя, а па сутнасці побач з намі такое багацце — гісторыка-культурнае, духоўнае.

З Ашмян і пачынаецца падарожжа па колішняму Ашмянскаму павету. А вось і першы прыпынак. «На левым беразе ракі Гальшанкі, — расказвае Т. Філіпповіч, — размяшчаецца вёска Гальшаны. У XIII—XIV стст. яна належала князям Гальшанскім. Пры іх Гальшаны былі цэнтрам удзельнага княства ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і адыгрывалі не апошнюю ролю ў яго эканамічным і палітычным жыцці. Пазней гэтыя ўладанні адышлі да Сапегаў».

Напамінак аб апошніх уладальніках — рэшткі палацава-замкавага комплексу на ўскраі Гальшан, пабудаванага ў першай палове XVII стагоддзя як рэзідэнцыя Сапегаў. Ёсць у Гальшанах і культавыя помнікі: капліца са статуяй Ісуса Хрыста, пабудаваная ў 1897 годзе, царква Георгія Пабеданосца, адчыненая ў 1901 годзе, у якой асабліва прываблівае сваёй прыгажосцю галоўны алтар. Справа ад алтара — абраз праваслаўнай святой Юліаніі Альшанскай і часціца яе мошчаў. Сама прападобная пахавана ў славутай Кіева-Пячэрскай лаўры. Ёсць у гэтым храме і «абразы яшчэ дзвюх беларускіх святых — Сафіі Слуцкай і Еўфрасінні Полацкай».

Ілюстрацыйны рад, як і пры знаёмстве з Ашмянамі, вельмі багаты. Нават не колькасцю здымкаў, а тэматычным падборам таго, што трапіла ў фотааб'ектыў. Рэшткі Гальшанскага замка, будынкі касцёла Яна Хрысціцеля, царквы Георгія Пабеданосца, інтэр'еры іх і зноў, як і ў Ашмянах, краявіды як самога населенага пункта, так і прыроды, што аздабляе тамашнія мясціны сваёй непаўторнасцю.

Выехаўшы ж у бок Барунаў, праз два кіламетры ў поле зроку трапляе высакаваты пагорак. Гэта Гальшанскае гарадзішча — помнік археалогіі, які ахоўваецца дзяржавай. Увагу прыхільнікаў даўніны, безумоўна, прыцягне такі факт: «Паводле падання, менавіта тут князем Гольшам было заснавана першае ў гэтых мясцінах паселішча. Потым усё яно разам з жыхарамі пайшло пад зямлю...»

Першую ж барунскую адметнасць можна ўбачыць пры самым уездзе ў вёску. Гэта помнік экіпажу самалёта «Ілля Мурамец», які мужна загінуў у 1914 годзе. Немцы былі так уражаны гераізмам рускіх лётчыкаў, што загадалі іх пахаваць з усімі воінскімі ўшанаваннямі. Пасля гэтага ўзнікне жаданне бліжэй пазнаёміцца і з іншымі адметнасцямі гэтай вёскі, у якой таксама багатая гісторыя. Прынамсі, у гэтых мясцінах знаходзіцца «пункт «Тупішкі» — адзін з 258 пунктаў Дугі Струве — сеткі геадэзічных кропак ад Нарвегіі да Малдовы, з дапамогай якой у XIX ст. былі дакладна вызначаны форма і памер Зямлі. У 2005 г. ЮНЕСКА ўнесла Дугу Струве ў спіс сусветнай спадчыны».

Не толькі над вёскай, а і над усім наваколлем узвышаецца Барунскі касцёл святых Пятра і Паўла, вытрыманы ў двух стылях — барока і ракако. Несумненна, тых, хто гатовы шукаць экзотыку і ў сваіх краях, зацікавіць і такі факт: «У касцё-

ле б’е гаючая крыніца і знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай Барунскай, які, згодна з паданнем, знайшоў каралевіч Казімір. Многія з тысяч пілігрымаў, якія прыходзяць сюды штогод, каб папрасіць у Маці Божай аб патрэбных ласках, атрымалі аздараўленне. Пра гэта ў сваіх дзвюх кнігах пра святыню і абраз Маці Божай Барунскай падрабязна распавядае ксёндз пробашч барунскага касцёла Люцыян Дамброўскі». Як і можна здагадацца, што, даведаўшыся пра гэта, абавязкова знойдуцца новыя жадаючыя прыйсці ў Баруны, звярнуцца да Маці Божай Барунскай, шукаючы ў яе паразуменне і спагаду.

Гартаеш старонкі альбома далей і, напаткаўшы чарговы населены пункт, абавязкова стараешся бліжэй пазнаёміцца з ім, атрымаўшы для сябе пэўную інфармацыю, а галоўнае... Галоўнае — усё ж здымкі. Калі ўзятыя з іншых выданняў, а таксама з архіва, музея, надаюць як бы гістарычную падсветку таму, пра што расказваецца, то сама Т. Філіпповіч, дзякуючы свайму ўменню адчуваць і заўважаць сучаснасць у яе цеснай лучнасці з мінулым, выбірае такія ракурсы, што ад таго ці іншага сюжэта доўга не можаш адарвацца.

Нібыта ўсё гэта бачыш на свае вочы: і руіны Крэўскага замка, якія самі па сабе ўжо з’яўляюцца велічным помнікам даўніны, і архітэктурную адметнасць Жупранаў, і непаўторнасць краявідаў у ваколіцах Кушлян — абодва яны, як вядома, звязаны з імем класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. Але па дарозе ў Крэва нельга не зазірнуць у Бянюны.

На жаль, назва гэтая большасці з нас мала што гаворыць, а, між іншым, у Бянюнах «няблага захаваліся пабудовы маёнтка Юльяна Карчэўскага — мастака, асветніка. Цокальны паверх дома здзіўляе каменным мурам з дэкорам, функцыі якога выконваюць дробныя, часта рознакаляровыя невялікія каменьчыкі. На будынку дата будаўніцтва — 1828 год… Калі турыстам пашанцуе, яны могуць апынуцца ў атмасферы XVIII стагоддзя, трапіўшы на рыцарскі турнір або шляхецкі баль, якія тут раз-пораз праводзяць аматары даўніны».

Гэтаксама не ў многіх на слыху і назва Жамыслаўль, а, між іншым, пра гэтую вёску, што калісь знаходзілася ў Ашмянскім павеце, а цяпер адносіцца да Іўеўскага раёна, грэшна не ведаць: «Каля вёскі на ўскрайку лесу нас сустракае памятны знак Умястоўскіх. Да гэтага шляхецкага роду паселішча перайшло ў 1805 годзе. Да таго часу Якуб Умястоўскі быў ужо маршалкам Ашмянскага павета. А праз некалькі гадоў роду належалі землі большай часткі павета».

Цікава тое, што «ў 1828 годзе маршалак Казімір Умястоўскі пачаў ператвараць маёнтак у раскошны палацава-паркавы комплекс. Ён быў копіяй «Лазенак», варшаўскай рэзідэнцыі польскага караля Станіслава Аўгуста. Скончыў будаўніцтва комплексу ўжо сын Казіміра Уладзіслаў Умястоўскі ў 1877 годзе». На шчасце, гэты помнік архітэктуры, які ў 1930 годзе разам з паркам Умястоўскія перадалі Віленскаму ўніверсітэту, захаваўся і па-ранейшаму «ўражвае сваёй пышнай архітэктурай. Плоскі дах аблямоўвае прыгожая балюстрада. Калоны, тэрасы, балконы, мазаіка на падлозе — усё стварае святочны настрой».

Гэты святочны настрой апаноўвае і тады, калі знаёмішся са здымкамі, зробленымі Т. Філіпповіч, а таксама даўнімі, што дазваляюць зазірнуць у дзень учарашні, у думках «вярнуцца ў тыя часы, калі тут спраўлялі балі, калі перад палацам важна хадзілі паўліны. Гаспадары ў вечаровы час любілі пры святле свячэй катацца на лодках. Свечы гарэлі і на балконах. Калі збіраліся госці, усе на лодках плылі на востраў Кахання, адкуль любаваліся асветленым з усіх бакоў палацам, які на пагорку сярод старых дрэў здаваўся нейкім таямнічым цудам».

Пазнаёміўшыся з цудам Жамыслаўля, разам з Тамарай Уладзіміраўнай працягваеш падарожжа. І яшчэ раз упэўніваешся, што Умястоўскія належалі да людзей, якія пакінулі пасля сябе добрую памяць: «Ледзь ад’едзеш ад Жамыслаўля, як перад вачыма з’яўляецца вёска Суботнікі. Касцёл з чырвонай цэглы пад тытулам святога Уладзіслава здалёк зачароўвае сваёй грацыёзнай сілуэтнай графікай. Святыня будавалася на ахвяраванні Уладзіслава, Якуба і Яніны Умястоўскіх. Касцёл быў асвечаны ў 1904 годзе, пад яго скляпеннямі пахаваны фундатары

касцёла і іх сваякі». Адметнасць гэтага храма і ў іншым: «Касцёл у Суботніках з'яўляецца адным з нямногіх магільных склепаў у Беларусі, не разрабаваных падчас дзвюх сусветных войнаў і ў гады ваяўнічага атэізму».

«Архітэктурны цуд у стылі барока з матывамі рэнесансу» прыцягвае ўвагу і ў Солах, якія вядомы з 1544 года як мястэчка Ашмянскага павета. Сёння гэта Смаргонскі раён. Архітэктурны ж цуд — касцёл Маці Божай Ружанцовай, пабудаваны ў 1926—1934 гадах. Расказваючы пра Солы, Т. Філіпповіч зноў жа згадвае тое, звесткі пра што ў шырокі ўжытак пакуль не ўведзены. А гэта ж таксама частка нашай гісторыі. Аказваецца, калі ў снежні 1917 года ў Солах было падпісана перамір'е паміж ваюючымі бакамі — ішла, як вядома, Першая сусветная вайна, польскі генерал Люцыян Жылігоўскі (дарэчы, ён ураджэнец Солаў) 12 кастрычніка 1920 года абвясціў  незалежную дзяржаву, назваўшы яе сярэдняй Літвой. У гэтую Сярэднюю Літву, сталіцай якой стала Вільня, уваходзілі Ашмяны, Смаргонь і, зразумела, Солы. Праўда , паколькі Сярэднюю Літву не прызнавала ні адна краіна свету, праз 17 месяцаў яна ўвайшла ў склад Польшчы.

Дзякуючы аўтару фотальбома «Падарожжа па ашмянскаму краю», гэтаксама з задавальненнем запыняешся ў Залессі Агінскага, у Мядзелі, Астраўцы. Дый Мураваная Ашмянка «затрымлівае» — у ёй, як вядома, нарадзіўся той самы Крыштаф Дарагастайскі, вядомасць якому ў Еўропе прынесла ягоная кніга «Гіпіка» пра анатомію і фізіялогію коней.

Любое ж падарожжа, як вядома, не можа працягвацца бясконца... Яно абавязкова заканчваецца... Так, вяртаннем дамоў. Таму мы зноў у Ашмянах, каб яшчэ больш папоўніць свае веды пра гэты горад. І не толькі пра яго, бо альбом прысвечаны 70-годдзю Ашмянскага раёна і 110-годдзю ААТ «Ашмянскі мясакамбінат».

Загортваеш апошнюю старонку і застаешся сам-насам са сваімі думкамі. Канечне ж, найперш захапляешся, што нічога падобнага дагэтуль не даводзілася сустракаць. Разам з тым прыходзіць і ўпэўненасць, што і ў іншых раёнах з'явяцца падобныя выданнні. Тых, хто цікавіцца нацыянальнай гісторыяй стае паўсюдна. Каб жа толькі знайшліся ахвочыя прафінансаваць такія кнігі, якія сёння вельмі патрэбны.

Канечне, добра, што рэгулярна з'яўляюцца выданні, што расказваюць пра Полацк, Нясвіж, іншыя вялікія і малыя населеныя пункты нашай Бацькаўшчыны, якія маюць слаўную гісторыю. Аднак паважнага стаўлення да сябе заслугоўваюць і тыя з іх, якія шмат у чым пакуль застаюцца як бы ў ценю, але і іх даўніна не менш вабная і прыцягальная. У чым і пераконвае падарожжа па ашмянскаму краю, якое дапамагае ажыццявіць Тамара Філіпповіч, дзякуючы свайму аднайменнаму фотаальбому.

# Т

Юрась ЗЯНОВІЧ

# ВАНДРОЎКА З ПАНІ ЧАРОТНАЙ

**Алена МАСЛА. Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала.** *Серыя «Казкі XXI стагоддзя». Мн.: Мастацкая літаратура, 2010.*

«Казачныя гісторыі з жыцця дапытлівай рапухі-вандроўніцы, расказаныя ёй самой» — такі падзагаловак мае гэтая кніга Алены Масла. Па жанры гэта — казачная аповесць. Ці казка-аповесць, што таксама блізка да ісціны. Правільным будзе сказаць, што гэта і аповесць-казка. Па змесце ж тое, пра што даведваешся з новай кнігі А. Масла — гэта невядомае ў вядомым, адкрытае ў тым, што, здавалася б, адкрыцця ўжо не патрабуе, нечаканае ў звыклым.

Аповед вядзецца пераважна ад імя галоўнай гераіні, якая сама пра ўсё расказвае. Аднак гэта не значыць, што аўтар выступае ў творы староннім назіральнікам ці ў ролі таго, хто толькі перадае гэты аповед. Надварот, па меры неабходнасці А. Масла робіць пэўныя ўдакладненні да таго, пра што гаворыць пані Чаротная. Тым самым дзеці яшчэ больш упэўніваюцца ў праўдзівасці ўсяго, што адбывалася.

Гэтая ж упэўненасць у іх з'яўляецца ўжо пры знаёмстве са свайго роду ўступам. Тыя, хто не прамінае серыю «Казкі XXI стагоддзя», ведаюць, што на другой старонцы вокладкі кожнай кнігі слова даецца аўтару, а на трэцяй — мастаку. А. Масла ў сваім кароткім слове прызнаецца, што ўсё пачалося пасля таго, як яна аднойчы ўратавала рапуху. Нечакана для сябе «стала разумець гаворку і рапух, і жабаў». У рэальнасці здарылася тое, што магчыма толькі ў казцы: «Раней яны для мяне, як і для ўсіх, проста крумкалі. А тое раптам на розныя галасы загаварылі! Дома сядзець пры адчыненым акне проста немагчыма!» Дый як уседзіш, калі непадалёку ад цябе адбываецца неверагоднае. Рапухі паводзяць сябе быццам людзі, дзеляцца тым, што іх хвалюе, непакоіць: «Крычаць над сажалкай наперабой хто пра рэцэпт баршчу, хто пра фасоны модных спаднічак, хто дзецьмі хваліцца, хто на дзяцей скардзіцца… Гучна крычаць, але гармідар такі, што разабраць цяжка». Таму і не ўстрымалася апавядальніца, накіравалася да сажалкі. «Так і пашчасціла мне, — прызнаецца А. Масла, — пані Чаротную пачуць з яе дарожнымі гісторыямі». Рапуха-бабця, а як яшчэ зваць будзеш, калі ўзрост паважны мае, расказала гэтулькі цікавага, што пісьменніцы захацелася ўсё не проста запомніць, а і занатаваць, каб і хлопчыкі і дзяўчынкі маглі пазнаёміцца з гэтымі гісторыямі.

Паколькі ж усё, паўтаруся, адбывалася ў сапраўднасці, ды яшчэ ў часе, блізкім да нашага, а да ўсяго падаецца з вуснаў самой галоўнай гераіні, то і пачатак твора зусім не такі, як у традыцыйнай казцы. Тым больш, калі мець на ўвазе, што аўтар толькі перадае тое, сведкам чаго стала так нечакана. Чаротныя ж рапухі дзетак выхоўваюць, таму і ўшчуваюць іх, і павучаюць, а калі гэтага мала, то і пляскаюць «па іх зялёных азадачках дзягамі, паробленымі з асоту». Аказваецца, пані Чаротная іншай думкі наконт выхавання:

«Годзе ўжо, абрыдла ваша сварка! — пачулася раптам з-пад карча старэчае рыпенне. — Не біце дубцамі, навучайце слаўцамі! Не біце вяроў-

камі, навучайце гаворкамі! Хадзіце, мае слаўненькія, бабця казку вам баіць будзе!»

У творы і ў далейшым можна напаткаць і дасціпны народны выраз, і трапнае, блізкае да фальклорнага, параўнанне. А. Масла быццам напамінае, нагадвае: запамінайце ўсё гэта, дзеткі. Не толькі гісторыі, з кожнай з якіх можна зрабіць выснову, правільна засвоіўшы якую, лёгка навучыцца таму, як паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Як бы па-за тэкстава прысутнічае і іншы напамінак: любіце, даражэнькія хлопчыкі і дзяўчынкі, родную мову, якая беларускай называецца. Гэта ж такая мова, у мілагучнасці з якой далёка не кожная можа параўнацца. Не ў кожнай гэткі багаты слоўны запас, як у беларускай. А што ні мясцовасць, то свая моўная адметнасць. Таму невыпадкова пані Чаротная не ў госці, а на госці бегала — менавіта так кажуць на радзіме А. Масла ў Мёрскім раёне.

Кожны з раздзелаў твора заінтрыгоўвае ўжо сваёй назвай: «Як адправіць ліст, калі ўсе паштальёны ў адпачынку», «Падарожніца трапляе ў слоік — і ратуецца з яго», «Расповед пра тое, якая карысць бывае ад ветлівасці», «Ад шэльмаў з нажом дабра не чакаюць», «Мора салёнае і мора пясчанае, або Чаму селядцы з вады хвастамі махалі». Гэта толькі некаторыя, у аснову якіх пакладзена пэўная прыгода, што адбылася з паняй Чаротнай. Кожная чарговая гісторыя як бы вынікае з папярэдняй, дзеянне разгортваецца далей, паступова набываючы ўсё большую дынамічнасць, напружанасць.

У самым пачатку аповесці па сутнасці прысутнічае інтрыга. Цётка Крумка, да якой некалі бегала на госці пані Чаротная (менавіта бегала, бо ў адрозненне ад іншых рапух Беларусі чаротная рапуха не поўзае, не скача, а адносна хутка бегае), сярод сваіх суродзічаў мела немалую вядомасць, таму што з'яўлялася «ў той час рэдактаркай папулярнага часопіса «Жабурынне». Як высветлілася па прыбыцці пані Чаротнай ў Палангу, такое выданне ў мясцовых рапух карыстаецца вялікай папулярнасцю. Пра гэта няўрымслівая падарожніца даведалася ад Крумчы, збіральніка бурштыну, з якім пазнаёмілася на завяршэнні свайго падарожжа. Дарэчы, прыгажун Крумча пані Чаротнай настолькі спадабаўся, што яна ахвотна згадзілася стаць ягонай жонкай.

У новай кнізе А. Масла моцныя як выхаваўчыя, так і прыродазнаўчыя аспекты, а, правільней, прыродаахоўныя. Апошняе тым больш відавочна, што і сама пані Чаротная, а таксама тыя, з кім яна сустракаецца, належаць да рэдкіх прадстаўнікоў фаўны (і не толькі беларускай). У канцы казкі ёсць нават раздзел «Дзейныя асобы», у якім прыводзяцца звесткі паводле Чырвонай кнігі Беларусі і пра саму чаротную рапуху, а таксама пра дазорцу-ўладара — адну з самых вялікіх прыгожых стракоз, глейніка невядомага, плывунца шырачэзнага, гладыша жоўтага, жамчужніцу звычайную, рыбца. Кожнаму з іх даецца кароткая, але вызначальная характарыстыка.

Алена Масла перакaнана, што і ў наш час, калі можна так сказаць, час сусветнай камп'ютарызацыі казка як жанр не толькі не ўстарэла, а і мае вялікія перспектывы. Неяк яна зазначыла, што казка «гэта ж самы рэальны літаратурны жанр. Як вядома, спачатку было слова. Задумаў чалавек узняцца ў неба, паскорыць сваё перамяшчэнне — з'явіліся казачныя дыван-самалёт і боты-скараходы, а потым ужо людзі пачалі рэалізоўваць гэтыя ідэі. Так што казка крочыць наперадзе і вызначае вектар далейшага развіцця тэхнічнай думкі чалавецтва...»

З такой упэўненасцю, канечне, пісаць і прасцей, і лягчэй. Безумоўна, казкі. Такія творы, што з'яўляюцца сёння адным з самых важкіх набыткаў сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры. Такія казкі, што выходзяць з-пад пяра А. Масла.

Ідзе падпіска
на II паўгоддзе 2011 года:

індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)

на 1 месяц — 6710 руб.
на 3 месяцы — 20 130 руб.

індывідуальная (індэкс — 74985)

на 1 месяц — 10 350 руб.
на 3 месяцы — 31 050 руб.

ведамасная (індэкс — 749852)

на 1 месяц — 17 032 руб.
на 3 месяцы — 51 096 руб.

ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)

на 1 месяц — 13 812 руб.
на 3 месяцы — 41 436 руб.

e-mail: polymya@bk.ru

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар М. М. Гілевіч
Камп'ютарная вёрстка С. І. Стараверавай

Падпісана ў друк 07.08.11 г. Фармат 70 $108^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 000. Тыраж 0000 экз. Заказ .
Кошт нумара ў розніцу 11 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.